УДК: 943.8(092)+929Смулкова+39(438)(092)
ББК 66.4+81.2Бел
К17

**Каліноўскі, В.**

**К17** Пані Эльжбета. Гісторыя адной прыязьні / Валер Каліноўскі. — Смаленск : Інбелкульт, 2016. — 208 с.

ISBN 978-5-00076-031-4

Гэтая кніга — пра выбітнага славіста і беларусазнаўцу, кіраўніцу катэдры беларускай філялёгіі Варшаўскага ўнівэрсытэту і катэдры беларускай культуры Ўнівэрсытэту ў Беластоку, першага амбасадара Польшчы ў Беларусі прафэсара Эльжбету Смулкову, якая вывучае і пашырае беларускую мову і культуру ў Польшчы і сьвеце цягам амаль шасьцідзесяці гадоў.

Кніга надрукаваная пры падтрымцы Польскага Інстытуту ў Менску.




**УДК: 943.8(092)+929Смулкова+39(438)(092)**
**ББК 66.4+81.2Бел**



**ISBN 978-5-00076-031-4**

# Зьмест

**М. Зюлкоўскі.** Сьведка і стваральніца гісторыі. *Прадмова* ...............8
**А. Мальдзіс.** Прыяцелька беларускай навукі
і культуры. *Прадмова* ............................................................10

Незабароненая літаратура. *Уступ* ............................................14

**Частка першая. Эльжуня**
Адзін з 3435 .........................................................................19
Яніна, маці-гераіня ................................................................25
Чалавек памежжа....................................................................32
Львоў і былыя „Ўсходнія крэсы“ ...............................................37

**Частка другая. Ліза**
Усьць-Сільга, Каргасоцкая камэндатура ....................................45
Голад і холад Сыбіру ..............................................................53
Добрыя людзі суровай краіны..................................................61

**Частка трэцяя. Эльжбета**
Торунь. Новае сямейнае гняздо ................................................67
Першы штуршок да беларушчыны .............................................70
Настаўніца............................................................................74
Таемныя экспэдыцыі ў беларускія вёскі .....................................84

**Частка чацьвертая. Пані прафэсар**
Беласточчына........................................................................90
Беларускае слова і беларускі націск ..........................................98
Мовазнаўства памежжа...........................................................103

**Частка пятая. Пані амбасадар**
Сьведка незалежнасьці ..........................................................112
Рамантычны пэрыяд у дачыненьнях Менску і Варшавы................127
Беларускія чыноўнікі і мова ...................................................137
Разварот .............................................................................142

Польскасьць і беларускасьць ........................................ 149
Беларускія сябры і прыяцелі пані Эльжбеты ........................................ 162
Беларусь — Польшча: сёньня і заўтра ........................................ 173
Пасол беларушчыны ў Польшчы ........................................ 179

**А. Энгелькінг.** На польска-беларускай дарозе ........................................ 187

Біяграфія Эльжбеты Смулковай ........................................ 190
Бібліяграфія кніг Эльжбеты Смулковай ........................................ 192
Пра аўтара ........................................ 194
*Streszczenie.* Pani Elżbieta — historia jednej przyjaźni ........................................ 195
*Summary.* Pani Elżbieta: A Particular Friendship ........................................ 196
*Рэзюмэ.* Пані Эльжбета. Гісторыя адной прыязьні ........................................ 197

Паказьнік імёнаў ........................................ 198

Za naszą wolność i waszą!
За нашу і вашу свабоду!

*Дэвіз польскіх і беларускіх*
*паўстанцаў 1830—31 гадоў*

Гэты цуд — толькі сродак?.. ці мэта?..
Палітычны разьлік — альбо лёс?..
Гэта ведае толькі Хрыстос —
Тайну гжэчнае пані Альжбеты…

*Зьніч (Алег Бембель),*
*28 траўня 1992 году*

# Сьведка і стваральніца гісторыі

## Прадмова



*Марэк Зюлкоўскі*

Біяграфія прафэсара Эльжбеты Смулковай — ня толькі кніга пра жыцьцё выдатнага вучонага і дыплямата. Яе асабістая гісторыя — жывое сьведчаньне найноўшай гісторыі, галоўныя і часам найбольш трагічныя падзеі якой спляліся ў лёсе аднаго чалавека. Спакойнае жыцьцё ў даваенным Львове перарываецца прыходам Чырвонай арміі ды хваляй жорсткіх рэпрэсіяў. Расстрэл бацькі, ссылка ў Сыбір разам з мамай і сястрой, хваробы, голад і холад. Дзяўчынку выратавала бязьмежная самаадданасьць маці, якая ня толькі ўратавала жыцьцё дочкам, але і забясьпечыла ім адукацыю, выхавала ў духу любові да Польшчы і польскай культуры. Дзякуючы матчынаму клопату і ўласным талентам ды працавітасьці Эльжбета Смулкова пасьля вяртаньня з Савецкага саюзу ў Польшчу змагла скончыць гімназію і ўнівэрсытэт.

Жыцьцё ў камуністычнай Польшчы, магчыма, не было такім трагічным, як у СССР, але праблемаў хапала. У навуцы часта ішлі ўгару ня больш таленавітыя, а тыя, хто меў належныя погляды і падтрымку. Натхнёная сваімі настаўніцамі, выбітнымі польскімі славісткамі Галінай Турскай і Антанінай Абрэмбскай-Яблоньскай, прадметам сваіх дасьледаваньняў Эльжбета Смулкова выбірае дыялекталёгію, найменш палітызаваную з навуковых галінаў, якія можна было выбраць для напісаньня доктарскай працы.

Вывучэньне беларускай мовы ды яе дыялектаў робіцца для Эльжбеты Смулковай галоўным захапленьнем і навуковай

спэцыялізацыяй, у якой яна ня мае сабе роўных. Яна езьдзіць у навуковыя выправы ў Савецкі саюз, які так жорстка абышоўся зь яе сям'ёй. Здабывае калег і сяброў сярод беларускіх мовазнаўцаў, а яны з часам пачынаюць трактаваць яе як сваю.

Абвяшчэньне незалежнасьці Беларусі праф. Эльжбета Смулкова ўспрыняла зь вялікай надзеяй і радасьцю. Гэта яна была тым чалавекам, які будаваў падмурак афіцыйных дачыненьняў паміж нашымі дзяржавамі. У пару, калі яна кіравала польскім дыпляматычным прадстаўніцтвам у Менску, была сфармаваная практычна ўся палітычная і юрыдычная база польска-беларускіх дачыненьняў. Эльжбета Смулкова была першым — і дагэтуль адным зь нямногіх — замежным амбасадарам у Менску, хто свабодна размаўляў па-беларуску, часам нават ставячы гэтым у няёмкае становішча прадстаўнікоў улады. Час яе працы ў Менску — гэта і час найвышэйшага разьвіцьця сувязяў Польшчы і Беларусі.

Я меў надзвычайны гонар працаваць пад кіраўніцтвам праф. Смулковай у Амбасадзе Рэспублікі Польшчы ў Менску. Гэта была і незабыўная лекцыя ведаў пра Беларусь, і навучаньне этычнаму кодэксу працы дзеля дзяржавы ды іншых людзей, які захавалі прадстаўнікі даўнейшай інтэлігенцыі.

Эльжбета Смулкова не забываецца на Беларусь і выйшаўшы на пэнсію: надалей дзеліцца сваім досьведам з новымі пакаленьнямі беларусістаў у абедзьвюх краінах. Я перакананы, што пасеянае ёю зерне яшчэ доўга будзе прыносіць багаты плён у выглядзе шматлікіх публікацыяў і чарговых пакаленьняў дасьледнікаў. Цешуся таксама, што дзякуючы гэтай кнізе, напісанай беларускім аўтарам, пра навуковую і дыпляматычную працу праф. Смулковай уведае больш людзей у самой Беларусі.

Зычу захапляльнага чытаньня, а Пані Прафэсару яшчэ раз дзякую за натхненьне, за пабуджэньні глыбей пазнаваць Беларусь і наагул польскую ўсходнюю палітыку ў розных яе аспэктах.

*Марэк Зюлкоўскі,*
*намесьнік міністра замежных*
*справаў Рэспублікі Польшчы.*

# Прыяцелька беларускай навукі і культуры

## Прадмова



*Адам Мальдзіс*

Атрымаўшы прапанову напісаць прадмову да кнігі, якую мяркуецца выдаць да 85-годзьдзя з дня нараджэньня вядомай польскай дасьледніцы-філёляга і дыплямата Эльжбеты Смулковай, я пачаў праглядаць нататкі 1990-х гадоў, калі яна асабліва актыўна ўдзельнічала ў беларусазнаўчым руху, была першым Надзвычайным і Паўнамоцным Амбасадарам Рэспублікі Польшчы ў Рэспубліцы Беларусі (1992—1995).

Найперш натрапіў на свой „Рымскі дзёньнік“. Ён пісаны 29 красавіка — 6 траўня 1990 году і часткова апублікаваны ў маёй кнізе „І ажываюць спадчыны старонкі: Выбранае“ (Менск, 1994). Але толькі цяпер я зразумеў, як цяжка перабольшыць значэньне апісаных там падзеяў, што адбыліся на самым пярэдадні абвяшчэньня беларускай незалежнасці — прыняцьця 27 ліпеня 1990 году Вярхоўным Саветам БССР „Дэклярацыі аб дзяржаўным сувэрэнітэце Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі“.

Ватыканская канфэрэнцыя, якая потым увайшла ў гісторыю пад назвай „Рым-І“, рыхтавала зразуменьне згаданай Дэклярацыі ў сьвеце, бо яна ці не ўпершыню так грунтоўна даказвала (найперш тром суседнім краінам — Літве, Польшчы і Украіне, а потым і ўсёй Эўропе, усяму сьвету) наша, беларускае права мець уласную гісторыю, мову, дзяржаўнасьць.

Прафэсар Эльжбета Смулкова адыграла ў той нешматлюднай сустрэчы выключную, натхняльную ролю. Будучы амбасадар Польшчы ў Беларусі тады, у Рыме, уваходзіла ў склад, натуральна, польскай грамадзкай дэлегацыі, а я быў у беларускай. Канфэ-

рэнцыя адбывалася ў акружаным пальмамі і пініямі, абнесеным высокімі мурамі Міжнародным цэнтры імя Сьвятога Джавані. На першым пасяджэньні кожны з нас меў магчымасьць і права гаварыць тое, што сам пажадае (я казаў пра трагічнасьць сьвежай тады Чарнобыльскай катастрофы і неабходнасьць эўрапейскай дапамогі яе ахвярам ня толькі ва Украіне, але і ў Беларусі, а мне яшчэ ня дужа верылі, бо іначай, маўляў, „чаму ня б’е трывогу ваш друк?“). Далейшыя ж даклады і паведамленьні былі накіраваныя на ўзаемаразуменьне чатырох дзяржаваў, якія тады адраджаліся наноў на тэрыторыі колішняй Рэчы Паспалітай.

Спачатку, прызнаюся, я і мае калегі, дый прадстаўнікі беларускай дыяспары зь Вялікай Брытаніі ды ЗША, пабойваліся будучых выступаў польскіх дэлегатаў: зноў, маўляў, пачнуць яны згадваць належнасьць беларусаў да іхных „Усходніх крэсаў“... Але прафэсар Ежы Клачоўскі зь Любліна, тады прадстаўнік Польшчы ў ЮНЭСКА, накіроўваў дыскусію вельмі тактоўна. Прафэсар Клачоўскі дыпляматычна прапанаваў прысутным напісаць гісторыі сваіх дзяржаваў паводле нацыянальнага разуменьня і сумленьня, а пасьля выданьня — садзейнічаць іх перакладу на тры іншыя мовы. Зь дзьвюма толькі засьцярогамі: не абражаць суседнія народы і не супярэчыць адзін аднаму. Да прыкладу, літоўцу не даказваць, што гэта ягоныя продкі заваявалі русінаў, продкаў сёньняшніх беларусаў, бо, маўляў, таму карысталіся іх канцылярскай мовай, а беларусу — што ўсё было якраз наадварот.

Аднак пара мне перайсьці да ролі галоўнай прымірыцелькі і павучальніцы „Рыму-I“ гаспадарыні Смулковай. Яе прынцыповая пазыцыя выявілася нам (дакладна!) 1 траўня 1990 году, пасьля выступу айца Аляксандра Надсана, які тады быў апостальскім візытатарам для беларусаў-каталікоў у замежжы і дырэктарам Беларускай бібліятэкі й музэю імя Францішка Скарыны ў Лёндане, а летась адышоў у іншы сьвет.

„Свой даклад пра рэлігійнае жыцьцё ў Беларусі, — цытую тагачасны запіс, — ён пачаў з эмацыйнага расказу пра Чарнобыльскую трагедыю (і гэтым пацьвердзіў мой выступ. — *А.М.*), заклікаў прысутных аказваць дапамогу яе ахвярам (на наступны дзень менчукам прывезьлі першыя карабы зь лекамі. — *А.М.*). Потым гаварыў пра тое, што і праваслаўная царква, і асабліва каталіцкі касьцёл ня дужа паварочваюцца да беларускага нацыянальнага адраджэньня, прывёў таму прыклады. Бог добры, закончыў ён сваё выступленьне, у яго ёсьць месца для ўсіх. То чаму ж тады не знаходзіцца месца для беларусаў?!“

Крыху нечакана для нас Аляксандра Надсана падтрымалі варшаўскія вучоныя. Прафэсар Смулкова сьцьвердзіла, што каталіцкі касьцёл у Беларусі (а яна яго добра спазнала ў часе шматлікіх лінгвістычных экспэдыцыяў.— *А.М.*) павінен паслугоўвацца ня толькі польскай, але і беларускай мовай, бо інакш людзі проста адыдуць ад яго. Калі місіянеры едуць, скажам, да папуасаў, то найперш вучацца гаварыць па-папуаску. Дык чаму ж тады гэтае правіла ігнаруюць ксяндзы, якія з Польшчы скіроўваюцца цяпер у Беларусь?! Думкі прафэсара Смулковай канкрэтызаваў гісторык доктар Юры Туронак.

А ўвечары ўдзельнікаў форуму запрасілі ў Ватыкан, на сустрэчу з Архіпастырам Янам Паўлам II, ініцыятарам канфэрэнцыі, цяпер ужо кананізаваным. Нечакана дэлегаты-беларусы даручылі асноўны выступ мне, і я, уручыўшы Папу Рымскаму юбілейнае энцыкляпэдычнае выданьне, прысьвечанае Францішку Скарыну, распачаў словамі: „Ойча сьвяты! Дрэнна дзеецца з Каталіцкім касьцёлам на Белай Русі...“ Потым мае думкі прадоўжылі прафэсар Эльжбета Смулкова, менскі кандыдат навук Вячаслаў Вярэніч. І пасьля кожнага выступу Архіпастыр, абуджаючы ў нас надзею, уздыхаў: „Nie wszystko od razu“, „To przecież proces“.

І працэс пайшоў. Яго паскарала дасьведчаная і энэргічная прафэсар Эльжбета Смулкова. Летам таго ж 1990 году яна сабрала ў Польшчы вучоных-гуманістаў з розных краін, каб за прыкладам украінцаў распачаць стварэньне Міжнароднай асацыяцыі беларусістаў, выбраць старшыню яе аргкамітэту. Дзьве першыя спробы з шэрагу прычын аказаліся няўдалымі. І тады прафэсар Алег Лойка, мой ранейшы апанэнт на абароне доктарскай дысэртацыі, прапанаваў маю кандыдатуру. Я згадзіўся пры ўмове, што галасаваньне будзе таемнае... Праз якую палову гадзіны пані Смулкова пераконвала ўжо мяне, што першы кангрэс беларусістаў належыць правесьці не пазьней за травень наступнага году.

На травеньскі ўстаноўчы форум у 1991 годзе зьехаліся ў Менск літаратуразнаўцы, мовазнаўцы, гісторыкі, мастацтвазнаўцы з 23 краін. Дыскусіі бывалі вострымі і, як сьведчыць першы зборнік „Беларусіка=Albaruthenica“ (усяго іх выйшла ўжо 35!), плённымі.

Першым ганаровым сябрам асацыяцыі быў тады выбраны на кангрэсе нашчадак князёў Мсьціслаўскіх і Заслаўскіх, мэцэнат і прафэсар Анджэй Цеханавецкі (Брытанія). Яго, як і прафэсара Смулкову, і мяне, трывожылі слоўныя канфлікты паміж літоўскімі і беларускімі гісторыкамі на „Рыме-I“ і наступным „Рыме-II“ у Любліне (Польшча).

Таму неўзабаве варшаўская дасьледніца прапанавала мне: „А давайце зьлётаем разам у Лёндан, далучым яшчэ каго з гісторыкаў. Можа пан Цеханавецкі фінансава дапаможа нам, беларусістам, правесьці канструктыўны «круглы стол» зь літоўцамі“. І наша плённае падарожжа разам зь сябрам МАБ Генадзем Сагановічам адбылося ў лютым 1992 году. А вясной і летам таго ж году ў Менску і ў мястэчку Гервяты Астравецкага раёну, дзе жывуць этнічныя літоўцы (беларускі ксёндз там адправіў нам у касьцёле імшу на літоўскай мове, а літоўскі — на беларускай) адбыліся пасяджэньні, прысьвечаныя супольнай спадчыне Вялікага Княства Літоўскага.

З прыездам у Менск першага польскага амбасадара, прафэсара Эльжбеты Смулковай навуковыя і культурныя кантакты паміж нашымі дзьвюма суседнімі краінамі прыкметна ажывіліся. Часьцейшымі сталі абмен канцэртамі і спэктаклямі, навуковыя канфэрэнцыі, выданьне іх матэрыялаў. Памятаецца, мы разам езьдзілі ў Астравецкі раён, на маю радзіму, для сустрэчы зь мясцовай польскай дыяспарай. Прафэсар Смулкова надалей удзельнічала ў беларускіх навуковых дасьледаваньнях, і я нават ня ведаю, якіх навуковых працаў у яе болей — на польскай мове ці на беларускай.

Хачу сказаць у заключэньне пра сваю польскую прыяцельку ў сувязі зь Яе юбілеем: мы абое людзі этнічнага і культурнага памежжа паміж заходнім і ўсходнім славянствам, паміж Захадам і Ўсходам, там, дзе скрыжоўваюцца, ня толькі варагуючы, але і ўзаемаўзбагачаючыся, розныя культуры. Яна нарадзілася ў галіцкім Львове, я — у Падвіленскім краі. І таму заканамерна належым некалькім культурам. І таму, віншуючы Вас, гаспадарыня прафэсар, зь юбілеем, традыцыйна ўсклікаю: Sto lat!

*Адам Мальдзіс,*
*доктар філялягічных навук, Ганаровы старшыня*
*Міжнароднай асацыяцыі беларусістаў.*

# Незабароненая літаратура

## Уступ

Канец сьнежня 2014 году. Цягнік Варшава — Менск. Цеснае купэ на тры асобы, забітае чамаданамі, торбамі, заплечнікамі. Адзін з маіх спадарожнікаў — беларус, які вязе ў Менск адразу чатыры вялікія торбы, другі — італьянец, што едзе ў службовую выправу на берасьцейскі завод „Газаапарат“. Мяжа. Польскія памежнікі хутка праводзяць пашпартны кантроль, адразу два польскія мытнікі афармляюць вяртаньне падатку на дадзеную вартасьць майму беларускаму спадарожніку. Пазьней прыходзяць беларускія памежнікі, забіраюць пашпарты, асабліва цікавяцца італьянцам. Для напаўзакрытай краіны гэта зразумела.

Беларускі мытнік заходзіць апошнім і чамусьці не выяўляе ніякай цікавасьці ані да італьянца, ані да беларуса з чатырма торбамі. Чапляецца да мяне:

— Што везяце з-за мяжы?
— Польскія цукеркі і кніжкі.
— Няма часам сярод іх забароненай літаратуры?

Я абураюся, кажу, што такога паняцьця, як „забароненая літаратура“, няма ні ў адным беларускім законе. Але кніжкі паказваю, разумеючы, што мытнікі могуць зьняць зь цягніка, накіраваць на асабісты дагляд, а кнігі — на шматмесячную ідэалягічную экспэртызу. Пра такія выпадкі на мяжы з удзелам беларускіх апазыцыянэраў я шмат чытаў і сам пісаў.

Вязу цэлы стос кніжак прафэсара Эльжбеты Смулковай: „Białoruś i pogranicza“, „Pogranicza języków. Pogranicza kultur“, „Był dom we Lwowie…“, „Brasławszczyzna. Pamięć i współczesność“…

Мытнік уважліва глядзіць на вокладкі, гартае старонкі, спрабуе чытаць, шукае, ці няма там якой шкоды існаму рэжыму. Тлумачу яму, што кнігі навуковыя: мовазнаўства, дыялекталёгія, культуралёгія. Жартам пытаюся:

— Цікавіцеся?
— А як жа.

Мытнік бярэ новыя тамы і на месцы праводзіць сваю экспэртызу. Празь некалькі хвілін аддае, нічога не тлумачыць і не выбачаецца. Зь ягонага выгляду разумею, што ня надта ўмее ён чытаць па-польску, пагатоў не разьбіраецца ў навуковых тэрмінах, але ўрэшце робіць выснову — літаратура гэтая, здаецца, ня шкодная для дзяржавы, не забароненая.

Што ж, заслужанае прызнаньне для пані прафэсара Эльжбеты Смулковай, якая аддала амаль 60 гадоў свайго жыцьця вывучэньню беларускай мовы, культуры, апублікавала некалькі манаграфіяў і зборнікаў, больш за паўтары сотні артыкулаў, правяла дзясяткі навуковых канфэрэнцыяў, выступала з дакладамі аб праблемах беларускай філялёгіі, пра ўзаемны ўплыў моваў і культураў, навучала беларушчыне студэнтаў у Польшчы, Нямеччыне, Швэцыі, кіравала катэдрай беларускае філялёгіі Варшаўскага ўнівэрсытэту, катэдрай беларускае культуры Ўнівэрсытэту ў Беластоку, працавала на катэдры агульнага мовазнаўства і ў Цэнтры дасьледаваньняў антычнай традыцыі Варшаўскага ўнівэрсытэту (OBTA, Ośrodek Badań nad Tradycją Antyczną), працавала першым амбасадарам Польшчы ў Рэспубліцы Беларусі.

Пры яе непасрэдным удзеле было падпісана каля сарака найважнейшых міждзяржаўных пагадненьняў, галоўнае сярод іх — Дамова аб дружбе і супрацоўніцтве паміж Польшчай і Беларусьсю. У той час (1991—1995 гады) адбываліся дзясяткі візытаў зь Менску ў Варшаву і наадварот, у тым ліку на найвышэйшым узроўні, аднаўлялася гістарычнае сяброўства двух блізкіх народаў — беларускага і польскага — пасьля распаду СССР і Варшаўскага вайсковага блёку камуністычных дзяржаваў.

Цяпер, пасьля 20 зь лішкам гадоў кіраваньня Аляксандра Лукашэнкі і саюзу Беларусі з Расеяй, цяжка ўявіць, наколькі цікавы гэта быў пэрыяд і ва ўнутраным жыцьці Беларусі, і ў яе замежнай палітыцы, у тым ліку ў дачыненьнях з заходнім суседам — Польшчай.

Цягам дваццаці гадоў няма значных візытаў з Варшавы ў Менск, няма палітычнае супрацы паміж уладамі дзьвюх дзяржаваў, двухбаковыя дачыненьні суправаджаюцца дыпляматычнымі й палітычнымі скандаламі. У 2012 годзе МЗС Беларусі выслаў з краіны польскага амбасадара Лешэка Шэрэпку (н. 1964), а пазьней беларускія ўлады забралі будынак на вуліцы Румянцава ў Менску, у якім больш за 20 гадоў месьцілася амбасада Польшчы, а да таго, яшчэ ў савецкія часы,— генэральны кансулят. Як за Сталінам, спэцслужбы Беларусі цяпер мэтадычна шукаюць

польскіх шпіёнаў, а мытнікі — забароненую літаратуру з Польшчы.

Антыпольская прапаганда ў дзяржаўных беларускіх СМІ была разгорнутая ў адказ на падтрымку Польшчаю беларускае грамадзянскае супольнасьці, на патрабаваньні Варшавы вызваліць беларускіх палітычных вязьняў, праводзіць сумленныя выбары і спыніць рэпрэсіі супраць апазыцыі, у адказ на трансьляцыю з Польшчы спадарожнікавага беларускамоўнага тэлеканалу „Белсат“ і радыё „Рацыя“, у адказ на стыпэндыяльную праграму імя Кастуся Каліноўскага для беларускіх студэнтаў, выгнаных са сваіх ВНУ „за палітыку“, і шматлікія іншыя польскія праекты дзеля набліжэньня дэмакратычнай будучыні Беларусі.

Нягледзячы на пэрыяд „халоднай вайны“ паміж афіцыйнай Беларусьсю і Польшчай, многія беларусы глядзяць на Польшчу прыязна. У Менску, Берасьці, Горадні стаяць доўгія чэргі па польскія візы. Многія беларусы бачаць у Польшчы ня ворага, а добры прыклад, дынамічную рынкавую краіну, адкрытую дэмакратычную дзяржаву, беларускія вароты ў Эўразьвяз. Беларусы і палякі жылі ў міры й супрацы амаль 600 гадоў, з Крэўскай уніі, дачыненьні між намі не заўсёды былі бясхмарныя, але два народы дакладна не ваявалі паміж сабою, а збольшага былі па адзін бок франтоў і ў сярэднявеччы, і ў новы час.

Вялікая супольная гісторыя дае надзею, што кепскі пэрыяд у дачыненьнях Польшчы і Беларусі завершыцца поўным аднаўленьнем сяброўства, плённай інтэграцыяй у рамках новай геапалітычнай рэальнасьці — агульнай эўрапейскай супольнасьці. Што адновіцца працэс, які плённа разгортваўся на пачатку 1990-х і быў перарваны з прыходам да ўлады Аляксандра Лукашэнкі.

Яскравым узорам для тых, хто возьмецца ажыцьцяўляць новую, сяброўскую палітыку народаў Беларусі і Польшчы, стане дзейнасьць Эльжбеты Смулковай.

Я ведаю пані Эльжбету з часоў яе працы ў Менску амбасадарам, быў на ейных лекцыях у Варшаўскім унівэрсытэце, на зьмястоўнай навуковай канфэрэнцыі ў Беластоку, прысьвечанай гісторыі, гаворкам і культуры Палесься і Падляшша, калі яна ачольвала катэдру беларускай культуры Ўнівэрсытэту ў Беластоку, слухаў яе выступы на кангрэсах беларусістаў і славістаў у Менску. Я глыбока ўдзячны пані Эльжбеце за згоду на вялікае інтэрвію, якое заняло цэлы тыдзень ў сьнежні 2014 году і сталася добраю асноваю для напісаньня гэтай дакумэнтальнай кнігі. Я пастараўся разгадаць, кажучы словамі вядомага паэта-дысы-

дэнта, а пазьней манаха Жыровіцкай абіцелі Зьніча, „тайну гжэчнае пані Альжбеты“, заглянуць у яе дзіцячыя і студэнцкія гады, калі яна фармавалася як асоба, распавесьці пра сямейныя ды асабістыя драмы й трагедыі, якія перажыла яна разам з многімі ў крывавым XX стагодзьдзі, паказаць яе лёс як адбітак гісторыі. І распавесьці пра яе шлях у беларусістыку, пра ўклад у беларускае мовазнаўства і сумежныя навукі, пра зьдзяйсьненьні на пасадзе амбасадара, пра ўражаньні ад Беларусі і беларусаў, ад працэсаў, якія ў нас адбываліся і адбываюцца ў канцы XX — пачатку XXI стагодзьдзяў, паказаць ейны погляд на Беларусь як чалавека звонку, але погляд надзіва сяброўскі, прыязны, заклапочаны лёсам беларускае мовы, культуры, дзяржаўнасьці.

5 гадоў пані Эльжбета была амбасадарам Польшчы ў Беларусі і больш за паўстагодзьдзя — паслом беларускасьці ў Польшчы, паслом прыязьні польскага і беларускага народаў.

# Адзін з 3435

*Мне восем гадоў. Ноч. Мяне будзяць чужыя рэзкія галасы, якія чуваць з-за асьветленых дзьвярэй сталавальні. Ложачак малодшай сястры пусты. Выбягаю ў вітальню. Ля ўваходных дзьвярэй стаіць савецкі салдат зь вінтоўкай. Жах! Уцякаю, заскокваю ў ложак. Чакаю. Праз хвіліну ў спальню заходзіць бацька ў верхняй вопратцы, адразу за ім чужак у цывільным. Бацька сакрэтным рухам усоўвае мне ў ручку свой заручальны пярсьцёнак: „Памятай, чыя ты дачушка!“ Цалуе і сыходзіць. Да болю сьціскаю ў заціснутым кулачку той незразумелы тады скарб*[1].

Эльжбета Смулкова нарадзілася 24 чэрвеня 1931 году ў Львове ў сям'і настаўніцы Яніны Барановай (Janina Baranowa, у дзявоцтве Schoferówna, 1905—1991) і інжынэра-лесьніка Казімежа Барана (Kazimierz Leon Baran, 1902—1940), якія пабраліся ў 1929 годзе. Яніна Баранова паходзіла зь сям'і палянізаваных аўстрыйцаў, Казімеж Баран паходзіў з польскай сям'і, нарадзіўся ён у Пярэмышлі.



*Эльжуня падчас хваробы ў львоўскай кватэры. 1935 год.*

У ноч на 23 сакавіка 1940 году ў львоўскую кватэру сям'і Баран прыйшлі па бацьку людзі ў форме і цывільным. Гэта быў апошні раз, калі Эльжбета Смулкова бачыла свайго бацьку, Казімежа Леана Барана, намесьніка кіраўніка Дырэкцыі дзяржаўных лясоў у Львове. По-

[1] Elżbieta Smułkowa, *Leśnik ze Lwowa — inż. Kazimierz Baran (1902—1940)*, „Biuletyn Regionalnej Dyrekcji Lasów Państwowych w Toruniu“, grudzień 2012, s. 38.

тым ад яго не было ані вестачкі, ані знаку. Праз год і два месяцы сям'я Казімежа Барана — жонка Яніна, дочкі Эльжуня і Марылюся — была вывезеная ў Сыбір. Менавіта таму, што бацька быў рэпрэсаваны як службовец польскай адміністрацыі.

Жонка і дзеці ўвесь ваенны і паваенны час чакалі бацьку, спадзяваліся, што ён выжыў у віры крывавых ліхалецьцяў. Яніна Баранова да самай сьмерці ў 1991 годзе так нічога і не даведалася пра мужаў лёс. Яшчэ шмат гадоў па вайне падчас Калядаў на вігілійным стале Яніна пакідала асобную талерку для Казімежа. Надзея зьнікла, толькі калі дочкі павыходзілі замуж, але ўсё роўна ніякіх зьвестак пра бацьку не было, як і пра лёсы тысячаў іншых палоненых і арыштаваных савецкай уладай польскіх грамадзян. Яніна і дочкі маглі толькі здагадвацца, што здарылася з бацькам, бо пра Катынь у Польшчы ведалі, нягледзячы на спробы ўладаў СССР і ПНР схаваць трагедыю, выдаць забітых у Катыні за ахвяраў нацыстаў.

Толькі ў 1995 годзе дочкам Казімежа Барана ўдалося знайсьці бацькава прозьвішча ў апублікаваным „Украінскім сьпісе“ катынскіх ахвяраў на аркушы 72/2 пад нумарам 91:

> „Баран Казімеж Леан с. Адама і Гэлены, нар. 8.6.1902 у Пярэмышлі, інжынэр-лясьнік, віцэ-дырэктар у Дырэкцыі дзяржаўных лясоў у Львове. Арыштаваны 23.3.1940 у Львове. 12.05.1940 вывезены“[2].

Усяго ў гэтым сьпісе прозьвішчы 3435 грамадзян Польшчы, расстраляных на тэрыторыі УССР. Сьпіс перадаў 5 траўня 1994 году першы намесьнік кіраўніка Службы бясьпекі Украіны Андрэй Хомыч (н. 1947) намесьніку генэральнага пракурора Рэспублікі Польшчы Стэфану Сьнежку (н. 1936). Гэты дакумэнт — альфабэтны пералік асабістых справаў расстраляных, адпраўлены ў лістападзе 1940 году з НКВД УССР, з Кіева, у НКВД СССР, у Маскву.

Дакумэнт падпісаны старэйшым лейтэнантам дзяржаўнай бясьпекі Фёдарам Цьвятухіным з 1-га Спэцыяльнага аддзелу НКВД УССР. Таму „Украінскі сьпіс“ катынскіх ахвяраў называюць яшчэ „сьпісам Цьвятухіна“. Цьвятухін зрабіў значную кар'еру ў НКВД.

У 1948 годзе палкоўнік Цьвятухін узнагароджаны ордэнам Айчыннай вайны „за барацьбу з палітычным бандытызмам і нацыяналістычным падпольлем на тэрыторыі Заходняй

---

[2] *Ukraiński ślad Katynia*, Warszawa, 1995, s. 218.

Украіны“. Даслужыўся да пасады начальніка 5-га ўпраўленьня Міністэрства дзяржаўнай бясьпекі УССР.

Усяго паводле рашэньня палітбюро ЦК ВКП(б) ад 5 сакавіка 1940 году былі расстраляныя 21657 палонных і арыштаваных польскіх вайскоўцаў і цывільных грамадзян, пераважна ў Катыні, што пад Смаленскам, Асташкаве (Калінінская вобласьць) і Старабельску (Харкаўская вобласьць). 7305 зь іх былі расстраляныя ў турмах і лягерах Украіны і Беларусі.

„Беларускі“ катынскі сьпіс (у ім, як лічаць дасьледнікі, 3870 ахвяраў) дагэтуль ня знойдзены.

Як даведаліся ўкраінскія і польскія гісторыкі, арыштаваных у Заходняй Украіне польскіх грамадзян, сярод якіх быў і бацька Эльжбеты Смулковай, перавозілі ў турмы Кіева, Харкава і Херсону, дзе паводле загаду кіраўніка НКВД Лаўрэнція Бэрыі (1899—1953) іх расстрэльвалі.

Пад Кіевам расстрэлы чынілі ў кіеўскім аналягу Курапатаў — Быкаўнянскім лесе.

Менавіта ў Быкаўні знайшліся парэшткі брата знанага беларускага пісьменьніка Янкі Брыля — Уладзімера, рэпрэсаванага перад вайной у ліку дзясяткаў, калі ня сотняў тысячаў ахвяраў сталінскіх рэпрэсіяў 1937—1941 гадоў. Янка Брыль (1917—2006) напісаў пра гэта ў кнізе „Пішу як жыву“, якая моцна ўразіла Эльжбету Смулкову:

> „Пры эксгумацыі сталінскіх ахвяр, закапаных у Быкаўнянскім лесе, па знойдзеных там рэчах з індывідуальнымі адзнакамі іх уладальнікаў сьледзтва здолела ўстанавіць прозьвішчы чатырнаццаці бязьвінна рэпрэсіраваных. Сярод іх — наш Валодзя. На месцы захаваньня знойдзены муштук з надпісам: «Брыль В.А. 16.IX.1937 г.»“[3].

Сьведчаньняў, што ў Быкаўні пахавалі бацьку Эльжбеты Смулковай Казімежа Барана, няма.

Тым ня менш пры эксгумацыі ў Быкаўнянскім лесе ўдалося знайсьці дакумэнтальныя пацьверджаньні, што прынамсі некаторыя з ахвяраў са сьпісу Цьвятухіна пахаваныя менавіта ў Быкаўні. Таму гэтае месца было абранае для сымбалічнага ўшанаваньня ўсіх ахвяраў „Украінскага катынскага сьпісу“.

21 верасьня 2012 году адбылося ўрачыстае адкрыцьцё і асьвячэньне Польскіх вайсковых могілак у Быкаўнянскім лесе ў

[3] Янка Брыль. *Пішу як жыву*. Менск, 1994. С. 6.

прысутнасьці прэзыдэнтаў Польшчы і Украіны. 9 красавіка 2015 году памяць сталінскіх ахвяраў у Нацыянальным гістарычна-мэмарыяльным комплексе „Быкаўнянскія магілы“ супольна ўшанавалі прэзыдэнты Украіны Пятро Парашэнка (н. 1965) і Польшчы — Браніслаў Камароўскі (н. 1952).

21 верасьня 2012 году на ўрачыстае адкрыцьцё і асьвячэньне Польскіх ваенных могілак у Быкаўнянскім лесе былі запрошаныя дочкі Казімежа Барана Эльжбета Смулкова і Мар'я Тарасюк разам зь іншымі прадстаўнікамі сем'яў расстраляных (так званай Rodziny Katyńskiej).

> „Праўды аб злачынстве сфальшаваць не ўдалося. Эксгумацыю братніх магіл і пахаваньняў, нягледзячы на сур'ёзныя перашкоды, правялі польскія і ўкраінскія спэцыялісты. Мэмарыял, месца памяці многіх народаў, быў адкрыты ў прысутнасьці прэзыдэнтаў Польшчы і Украіны. На гэтыя думкі ў мяне накладалася моцнае, увесь час жывое асабістае пачуцьцё. Гэта таксама месца памяці пра нашага Бацьку“,—

згадвала тую падзею пані Эльжбета[4].

Пані Эльжбета ўспамінае, які таварыскі і сардэчны быў яе тата, як яе любіў і гуляў зь ёю, як аднаго разу нават вадзіў на футбол, на матч чатырохразовага чэмпіёна Польшчы львоўскай „Пагоні“, якой быў заўзятарам, як паказваў розныя расьліны ў батанічным музэі, а таксама жывога мядзьведзіка, якога прынесьлі з лесу і зь нейкай прычыны пэўны час трымалі ў Львове ў садзе татавага начальніка.

Казімеж Баран папрацаваў пасьля заканчэньня Львоўскай палітэхнікі асыстэнтам на катэдры батанікі, потым перайшоў на працу ў Дырэкцыю лясоў у Львове.

Пані Эльжбета сказала мне, што ёй дагэтуль цяжка зразумець, чаму савецкія ўлады забралі і забілі яе бацьку, хоць цяпер вядома, што лясьнічыя сыстэмна патрапілі пад рэпрэсіі акупацыйных уладаў, як і іншыя дзяржаўныя службоўцы:

> „Некаторыя ягоныя калегі ўцякалі са Львова, але ён не захацеў, бо лічыў, што нармальна працуе, мае сям'ю, што нічога супраць акупацыйных уладаў не рабіў. Магчыма, лесьнікоў забіралі, бо яны добра ведалі дарогі і спрыялі ўцёкам людзей за мяжу? Мой бацька быў намесьнікам дырэктара Львоўскай лясной

[4] Elżbieta Smułkowa, *Leśnik ze Lwowa — inż. Kazimierz Baran*, s. 36.



*Дуб памяці Казімежа Барана ў Цэлестынаве, адным з мэмарыяльных комплексаў у Польшчы. Эльжбета Смулкова з прадстаўнікамі дэлегацыі польскіх лясьнічых.*

управы, нейкі час пры саветах ён заставаўся на гэтай пасадзе. І ёсьць зьвесткі, што ён быццам таксама дапамог уцячы аднаму вядомаму польскаму генэралу“.

Ва ўспамінах пра бацьку пані Эльжбета напісала пра пару дзяцінства яе і малодшай сястры Марылі:

„Памятаю атмасфэру шчасьлівага дому ў дастатку, у якім заўжды ў добрым настроі з намі была Мама, часамі прыходзіла нянька, а ў кухні завіхалася кухарка Эўця, якая жыла з намі. Штодзённыя вяртаньні бацькі з працы адзначаліся як сьвята. Чысьцюткія, сьвежа прычасаныя, мы выбягалі ў вітальню да бацькі, пасьля чаго сядалі разам абедаць. Кажу пра гэта, каб падкрэсьліць кантраст, у які Яніна Баранова адна зь дзецьмі трапіла пазьней у Сыбіру, і колькі яна мусіла мець гарту духу, каб адольваць цяжкасьці і давесьці дачок да небанальных дасягненьняў у дарослым жыцьці“[5].

---

[5] Elżbieta Smułkowa, *Leśnik ze Lwowa — inż. Kazimierz Baran*, s. 37.



*У архіве варшаўскага Музэю Катыні ёсьць фота Казімежа Барана (у цэнтры) зь ягоным сябрам лясьнічым Тадэвушам Швэцам (зьлева) і братам Тыманам Тэрлецкім (справа).*

**Тадэвуш Швэц** (1894—1941?) быў арыштаваны ў сьнежні 1939 году, у траўні 1940-га этапаваны ў Кіеў, адкуль яго вывезьлі ў адзін зь лягераў, праўдападобна, у Котлас. Пасьля амністыі загінуў у цягніку на тэрыторыі СССР, недзе ля гораду Горкага, калі ехаў далучыцца да арміі Андэрса.

**Тыман Тэрлецкі** (1905—2000) у 1939 годзе выехаў у Францыю, дзе яго сустрэла вайна, і ўжо ніколі не вярнуўся ў Польшчу. Жыў у Англіі, у Злучаных Штатах. Пахаваны у Лёндане.

Пярсьцёнак, перададзены бацькам Казімежам на разьвітаньне васьмігадовай Эльжуні й зьберажоны яе маткай Янінай у галодным і халодным пяцігадовым сыбірскім выгнаньні, пані Эльжбета атрымала ва ўласнасьць ужо дарослай, калі брала шлюб са сваім мужам Віктарам. Яна дасюль яго носіць на руцэ як абярог і сямейную рэліквію. Гравэраваныя на ім надпісы датаў шлюбаў бацькі з маткай і яе зь Віктарам даўно зацерліся. Не зацёрся толькі пякучы боль страты, памяць бацькоўскага разьвітаньня і матчынай любові.

# Яніна, маці-гераіня

*22.05. Ушэсьце.*
*Начны стук у дзьверы. Пакаваньне рэчаў.*
*Расстаньне зь Лёляй. У цягніку палова на палову*
*грамада польская і ўкраінская. Разьмяшчэньне*
*ў вагоне для жывёлы. Праверка дакумэнтаў —*
*замыкаюць дзьверы.*
*Першы сьняданак у вагоне: чорны хлеб, вада,*
*кавалачак цукру. Абед такі самы, такая ж і*
*вячэра, з той розьніцай, што хлеб белы. Ноч.*
*Цемра ўзмацняе роспач, людзі енчаць, кляака*
*ў вагоне — бракуе месца. Суседка-лекарка самлела.*

Зь дзёньніка Яніны Барановай[6]

22 траўня 1941 году, праз год і два месяцы пасьля арышту Казімежа Барана, узброеныя людзі зноў прыйшлі ў львоўскую кватэру Яніны Барановай, яе дачок Эльжуні і Марылюсі. Гэта была ўжо іншая кватэра, меншая і бяднейшая, з ранейшай кватэры ўлады прымусілі перасяліцца. А цяпер высялялі са Львова зусім. У Сыбір.



*Маці Эльжбеты Смулковай Яніна Баранова.*

[6] Elżbieta Smułkowa, *Białoruś i pogranicza: Studia o języku i społeczeństwie*, Warszawa, 2002, s. 586.

Праз 73 гады ад той страшнай ночы пані Эльжбета згадвае дэталі:

„Калі я прачнулася, то ўбачыла маму неапранутую, толькі ў споднinfinity бялізьне, якая сядзела на падлозе. Яна ня плакала, але нагэтулькі страціла волю, што не магла рухацца. Чалавек ва ўніформе загадаў: «Апранайся і апранай дзяцей, бо маеш мала часу». Яна пачала апранацца — і ўстала.
Урэшце маці сабралася зь сіламі, апранула сябе і дзяцей, сабрала дарожны куфар, кош з коўдрамі і бялізнай, узяла яшчэ швейную машынку, якая потым моцна прыдалася. Супрацоўнік НКВД сказаў тады ёй: «Бяры машынку, калі ўмееш шыць. У цябе дзеці»“.

Калі маці і дачок разам зь іншымі пасадзілі на грузавік, у Львове ўжо сьвітала, было відаць дахі дамоў на знаёмых вуліцах. Потым яшчэ дзень чакалі адправы ў цялячым вагоне. На чыгуначную плятформу прыходзілі сваякі, прыносілі рэчы і ежу, але ахова іх не прапускала.

Захавалася дэталёвае апісаньне той жудаснай паездкі, зробленае самой Янінай Барановай. Маці Эльжбеты Смулковай пісала тры тыдні дзёньнік сваёй ссылкі ў Сыбір. Запісы рабіла ў вагоне таемна, у школьным сшытку ў шырокую лінейку хімічным алоўкам. Гэты дакумэнт дачка апублікавала пасьля распаду савецкага блёку.




*Вагон для жывёлы, у якім перавозілі ахвяраў Катыні. Знаходзіцца ў Катынскім мэмарыяле. У такім сям'ю Барановай везьлі ў Сыбір. Фота 2012 году.*

Страціўшы мужа, Яніна Баранова была гатовая да ссылкі, але ўсё ж думала, што, паламаўшы жыцьцё іхнае сям'і, выгнаўшы з кватэры, савецкая ўлада задаволілася. Перад гэтым былі ўжо тры масавыя вывазы са Львова, якія абмінулі Яніну і дзетак. Значна раней у Казахстан вывезьлі сястру Яніны Ванду Левэк (1909—1941), якая жыла ў Лунінцы з мужам-судзьдзём. Яніна перапісвалася зь ёю. І зусім незадоўга да таго, як НКВД прыйшоў і па ейную сям'ю, Яніна атрымала страшную вестку пра сьмерць Ванды ў Петрапаўлаўску.

Яніна Баранова перад самай ссылкай пасьпела паслаць старэйшую дачку Эльжуню ў касьцёл да першай камуніі, бо сама была шчыраю верніцай.

У згаданым ужо дзёньніку пані Яніна шкадуе, што не паспрабавала раней паехаць з дочкамі ў Аўстрыю, да тамтэйшай галіны сям'і Шофэраў. Яна сьвядома адмовілася ад гэтага кроку, баючыся, каб гэта не паўплывала на самасьвядомасьць дзяцей, каб яны ня страцілі польскасьці. Зрабіла гэта дзеля мужа, вялікага патрыёта Польшчы. Па дарозе ў Сыбір Яніна шкадавала пра гэтае рашэньне.

Эльжбета Смулкова зазначае, што вагон, у якім вывозілі сям'ю Барановай, быў як той, што стаіць цяпер у Катынскім мэмарыяле: кароткі „цялячы“ вагон грузападымальнасьцю 18 тонаў з рассоўнымі дзьвярыма і двума закратаванымі акенцамі, дзьве пары нараў — верхніх і ніжніх. У такія вагоны заганялі да 30, а часам і 50 чалавек.



*Нары ў „цялячым“ вагоне.*

Эльжуні і Марылі маці паслала на верхняй паліцы нараў, ля закратаванага акенца, праз якое былі крыху бачныя краявіды. „Параша“ ў цэнтры была адгароджаная прасьцінай, заўсёды мокрай ад мачы, і страшна сьмярдзела. У вагоне было яшчэ некалькі дзяцей, былі мужчыны і жанчыны, многія моцна хварэлі, некаторыя паміралі ў дарозе. Кармілі адзін раз на дзень нечым гарачым, часам можна было на прыпынку нешта купіць у мясцовых людзей, калі ў каго заставаліся грошы.

> „Дзяцей разам з намі было пяцёра. Большасьць жа ссыльных у нашым вагоне былі старыя людзі. Я зусім не разумею, чаму іх узялі, паводле якога прынцыпу? Відаць, проста выконвалі плян па колькасьці. У тым вагоне, у якім мы ехалі з мамай, была палова ўкраінцаў, аднаго зь іх я бачу дасюль у сваіх успамінах: гэта быў вартаўнік дому, стары чалавек. Чым ён перашкаджаў гэтым савецкім уладам? Ён потым там памёр“, — згадвае пані Эльжбета.

Сям'і Яніны Барановай і іхным спадарожнікам пашэнціла, што на дварэ было цёпла: калі іншых вывозілі зімой, то сьмерцяў было больш.

Цягнік ссыльных ішоў са Львова амаль пяць тысяч кілямэтраў праз Здалбунаў, Ракітна, Мазыр, Гомель, Бранск, Арол, Тулу, Пензу, Куйбышаў, Уфу, Чалябінск, Новасібірск. У Новасібірску ўпершыню дазволілі выйсьці з вагонаў, адвялі ў лазьню, дзе дзяўчаткі ўпершыню ў жыцьці распрануліся пры чужых людзях, хоць і толькі жанчынах; для Яніны, дачок Эльжуні і Марылюсі гэта было траўмай.

Пасьля лазьні галодная і стомленая Эльжуня самлела. Маці тады моцна спалохалася і пастаралася як найхутчэй вярнуць яе ў прытомнасьць. Пасьля той жа цягнік давёз усіх у Томск. Потым перасадка на судна і 450 кілямэтраў па рацэ Обі на поўнач, у кірунку Карскага мора, у балоты і тайгу. Потым яшчэ кілямэтраў трыццаць баржаю па рацэ Васюган, прытоку Обі, да месца пастаяннай ссылкі — пасёлку Усьць-Сільга.

5 чэрвеня Яніна Баранова напісала ў дзёньніку:

> „Сёньня зноў галава баліць, цела дрыжыць. Стан майго здароўя будзе вялікай перашкодай у цяжкай барацьбе за выжываньне маіх бедных дзяўчатак.
> (…)

Мы ў Новасібірску. І гэта яшчэ ня мэта нашага падарожжа. А мы ўжо амаль на мяжы трываласьці. Стаім паміж цесна пастаўленымі грузавымі вагонамі. Задуха жудасная. Дзеці распрануліся да маек і дарэмна жабруюць вады. Нам абяцаюць неўзабаве піцьцё, абед, ба, а нават «баню», гэта значыць дадуць памыцца. Але калі гэтага дачакаемся? Ах, якая ж цяжкая роля маці ў такой сытуацыі!“[7].

Цягам усёй цяжкай вандроўкі жанчына думала пра дачок, як іх аберагчы, накарміць, радавалася кожнай шклянцы малака ці яечку, здабытымі для іх. Часта малілася і пісала свае просьбы Госпаду ў дзёньніку:

„Страшны боль сьціскае сэрца. Як мы выжывем на Поўначы? Божа, пакінь мяне як найдаўжэй пры дзецях, каб не засталіся сіротамі на чужыне“,— Яніна моліць Бога ў сваім дзёньніку 6 чэрвеня 1941 году.

Канчатковы адрас сасланай сям'і Барановай:

„СССР, Новосибирская область, Каргасокский район, Наунакское почтовое отделение, поселок Усть-Сильга“,— гэта былі першыя словы, якія Яніна Баранова напісала па-расейску.

Каргасоцкі раён у Расеі дасюль афіцыйна прыраўнаны да раёнаў Крайняй Поўначы.

Сасланым было забаронена пакідаць гэтую мясцовасьць цягам 20 гадоў.

„Мы як дзеці шмат нэгатыўнага перажылі пасьля страты ўсяго, вывазу ў Сыбір, але мы мелі апірышча ў ёй, у маці. Я ўяўляю, як яна перажывала. Такая далікатная жанчына, выпешчаная, шчасьлівая, мела ўсё, што хацела мець. А калі мы прыехалі ў тайгу над Васюганам, прытокам ракі Обі, то яна касіць навучылася“,— зазначае пані Эльжбета і выказвае сваю думку пра тое, што дапамагала яе маці вытрымаць усе страшныя нягоды самой і выратаваць дзяцей:

„Мама хутка авалодала сабою. Я думаю, што ёй дапамагала малітва, у яе была вера, што яе Бог не пакіне. Яна мела веру

[7] Elżbieta Smułkowa, *Białoruś i pogranicza*, s. 588.

ў тое, што знойдзе дапамогу і што вернецца з намі назад, што сустрэнецца з бацькам, яна не дапускала, што гэта канец жыцьця. Яна заўжды падыходзіла да гэтага як да вельмі цяжкага досьведу, які скончыцца. Шмат пазьней яна сказала мне: пабачыш, што Савецкі саюз распадзецца, павінен распасьціся. Так яна казала за 10 гадоў да рэальнага канца СССР, хоць самога гэтага факту яна не дачакалася, бо памерла 2 красавіка 1991 году, яшчэ да распаду СССР,— згадвае пані Эльжбета.— Яна вельмі не хацела, каб я ў 1991-м ехала працаваць генэральным консулам Польшчы ў Беларусь. Баялася. Бо для яе гэта быў Савецкі саюз. Ёй цяжка было зразумець, што я добраахвотна еду ў СССР, досьведу жыцьця ў якім я ўжо павінна была мець, як кажуць, «пад завязку», яна вельмі была незадаволеная гэтым. І калі мама памерла, то гэта аблегчыла мне рашэньне ехаць, бо я не хацела ісьці насуперак яе жаданьню“.

Цягам пяці гадоў у Сыбіру Яніна Баранова цяжка працавала, здабывала дровы і ежу, шукала магчымасьці аддаць дачок у школу, вучыла малодшую дачку пісаць па-польску, знаходзіла пазытыў і добрых людзей у найскладанейшых варунках. У 1946 годзе яна зь дзецьмі вярнулася ў Польшчу і зрабіла ўсё, каб дочкі атрымалі добрую адукацыю. Яніна Баранова выканала свой абавязак як маці, зьберагла памяць пра забітага савецкай



*Віктар і Эльжбета Смулэк з маці Янінай Барановай. 1982 год.*

уладай мужа. І пані Эльжбета добра ведае, што такіх маці-гераіняў у той час было шмат.

Яніна Баранова пахаваная на Бруднаўскіх могілках у Варшаве. На помніку — кароткае апісаньне яе жыцьця:

„Маці, львавянка, сыбірачка“[8].

[8] *Сыбіракамі* ў Польшчы называюць сасланых царскімі і савецкімі ўладамі ў Сыбір.

# Чалавек памежжа

*Я вырасла на памежжы і таму яго разумею. Я вырасла сярод палякаў, украінцаў, габрэяў і немцаў. Але ў сапраўднай польскай сям'і.*

Эльжбета Смулкова

З боку матчынай сям'і, якая валодала маёнткам у сяле Зашкаве цяперашняга Залачоўскага раёну Львоўскай вобласьці (двор, гаспадарчыя пабудовы, 200 гектараў зямлі), продкі пані Эльжбеты былі палянізаванымі аўстрыйцамі, што натуральна для тэрыторыі, якая ўваходзіла ў склад Аўстра-Вугорскай імпэрыі. Яе дзядуля Ян Шофэр (1875—1934) і бабуля Мар'я Шафэрова (1884—1967) абое паходзілі з баварска-аўстрыйскіх сем'яў, якія спалянізаваліся хутка пасля прыезду ў Польшчу. Дзед пачуваўся палякам, хоць быў эвангелістам, а бабуля была каталічкай.

„Нешта было ў польскай культуры прывабнае, што іншыя народы палянізаваліся“,— заўважае пані Эльжбета.



*Маленькая Эльжуня з мамай Янінай Барановай і цёткай Гэленай Каламайскай у Зашкаве.*

У маёнтку Зашкаў малая Эльжуня, як яе звалі ў сям'і, і малодшая сястра Марылюся праводзілі летнія месяцы. Іхны дзед, уладальнік маёнтку, пабудаваў у вёсцы школу, якая стаіць і дагэтуль. А вось дому няма.

Пазьней, у 1995 годзе, пані Эльжбета знайшла толькі раскіданае гняздо на месцы дагледжанага дому, высечаны сад, ад парку засталося літаральна некалькі дрэваў, крыніца забруджаная. Глыбокія мураваныя падвалы адразу па вайне падарвалі савецкія ўлады, каб

у іх не хаваліся ўкраінскія паўстанцы. Да гэтага ў самім двары нейкі час была школа і калгасны „чырвоны куток“, потым сяляне разабралі дом і мураваную агароджу на будаўнічыя матэрыялы.

Колькі такіх разбураных шляхоцкіх гнёздаў засталося ў Заходняй Украіне і Беларусі пасьля іх далучэньня да СССР? Многія могуць прыгадаць свае вёскі, у якіх панскія маёнткі да 1939-га былі цэнтрамі эканомікі й культуры. Я ж згадваю сваё роднае Моладава Іванаўскага раёну, што на Берасьцейшчыне, дзе па вайне разбурылі і палац, і нават могілкі паноў Скірмунтаў, пра якіх ад моладаўскіх дзядоў у дзяцінстве я чуў толькі добрае.

У зашкаўскіх сялян засталася добрая памяць пра свайго „пана“ Яна Шофэра, які памёр у 1934 годзе. У Зашкаве, каля ўніяцкай царквы, засталася ягоная магіла з драўляным крыжам і агароджай. Калі пані Эльжбета ўпершыню ў дарослым узросьце прыехала ў Зашкаў, то на магіле дзеда ўбачыла ўрослы ў зямлю перадваенны крыж зь вянцом. Яна замовіла новы масіўны дубовы крыж з латуннай таблічкай. Праз шмат гадоў і ён спарахнеў, і хтосьці зь мясцовых жыхароў нядаўна замяніў гэты крыж на новы, да якога прыбіў старую латунную таблічку.

Прыехаўшы ў 1995-м у Зашкаў, пані Эльжбета наведала сяброўку з часоў маленства Стэфку Нядужую, украінку (русінку, як раней казалі), чый бацька Васіль працаваў аканомам у дзеда-



*Прыдарожны крыж ля месца, дзе стаяў маёнтак Шофэраў у Зашкаве. 2015 год.*

вым двары. Прыйшлі яшчэ кабеты, каб пабачыць унучку „пана“. Пасьля шматлікіх успамінаў зайшла размова пра сацыяльную справядлівасьць, згадвае пані Эльжбета:

„Я была праніклася неяк сацыялістычнай ідэалёгіяй, тым, што патрэбная грамадзкая справядлівасьць, што лепей, калі людзі больш роўныя, а ня так, што адны нешта маюць, а іншыя на іх цяжка працуюць, я сказала, што разумею, што трэба было зрабіць аграрную рэформу, даць людзям зямлю. А яны так глядзяць на мяне і кажуць: «Слухай, Ельжуню. Так, ми працювали на пана, але пан нам платив, а тепер?..»“

Калі пані Эльжбета аглядала месцы занядбаных і зьнішчаных пабудоваў дзедавага маёнтку ў Зашкаве, з паўразбуранай аборы выйшла кабета і спытала яе:

„Жалко тобі?“
„Для сябе — не, бо я маю ўжо зусім іншае жыцьцё! Але шкада, што забраныя ў нас і ў стольніх іншых людзей родныя дамы так на нішто і не прыдаліся. Шкада, што і вы нічога з гэтага ня маеце“,— спантанна адказала пані Эльжбета[9].



*Магіла Яна Шофэра ў Зашкаве. 2015 год.*

[9] Schoferowa Maria, *Grzędowie. Opowieść z Zimnego Podola; Exodus,* sztuka sceniczna, Warszawa, 1998, s. 227.

Бабуля пані Эльжбеты Мар’я Шафэрова мела літаратурны талент. У 30-я гады яна напісала аповесьць „Grzędowie. Opowieść z Zimnego Podola“, дзе закранала міжнацыянальныя, міжрэлігійныя і грамадзкія дачыненьні на „Ўсходніх крэсах“. У 1945 годзе напісала драму „Exodus“. Толькі праз амаль 60 гадоў (у 1998-м) гэтыя творы былі апублікаваныя з прадмовай і пасьляслоўем унучкі — Эльжбеты Смулковай.



*Мар’я Шафэрова, бабуля Эльжбеты Смулковай.*

„Мая бабуля зрабіла тое, што я цяпер раблю, калі хаджу па вёсках, размаўляю зь людзьмі і распытваю. Яе пісаньне – гэта не літаратурная выдумка, а досьвед кабеты з двору, якая жыла сярод вясковых людзей. Яна кантактавала зь вёскай, якая была разнамоўнай, большасьць людзей там гаварыла па-ўкраінску, або, як тады называлі, па-руску. Яна выраблялa і прадавала масла, каб мець грошы на штодзённыя выдаткі, спатыкалася з украінскімі арганізацыямі «Маслосоюз», «Просвіта», сябравала з грэка-каталіцкім сьвятаром, мела добры кантакт з габрэем-гандляром. Яна неяк сутыкнулася і з варожасьцю кагосьці з маладых украінцаў, нэгатыўна настроеных да Польшчы, — хтосьці кінуў у яе акно каменем, у кабінэт, дзе яна працавала ў той момант. Гэта сьведчыць пра тое, што былі складанасьці, але ўвогуле мясцовыя людзі да яе вельмі добра ставіліся. Калі ў 1939 годзе ўвайшла Чырвоная армія і пачалася канфіскацыя зямлі і маёмасьці, то мясцовыя сяляне, украінцы, дапамаглі бабулі спакаваць рэчы і выехаць у Львоў, да нашай сям’і. Калі я прыехала ў Зашкаў упершыню пасьля вайны, то палова вёскі зьбеглася да хаты Стэфкі Нядужай, дзе я спынілася, каб распытваць і ўспамінаць“,— кажа пані Эльжбета пра сваю бабулю і яе творы, якія сама яна належна ацаніла і падрыхтавала ў друк, калі ўжо сама стала дасьведчанай дасьледніцай. Пані Эльжбета мяркуе, што яна, відаць, пераняла ад сваёй бабулі схільнасьць да працы ў гуманістыцы.

Крытыкі пазытыўна прынялі бабуліну кнігу. У прыватнасьці, Рох Суліма (н. 1942) падкрэсьліў, што раман, напісаны ў 1932 годзе, застаецца актуальнай кнігай для нашага часу, а Мар'ян Драздоўскі (н. 1947) прызнаў, што аўтарка прадказала ў сваіх творах патрэбу польска-ўкраінскага дыялёгу, дыялёгу не пра ідэйныя асновы і прынцыпы замежнай палітыкі, а пра зразуменьне супольнасьці лёсаў.

„Таталітарызмы гітлераўскі і сталінскі разбурылі культурную польска-ўкраінскую супольнасьць ва ўсходняй Галіччыне і пагражалі культурнай тоеснасьці абодвух народаў",— напісаў Мар'ян Драздоўскі ў рэцэнзіі на творы Мар'і Шафэровай.

Яе ўнучка, Эльжбета Смулкова, у сваіх працах давяла, што гэтыя словы ў значнай ступені можна аднесьці і да польска-беларускай супольнасьці. Але пані Эльжбета паказала таксама і тое, што можна гэтаму вонкаваму разбурэньню супрацьстаяць, мацуючы і пашыраючы супрацу і сяброўства паміж нашымі народамі.

# Львоў і былыя „Ўсходнія крэсы“

*Вярталіся мы ў Польшчу праз Львоў у 1946-м, транспартам, які арганізаваў Зьвяз польскіх патрыётаў. Можна сабе ўявіць, як моцна хацелі мы пабачыць родны горад. Аднак нам не дазволена было ані на хвіліну пакідаць пэрон, нягледзячы на тое, што стаяў цягнік там выключна доўга. Ад чыгуначных рэек не відаць гораду, відаць толькі сьпічастыя вежы касьцёлу Сьвятой Эльжбеты*[10].

На львоўскіх Лычакаўскіх могілках, недалёка ад магілы слыннага ўкраінскага пісьменьніка Івана Франка (1856—1916), захавалася сямейнае пахаваньне матчынага роду пані Эльжбеты. Апошнім у 1937 годзе тут быў пахаваны яе дзядзька Францішак Шофэр. Пані Эльжбета пастаралася, каб магіла была адноўленая і ўпарадкаваная. А вось магілу бацькавай маці Гэлены, памерлай у 1934 годзе, па вайне знайсьці не ўдалося, земляное надмагільле, пакрытае дзёрнам, рассыпалася, драўляны крыж спарахнеў. Удалося знайсьці толькі прыблізнае месца яе пахаваньня.

Засталіся ў Львове дамы, у якіх былі кватэры сям'і пані Эльжбеты — на вуліцы Сьвятога Марка (цяпер Кабылянскай), 12, і на вуліцы Махнацкага (цяпер Драгаманава), 56,— менавіта там скончылася шчасьлівае дзяцінства Эльжуні і Марылюсі.

У львоўскія кватэры, дзе да вайны жыла яе сям'я, пані Эльжбета падчас сваіх паваенных паездак у родны горад ніколі не заходзіла.

„Балюча... Дый бяз сэнсу. Навошта трывожыць тых людзей, якія цяпер там жывуць“,— прызналася яна ў размове са мной.

Пра пэрыяд жыцьця ў Львове 1939—41 гадоў пані Эльжбета памятае няшмат. Згадвае, як пасьля 17 верасьня 1939 году з прыходам савецкага войска ў горадзе найперш зьніклі прадукты, і яна стаяла ў чэргах па хлеб і цукар, бо мама часам брала яе з сабою і несла на руках меншую Марылюсю, каб можна было ўзяць дзьве порцыі. Затое паўсюль на вуліцах было відаць партрэты Сталіна і Леніна.

[10] Elżbieta Smułkowa, *Był dom we Lwowie*… Warszawa, 2013, s. 11.



*Сьпічастыя вежы касьцёлу Сьвятой Эльжбеты, цяпер грэка-каталіцкага храму Сьвятых Вольгі і Елізаветы. 2015 год.*

Неўзабаве бацьку арыштавалі, а сям’ю выгналі зь іхнай вялікай выгоднай кватэры. Яны пераехалі ў меншае памяшканьне ў старым доме, узяўшы толькі самае неабходнае.

Пасьля арышту бацькі сям’і не было на што жыць, і маці, якая нідзе стала не працавала, неяк пайшла з Марыляй у Акадэмію мастацтваў, каб зарабіць капейчыну ў якасьці мадэлі. Але там малявалі карціну, як радасна людзі сустракаюць Чырвоную армію. Пані Яніна адмовілася ад такіх грошай і пакінула майстэрню. У трэцяй клясе школы Эльжуня пачала вучыць украінскую мову. Тады дзеці ўжо не вучыліся рэлігіі й польскай гісторыі.

З маёнтку Зашкава, сканфіскаванага савецкімі ўладамі, у Львоў пераехала бабуля пані Эльжбеты Мар’я Шафэрова. Яна пабаялася пайсьці жыць да кагосьці з дачок, жыла інкогніта, нават памяняла прозьвішча, уладкавалася служанкай у сям’і лекараў, гатавала ім і прыбірала. Яны здагадваліся, хто ім служыць, але нічога ўладам не казалі. І яе не зачапілі.

Неўзабаве пасьля прыходу саветаў начамі пачалі забіраць людзей, цэлымі сем’ямі, і вывозіць эшалёнамі на ўсход СССР. Усяго было пяць масавых вывазаў са Львова, яны адбываліся да самага



*Дом 56 па вуліцы Драгаманава ў Львове,*
*у якім сям'я жыла да арышту бацькі. 2015 год.*

пачатку савецка-нямецкай вайны. Сям'я пані Эльжбеты трапіла ў чацьверты. Пасьля вайны ў савецкі Львоў дарога ім была закрытая, але любоў да роднага гораду толькі падмацоўвалася настальгіяй і сяброўскімі сувязямі.

У 2013 годзе Эльжбета Смулкова выдала кнігу „Był dom we Lwowie…“, якую фактычна складала з пачатку 60-х гадоў,— кнігу пра родны горад, галоўным чынам пра палякаў, якія засталіся жыць у Львове пасля вайны і зьмены дзяржаўных межаў, пра сваіх найлепшых сяброў. Блізкае сяброўства завязалася пасьля першага паваеннага прыезду пані Эльжбеты ў родны горад у 1960 годзе ў якасьці польскай стыпэндыяткі Інстытуту ўкраінскай мовы Акадэміі навук Украіны.

Пані Эльжбета дзясяткі гадоў трымала кантакт з палякамі, якія засталіся жыць у Львове,— носьбітамі аўтэнтычных даваенных традыцыяў, арганізатарамі грамадзкага жыцьця польскай меншасьці, актыўнымі вернікамі і дабрачынцамі, якія даглядалі польскія магілы, арганізоўвалі рамонт касьцёлаў, былі актывістамі касьцельных камітэтаў. Гэта былі людзі, якія, як і пані Эльжбета, моцна пацярпелі ад савецкай улады, але не

скарыліся сыстэме. Вакол іх гуртавалася польскае і каталіцкае жыцьцё ў Львове. Пані Эльжбета наведвала іх, жыла ў іхных кватэрах, прымала іх у сябе дома, у тым ліку ў Менску падчас працы амбасадарам, актыўна ліставалася, віншавала са сьвятамі. А ў адказ атрымлівала самаробныя паштоўкі — у СССР не было віншавальных паштовак зь Вялікаднем і Калядамі, і яе сяброўкі самі малявалі вельмі шчырыя і крыху наіўныя сьвяточныя паштоўкі. Гэтае сяброўства дазваляла пані Эльжбеце ўвесь час захоўваць нітку сувязі са Львовам.

Трох сваіх сябровак са Львова — Ірэну Пэльчарскую (1911—1990), Мар'ю Скерскую (1916—2002), Яніну Сасабоўскую (1925—2007) — пані Эльжбета правяла ў апошні шлях на львоўскія Лычакаўскія могілкі. Сваю кнігу „Był dom we Lwowie…“ пані Эльжбета разглядае як доўг памяці перад гэтымі неардынарнымі людзьмі і перад родным горадам у цэлым.

Прачытаўшы яе кнігу пра Львоў і паслухаўшы ўспаміны пра родны горад, я спытаўся ў пані Эльжбеты: ці прымірылася польскае грамадзтва са стратай Вільні, Горадні, Львова? І ці шкада ёй асабіста роднага Львова? Яна адказала:

> „Гэта не такое лёгкае пытаньне. Відавочна, шкада таго, што ўсё, зьвязанае з нашай сям'ёй, наша сямейнае жыцьцё раптоўна скончылася разам са стратай Львова. Усё тое, што я ўзгадваю як шчасьлівае дзяцінства, было там, у тым месцы. Але паколькі ўжо так сталася, то гэта ня значыць, што я буду імкнуцца да зьмены сытуацыі. Пэўна, што не. Таму што я не магу пажадаць тым людзям, якія там цяпер жывуць, таго, што даў лёс мне. Не магу. Ніколі ў жыцьці такога не зрабіла б. Там ужо ёсьць людзі, якія лічаць гэта сваім, так, як мы гэта мелі за сваё. І мы мелі вялікае права так лічыць, бо польская культура там была рэччу цалкам відавочнай. Аднак быў і неспакой у польска-ўкраінскіх дачыненьнях, у 1918 годзе мой бацька ўдзельнічаў ва ўкраінска-польскай вайне за Львоў, маладым хлопцам абараняў горад ад украінцаў.
> Зразумела, што для мяне асабіста гэтае месца найдаражэйшае. Але я нават сабе падумала неяк, што калі б нешта такое здарылася, што Львоў вярнуўся, то я туды не паехала б жыць… Гэта іншая рэч, не магу абязболіцца ад гэтага… Гэта ўсё адбылося занадта брутальна. Скончылася маміна сямейнае жыцьцё, а такіх мамаў былі тысячы. Колькі людзей зьнішчана, колькі памерла, колькі забіта. Навошта?“

Гэта быў адзіны выпадак з нашага вялікага інтэрвію, калі пані Эльжбета заплакала, але хутка апанавала эмоцыі і перавяла размову на дыпляматычны ўзровень, згадаўшы свой досьвед працы генэральным консулам і амбасадарам Польшчы ў Беларусі ў 1991—1995 гадох:

„Мяне вельмі мучыла ў Беларусі, што многа людзей зусім сур’ёзна падазравалі нас, палякаў, Польшчу, у тым, што мы хочам вярнуць Львоў, Горадню і Вільню. Я часта мела такога тыпу размовы. Часам рабілі з мухі слана — выцягвалі нешта дробнае, што ня мела ніякага значэньня, і рэагавалі так: «А, дык, значыць, вы хочаце забраць Львоў, Горадню ці Вільню». І такое падазрэньне ёсьць дагэтуль. Але гэта няпраўда. Нашая моладзь ужо абсалютна гэтым не цікавіцца. Гэта амаль па-за іхнаю сьвядомасьцю. Польшча не дае ніякіх падставаў для таго, каб у Беларусі і Ўкраіне, а таксама ў Літве ўзьнікалі думкі аб польскай рэвіндыкацыі.
Галоўнае ж, што нацыянальны інтарэс Польшчы, «польская рацыя стану» палягае ў тым, каб не чапаць праблемы паваеннага ўладкаваньня межаў. Бо калі мы будзем думаць пра ўсход, то трэба немцам аддаць захад. А там таксама людзі ўкараніліся даволі глыбока. Гэта быў мой асноўны аргумэнт, калі я адказвала на гэтае пытаньне ў Беларусі. Але гэтага як бы ня чулі, і пытаньне зноў паўставала цягам усёй маёй працы ў Беларусі. І ў Львове потым таксама“.

У Польшчы пасьля перамогі „Салідарнасьці“ пачалі выдаваць шмат кніжак пра былыя ўсходнія землі Рэчы Паспалітай, у тым ліку передрукоўваць даваенныя выданьні. І цяпер у варшаўскіх кнігарнях можна знайсьці шмат такіх кніжак. Пані Эльжбета перакананая, што гэта зусім ня сьведчыць пра нейкія рэваншысцкія настроі ў Польшчы, бо такіх няма:

„Для мяне гэта натуральная рэакцыя людзей, пазбаўленых ведаў пра гэтыя землі, бо пасьля вайны ані пра Львоў, ані пра іншыя былыя ўсходнія землі Рэчы Паспалітай нельга было гаварыць, ані ў школе, ані ў прэсе не было нічога на гэтую тэму. І натуральна, што калі прыйшла свабода, то людзі пачалі цікавіцца і гэтым“.

Пані Эльжбета цалкам перакананая, што рэдкія галасы за вяртаньне былых „Усходніх крэсаў“, якія могуць прагучаць

недзе ў польскіх СМІ, цяпер ня маюць нейкай папулярнасьці ў польскім грамадзтве. Для палякаў тут важна іншае, кажа Эльжбета Смулкова:

„Важна — і для мяне, і для многіх — каб ня нішчылі польскіх сьлядоў, каб для беларусаў і ўкраінцаў стала натуральным разумець, што тут былі такія людзі, зрабілі тое і тое. Гэта праблема, якой павінна заняцца сыстэма адукацыі, каб не ажывалі антыпольскія страхі ў Беларусі і Ўкраіне. Бо я абсалютна перакананая, што польскаму ўраду, праваму ці леваму, такі рэвізіянізм і ў галаву не прыходзіць. Абсалютна. Ніхто з сур'ёзных палітыкаў пра гэта ня кажа. Я пяць гадоў мела дачыненьне да дыпляматыі, да розных размоваў, і магу сказаць, што ніколі не было такой тэндэнцыі“.

Пані Эльжбета падкрэсьлівае, што нельга ў адну кучу ссыпаць асабістыя ўспаміны, стаўленьне да падзеяў, якія ўжо здарыліся, і аб'ектыўны погляд на лёсы гісторыі:

„Магу сказаць, што лічу несправядлівым Сталінава рашэньне забраць Львоў у Польшчы, гэта напэўна не было справядлівае рашэньне. Але адначасова трэба прызнаць, што заўжды быў канфлікт са львоўскімі ўкраінцамі і што нешта ім таксама належала. Відавочна, што Польшча не змагла забясьпечыць ім такой аўтаноміі, каб яны добра пачуваліся ў тым польскім Львове. Я разумею, што беларуская і ўкраінская меншасьці ў даваеннай Польшчы кепска сябе адчувалі ў нацыянальным пляне. І няма да чаго вяртацца: паколькі так ужо сталася, то няхай там тыя людзі пачуваюцца добра, але не фальшуюць гісторыю. Розныя нацыі будавалі адно месца, і ня трэба дзяліць цяпер кароткую коўдру. Цяпер іншы сьвет, глябальны. Хочаш, напрыклад, жыць у Вільні,— едзь і жыві“,— гэтак пераконвае пані Эльжбета ў тым, што няма патрэбы зноў займацца перадзелам межаў.

Нашая размова на гэтую тэму адбывалася ў 2014-м, калі на ўсходзе Ўкраіны Расея рабіла тое, ад чаго пані Эльжбета заклікала адмовіцца,— Расея дзяліла ўсходнія і паўднёвыя межы Ўкраіны, захапіла Крым, увяла войскі і танкі ў Данбас, дзе ў выніку ваенных дзеяньняў былі забітыя тысячы чалавек, а больш за мільён змушаныя ўцячы са сваіх дамоў.

Гэта яскравы прыклад таго, чаму нельга зноў рэзаць па жывому межы і лёсы дзяржаваў і людзей, кажа пані Эльжбета:

„Гэта вайна, і я не магу зразумець да канца, як расейскія ўлады — калі не валіць усё толькі на Пуціна — маглі гэта дапусьціць. Чаго яны хочуць дасягнуць такім чынам? Пазбавіць Украіну самастойнасьці? Гэта вельмі вялікі гістарычны абсурд, вельмі вялікая памылка, на якую мы ня маем ніякага ўплыву. Даволі цяжкая сытуацыя, і я ня маю рэцэпту, як можна супрацьстаяць гэтаму. Гэта значыць, што гісторыя мала вучыць людзей. І вельмі часта мы чуем, што войны былі заўсёды і будуць,— чым толькі апраўдваюць кроў“,— са скрухай гаворыць Эльжбета Смулкова.

Расейска-ўкраінская вайна, адчужэньне, варожасьць калі-небудзь скончацца, дзьве гэтыя нацыі павінны будуць наноў мірыцца і адбудоўваць сапсаваныя дачыненьні. І прыклад Львова, прыклад польска-ўкраінскага паразуменьня можа стаць тут карысным.

Цяперашні Львоў служыць добрым узорам таго, што можна пастунова і пазытыўна разьвязваць міжнацыянальныя праблемы. У Львове аднаўляюцца польскія сьвятыні, дзейнічаюць польскія таварыствы, працуюць дзьве польскія школы, ставяць помнікі польскім дзеячам, напрыклад, закатаваным нацыстамі ў 1941 годзе прафэсарам Львоўскага ўнівэрсытэту. У 2007 годзе ў Львове нанова паўстаў польскі моладзевы гарцэрскі рух, а ў 2009 годзе аднавіўся славуты львоўскі футбольны клюб „Пагоня“, гарачым заўзятарам якога да вайны быў бацька Эльжбеты Смулковай і які цяпер гуляе ў прэм’ер-лізе Львоўскай вобласьці.

Пані Эльжбета асабіста ўдзельнічае ў двухбаковых дзяржаўных і рэлігійных захадах дзеля прымірэньня польскай і ўкраінскай нацыяў, якія сапраўды мелі ва ўзаемнай гісторыі цяжкія старонкі, у прыватнасьці, валынскія падзеі 1944 году, калі масава зьнішчалася мірнае польскае і ўкраінскае насельніцтва. Пані Эльжбета заклікае не замоўчваць гэтую гісторыю, памятаць і ўшаноўваць ахвяраў, але і не разьдзіраць старыя раны, кіравацца заклікам Папы Яна Паўла II, які ён агучыў падчас паездкі ў Львоў у 2001 годзе:

„Няхай дзякуючы ачышчэньню гістарычнай памяці ўсе будуць гатовыя тое, што аб’ядноўвае, ставіць вышэй за тое, што дзеліць“.

# Частка другая. Ліза



# Усьць-Сільга, Каргасоцкая камэндатура

*Васюган, сумная сыбірская рака, павольна і доўга нясе сваю тарфяністую ваду зь неабсяжных балотаў у прывольную Об. Гэтая сьціснутая берагамі цёмная рака, на якой я пражыў 20 гадоў — з фатальнага 1941 па 1960 год,— быццам бы сымбаль таго часу, усяго таго, што там было і што немагчыма забыць*[11].

Яніну Баранову з дочкамі Эльжуняй і Марылюсяй 8 чэрвеня 1941 году прывезьлі адбываць 20-гадовую ссылку ў спэцпасяленьне Усьць-Сільга Каргасоцкага раёну Новасібірскай вобласьці. Пашпарты забралі, паставілі на ўлік у камэндатуру.

Інтэлігентная жанчына зь дзецьмі з цэнтральнаэўрапейскага горада Львова трапіла ў адно з найсуровейшых месцаў былой Расейскай, а потым савецкай імпэрыі — у Нарымскі край, ці, коратка, Нарым, у вялікія Васюганскія балоты, на правы бераг



*Рака Васюган улетку.*

---

[11] *Нарымская хроника (1930—1945). Трагедия спецпереселенцев*: Документы и воспоминания / Сост. В.Н. Макшеев. Москва, 1997. С. 5.

пакручастай таёжнай ракі Васюган, левага прытоку Обі. З 1932 па 1944 гады гэты рэгіён афіцыйна быў аб'яднаны ў Нарымскую акругу, у якую ўваходзіла 13 раёнаў, у тым ліку Каргасоцкі.

У гэтым суровым краі па сваёй ахвоце жылі альбо качавалі толькі абарыгены: сэлькупы, ханты і эвэнкі, якія займаліся паляваньнем, здабычай футравіны, лоўляй рыбы і гадоўляй аленяў. З пачатку расейскай, а потым савецкай калянізацыі краю менавіта ссыльныя складалі тут аснову насельніцтва. Яніна Баранова называла аўтахтонаў з суседняй вёскі „асьцякамі“ – старой зборнай назвай народаў Сыбіру.

> „Сяляне, рамесьнікі, гандляры абыходзілі тымскія і васюганскія нетры бокам, рухаючыся альбо Кецьцю [правы прыток Обі.— *В.К.*] у Мінусінскі край, альбо ўверх па Обі да Томскага павету і Алтаю — земляў больш спрыяльных для жыцьця. Толькі перасьледаваныя ўладамі кержакі-стараверы, паднявольныя «ссыльныя» ды «служылыя людзі па загадзе» асядалі сярод ханты і сэлькупаў“[12].

З 1835 году пачалося сыстэматычнае пасяленьне ссыльных у Нарымскім краі.

Гэты раён тады ахрысьцілі „турмой бяз episcopal кратаў“: глухая тайга, бясконцыя гразкія балоты, шмат рэк і рачулак, нясьцерпны гнюс летам і лютыя маразы зімой, на дзясяткі і сотні вёрстаў раскіданыя адно ад аднаго невялікія паселішчы, бездараж... Гэта было адно зь месцаў ссылак польскіх і беларускіх паўстанцаў 1830—31 і 1863—64 гадоў.

Пасьля 1905 году тут зьявілася яшчэ больш палітычных ссыльных, у тым ліку бальшавікоў. У 1912 годзе царскія ўлады накіравалі сюды ў ссылку будучага дыктатара Ёсіфа Джугашвілі (1878—1953), але ён уцёк. Захапіўшы ўладу, Сталін і ягоныя памагатыя пачалі скіроўваць сюды вялікія абозы і баржы людзей, перш за ўсё заможных сялян, якія маглі праявіць неляяльнасьць да іхнае ўлады. І ўцячы ад сталінскага НКВД з Нарыму было амаль немагчыма.

Найбольш масавы наплыў ссыльных у Нарымскую акругу адбыўся з пачаткам калектывізацыі. Толькі ў 1931 годзе на раку Васюган было саслана 40 тысяч чалавек з розных рэгіёнаў СССР, якіх прывозілі выключна на неабжытыя месцы, і дзеля кантролю за імі былі створаныя 2 спэцкамэндатуры і 37 участкаў[13].

[12] *Земля каргасокская*: Сборник научно-популярных очерков / Под ред. Я. А. Яковлева. Томск, 1996. С. 150.
[13] Тамсама. С. 178.



*Цені мінуўшчыны ў Васюганскім краі. Канец 1930-х гадоў. Ілюстрацыя з кнігі „Земля каргасокская“.*

Усяго ж колькасьць сасланых ў 1930—40-х гадох у Нарымскі край ацэньваецца ў 400 тысяч чалавек. Паводле падлікаў расейскіх гісторыкаў, палова зь іх там загінула і засталася ляжаць у створаных каля кожнага спэцпасёлку братніх магілах.

> „Колькасьць памерлых у першыя гады ссылкі ад голаду і хваробаў праз адсутнасьць адкрытай статыстыкі вызначыць можна толькі ўскосна, але ёсьць усе падставы меркаваць, што ў пачатку 30-х гадоў загінула больш за палову ссыльных. Памёр і амаль кожны другі сасланы сюды ў 1941 годзе жыхар Прыбалтыкі, Букавіны, Малдовы“[14].

Захавалася мапа Каргасоцкай камэндатуры пачатку 30-х гадоў, у якой тады жылі 1666 ссыльных сем'яў і 7281 чалавек, або ядок, як пісалі тады савецкія ўлады. У гэтую камэндатуру і ўваходзіў спэцпасёлак Усьць-Сільга на правым беразе Васюгану, куды саслалі Яніну Баранову з дочкамі.

У Сыбіру пані Яніну пачалі зваць Нінай Іванаўнай, а Эльжуню — Лізай Баранавай.

> „Калі нас завезьлі ў гэты пасёлак у тайзе, ён быў месцам пасяленьня сасланых сюды раней савецкіх людзей, гэта не была

[14] *Нарымская хроника (1930—1945).* С. 9—10.

звычайная вёска. Там былі і сасланыя з усходняй Украіны. Нас пасялілі ў доме дваіх старых, у якіх дзеці былі рэпрэсаваныя і яны засталіся адны“,— згадвае пані Эльжбета.

Яна памятае, што гаспадар дому, прозьвішчам Кавалёў, высокі й худы сыбірак зь вялікай сівой барадой, неяк падарыў на вячэру сям’і Яніны Барановай ужо аблупленую вавёрку, упаляваную ім у тайзе. Аднойчы ён сказаў пані Яніне:

„Нина Ивановна, ты не горюй, ты к нам приехала, а мы в тайгу были выброшены. Мы в тайге жили, где не было ничего. Сколько народа умерло. Мы сами рубали эти кедры, строили дома. И никто нами не интересовался… А ты уже к нам приехала“.

Як жылося ў дзікай тайзе над Васюганам за 10 гадоў да прыезду пані Яніны зь дзецьмі, можна меркаваць з аповеду ўраджэнца Алтайскага краю Івана Бабкіна, раскулачанага ў 1931-м і сасланага ў Каргасоцкі раён, у вёску Жоўты Яр, разам з усёю сям’ёю — двое дарослых і 8 дзяцей. Аповед зьмешчаны ў кнізе, прысьвечанай гісторыі раёну:

„Нас прывезьлі, высадзілі на бераг. Пачалі рабіць усё што можна, каб неяк пачаць жыць. Намёты, буданы зь бяросты. Да зімы зрабілі 2 баракі, спалі на нарах. У адным бараку жыло 8 сем’яў — 30 чалавек. Сілкаваліся хлебам з травой і пілавіньнем: 400 грамаў такога хлеба давалі працоўным і 200 грамаў — утрыманцам. Мясцовыя жыхары мянялі кубак варанай лупіны ад бульбы на жаночую хустку. За месяц памерлі ад голаду і тыфусу бацька і дзьве сястры. Два месяцы я сам і мая маці ляжалі ў тыфусе“[15].

Іншая сасланая ў Каргасоцкую камэндатуру Дар’я Туркова распавядала, як адбывалася іх ссылка пасьля „раскулачваньня“:

„Да ракі Камень ішлі пешшу. Народу было так шмат, што не было відаць ні канца, ні пачатку. З сабой дазволілі ўзяць 5 пудоў пшаніцы. Мы ўзялі 2 мяхі мукі, а ўсе рэчы былі толькі на сабе. Але пры пагрузцы на баржу муку забралі. Маці з трохмесячным дзіцём, хворы бацька. А я — найстарэйшая зь дзяцей. Нам было страшна! У 1932 годзе мы пераехалі

[15] *Земля каргасокская.* С. 180.

ў Бандарку. Жоўты Яр ня быў прыдатны для жыцьця, і камэндатура дазволіла выехаць у якую-небудзь вёску. Мы разабралі барак і зрабілі плыт. У пасёлку я працавала на найцяжэйшых працах: калола клёпку, дровы, драла драніцы, вазіла дровы на сьпіртапарашковы завод, працавала цялятніцай, даяркай. Улетку па пакосах, на сабе разам зь іншымі насілі копы, коней не было“[16].

Названую Іванам Бабкіным норму хлеба, 400 грамаў дарослаunion, 200 — дзецям, праз 10 гадоў давалі і сям’і пані Эльжбеты.

У лісьце да швагра, вядомага польскага літаратара Тымана Тэрлецкага, які жыў у эміграцыі ў Англіі, 30 траўня 1942 году Яніна Баранова распавядала, што навучылася ў тайзе найцяжэйшай працы:

„З 8 чэрвеня 1941 году я працавала як калгасьніца ў пасёлку Усьць-Сільга. Умею карчаваць, жаць, капаць, праз тры месяцы цудоўна касіла сена, амаль што як нашы палешукі. Нас падзялілі на мацнейшую і слабейшую групы. Мяне ўзялі ў мацнейшую“[17].

Пані Эльжбета згадвае, што ад гэтай касьбы ў вадзе па калені ў маці на нагах паявілася доўгатрывалая язва, якая не зажывала, і яе трэба было штовечар сушыць і перавязваць. Гэта, аднак, ня звольніла Ніну Іванаўну ад такой працы. Сена касілі на супрацьлеглым, заліўным баку Васюгана. Час ад часу не было каму паехаць па рабочых, якія вечарам чакалі на тым беразе. Тады Ліза клікала кагосьці з дзяцей, бралі лодку і перапраўляліся на супрацьлеглы бераг. Вада зносіла іх даволі далёка, і потым каля берагу трэба было вяртацца супраць плыні.

У пасёлку Усьць-Сільга ў 1941-м з наноў сасланых былі дзьве польскія сям’і, шэсьць украінскіх і восем латыскіх. Латышоў над Васюганам увогуле было некалькі тысяч, пісала Яніна Баранова. Пані Эльжбета згадвае, што перасяленцы моцна пакутавалі ад хваробаў.

Захавалася зробленае Янінай Барановай шчымлівае апісаньне сустрэчы першых у Сыбіру Калядаў у хаце сям’і Кавалёвых, у якой яны здымалі пакой-бакоўку:

[16] *Земля каргасокская*. С. 182.
[17] Pamiętnik Teatralny, 2011, zeszyt 3—4, s. 239.

„Дрэўца з тайгі прынёс дрывасек, годны і зычлівы чалавек, які працаваў на вырабе клёпак; гэта была зграбная і прапарцыйная ельніца з цудоўнымі доўгімі іголкамі. Мы зрабілі розныя цацкі з даступных тут матэрыялаў, і атрымалася вельмі прыгожае дрэўца. Шопку я зрабіла зь бярозавай кары з зорачкай і надпісам Gloria in excelsis Deo! Беручы пад увагу горкія сьлёзы, якія капалі падчас склейваньня,— можна сказаць, што шопка была даражэйшай за ўсе львоўскія крамныя. Зрэшты, яна сапраўды была прыгожая.
На Вігілію я запрасіла нашых азіяцкіх гаспадароў, у якіх мы жывем, бо баялася сама сябе. Ня верыла сабе, ці змагу валодаць сабою і не напалохаць дзяцей плачам. Зварыла бульбяны суп з грыбамі (Эльжуня ўлетку назьбірала ў тайзе) і фасолю, што засталася яшчэ са Львова. Дзядуля Кавалёў даў некалькі салёных рыбак, а бабка — кедравых арэшкаў. Па вячэры я запаліла сьвечкі на ялінцы (было пяць сьвечак з адной парэзанай) і калядавала з Эльжуняй. Марыля дапамагала, як магла і ўмела. Тады я спазнала, наколькі Бог вялікі і якой цудоўнай скарбніцай багацьця і ласкі ёсьць рэлігія“[18].

Гэтыя хваляваньні засталіся даўно ў мінуўшчыне, але не забываюцца, застаючыся глыбокім шнарам у памяці пані Эльжбеты і яе сястры Мар’і.

Пасёлку Усьць-Сільга ўжо даўно няма, як і паўсотні іншых падобных паселішчаў Каргасоцкага раёну Томскай вобласьці; сотні такіх спэцпасёлкаў зьніклі з мапы ўсяго Нарымскага краю, які таксама перастаў існаваць як асобная адміністрацыйная адзінка. Усьць-Сільга зьнікла, калі разьехаліся ссыльныя, або, як іх афіцыйна называлі савецкія ўлады, „спэцперасяленцы“ з Польшчы, Украіны, краін Балтыі, расейскіх абласьцей. У 1962 годзе пры распрацоўцы газакандэнсатнага радовішча геолягі і сьвідроўнікі бачылі на месцы пасёлку Усьць-Сільга толькі тры-чатыры паўразбураныя дамкі, што патаналі ў бур’яне.

Цяпер на месцы пасёлку Усьць-Сільга, што стаяў на выгіне ракі Васюган, каля самага вусьця рэчкі Сільга, сярод шматлікіх пратоак, балотаў і тайгі на мапах абазначанае ўрочышча або „пусташ“. Здымкі з космасу сьведчаць, што тайга на месцы былога пасёлку крыху сьвятлейшая, чым далей на поўдзень.

На мапе-двухкілямэтроўцы Генэральнага штабу Ўзброеных сілаў Расеі Усьць-Сільга абазначаная як ростані дарогі, так зва-

[18] Elżbieta Smułkowa, *Leśnik ze Lwowa — inż. Kazimierz Baran*, s. 39.

нага „зімніку“, трасы, якою можна езьдзіць толькі ўзімку, калі замярзаюць таёжныя ручаі ды багна. Частка дарог вакол былога пасёлку ўвогуле абазначана як „зарослыя“. Тайга адваёўвае назад тое, што было забрана ў яе коштам жыцьцяў і здароўя со-цень тысяч „спэцперасяленцаў“ з усіх куткоў СССР і заваяваных Масквою краін.

# Голад і холад Сыбіру

*20—23 траўня 1999 году ў Томску я ўдзельнічала ў міжнароднай навуковай канфэрэнцыі „Сыбірская Палёнія: мінуўшчына, цяперменасць, будучыня"… Старалася ў меру сьціплых часавых магчымасьцяў прайсьці сьлядамі першага побыту ў Томску… Адзіны дакумэнт тых часоў, які я мела з сабою,— пасьведчаньне заканчэньня 4 клясы 14-й жаночай школы „города Томска, Новосибирской области, Вокзального района" і „Похвальная грамота", на якой відаць дата 27 траўня 1944 году — роўна 55 год таму. Школа стаіць на сваім месцы. Адрамантаваная. У ёй месьціцца „Коммерческий лицей". Заходжу на другі паверх. Там была нашая кляса. Ажыло адчуваньне вялікага прыніжэньня і рашучасьці: у натоўпе і гомане школьнага перапынку заўважаю кінутую ў куце калідору скарынку хлеба. Пасьля званка не адразу вяртаюся ў клясу… нахіляюся, твар мой гарыць, зьядаю!*[19]

На беразе Васюгана Яніна Баранова з дочкамі сустрэлі важную міжнародную падзею 1941 году — пачатак вайны былых хаўрусьнікаў, якія разарвалі Польшчу,— гітлераўскай Нямеччыны і сталінскага Савецкага саюзу.

Працягваючы свой ссыльны дзёньнік, пані Яніна ў той дзень напісала:

„22.06.1941. Пачатак вайны паміж СССР і Гітлерам. Я адрэзаная ад Львова. Няхай гэтыя простыя словы праілюструюць мой бяздонны жах, жаль. А я так спадзявалася ў гэтай пустэчы на лісты ад маіх любімых, якія засталіся ў Львове"[20].

У канцы ліпеня далёка ад берагоў суровага Васюгана, у Лёндане, дзе дзядзька і хросны бацька пані Эльжбеты Тыман Тэрлецкі выдаваў тыднёвік „Polska Walcząca" (Змагарная Польшча), што натхняў палякаў на барацьбу з акупантамі, адбылася падзея, якая паўплывала на лёс сям'і Яніны Барановай і соцень тысяч іншых сасланых і рэпрэсаваных у СССР грамадзянаў Польшчы.

[19] Elżbieta Smułkowa, *Białoruś i pogranicza*, s. 594—595.
[20] Ibidem, s. 590.



30 ліпеня 1941 году прэм'ер польскага ўраду ў выгнаньні генэрал Уладыслаў Сікорскі (1881—1943) і савецкі амбасадар у Лёндане Іван Майскі (сапр. Ян Ляхавецкі, 1884—1975) у прысутнасьці кіраўніка брытанскага ўраду Ўінстана Чэрчыля (1874—1965) падпісалі Дамову аб аднаўленьні дыпляматычных дачыненьняў паміж Польшчай і СССР, у аднабаковым парадку перарваных Савецкім саюзам з пачаткам ваенных дзеяньняў супраць Польшчы 17 верасьня 1939 году.

Савецкі ўрад прызнаваў гэтай дамовай, што пакт Молатава-Рыбэнтропа 1939 году страціў сілу ў частцы тэрытарыяльных зьменаў у Польшчы (з выняткам Віленскага краю, бо польскі ўрад не дамогся скасаваньня дамовы аб перадачы Савецкім саюзам Вільні Літве), а таксама дзеля супольнай вайны з Гітлерам пагаджаўся на фармаваньне на тэрыторыі СССР польскай арміі, пазьней вядомай як армія Андэрса.

Да пагадненьня „Сікорскага—Майскага“ быў далучаны пратакол наступнага зьместу:

> “Савецкі ўрад дае амністыю ўсім польскім грамадзянам, якія ўтрымліваюцца цяпер у зьняволеньні на савецкай тэрыторыі ці ў якасьці ваеннапалонных, ці на іншых дастатковых падставах, з часу аднаўленьня дыпляматычных дачыненьняў“[21].

[21] Польско-советское соглашение, заключенное премьер-министром эмиграционного польского правительства, ген. Владиславом Сикорским, и послом Советского Союза в Великобритании, Иваном Майским. Лондон, 30 июля 1941 г.

Пасьля падпісаньня гэтага пагадненьня ў СССР аднавіла дзейнасьць амбасада Польшчы, якая за два наступныя гады стварыла па ўсім Савецкім саюзе 807 сваіх прадстаўніцтваў ды іншых польскіх арганізацыяў, што дапамаглі больш чым 400 тысячам рэпрэсаваных польскіх грамадзян[22].

Яніна Баранова адрэагавала на гэтыя палітычныя зьмены дзёньнікавым запісам на Каляды 1941 году:

„Вырак 20-гадовай працы на Васюганскіх балотах скасаваны. ...12 жніўня надышло вызваленьне палякаў. Ствараецца Польская армія і змагаецца разам з Саветамі за свае мэты — супраць Гітлера як агульнага ворага. Зьявілася польская амбасада. Нашым дэлегатам стаў пан Маліняк у Новасібірску. Наш пасёлак абраў мяне давераным асобай. На мае рукі будзе ісьці ліставаньне з амбасадай і магчымая дапамога, пра якую мы прасілі агульнай тэлеграмай і лістом у апошнія дні сьнежня“[23].

У новых умовах Яніна Баранова робіць новыя спробы знайсьці арыштаванага мужа, піша ў НКВД, у польскую амбасаду і ў штаб Польскай арміі. Безвынікова.

1 студзеня 1942 году Яніна Баранова зрабіла апошні запіс у дзёньніку:

„Сёньня Новы год. Паўтара году бяз Казіка... Калі азіраюся на 1941 год, зьдзіўляюся, што жыву і што маю яшчэ сякі-такі здаровы глузд. Мабыць, 1942 год горшым ня будзе! Калі Бог застанецца такім блізкім да мяне, як у 1941 годзе, адолею ўсё!“[24]

У канцы жніўня 1941 году сям'я пані Яніны была ўжо вольная, адрозна ад латышоў, украінцаў, расейцаў ды іншых грамадзянаў, сасланых у спэцкамэндатуры Нарымскага краю. Але адразу зьяжджаць з Усьць-Сільгі пані Яніна не сьпяшалася, бо чакала, калі тутэйшы калгас разьлічыцца зь ёю збожжам за працадні.

У пасёлку Усьць-Сільга сям'я не галадала: хлеба было мала, але Яніна мела для дзяцей і сябе бульбу і малако, часам магла купіць цяляціну ці шчупака, акрамя таго, у хаце Кавалёвых было цесна, але цёпла.

---

[22] Stanislaw Kot. *Listy z Rosji*, Londyn, 1965, s. 27.

[23] Elżbieta Smułkowa, *Białoruś i pogranicza*, s. 591.

[24] Ibidem.

Але пані Яніна старалася вырвацца з тайгі бліжэй да цывілізацыі, дзе была б пошта, школа для дзяцей і чыгунка,— яна марыла вярнуцца ў Польшчу.

У цытаваным ужо лісьце да швагра Тымана Тэрлецкага Яніна Баранова апісвае, як зімою 1942 году яна хадзіла ў райцэнтар Каргасок, каб атрымаць дазвол туды перасяліцца — 60 кілямэтраў у адзін бок пешшу пры 36 градусах марозу. На 30-м кілямэтры можна было зайсьці ў пастаялы двор, дзе покатам у адзеньні ляжалі падарожнікі і дзе можна было атрымаць кіпень.

„За зіму хадзіла так тройчы. Два разы самотненькая. На саначках цягнула за сабою правіянт. У такой дарозе перажываеш за два дні больш, чым у Львове за цэлы год і болей“,— пісала Яніна Баранова швагру ў Лёндан.

У Каргасок пані Яніна з дочкамі перасялілася 14 красавіка 1942 году. Уладкавалася краўчыхай у мясцовы „Промкамбінат“, была радая, што тут болей палякаў і што прыходзіць польская газэта. Але ўжо ў траўні яна пачала думаць, як рухацца яшчэ бліжэй да чыгункі. Спачатку плянавала трапіць у Барнаул, дзе было прадстаўніцтва Польшчы, польская сталоўка і дзіцячы садок. Пра свае пляны пані Яніна пісала ў памянёным лісьце:

„Для нас сталоўка мела б кардынальнае значэньне. Цяпер раніцай я гатую гаршчок супу. Частку зьядаем на сьняданак, я крыху бяру ў гаршчэчку з сабою на працу, дзе знаходжуся з 9-й раніцы да 6-й вечара, а рэшту дзеці ядуць на абед. Вечарам Эльжуня гатуе вячэру. Зноў суп альбо бульба ў лупінах. Трохі малака, кіпень. Хлеба атрымліваю 400 грамаў на дзень, дзеці па 200 грамаў“[25].

У райцэнтры Каргасок Ліза Баранава пайшла ў расейскую школу. Спачатку было цяжка, давялося вучыць кірылічныя літары, але праз нейкі час і Ліза, і яе малодшая сястра Марыля свабодна гаварылі па-расейску, мелі мясцовых сябровак.

„У пасёлку Усьць-Сільга мы яшчэ мелі нейкія рэчы, якія можна было памяняць на ежу. Жылі сьціпла, але не галадалі. Галадалі мы ў Каргасоку, дзе знаходзіліся амаль два гады, а потым у Томску,— згадвае пані Эльжбета.— Былі такія моманты, што,

[25] Elżbieta Smułkowa, *Białoruś i pogranicza*, s. 593.

акрамя маленькай бульбінкі, якую мы мелі з агароду, за дзень нічога не было. Ну і давалі хлеб на карткі. 400 грамаў на дзень для працоўнага і па 200 грамаў для нас, для дзяцей. Здаецца, што гэта многа, калі ёсьць нешта апрача хлеба, але калі гэта галоўная ежа, то гэтага вельмі мала.
Голад быў такі фактычны, ён так запомніўся, што я і цяпер не магу быць ні хвіліны галоднай. Нешта ў арганізьме запісалася“, — успамінае пані Эльжбета.

Апрача голаду, у Каргасоку сям’я пакутавала ад холаду: тут маразы дасягаюць 50 градусаў, а то і больш. Найніжэйшая тэмпэратура на суседняй з Каргасокам мэтэаралягічнай станцыі ў пасёлку Майск была зафіксаваная ў сьнежні 1968 году — мінус 52 градусы[26].

Маразы ў Каргасоку ў часе вайны былі надзвычай моцныя, згадвае пані Эльжбета:

„У Каргасоку мы страшэнна мерзьлі, бо нас пасялілі ў былой лазьні, у якой не было печы, а толькі пліта, якою мы абаграваліся і на якой варылі. Пакуль маці працавала, мы здабывалі дровы, каб абагрэць гэтую хатку, што належала сям’і Петуховых. Самі Петуховы жылі ў доме, муж быў на вайне, а жонка адна зь дзецьмі засталася. Яны далі нам і кавалачак свайго агароду, дзе мы вырошчвалі бульбу, гародніну, нават агуркі ў вечнай мерзлаце — саджалі іх на гнаявой падкладцы“.

Гэтую лазьню ў Каргасоку сьнег часам засыпаў з комінам. Пані Эльжбета памятае, як цяжка мама адчыняла дзьверы, рыдлёўкай прабівала ў сьнезе калідор, якім можна было прайсьці з вуліцы.

Пані Эльжбета згадвае пра свае зусім не дзіцячыя абавязкі ў Каргасоку:

„Маім заданьнем было паліць у гэтай пліце, якая страшэнна дыміла. І вы ўявіце такое дзіця, якое сядзіць пад печкай і дзьмухае… Вялікае перажываньне было з тымі дровамі. Мне было прыкладна дзесяць гадоў, а Марылюсі — толькі сем. То што такое дзіця можа з дрэвам зрабіць? А я тады не магла зразумець, чаму Марылюся мне не дапамагае? Я і сёньня не магу спакойна згадаць, як я тады на яе была злая і несправядліва сварылася на яе“.

---

[26] „Северная правда“, с. Каргасок, 16.04.2014.

Была ў Сыбіру яшчэ адна бяда — вошы:

„Вошы былі страшэнныя ў Сыбіру. Я не разумею, чаму так, бо была магчымасьць памыцца, мама нейкім попелам прала адзеньне, заварвала яго ў попеле… Але вошы былі. Памятаю мамін твар, калі яна першую вош знайшла... Гэта быў жах! Потым яна кожны дзень глядзела: памятаю, як я клала галоўку ёй на калені, а яна шукала, ці, як па-польску кажуць, «іскала». Расейскае слова «іскаць» у польскай мове мае значэньне толькі ‘шукаць вошай у галаве’. Але вошы былі і ў адзеньні, большыя, белыя“.

Раённы цэнтар Каргасок і дагэтуль ня стаў горадам, застаўся сялом, нягледзячы на нафтавы і газавы бум, які пачаўся тут у 1960-я . Цяпер у Каргасоку жыве 9000 чалавек, мясцовая раённая газэта „Северная правда“ скардзіцца на непралазныя вуліцы без асфальту і на тое, што газ, які тут здабываюць і пампуюць у Эўропу, да дамоў жыхароў Каргасока так і не падведзены.

Тады ж, калі тут жыла сям'я Яніны Барановай, у часе Другой усясьветнай вайны, Каргасок зусім апраўдваў сваю назву — у перакладзе з мовы аўтахтонаў гэтай зямлі, сэлькупаў, назва значыць „Мядзьведжы мыс“. 3000 жыхароў, бездараж, разбураная царква, шпіталь на 15 чалавек, тэлефонная станцыя на 50 нумароў.

„Да вайны Новы Каргасок ня быў добраўпарадкаваны. Вуліцы забудоўваліся стыхійна, без элемэнтарнага плянаваньня, пераважна аднапавярховымі будынкамі. Дарог як такіх не было, перамяшчаліся па грэблях з дрэваў і дубцоў. Адзінае ўпрыгожаньне — за вёскаю мурам стаяў прыгожы кедроўнік. Далейшы лёс Каргасока вызначала Об, шырокая і паўнаводная, праз якую ішла трывалая і надзейная лучнасьць з краінай“[27].

Аднак сувязь гэтая была надзейная толькі ўлетку, узімку Каргасок заставаўся ізаляваным ад сьвету.

З Каргасока пані Яніна пераехала не ў Барнаул, як плянавала, а ў Томск, каб быць пры чыгунцы, калі стане магчыма вярнуцца ў Польшчу.

„У Томск мы прыехалі апошнім караблём у 1943 годзе, калі ўжо рэчка пачынала замярзаць, выгрузілі свой здабытак, куфар,

[27] *Земля каргасокская*. С. 184.

кош і швейную машынку. І мама пайшла пашукаць нейкага прытулку, бо ніякіх кантактаў яна там ня мела, мы проста селі на параход і паплылі. Непадалёк ад прыстані пад нейкім плотам мама пасадзіла нас з Марылюсяй на кош і сказала нікуды не адыходзіць, пільнаваць рэчы, а яна вернецца. Калі вярнулася, мы спалі на паклажы, прысыпаныя сьнегам“,— згадвае пані Эльжбета прыезд у Томск.

Яніна Баранова пайшла шукаць прытулак і працу ў чужым вялікім горадзе і знайшла.

„Ёю нібы Бог кіраваў. Яна проста з вуліцы зайшла ў швейную майстэрню, проста шыльду прачытала, расказала пра сябе, і кіраўнік гэтай майстэрні, габрэй, прыняў яе на працу і дазволіў жыць у майстэрні, пакуль ня знойдзем кватэру. Фактычна мы там нейкі час жылі, спалі на стале для раскрою тканін. А потым мама знайшла кватэру ў двухпавярховым гарадзкім доме, у падвале, але з плітой, з туалетам. Вокны былі высока, трэба было стаць на ўслон, каб пабачыць, што там на вуліцы. Там мы жылі разам зь дзьвюма львоўскімі ўкраінкамі, таксама сасланымі“,— успамінае пані Эльжбета.

У Томску сям'і было цяжка матэрыяльна, дзеці недаядалі і хварэлі. Ліза захварэла ў Томску на востры рэўматызм і вузлаватую эрытэму, ляжала ў шпіталі. Гэты вялікі горад з прыгожай драўлянай архітэктурай, дзе шматлікія дамы аздобленыя разьблёнымі аканіцамі, пані Эльжбеце запомніўся найперш голадам:

„У Томску быў фактычны голад, я думаю, што мы там выжылі, бо хадзілі ў дабрачынную сталоўку на абеды для бедных дзяцей. Цэлую зіму мы перажылі на гэтых абедах, дзе давалі суп, кашу, катлеціну“,— згадвае пані Эльжбета.

Маці неяк пайшла да стаматоляга, зьняла дзьве залатыя каронкі, якія мела на зубах, і пайшла ў краму, дзе за тое золата можна было купіць муку, малочны і яечны парашкі. Калі яна прынесла гэтыя прадукты дадому, дзеці не маглі нарадавацца, успамінае пані Эльжбета:

„Тых прадуктаў было няшмат. Але гэта было вялікае сьвята. Памятаю нашу радасьць, хоць яна адразу не сказала, адкуль

гэта ўсё ўзялося. Яна гэтае золата абмяняла, але пярсьцёнак, які застаўся ад бацькі, не здала, захавала аж да дня нашага зь Віктарам шлюбу“.

У Томску Ліза Баранава пайшла ў 14-ю жаночую школу. Вучоба давалася лёгка, Ліза была найлепшай вучаніцай у клясе. Прадстаўніца польскай дыяспары ў Томску Ніна Маісеенка ў канцы 1990-х знайшла ў мясцовым архіве пратакол экзамэнаў з расейскай мовы, праведзеных у траўні 1944 году ў 14-й школе. У клясе было 36 вучаніц, найлепшыя вынікі — у Лізы Баранавай (дзьве пяцёркі за пісьмовы і вусны іспыты)[28].

[28] *Pogranicza języków. Pogranicza kultur.* Studia ofiarowane Elżbiecie Smułkowej, Warszawa, 2003, s. 387.

# Добрыя людзі суровай краіны

*Дзяўчаткі размаўляюць па-расейску дасканала.*
*Яны сябруюць зь дзецьмі рыбакоў і заявілі мне,*
*што пасьля вяртаньня ў Польшчу абавязкова*
*хочуць жыць на вялікай рацэ.*

Зь ліста Яніны Барановай Тыману
Тэрлецкаму ад 30 траўня 1942 году[29]

Пані Эльжбета перакананая, што выжыць у суровых сыбірскіх умовах яе сям'і найперш дапамагла дабрыня мясцовых людзей, іншых сасланых, якія іх там сустракалі, дапамагалі і дзяліліся апошнім. Многія прозьвішчы й твары дабрадзеяў яна памятае дагэтуль, як тых самых Кавалёвых, што далі ім пакой-бакоўку ў пасёлку Усьць-Сільга, ды Петуховых, што аддалі ім для жыхарства сваю лазьню ў Каргасоку.

Памятае яна і сваіх сяброўак дзяцінства, ад якіх вучылася расейскай мове і разам зь якімі сталела. У пасёлку Усьць-Сільзе Ліза сябравала з равесьніцай Кацяй Колбінай, а Марыля — зь Нюрай Конанавай. А ў Каргасоку ў яе была любімая настаўніца, згадвае пані Эльжбета:

„Марыя Сямёнаўна была добрым чалавекам і цудоўнай настаўніцай, якую я і па сёньня згадваю: маладая, прыгожая і разумная, яна для мяне была аўтарытэтам, і таму я старалася добра вучыцца. А ў Томску ў мяне была настаўніца зь Ленінграду, якая вельмі нам дапамагала. Яна неяк прыйшла да нас, калі я хварэла, пабачыла, у якім холадзе мы жывем у падвале, і сказала маці: «Ніна Іванаўна, бяры вечарам саначкі, прыходзь, вугалю насыплю». І сапраўды мама прывезла ўвечары на санках два вядры вугалю і прапаліла ў печы“.

Настаўніца гэтая таксама арганізавала сёстрам Баранавым доступ у сталоўку для бедных дзяцей у Томску. Яна ж хацела пасьля шпіталю накіраваць Лізу ў дзіцячую санаторыю, але дзяўчынка наадрэз адмовілася, бо баялася, каб яе не разлучылі з маці.

У Томску сям'я сустрэла дачку сасланага царскімі ўладамі ў Сыбір паўстанца 1863 году. Яна была ўжо бабулькай і гадавала

---

[29] Pamiętnik Teatralny, 2011, zeszyt 3—4, s. 239.

дзьвюх унучак, бацькі якіх згінулі падчас хвалі савецкіх рэпрэсіяў 1930-х гадоў.

> „Сьціплы дамок гэтых трох кабетаў здаваўся нам цудоўным і адзіным у той час прыстанішчам нармальнасьці. Бабуля яшчэ гаварыла па-польску, а ўнучкі памяталі толькі асобныя польскія словы, але гаварыць ужо не маглі“,— згадвае пані Эльжбета.

Праз 55 гадоў зноў наведаўшы Томск, ужо з уласнай ахвоты, на запрашэньне мясцовага пэдагагічнага ўнівэрсытэту і Цэнтру польскай культуры „Дом польскі ў Томску“, Эльжбета Смулкова памкнулася знайсьці той дом і тую кватэру нашчадкаў паўстанца 1863 году, але не змагла. Там былі ўжо іншыя будынкі — вялікія гарадзкія шматпавярховікі.

Нельга сказаць, што ў Сыбіру польскую сям'ю сустракала толькі прыязнасьць. Праз шмат гадоў пані Эльжбеце найперш згадваюцца лепшыя моманты, але бывала і агрэсія з боку мясцовых дзяцей:

> „Мы заўважалі высокі ровень антысэмітызму сярод тамтэйшага насельніцтва, у прыватнасьці, падлеткаў. Калі мы хадзілі ў сталоўку на абеды, то трэба было зімою праходзіць праз пустку. І там нас часта білі іншыя дзеці, старэйшыя за нас, думаючы, што мы габрэйкі, а Марылі нават твар парэзалі, нейкім ножыкам ці лязом, добра, што неглыбока“.

У 1945 годзе схуднелых Лізу і Мар'ю з мамай Нінай Іванаўнай перасялілі з Сыбіру на Кубань, каб, як кажа пані Эльжбета, „крыху падкарміць, а то мы былі як шкілецікі, амаль як зь нямецкіх лягераў“. Там Ліза ў школу ўжо не хадзіла, а працавала ў насенным саўгасе ў станіцы Савецкай Армавірскага раёну.

У стэпе былі новыя выпрабаваньні — эпідэмія тыфусу, якая забрала яе равесьніцу, дзяўчынку, каля якой спала Ліза, а іхныя сеньнікі судакраналіся на падлозе. Ліза апекавалася хворай, пакуль яе маці працавала, але ў саўгасе не знайшлося каня, каб адвезьці хворую ў шпіталь: усе коні былі на жніве. А мама Лізы Яніна Баранова цудам засталася жыць пасьля вострых прыступаў малярыі — лекаў не было.

У саўгасе Ліза на вагах узважвала пшаніцу, якую насілі палонныя немцы ў абадранай дарэшты вопратцы.

„Я адварочвала галаву, калі яны сыпалі сабе пшаніцу ў рот і сьвяціліся голым целам… А мясцовы брыгадзір, які рабіў ураажаньне вельмі грознага, нахіляўся нада мною і, відавочна, дбаючы пра ўласную скуру, казаў: «На карманы, на карманы оставляй». Я прыносіла дадому збожжа ў ботах. Мне было шкада, што Маці так ня робіць! Тады, калі бракавала ежы, я не разумела яе шляхотнага супраціву“[30].

Пасьля расповеду пані Эльжбеты пра цяжкія ўмовы ссылкі ў Сыбіру і на Кубані я спытаў яе:

„Вы так цярпелі там, галадалі, мерзьлі, хварэлі... Ці няма ў Вас цяпер нейкай фобіі да Расеі?“
„Не, і ня можа быць,— цьвёрда адказала пані Эльжбета.— Я выхаваная ў сур’ёзным хрысьціянскім духу, мне ўвайшло ў кроў, што трэба прабачаць, што нельга ненавідзець. Я магу мець абсалютную агіду да ўлады, да палітычнага ладу, але не да людзей. Да канкрэтнага чалавека за нешта — магу. Але ў чым вінаваты цэлы расейскі народ? Ён таксама цярпеў. Маю абсалютную прэтэнзію да савецкага ладу, да ягоных злачынстваў і да таго, што ягоная ідэалёгія нават мяне ў пэўны момант захапіла, бо тэарэтычна гэта цудоўна — мір, братэрства, роўнасьць людзей, прэч эксплюатацыю, даць людзям зямлю, чаму не?“

Пані Эльжбета гаворыць на складаную тэму ўпэўнена, адчуваецца, што ёй даводзілася разважаць на гэты конт, каб сфармаваць думку:

„Я ўсё сваё дарослае жыцьцё аддзяляла ад расейскага народу тыя крыўды, якія мела там аб’ектыўна, не ад канкрэтных людзей, а толькі ад дзяржаўнага ладу. Магчыма, гэта праз падыход маёй маці: у Сыбіру яна заўсёды была ў добрым кантакце зь людзьмі… У мяне няма апраўданьня савецкай акупацыі Польшчы, але гэта ня значыць, што да канца жыцьця буду мець фобію да расейцаў, прынамсі цяперашніх. У чым яны вінаватыя? Хіба што маглі б больш супраціўляцца таму, што ў іх робіцца цяпер, а не пагаджацца з гэтым. Але ня кожны, зразумела, нараджаецца героем, а кожны дбае пра ўласную скуру, пра тое, каб мець што есьці і неяк выгадаваць дзяцей.

[30] Elżbieta Smułkowa, *Leśnik ze Lwowa — inż. Kazimierz Baran*, s. 40.

Між іншым, я ня маю апраўданьня таму, што цяпер Расея робіць з Украінай, я гэтага не прымаю, абсалютна не. Вельмі крытыкую тое, што там робіцца. Мая хрысьціянская пастава — прабачаць, але гэта ня значыць з усім пагаджацца“.

Пані Эльжбета прызнае, што Расея пакуль надта мала памянялася, што царскае самадзяржаўе, фактычна прадоўжанае савецкім рэжымам, жыве там і па сёньня:

„Польшча мае нэгатыўны гістарычны досьвед дачыненьняў з Расеяй, згадайце тыя ж падзелы Рэчы Паспалітай. Але, не зважаючы ні на што, трэба старацца наладзіць з Расеяй мірныя дачыненьні. Няма іншага выйсьця: незалежна ад розьніцы ў сьветапоглядзе і падыходах да каштоўнасьцяў, калі дайсьці да істоты рэчаў, чалавецтва адзінае, людзі вельмі падобныя, і трэба шукаць паразуменьня, а не варожасьці“.

Пані Эльжбета кажа, што мае сяброў у Расеі, перадусім сярод навукоўцаў, але ня толькі, што яна паважала і паважае нямала расейцаў, зь якімі мела і мае шчырыя сяброўскія кантакты. Сярод іх найперш вядомыя маскоўскія мовазнаўцы Мікіта Талстой (1923—1996), ягоная жонка Сьвятлана (н. 1938), а таксама супрацоўніца Інстытуту славяназнаўства і балканістыкі Расейскай акадэміі навук Лідзія Неўская (1938—2008), спэцыялістка ў галіне балта-славянскага моўнага памежжа, бацька якой Георгій Сілуянаў згінуў бязь вестак падчас савецка-фінскай вайны.

У 1999 годзе пані Эльжбета ўпершыню за 50 гадоў пасьля вяртаньня з Сыбіру паехала ў Томск на навуковую канфэрэнцыю „Polonia syberyjska: przeszłość, teraźniejszość, przyszłość“ („Сыбірская Палёнія: мінуўшчына, цяперашчына, будучыня“).

„Гэтая паездка дала пачатак зусім новаму этапу маіх кантактаў з Сыбірам. Я прачытала на канфэрэнцыі матчын дзёньнік у расейскім перакладзе. Ён зьвёў да канкрэтнага чалавечага вымярэньня тое, пра што тэарэтычна разважалі навуковыя спавяшчальнікі“,— кажа пані Эльжбета.

Колішнюю Лізу сыбірскія палякі пачалі цяпер успрымаць як зямлячку. А пані Эльжбета мела нагоду дарослым вокам пабачыць чароўную драўляную архітэктуру Томску, пазнаёміцца з навуковым асяродзьдзем гораду, пазнаць польскую, яшчэ надзіва

вялікую, сыбірскую дыяспару і даведацца, які сур’ёзны быў уклад палякаў у мясцовую навуку. Томскі тэхнічны ўнівэрсытэт, напрыклад, меў некалькі рэктараў-палякаў, а таксама вядомых прафэсараў і многіх студэнтаў польскага паходжаньня. У мастацкім музэі гораду захоўваюцца карціны выдатнага мастака Казімежа Зелянеўскага (1888—1931), які ў Томску заснаваў так званую польскую школу жывапісу. У адной з томскіх школаў вучаць польскай мове ў супрацы з „Домам польскім“, арганізацыяй мясцовай дыяспары на чале зь Нінай Маісеенкай.

Атмасфэра сустрэчаў паказала пані Эльжбеце, як шмат зьмянілася з тае пары, калі жыла ў Томску Ліза. Сыбір цяпер для пані Эльжбеты ня толькі месца суровай ссылкі. І гэтае пачуцьцё яна бачыць як вялікі падарунак лёсу, пра які вельмі хацелася б расказаць Маці…

# Частка трэцяя. Эльжбета



# Торунь.
# Новае сямейнае гняздо

*Па прыезьдзе ў Торунь увесну 1946 году мы знайшлі апірышча ў сям'і мамінай сястры, цёткі Елі (Гэлены) Каламайскай. Двухпавярховы драўляны дамок з садам на Хэлмінскай шашы, 34 (цяпер на тым месцы стаіць шматпавярховы будынак) падаваўся нам цудоўна абстаўленым палацам*[31].

Польшча была вызваленая ад нямецкай акупацыі, але трапіла ў васальную залежнасьць ад СССР. Крэмль у канцы вайны пачаў фармаваць ляяльны Маскве камуністычны ўрад Польшчы, які ішоў сьледам за савецкімі войскамі.

Дзіўным чынам назва Польскай народнай рэспублікі і тактыка яе стварэньня на маскоўскіх штыхах нагадвае тое, што праз 70 гадоў рабіў расейскі прэзыдэнт Уладзімір Пуцін, фармуючы на тэрыторыі Украіны Данецкую і Луганскую „народныя рэспублікі“.

Муж пані Эльжбеты Віктар Смулэк згадваў, што па вайне, якая прынесла Польшчы вялікую разруху, у крамах усё адно былі прадукты, але як толькі новы сацыялістычны ўрад ухваліў „трохгадовы плян разьвіцьця“ (1947—1949), харч раптоўна зьнік.

У 1946 годзе цягнікам, які арганізаваў Зьвяз польскіх патрыётаў, Яніна Баранова з дочкамі Эльжбетай і Марыляй нарэшце вярнуліся ў Польшчу. Пані Эльжбета згадвае, што калі пераехалі савецка-польскую мяжу, ёй і неба падалося больш блакітным, і трава зелянейшай. Паехалі ў Торунь, да мамінай сястры Гэлены Каламайскай (1911—2005). Там ужо іх чакала бабуля Мар'я Шафэрова, якая перажыла вайну ў Львове.

> „У 1946 годзе, калі мы вярталіся, ужо было вядома, што новы польскі ўрад падпарадкоўваецца СССР, хоць былі спробы дамагацца большай самастойнасьці. Былі выбары ва Ўстаноўчы сэйм 1947 году, калі людзі галасавалі за Польскую народную партыю пад кіраўніцтвам былога кіраўніка ўраду Польшчы ў выгнаньні Станіслава Мікалайчыка [1901—1966]. Але выбары гэтыя сфальшавалі камуністы. Польшча стала камуністычнай, на лёнданскі ўрад у выгнаньні ўжо не зважалі.

[31] Elżbieta Smułkowa, *Leśnik ze Lwowa — inż. Kazimierz Baran*, s. 40.

Але ўсё ж тут усе гаварылі па-польску, была польская школа, былі сваякі, мы сустрэліся з бабуляй у Торуні, была вялікая сям'я цёткі Гэлены. І ў гэтай сям'і былі маладыя людзі, якія ўзяліся за маю адукацыю, каб я ўжо ўвосень магла пайсьці ў гімназію",— апісвае пані Эльжбета жыцьцё ў Польшчы па вяртаньні з савецкай ссылкі.

Эльжбету прынялі ў гімназію, адразу ў другую клясу, нягледзячы на тое, што яна не здала ўступны экзамэн з матэматыкі зь першага разу.

"Напачатку было цяжкавата вучыцца. І цяжка перш за ўсё таму, што я прыйшла ў гімназію як дарослы чалавек, а села за парту зь дзецьмі. Узростам я не была надта старэйшая за іншых, хаця тыя, хто мог вучыцца падчас вайны і ня страціў часу, былі на два гады маладзейшыя за мяне. Але рэч у тым, што пасьля ссылкі я ўжо адчувала сябе дарослай",— памятае пані Эльжбета.

Эльжбета Смулкова кажа, што перш не зьбіралася рабіцца гуманітарам, мовазнаўцай. З самага дзяцінства яна марыла стаць лекаркай, пасьля гімназіі падала дакумэнты на паступленьне ў мэдычны інстытут, але дакумэнты ў гарадзкой прыёмнай камісіі адклалі, згадвае пані Эльжбета:

„Гэта быў час, калі ў мэдычны інстытут бралі толькі тых, хто быў чальцом польскага камсамолу — Зьвязу польскай моладзі. Я ж у такую арганізацыю не хацела. Пасьля Сыбіру гэта было адназначна. Але я адначасова вельмі цікавілася польскай літаратурай, любіла яе, і гэты прадмет для мяне быў новы, бо я ня мела магчымасьці вучыцца ў нармальнай польскай школе. Калі ж мая настаўніца паведаміла, што мае паперы затрымалі, і параіла падаць заяву ў іншы ВНУ, я хуценька падрыхтавала дакумэнты ў Toруньскі ўнівэрсытэт імя Мікалая Капэрніка. Думала: ня буду лекаркай — буду настаўніцай, усё адно праца зь людзьмі. І мяне прынялі на польскую філялёгію. І цяпер, з пэрспэктывы жыцьцёвага досьведу, я пра гэта не шкадую".

Гімназію Эльжбета Барануўна закончыла ў 1951 годзе, тады ж паступіла ва Ўнівэрсытэт імя Мікалая Капэрніка, а ў 1952-м выйшла замуж за хіміка Віктара Смулэка (1926—2015), стаўшы

Эльжбетай Смулэк альбо Смулковай.

Час вучобы Эльжбеты ва ўнівэрсытэце супаў з пэрыядам суровага сталінскага рэжыму ў Польшчы, які ўкараняў камуністычную ідэалёгію, у тым ліку і ва ўнівэрсытэтах. Сярод прафэсуры Торуньскага ўнівэрсытэту быў выразны падзел на прыхільнікаў і праціўнікаў новага ладу. Камуністычныя ўлады звальнялі няўгодных прафэсараў, у тым ліку найлепшых знаўцаў польскай літаратуры, якія пераехалі ў Торунь зь Вільні, з былога ўнівэрсытэту імя Стэфана Баторага. На кіроўных пасадах філялягічнага факультэту былі прыхільнікі так званага сацыялістычнага рэалізму і савецкай ідэалёгіі, якія альбо сьвядома яе прынялі, альбо як канфармісты прыстасаваліся да новай сытуацыі.



*Фота са студэнцкага пасьведчаньня Эльжбеты Смулковай.*

Бальшыня ж палякаў ніколі не падтрымлівала камуністычнай ідэалёгіі, перакананая пані Эльжбета:

> „Уся гэтая тэорыя літаратуры была пабудаваная на палітыцы, на крытыцы «панскай» Польшчы. І для многіх студэнтаў гэта было балюча, мы не маглі гэтага ўспрыняць“.

На другім і трэцім курсе філялягічнага факультэту пачалі вывучаць гістарычнае мовазнаўства, якое зацікавіла яе больш, чым сацыялістычны рэалізм у літаратуры, прызналася пані Эльжбета:

> „Запал да вывучэньня літаратуры быў хутка астуджаны залішняй ідэалягічнай індактрынацыяй і сацрэалістычнай мэтодыкай аналізу літаратурнага тэксту. На гэтым фоне мне імпанавала мовазнаўства — канкрэтыкай выкладанага матэрыялу і мэтадалягічнай празрыстасьцю“[32].

[32] Elżbieta Smułkowa, *Białoruś i pogranicza*, s. 11.

# Першы штуршок да беларушчыны

*Часта зьвяртаюся да дзьвюхмоўнага расейска-беларускага слоўніка, выдадзенага ў Маскве ў 1953 годзе пад рэдакцыяй Якуба Коласа, Кандрата Крапівы і Пятра Глебкі. Ён падпісаны моцным, вельмі чытэльным характэрным почыркам: „Пані Элі Смулковай на новую, «беларускую» дарогу жыцьця — Галіна Турска, Торунь, 30 III 54“. Гэтым слоўнікам я была абдораная яшчэ студэнткай, калі бралася за тэму магістарскай працы.*
*Дзякую, Пані Прафэсар, гэтая дарога выявілася цікавай і плённай, і вакол мяне ёсьць людзі, якія пойдуць ёю далей!*[33].

Прафэсар катэдры польскай мовы Ўнівэрсытэту імя Мікалая Капэрніка, дыялектоляг і гісторык мовы Галіна Турска (1901—1979), якая прыехала ў Торунь пасьля расфармаваньня Віленскага ўнівэрсытэту імя Стэфана Баторага, выкладала Эльжбеце Смулковай гістарычную граматыку польскай мовы і параўнальную граматыку славянскіх моваў.

Пад яе апекай Эльжбета пачала рыхтаваць дыплёмную магістарскую працу на тэму польска-беларускіх моўных сувязяў на прыкладзе мовы вясковых жыхароў усходняй Беласточчыны.

> „Гэта быў мой першы кантакт з гаворкай і людзьмі, якія гаварылі па-беларуску. Літаратурную вэрсію беларускай мовы я вывучала на варшаўскай славістыцы, штотыдзень прыяжджаючы ў Варшаўскі ўнівэрсытэт на заняткі“,— згадвала пані Эльжбета першыя крокі да беларушчыны ў прадмове да зборніка сваіх навуковых працаў, выдадзенага да 40-годзьдзя яе навуковай дзейнасьці ў 2002 годзе[34].

Першай настаўніцай беларускай мовы ў Эльжбеты Смулковай была прафэсар Ганна Фідроўская, якая прыехала ў Варшаву з далёкай Казані.

---

[33] Elżbieta Smułkowa, *Białoruś i pogranicza*, s. 11.
[34] Ibidem.

Пані Эльжбета прызнае, што ў выбары спэцыялізацыі на яе паўплывала менавіта прафэсар Галіна Турска, ейныя асабістыя якасьці, высокі прафэсійны ўзровень выкладаньня:

> „Яна была нагэтулькі цікавым чалавекам і выкладнікам, што мы зь сяброўкай Тэрэсай Фрыдэль [1934—2013] абедзьве захапіліся яе праблематыкай. Яна і стала прычынаю таго, што я занялася беларускаю моваю“.



*Партрэт Галіны Турскай зь яе кнігі* Halina Turska, Wybór pism (1945—1962), Toruń, 1984.

Пані Эльжбета называе Галіну Турскую выдатным дыдактыкам. Да вайны апошняя была ад'юнктам Віленскага ўнівэрсытэту імя Стэфана Баторага, у часе вайны надалей таемна вучыла студэнтаў і была санітаркай у шпіталі. У 1946 годзе Галіна Турска перасялілася зь сям'ёю ў Торунь, дзе з 1953 году кіравала катэдрай польскай мовы, у 1962 годзе пад ціскам уладаў звольнілася з унівэрсытэту і перайшла працаваць ў лябараторыю беларускай мовы аддзелу славяназнаўства Інстытуту польскай мовы Польскай акадэміі навук (цяпер Інстытут славяназнаўства ПАН).

Сваё навуковае жыцьцё Галіна Турска прысьвяціла дасьледаваньню праблемы палянізацыі вяскоўцаў Віленскага краю, актыўна займалася гэтай тэмай у 1930-я гады, калі жыла ў Вільні. Г. Турска напісала і ў 1939 годзе здала ў друк манаграфію „Аб узьнікненьні польскіх моўных абшараў на Віленшчыне“. Але ў віленскую друкарню, якая належала яе мужу Станіславу Турскаму, у часе вайны патрапіла бомба, і пасьля пажару захаваліся толькі 8 з 20 друкарскіх аркушаў манаграфіі.

Кнігай яны выйшлі ў 1995 годзе ў Вільні пад назовам „O powstaniu polskich obszarów językowych na Wileńszczyźnie. О происхождении польскоязычных ареалов в Вильнюсском крае“.

Галіна Турска была аўтарытэтнай дасьледніцай мовы твораў Адама Міцкевіча (1768—1855), шмат пісала пра рэгіяналізмы і беларусізмы ў мове паэта, дасьледавала польска-беларуска-

літоўскія моўныя сувязі. Сярод яе працаў беларусам асабліва могуць быць цікавыя згаданае вышэй дасьледаваньне, дзе глыбока аналізуецца і беларускі дыялектны матэрыял Віленшчыны, а таксама тэкст „Беларускія лексычныя пазычаньні ў польскай мове (старапольская эпоха)“ [Leksykalne pożyczki białoruskie w języku polskim (doba staropolska). Sprawozdania PAN, 1970].

„У сваіх працах пра Віленшчыну Галіна Турска выразна аддзяляла гісторыю палянізацыі мясцовай шляхты пачынаючы з XVI стагодзьдзя, якая адбывалася пад уплывам захапленьня правамі польскай шляхты, ад палянізацыі вясковых, простых людзей. Цікава, што гэтая палянізацыя вяскоўцаў Віленшчыны адбывалася ў часы падзелу Рэчы Паспалітай, калі на гэтых землях панавала Расея. Насуперак царскаму прыгнёту людзі, галоўным чынам літоўцы, салідарызаваліся з палякамі. Гэта быў фэномэн палянізацыі як рэакцыі на гвалтоўную русыфікацыю. Падобны працэс быў пасьля скасаваньня царскімі ўладамі Берасьцейскай царкоўнай уніі, калі некаторыя ўніяцкія вернікі, якіх хацелі перавесьці ў праваслаўе, пераходзілі ў рымска-каталіцкую веру. Палянізацыю літоўскіх сялян яна паказала пераканаўча, я тут ня маю сумневаў“,— гэтак ацэньвае навуковыя дасягненьні Галіны Турскай яе вучаніца Эльжбета Смулкова.

Паводле дасьледаваньняў Турскай, гістарычна літоўскія, а ў значна меншай ступені — беларускія гаворкі Віленскага краю палянізаваліся ў XIX стагодзьдзі, прычым літоўцы пераходзілі і наўпрост на польскую мову, і, на пэўнай тэрыторыі,— празь беларускую.

Уплывам беларускае мовы на польскую занялася і Эльжбета Смулкова, чыя магістарская праца была прысьвечаная польскай мове пад беларускім уплывам на Беласточчыне.

„Я працавала зь людзьмі дзьвюхмоўнымі, якія гаварылі па-польску, але роднай мовай якіх была беларуская. У сфэры майго інтарэсу былі польская марфалёгія і флексія пад беларускім уплывам. А ўжо пасьля магістарскай працы я занялася беларускімі гаворкамі“,— зазначае пані Эльжбета.

Уплыў польскай мовы на беларускую добра вядомы лінгвістам, але гісторыя ведала і адваротны працэс — уплыву беларускай

мовы на польскую. Гэта была пераважна рэгіянальная зьява — беларуская мова ўзьдзейнічала на так званую „пальшчызну крэсовую“. Аднак адбываўся таксама беларускі ўплыў на польскую мову ў цэлым, сьведчыць пані Эльжбета:

> „Напрыклад, тое, што мы страцілі „*a* пахіленае“. Возьмем два польскія словы: прыметнік „droga“ (дарагая) і назоўнік „droga“ (дарога). Апошняе слова вымаўлялася з выразным „а“ ў канцы. А прыметнік „droga“ раней у канцы слова меў гэтае „*a* пахіленае“, яно гучала амаль як „о“, як „дрого“ (moja drogå dziewczyna). Але мы згубілі гэтае „*a* пахіленае“, якое было яшчэ ў XVII і нават у пачатку XVIII стагодзьдзя. І гэта сталася пад усходнім уплывам, пад уплывам беларускай мовы, якая ніколі ня мела такога гуку. Гэта толькі адна такая фанэтычная асаблівасьць. Ёсьць таксама шмат лексыкі, запазычанай зь беларускай у польскую, сынтаксічных зьяваў. Хаця несумненна, што ўплыў польскай мовы на беларускую быў большы“.

Пасьля абароны дыплёмнай працы ва Ўнівэрсытэце імя Мікалая Капэрніка прафэсар Турска пакінула Эльжбету Смулкову асыстэнтам на катэдры славянскіх моваў. А праз год лёс зьвязаў яе зь іншым чалавекам, які далей скіраваў пані Эльжбету на глыбокае прафэсійнае дасьледаваньне беларускай мовы і культуры.

# Настаўніца

*Кантакт з прафэсарам Антанінай Абрэмбскай-Яблоньскай ня толькі дазволіў мне глыбей увайсьці ў беларусазнаўчую і дыялекталягічную праблематыку (...), але дазволіў значна пашырыць славістычныя дасьледаваньні... Сваім прыкладам, разуменьнем і зацікаўленасьцю яна паказала нам Беларусь як краіну цікавую, вартую таго, каб сур'ёзна заняцца яе пазнаньнем.*

Эльжбета Смулкова[35]

Дачка паўстанца 1863 году Антаніна Абрэмбска-Яблоньска (1901—1994) лічыцца заснавальніцаю сучаснай польскай беларусістыкі.

Яе бацька Антоні Абрэмбскі (1848 — каля 1908) 15-гадовым хлопцам браў удзел у паўстаньні 1863 году, быў сувязным, атрымаў раненьне. Перад сьмерцю бацькі некалькі гадоў Антаніна Абрэмбска-Яблоньска жыла ў маёнтку Плянта ля мястэчка Быцень Слонімскага павету (цяпер Івацэвіцкі раён), чула мясцовую беларускую гаворку. Пазьней жыла ў Кіеве, Варшаве, Кракаве, вучылася ў Варшаўскім і Ягелёнскім унівэрсытэтах. У апошнім у 1934 годзе атрымала ступень габілітаванага доктара філялёгіі. У часе нямецкай акупацыі ў варшаўскім доме, які належаў ёй і яе брату Юзэфу Абрэмбскаму (1905—1967), вядомаму сацыёлягу, быў адзін з падпольных цэнтраў супраціву, дзе знаходзілі прытулак змагары з нацыстамі і габрэі, якія хаваліся ад гітлераўцаў. Там адбываліся таемныя спатканьні, заняткі падпольнага ўнівэрсытэту, рыхтаваліся да друку падпольныя выданьні, інфармацыйныя паведамленьні для польскага ўраду ў выгнаньні[36].

Па вайне Антаніна Абрэмбска-Яблоньска працуе ў Варшаўскім унівэрсытэце, удзельнічае там у арганізацыі навучаньня расейскай мове, стварае сэкцыі беларускай і ўкраінскай філялёгіі ў Польска-савецкім інстытуце.

Менавіта пад кіраўніцтвам Антаніны Абрэмбскай-Яблоньскай 1 кастрычніка 1956 году пачала дзейнасьць катэдра беларускай філялёгіі, якую на пэўны час, у сувязі з рэарганізацыяй

---

[35] *Pogranicza języków. Pogranicza kultur*, s. 10—11.

[36] *Język i kultura białoruska w kontakcie z sąsiadami*, Warszawa, 2001, s. 15.



*Антаніна Абрэмбска-Яблоньска на лекцыі для студэнтаў-беларусістаў Варшаўскага ўнівэрсытэту. 1959/1960 навучальны год. Сярод студэнтаў першага выпуску – будучыя навуковыя супрацоўніцы катэдры беларускай філялёгіі Ядвіга Глушкоўска, Тэрэса Ясіньска, Ніна Баршчэўская.*

філялягічнага факультэту Варшаўскага ўнівэрсытэту, зрабілі аддзелам беларускай філялёгіі (Zakład Filologii Białoruskiej). У 1977 годзе аддзелу вярнулі статус катэдры, з 2005 году гэта катэдра беларусістыкі Варшаўскага ўнівэрсытэту.

Пані Абрэмбска-Яблоньска стварыла гэтую катэдру і пятнаццаць гадоў кіравала ёю, падбірала кадры, распрацоўвала праграмы навучаньня, тэмы дасьледаваньняў.

Цягам 35 гадоў катэдра была адзінай у сьвеце ўнівэрсытэцкай беларусазнаўчай пляцоўкай па-за межамі Беларусі. Толькі ў 90-х гадох мінулага стагодзьдзя паўсталі яшчэ дзьве такія пляцоўкі — таксама ў Польшчы, ва ўнівэрсытэтах Любліна і Беластоку.

У 1953—1957 гадох прафэсар Абрэмбска-Яблоньска кіравала сэкцыямі беларускай і ўкраінскай філялёгіі Польска-савецкага інстытуту, а пасьля ягонай рэарганізацыі — аддзелам беларускай філялёгіі Інстытуту славяназнаўства Польскай акадэміі навук, працуючы там да 1968 году, адначасова з працаю на катэдры беларускай філялёгіі Варшаўскага ўнівэрсытэту.

У 1956 годзе Антаніна Абрэмбска-Яблоньска папрасіла прафэсара Галіну Турскую, якая тады працавала ў Торуні, параіць ёй людзей, якія маглі б заняцца беларускімі гаворкамі Беласточчыны. Прафэсар Турска адказала, што ведае такую асобу, і парэкамэндавала пані Эльжбету.

Эльжбета Смулкова згадзілася на прапанову з Варшавы і ў 1956 годзе ўпершыню паехала на дыялекталягічныя дасьледзіны з цэлай групай людзей, якіх знайшла прафэсар Абрэмбска-Яблоньска. Сярод іншых яна запрасіла і некалькі выбітных прафэсараў, напрыклад, Уладыслава Курашкевіча (1905—1997), які шмат зрабіў для вывучэньня беларускіх гаворак у Польшчы яшчэ да вайны.

Падчас уладкаваньня Эльжбеты на катэдру беларускай мовы Варшаўскага ўнівэрсытэту яе дапытваў УБ (Urząd Bezpieczeństwa 'Служба бясьпекі'), аналяг савецкага КГБ, бо яе дзядзька Тыман Тэрлецкі працаваў у польскай службе Радыё Свабодная Эўропа, але ёй удалося адбіцца — давесьці, што сваяцтва не ўплывае на яе лінгвістычную працу.

Пад кіраўніцтвам прафэсара Абрэмбскай-Яблоньскай пані Эльжбета выяжджала ў складзе экспэдыцыяў у беластоцкія вёскі. У выніку вялікай калектыўнай працы паўстаў шматтамовы Атляс усходнеславянскіх гаворак Беласточчыны, які рыхтаваўся пачынаючы з 1956 году амаль паўстагодзьдзя, а выдаваўся 32 гады — з 1980 па 2012 год[37]. Першы том быў перавыдадзены ў 2014 годзе[38].

---

[37] *Atlas gwar wschodniosłowiańskich Białostocczyzny*, t. 1 / pod red. Stanisława Glinki, Antoniny Obrębskiej-Jabłońskiej i Janusza Siatkowskiego ; oprac. przez zespół S. Glinka [et al.] ; Polska Akademia Nauk (PAN). Instytut Słowianoznawstwa, 1980;
t. 2 / pod red. Stanisława Glinki, Antoniny Obrębskiej-Jabłońskiej i Janusza Siatkowskiego; oprac. przez zespół w składzie S. Glinka [et al.] ; PAN. Instytut Słowianoznawstwa, 1989;
t. 3 / pod red. Stanisława Glinki, Antoniny Obrębskiej-Jabłońskiej i Janusza Siatkowskiego ; oprac. przez zespół w składzie S. Glinka [et al.] ; PAN. Instytut Słowianoznawstwa; PAN. Instytut Slawistyki, 1993;
t. 5, Leksyka 1 / pod red. Ireny Maryniakowej ; oprac. przez zespół w składzie Piotr Cetra [et al.] ; PAN. Instytut Slawistyki, 1995;
t. 6, Leksyka 2 / pod red. Ireny Maryniakowej ; oprac. przez zespół w składzie Piotr Cetra [et al.] ; PAN. Instytut Slawistyki, 1996;
t. 7, Leksyka 3 / pod red. Ireny Maryniakowej ; oprac. przez zespół w składzie Piotr Cetra [et al.] ; PAN. Instytut Slawistyki, 1999;
t. 8, Leksyka 4 / pod red. Ireny Maryniakowej ; oprac. przez zespół Instytutu Slawistyki PAN w składzie Maria Czurak [et al.] ; PAN. Instytut Slawistyki, 2002;
t. 9, Leksyka 5 / pod red. Ireny Maryniakowej ; oprac. przez Zespół Instytutu Slawistyki PAN w składzie Maria Czurak [et al.] ; Instytut Slawistyki PAN, 2007;
t. 10, Leksyka 6 / pod red. Ireny Maryniakowej ; oprac. przez Zespół Instytutu Slawistyki PAN w składzie Maria Czurak [et al.] ; Instytut Slawistyki PAN, Fundacja Slawistyczna, 2009;
t. 4, Słowotwórstwo / pod red. Ireny Maryniakowej ; oprac. przez Zespół Instytutu Slawistyki PAN w składzie Maria Czurak [et al.] ; Instytut Slawistyki PAN, Fundacja Slawistyczna, 2012.

[38] *Atlas gwar wschodniosłowiańskich Białostocczyzny*, t. 1 / pod red. Stanisława Glinki, Antoniny Obrębskiej-Jabłońskiej i Janusza Siatkowskiego ; oprac. przez Zespół Instytutu Słowianoznawstwa PAN - Stanisław Glinka (kier. zespołu), Bronisława Janiak, Michał Kondratiuk, Cecylia Oszer-Podgórska, Jerzy Wiśniewski ; przedm. do reedycji Dorota K. Rembiszewska i Janusz Siatkowski; Instytut Slawistyki Polskiej Akademii Nauk, 2014.

Эльжбета Смулкова 10 гадоў удзельнічала ў дыялекталягічных экспэдыцыях на Беласточчыну, калі ішоў збор асноўнага матэрыялу. Выправамі кіравала і нярэдка сама брала ў іх удзел прафэсар Абрэмбска-Яблоньска. Яна ж рыхтавала канцэпцыю Атлясу. Потым былі яшчэ дадатковыя паездкі навукоўцаў у вёскі на палявыя дасьледаваньні, удакладненьні ў працэсе рэдагаваньня. Унікальны дзесяцітамовы зборнік захаваў для нашчадкаў галоўную спадчыну народу — мову — у вялікай разнастайнасьці дыялектнай фанэтыкі, марфалёгіі, сынтаксу, лексыкі.

Трэба заўважыць, што амаль паралельна ў Беларусі ішла аналягічная праца, якая вылілася ў два фундамэнтальныя выданьні: „Дыялекталагічны атлас беларускай мовы“ (Менск, 1963) і пяцітамовы „Лексічны атлас беларускіх народных гаворак“ (Менск, 1993—1998). Гэтак з удзелам польскіх і беларускіх моваведаў быў ахоплены амаль увесь арэал беларускіх гаворак.

Іншаю вялікаю справаю Абрэмбскай-Яблоньскай у беларусазнаўстве была падрыхтоўка да друку некалькіх тамоў збору працаў выбітнага польскага дасьледніка беларускага фальклёру і этнаграфіі Міхала Фэдэроўскага (1853—1923).

За 27 гадоў жыцьця і працы на беларускіх землях гэты варшаўскі самавук сабраў такую колькасьць фальклёрнага матэрыялу з Аўгустоўскага, Ашмянскага, Беластоцкага, Бельскага, Ваўкавыскага, Вялейскага, Горадзенскага, Лідзкага, Наваградзкага, Пружанскага, Слонімскага, Сакольскага, Слуцкага паветаў, што ягоныя ўнікальныя запісы ня здолелі цалкам апублікаваць і за сто гадоў.



*Мікалай Бірыла, Эльжбета Смулкова, Антаніна Абрэмбска-Яблоньска і Лідзія Базылюк падчас навуковай экспэдыцыі на Беласточчыну. 1957 год.*



*Міхал Фэдэроўскі.*

„Фэдэроўскі запісваў усё: прымхі, забабоны, рэцэпты народнай мэдыцыны, казкі, анэкдоты, прымаўкі, загадкі і песьні. Зьбіраў фізіяграфічныя, гістарычныя, археалягічныя зьвесткі, калекцыянаваў экспанаты матэрыяльнай культуры і тра́вы“,— напісала пра ягоную спадчыну сучасная дасьледніца з Варшавы Мар'я Чурак (н. 1938)[39].

Першы том фундамэнтальнага збору Міхала Фэдэроўскага „Люд беларускі“ (Lud białoruski na Rusi Litewskiej. Materiały do etnografii słowiańskiej zgromadzone w latach 1877—1905) выйшаў у 1897 годзе. Пасьля яшчэ два тамы выйшлі пры жыцьці аўтара, у 1902 і 1903 гадох. IV том з прымаўкамі, загадкамі і народнымі жартамі выйшаў пасьля вялікага перапынку — у 1935 годзе ў апрацоўцы Чэслава Пяткевіча (1856—1936) і Станіслава Панятоўскага (1884—1945). Наступныя тамы зь песьнямі былі апублікаваныя толькі па вайне з ініцыятывы і пад рэдакцыяй прафэсара Антаніны Абрэмбскай-Яблоньскай: V том у 1958-м, VI — у 1960-м, VII — у 1969-м, VIII — у 1981 годзе.

Эпіграфам да пятага тому „Люду беларускага“ з сабранымі Фэдэроўскім беларускімі народнымі песьнямі прафэсар Абрэмбска-Яблоньска паставіла яскравае выказваньне аўтара зь ягоных нататак да прадмовы, фактычна ягоны запавет беларусам:

> „Адзін том прысьвяціць будучай беларускай інтэлігенцыі. Гэта скарбы нашых бацькоў, спадчына гэтая найбагацейшая, і казкі, і песьні, і байкі мілых дзядоў. У пыл яны былі ўтаптаныя, як залатыя зярняты, я іх здабыў, а вы пасейце, каб вашыя будучыя пакаленьні багаты плён сабралі“[40].

Матэрыялы, сабраныя Фэдэроўскім, зь невялікімі стратамі перажылі дзьве ўсясьветныя вайны і цяпер знаходзяцца ў бібліятэцы Варшаўскага ўнівэрсытэту. Яны складаюць там каля 50 каталё-

[39] *Język i kultura białoruska w kontakcie z sąsiadami*, s. 56.
[40] Michał Federowski, *Lud białoruski*. T. V. Pieśni. Warszawa 1958, s. 3.

гавых адзінак, гэта некалькі дзясяткаў тысяч картак рознага фармату. У гэтым архіве дагэтуль знаходзіцца значная частка неапублікаваных рукапісаў, у тым ліку этнаграфічныя матэрыялы пра сямейныя абрады і каляндарныя сьвяты беларусаў, запісы з характарыстыкай рэгіёнаў, дасьледаваных Фэдэроўскім, апісаньне клімату, флёры, фаўны, заняткаў людзей і культуры ў шырокім сэнсе гэтага слова. А таксама неапублікаваныя моўныя матэрыялы прынамсі на 4390 картак[41].

За сто гадоў чарніла і графіт алоўкаў на частцы картак пабляклі, ёсьць пагроза, што запісы страцяць чытэльнасьць. Вялікая частка матэрыялаў ужо апублікаваная, аднак многія скарбы беларускага народу, сабраныя Фэдэроўскім, дасюль чакаюць ня толькі выдаўца, але і тых прадстаўнікоў новай беларускай інтэлігенцыі, якія выканаюць запавет зьбіральніка — засеюць імі ніву і зьбяруць багаты плён.

Шмат сілаў аддала Антаніна Абрэмбска-Яблоньска стварэньню першага акадэмічнага польска-беларускага слоўніка, які выйшаў у 1962 годзе ў Варшаве пад супольнай рэдакцыяй яе і беларускага мовазнаўцы Мікалая Бірылы (1923—1992). У 1959 годзе Абрэмбска-Яблоньска пісала ў лісьце Эльжбеце Смулковай:

> „Умацаваў мяне 6-дзённы побыт у Закапаным у часе перапынку паміж сэмэстрамі, але пабежнай працы нямала: лекцыі і зноў Фэдэроўскі (т. I), і зноў польска-беларускі слоўнік, які вычытваецца канчаткова, з нанясеньнем апошняй касмэтыкі (група з 4 чалавек), так што сэрца маё пачынае не пасьпяваць за ўсім… Сёньня акурат такая рэакцыя стомы“[42].

Ужо пасьля сыходу на пэнсію Абрэмбска-Яблоньска выканала яшчэ адну вялікую і важную працу для беларускай і польскай культуры — падрыхтавала да друку пераклад „Пана Тадэвуша“ Адама Міцкевіча зроблены Браніславам Тарашкевічам (1892—1938) у польскіх турмах, і зрабіла падрабязны аналіз мовы перакладніка на 50 старонках сваёй прадмовы да выданьня[43].

> „Апошні пункт навуковай бібліяграфіі прафэсара Абрэмбскай-Яблоньскай вырастае да рангу зварушлівага сымбалю...
> Вось больш чым васьмідзесяцігадовая славістка схіляецца

[41] *Język i kultura białoruska w kontakcie z sąsiadami*, s. 58.

[42] Ibidem, s. 20.

[43] Адам Міцкевіч. *Пан Тадэуш альбо Апошні заезд на Літве*. Пераклаў Браніслаў Тарашкевіч. Olsztyn 1984.

над беларускім рукапісам перакладу аднаго з найвялікшых твораў польскай паэзіі, народжанага ў атмасфэры польскага і беларускага краявіду; робіць гэта як бы дзеля канчатковага пацьверджаньня вернасьці свайму ўнутранаму бытаваньню на памежжы культураў. Гэтае пасланьне набывае яшчэ большае значэньне, калі зважаць на ступень страты ёю зроку (дасьледніца карысталася спэцыяльна сканструяванай люпай для чытаньня) і акалічнасьці жыцьця і сьмерці аўтара перакладу — беларуса Браніслава Тарашкевіча“,— напісала пра гэты эпізод жыцьця і навуковай працы сваёй настаўніцы Эльжбета Смулкова, якая ўваходзіла ў склад рэдакцыйнага калектыву выданьня разам з Аннай Багроўскай, Тэрэсай Ясіньскай-Сохай і Зоф’яй Скібіньскай-Харылай[44].

У прадмове да выданьня Антаніна Абрэмбска-Яблоньска адзначала, што Тарашкевічава праца — першы поўны пераклад знакамітага твору на беларускую мову, дасканалы ў сваёй адпаведнасьці арыгіналу, зроблены з адчуваньнем клімату эпохі ды асяродзьдзя, людзей і падзеяў, апісаных аўтарам. Пры гэтым пераклад яскрава індывідуальны, багата насычаны архаізмамі і рэгіяналізмамі, як і сам арыгінал Адама Міцкевіча, прызнавала дасьледніца:

„Тарашкевічаў пераклад «Пана Тадэвуша» ёсьць помнікам беларускай мовы з пэрыяду «Нашай нівы», з эпохі блізкіх, зь некальківяковаю традыцыяй кантактаў з польскай мовай і культурай. Гэта пераклад з супольнае глебы польскай культуры і беларускай культуры земляў Віленшчыны“[45].

Падрыхтаваны Абрэмбскай-Яблоньскай пераклад Тарашкевіча некалькі гадоў чакаў у выдавецтве, пакуль гэты ж твор выйдзе ў БССР: польскія ўлады лічылі некарэктным „апераджаць“ беларускае выданьне.

Копію рукапісу перакладу „Пана Тадэвуша“ на катэдру беларускай філялёгіі Варшаўскага ўнівэрсытэту перадала ўдава Браніслава Тарашкевіча Ніна Аляксандраўна.

Пані Эльжбета згадвае незабыўную сустрэчу ў Беларусі зь першай жонкай Браніслава Тарашкевіча Верай Ніжанкоўскай (1901—1998):

---

[44] *Język i kultura białoruska w kontakcie z sąsiadami*, s. 18.

[45] Адам Міцкевіч. *Пан Тадэуш*. С. VII.

„Мяне вельмі ўзрушыла сустрэча з жонкай Браніслава Тарашкевіча Верай Сьніткай-Ніжанкоўскай у Радашкавічах, дзе я наведвала яе асабіста. Яна захавала добрую памяць пра свайго мужа, мела розныя рэчы, зьвязаныя зь ім, зь ягонай творчасьцю, кніжкі, яна сама была цікавым чалавекам. І была ідэя стварыць дом-музэй Тарашкевіча ў Радашкавічах. Заслужыў жа чалавек такі музэй — настаўнік, аўтар першай беларускай граматыкі, перакладнік «Адысэі», хоць гэты пераклад збольшага згінуў, перакладнік «Пана Тадэвуша», дзяяч Грамады“.



*Браніслаў Тарашкевіч.*

Ажно да самай сьмерці Тарашкевічава жонка Вера Сьнітка-Ніжанкоўская дамагалася ад уладаў на ўсіх узроўнях спрыяньня арганізацыі ў Радашкавічах дому-музэю Браніслава Тарашкевіча. Але насустрач так ніхто і не пайшоў. У 1998 годзе яна памерла, а ў 2002 годзе яе дом у Радашкавічах згарэў разам з асабістымі рэчамі, фатаздымкамі і лістамі Тарашкевіча[46].

Эльжбета Смулкова зьмяніла Антаніну Абрэмбскую-Яблоньскую на пасадзе кіраўніцы катэдры беларускай філялёгіі Варшаўскага ўнівэрсытэту ў 1971 годзе. Для свае настаўніцы, зь якой яе лучылі 40 гадоў прафэсійных і сяброўскіх дачыненьняў, пані Эльжбета мае выключна найвышэйшыя ацэнкі:

„Гэта быў гуманіст высокай клясы, прадстаўнік пакаленьня польскіх пазытывістаў, чалавек, які так добра ставіўся да людзей... Яна вельмі сур'ёзна ставілася да Беларусі — да краіны і да народу. Яна мела яшчэ нейкія дзіцячыя ўспаміны зь Беларусі, бо яе бацька быў даверанай асобай вялікіх землеўласьніцкіх родаў, кіраваў іхнымі маёнткамі, і яна ў дзяцінстве доўгі час правяла пад Слонімам, яна памятала гучаньне мясцовай гаворкі беларускай мовы. Яна мне пра гэта расказвала. Як такі адкрыты гуманіст яна мела глыбокае адчуваньне пэўнай гістарычнай несправядлівасьці да беларусаў. Ёй было важна, каб Беларусь ужо пасьля распаду СССР магла разьвівацца самастойна. Гэта

[46] Радыё Свабода, 19 ліпеня 2002 г. Доступ: http://www.svaboda.mobi/a/24844065.html

была яе пазыцыя, а не заява напаказ. Яна яшчэ засьпела незалежную Беларусь і ўспрыняла яе вельмі пазытыўна“.

Сваім калегам-навукоўцам прафэсар Антаніна Абрэмбска-Яблоньска пакінула вельмі сымбалічную параду, заснаваную на ўласным багатым досьведзе:

„Многім падаецца, што каб стаць навукоўцам, трэба для гэтага спэцыяльна нарадзіцца. Што да здольных людзей зьбіраньне ляўраў само прыходзіць. Гэта поўная няпраўда. Ёсьць прынамсі тры абавязковыя ўмовы для здабываньня навуковых ляўраў: сапраўднае бескарысьлівае замілаваньне, цяжкая праца, здольнасьць да самакрытыкі“[47].



*Помнік Юзэфу Абрэмбскаму. Сяло Самакаў, Македонія. Фота 2012 г.*

Антаніна Абрэмбска-Яблоньска была сястрой выбітнага польскага этноляга Юзэфа Абрэмбскага, які ў 1934—1937 гадох дасьледаваў Палесьсе і напісаў шэраг фундамэнтальных этналягічных працаў пра гэты рэгіён Беларусі, у тым ліку „Этнічная праблема Палесься“ (Problem etniczny Polesia), „Цяперашнія людзі Палесься“ (Dzisiejsi ludzie Polesia)[48]. Працы Юзэфа Абрэмбскага пра Палесьсе друкаваліся ў 2009—2013 гадох у гадавіку „Homo Historicus“ і часопісе „Arche“[49].

Як этнасацыёляг Юзэф Абрэмбскі вывучаў таксама архаічную культуру Македоніі. У македонскім сяле Самакаве цяпер стаіць помнік дасьледніку. Мож-

[47] Antonina Obrębska-Jabłońska, *Śladami żywego języka* : wybór pism. Warszawa, 1993, s. 243.

[48] Józef Obrębski, *Polesie. Studia etnosocjologiczne*, t. 1, redakcja naukowa i wstęp Anna Engelking, Oficyna Naukowa, Warszawa 2007, 574 s.

[49] Юзэф Абрэмбскі. *Панская школа і мужыцкія дзеці* // Homo Historicus 2009: Гадавік антрапалагічнай гісторыі. Вільня, 2010. С. 227—28; Ён жа. *Народ бяз бацькаўшчыны* // „Arche“. 2011. № 3 (102). С. 137—220; Ён жа. *Сёньняшнія людзі Палесься* // „Arche“. 2013. № 4 (121). С. 501—517.

на толькі спадзявацца, што калі-небудзь помнік яму зьявіцца і ў беларускім Століне ці Пінску, у рэгіёне, які ён дасьледаваў і апісаў.

На помнік ад беларусаў заслугоўвае і ягоная сястра Антаніна — як стваральніца польскай беларусістыкі, як дасьледніца беларускіх гаворак і беларускай літаратуры, укладальніца першага польска-беларускага слоўніка, прадаўжальніца ахвярнай працы Міхала Фэдэроўскага. Антаніна Абрэмбска-Яблоньска напэўна заслугоўвае на тое, каб у Беларусі пра яе напісалі асобную кнігу, але няхай для пачатку будзе гэты прысьвечаны ёй разьдзел у кнізе пра адну зь яе любімых вучаніц.

# Таемныя экспэдыцыі ў беларускія вёскі

*Я езьдзіла ў БССР, але паглынала тое, што было пад паверхняю вонкавай савецкасьці. Вучылася Беларусі. Знаёмілася зь людзьмі, глыбока зацікаўленымі сваёй навуковай працай, станавілася партнэрам у іхных дыскусіях, завязвала сяброўствы. Знаёмілася з культурай і штораз лепей зь літаратурнай мовай. Заглыблялася ў складанасьць гістарычных лёсаў краіны і асобных сем'яў. Старалася разумець.*

Эльжбета Смулкова[50]

У 1959 годзе пані Эльжбета ўпершыню паехала ў службовую выправу ў Беларусь, на стаж у Інстытут мовазнаўства імя Якуба Коласа Акадэміі навук БССР, дзе пазнаёмілася зь вялікім калектывам менскіх лінгвістаў. Потым такія стажы сталіся звыклай справай, доўжыліся яны некалькі месяцаў, а то і паўгоду.

У часе гэтых прыездаў пані Эльжбета супрацоўнічала і пасябравала з элітаю пасьляваеннай беларускай філялёгіі, знаўцамі беларускай, польскай ды іншых славянскіх моваў. Бальшыня іх паходзіла зь вёсак, дзе ў той час панавала беларушчына, некаторыя яшчэ засьпелі энтузіязм беларусізацыі 20-х гадоў XX стагодзьдзя, многія былі франтавікамі і партызанамі, і ўсе апантана працавалі на ніве навукі і беларушчыны.

Кіраваў Інстытутам тады Міхаіл Раманавіч Суднік (1910—1995), які займаў пасаду дырэктара 26 гадоў.

У артыкуле да 100-годзьдзя Міхаіла Судніка апошні дырэктар Інстытуту мовазнаўства (пры якім скасавалі асобны статус Інстытуту) Аляксандар Лукашанец (н. 1954) пісаў:

„У гэты пэрыяд у інстытуце разгарнуліся шырокамаштабныя дасьледаваньні беларускіх народных гаворак, ствараліся першыя акадэмічныя граматыкі беларускай мовы, пачалася праца над гістарычным і этымалягічным слоўнікамі беларускай мовы. Менавіта дасьледаваньні Інстытуту мовазнаўства НАН Беларусі ў гэты пэрыяд вывелі беларускую лінгвістыку на перадавыя пазыцыі славянскага мовазнаўства“[51].

[50] *Pogranicza języków. Pogranicza kultur*, s. 14.
[51] Беларуская лінгвістыка. Вып. 66. Менск, 2011. С. 147.

Перадусім пані Эльжбета супрацоўнічала зь беларускімі дыялектолягамі, супрацоўнікамі сэктару сучаснай беларускай мовы, са славістамі:

„Памятаю, што мяне захапіла і ўцягнула,— аўтэнтычная працоўная атмасфэра. Мяне ўспрынялі як сяброўку. Я ім аддзячыла тым жа. У нас не спынялася навуковая дыскусія, мы з прыемнасьцю заставаліся пасьля працоўнага часу, калі захапляліся нейкай тэмай“.

Пані Эльжбета езьдзіла зь беларускімі лінгвістамі ў дыялекталягічныя экспэдыцыі. Але гэта было ня так лёгка, бо ў той час у СССР нават грамадзянам краін сацыялістычнага блёку забаранялася выяжджаць з гарадоў, дзе яны былі зарэгістраваныя.



*Эльжбета Смулкова падчас стажу ў Менску ля помніка Янку Купалу з польскім гісторыкам Станіславам Александровічам (1931—2015).*

Але гэтыя драконаўскія парадкі дапамагалі пераадолець беларускія калегі, якія прыносілі пані Эльжбеце для пераапрананьня мясцовыя хусткі, плашчы і бралі яе з сабою ў свае родныя вёскі.

„Адно рот перад уладамі не адкрывай, і ўсё будзе добра“,— казалі ёй беларускія навукоўцы. Толькі ў 1970-я гады дырэктар інстытуту Міхаіл Суднік змог „выстарацца“ для пані Эльжбеты дазвол на выезд у дыялекталягічныя экспэдыцыі на Палесьсе і Віцебшчыну — рэгіёны, якія вельмі адрозьніваюцца сваімі гаворкамі.

„Тады я зразумела, што трэба вельмі сьпяшацца, каб яшчэ захаваць для нашчадкаў рэшткі сьвету тамтэйшай культуры і мовы, які гіне. Цывілізацыйныя зьмены ў вёсцы, і перадусім яе трагічнае абязьлюджваньне, вядуць да заняпаду народных

традыцыяў і гаворак“[52],— згадвала тыя свае экспэдыцыі пані Эльжбета.

Неяк беларускія калегі нелегальна ўзялі пані Эльжбету з сабою на дыялекталягічную навуковую канфэрэнцыю ў Грузію. Зрабіў гэта прафэсар Адам Супрун (1928—1999) з БДУ. Смулкова прыгадвае:

„Паляцела я разам з усімі самалётам, купілі мне білет бяз пашпарту. Беларускія калегі неяк угаварылі грузінаў, каб пасялілі ў гатэлі па бібліятэчным білеце, сказалі, нібыта я забыла ўзяць пашпарт. Гэта былі 70-я гады. Пазьней, падчас банкету, калі беларускія мовазнаўцы некуды сышлі, мне давялося нават гаварыць тост ад імя беларускай дэлегацыі. А пасьля банкету мяне запрасілі ў пакой, дзе дыскусія працягвалася ў шчыльнейшым коле. «Вы не хвалюйцеся, там будзе шмат людзей, мы хочам з вамі, беларусамі, пагаварыць»,— сказалі мне. І я згадзілася. Там фактычна сабралася невялікая група грузінаў, адны мужчыны, даволі маладыя, 30—50 гадоў. І яны завялі палітычную размову: як зрабіць, каб атрымаць большую нацыянальную самастойнасьць у СССР. Гэта была зусім сур’ёзная размова, у якой я старалася не адкрываць рота. Я ім урэшце тады сказала, хто я і што я не магу гаварыць за беларусаў“.

Ніякіх адміністрацыйных наступстваў ад той паездкі і тых размоваў не было.

Цягам сваіх паездак у Менск пані Эльжбета пасябравала з многімі зоркамі беларускай філялёгіі.

„Мяне захапіла тагачасная працоўная і адначасова сяброўская атмасфэра, якая панавала ў Інстытуце мовазнаўства, а асабліва сярод дыялектолягаў і славістаў, зь якімі я мела найбольш кантактаў. Завязаліся сяброўскія, прафэсійныя дачыненьні — на ўсё жыцьцё. Некаторых з гэтых людзей, зь якімі мы разам вывучалі Беларусь і яе народ, яго мову і культуру, ужо няма ў жывых. Вяртаюся ў памяці да Кіры Гюлумянц, Волі Шэлег [1931—1965], Лілі Выгоннай, Мікалая Бірылы, Валера Чэкмана, Вячаслава Вярэніча ды іншых. Усе яны пакінулі свой сьлед у беларускім мовазнаўстве! Усім ім і многім іншым я нечым абавязана ў сваім знаёмстве зь беларускай літаратурнай

[52] *Pogranicza języków. Pogranicza kultur*, s. 15.

мовай і яе гаворкамі, у лепшым разуменьні краіны Беларусі, вельмі цікавай у сваёй складанасьці і ў прыгажосьці скрыжаваньня першабытнага, архаічнага — з самым сучасным, бізантыйскага — з лацінскім“[53].

Пані Эльжбета сярод многіх іншых з удзячнасьцю згадвае знаёмства і супрацоўніцтва зь Юзэфай Фляр'янаўнай Мацкевіч (1911—2002), былой партызанкай, дасьледніцай Статута ВКЛ як помніка беларускай мовы XVI стагодзьдзя, адной са стваральніц сучаснай беларускай дыялекталёгіі.

У 1950 годзе Юзэфа Мацкевіч узначаліла сэктар дыялекталёгіі Інстытуту мовазнаўства, якім кіравала 36 гадоў. Пад яе кіраўніцтвам і зь яе ўдзелам былі створаныя дыялекталягічныя атлясы беларускай мовы, многія іншыя фундамэнтальныя працы, якія зафіксавалі лексычную, фанэтычную, тапанімічную разнастайнасьць беларускіх народных гаворак. На думку пані Эльжбеты, пяцітамовы „Лексічны атлас беларускіх народных гаворак“, які выйшаў у 1993—1998 гадох, падрыхтаваны калектывам пад кіраўніцтвам Юзэфы Мацкевіч і адзначаны Дзяржаўнай прэміяй Рэспублікі Беларусь у 2000 годзе, стаў „адным з найлепшых славянскіх атлясаў“.

Добрым словам пані Эльжбета згадвае Льва Міхайлавіча Шакуна, спэцыяліста ў гісторыі беларускай мовы, загадчыка катэдры беларускай мовы БДУ. Менавіта ён запрасіў яе нелегальна наведаць беларускае вясельле ягонага супрацоўніка ў вёсцы на Капыльшчыне.

Стваральніка катэдры славяназнаўства БДУ Адама Яўгенавіча Супруна пані Эльжбета шануе як чалавека, які мысьліў самастойна, незалежна ад паноўнай савецкай ідэалёгіі:

„Я мела з Супруном добры кантакт перадусім мовазнаўчы. Бывала ў іхным доме. Акрамя мовазнаўства, яны з жонкай цікавіліся таксама палітыкай, хацелі разумець маё стаўленьне да сытуацыі ў Польшчы, да новага кіраўніцтва — гэта быў пачатак праўленьня Эдварда Герэка [1913—2001], 1970-я гады, калі я верыла, што ён хоча нешта добрае для Польшчы зрабіць. Я дзялілася гэтым сваім пэўным энтузіязмам, але яны былі скептычныя. І выйшла так, што мелі рацыю яны“.

---

[53] Эльжбета Смулкова: *Мяне цікавіць чалавек, яго мова і асяродзьдзе*. Інтэрвію сайту Міжнароднай асацыяцыі беларусістаў. Доступ: http://mab.org.by/materyjaly/intervju/elzbieta-smulkova-mianie-cikavic-calaviek-Iaho-mova-I-asiaroddzie

Пра Віктара Ўладзімеравіча Мартынава (1924—2013), аўтара працаў аб паўстаньні славянскіх моваў і славянскай прарадзіме, стваральніка канцэпцыі фармаваньня праславянскай мовы на базе заходнебалцкага моўнага арэалу, пані Эльжбета згадвае як пра сур'ёзнага вучонага і чалавека высокай маралі:

„Віктар Мартынаў цяжка перажываў савецкую агрэсію ў ЧССР у 1968 годзе. Ён проста хворы хадзіў ад ураженьня... Мне імпанавалі многія людзі ў Менску, многія навукоўцы. І я сьвядома пераконваю ў адваротным тых, якія думаюць, што Беларусь — гэта сялянская нацыя. Яна, можа, калісь такой і была, але, несумненна, вырасла“.

# Беласточчына

*Як мовазнаўца-беларусіст пані прафэсар абрала дарогу не кабінэтнага, а палявога дасьледніка. Разам з тым яе навуковыя інтарэсы не абмяжоўваюцца дыялекталёгіяй, а сягаюць агульнага мовазнаўства. Акцэнталёгія, фанэтыка і фаналёгія, тэорыя моўных кантактаў, сацыялінгвістыка… Гэта вельмі шырокія зацікаўленьні і даволі разнастайныя.*

А. Энгелькінг[54]

Амаль уся навуковая кар'ера пані Эльжбеты была зьвязаная з катэдрай беларускай філялёгіі Варшаўскага ўнівэрсытэту, у якой працавала старэйшым асыстэнтам, ад'юнктам, дацэнтам, прафэсарам. У 1971—1975 гадох яна ўзначальвала катэдру.

Як пісала Эльжбета Смулкова, катэдра беларускай філялёгіі была створаная ў 1956 годзе Міністэрствам вышэйшай адукацыі і навукі Польшчы „ў выніку глыбокага навуковага зацікаўленьня культурай і мовай беларускага народу, у выніку зразуменьня патрэбы беларускай нацыянальнай меншасьці мець магчымасьць сярод многіх іншых дысцыплін вышэйшай адукацыі выбіраць і сваю філялёгію“[55].

На думку пані Эльжбеты, спрыяньне ўладаў камуністычнай ПНР вывучэньню ў Польшчы беларускае мовы (а таксама расейскай і ўкраінскай) было зьвязанае з абавязковай у часы сацыялізму палітыкай сяброўства з СССР.

> „Але навукоўцы цікавіліся гэтым прадметам незалежна ад таго. Прафэсар Абрэмбска-Яблоньска, заснавальніца і шматгадовы кіраўнік катэдры, не таму займалася беларускай мовай, што гэтаму ўлада спрыяла, а таму што ёй гэта было цікава, яна лічыла гэта вартым. Палітызацыя магла паўплываць на тое, каб афіцыйна арганізаваць такую катэдру. Але вынік выявіўся незалежна ад палітыкі, вынік добры, навуковы“.

Паколькі сваіх кадраў спачатку бракавала, у першыя гады працы катэдры дапамагалі спэцыялісты зь Беларусі. Лекцыі

[54] Anna Engelking, *Językoznawstwo i Białoruś. Z Elżbietą Smułkową rozmawia Anna Engelking* // Pogranicza języków. Pogranicza kultur: Studia ofiarowane Elżbiecie Smułkowej, Warszawa, 2003. S.13.

[55] Э. Смулкова. *Навукова-дыдактычная дзейнасць Кафедры Беларускай Філалогіі Варшаўскага універсітэта*. Беларускі каляндар. Беласток, 1970.

беларускай мовы і літаратуры варшаўскім студэнтам чыталі спэцыяліст у гісторыі беларускай мовы Аркадзь Жураўскі (1924—2009) і дыялектоляг і анамаст Мікалай Бірыла з Акадэміі навук БССР, літаратуразнаўцы Міхась Лазарук (1926—2000) і Васіль Тарасаў (1922—1970) зь Менскага пэдагагічнага інстытуту. Гэтыя навукоўцы пазьней сталі ў Беларусі знакамітымі філёлягамі — прафэсарамі і акадэмікамі.

Пачыналася праца катэдры ў дзьвюх спэцыялізацыях — беларускага і славянскага мовазнаўства і гісторыі беларускай літаратуры. Апрача навучаньня студэнтаў, катэдра рыхтавала

*Эльжбета Смулкова не кабінэтны навуковец, аснова яе працы — экспэдыцыі, запісы жывой мовы людзей. Здымкі зробленыя ў экспэдыцыях на Беласточчыне (уверсе) і на Мазыршчыне (унізе) з розьніцай амаль у палову стагодзьдзя.*





слоўнікі, вывучала дыялекты Беласточчыны, у прыватнасьці, разам зь лябараторыяй беларускай філялёгіі Інстытуту славяназнаўства Польскай акадэміі навук падрыхтавала атляс народных гаворак гэтага краю (Atlas gwar wschodniosłowiańskich Białostocczyzny), зьбірала і апрацоўвала назвы мясцовасьцяў, рыхтуючы грунтоўныя працы па анамастыцы Беластоцкага ваяводзтва. Літаратуразнаўцы падрыхтавалі анталёгію беларускай літаратуры для школ. Катэдра выпусьціла шмат кваліфікаваных беларусістаў: настаўнікаў, бібліятэкараў, літаратараў, культурнаасьветных супрацоўнікаў, выдаўцоў, навукоўцаў.

Асаблівая навуковая цікавасьць у катэдры была да Беласточчыны, яе ўсходняй часткі, заселенай пераважна беларускім насельніцтвам.

„Гэтая праца мае значэньне ня толькі для беларусазнаўства. Усходняя Беласточчына ўяўляе вялікую навуковую цікавасьць для славістаў наагул. Тут, на невялікім абшары, сутыкаюцца ўплывы трох розных дыялектных сыстэм: мазавецкай, беларускай і ўкраінскай, ня лічачы балцкага субстрату і нівэлюючага гаворкі ўплыву польскай мовы, якая ў сувязі з разьвіцьцём сродкаў масавага пераказу аказвае ўсё большы ўплыў на мясцовыя гаворкі. Не без значэньня зьяўляецца і ўплыў беларускай літаратурнай мовы, у пераважнасьці там, дзе лепш разьвітае беларускае школьніцтва, дзе рэгулярна чытаюць беларускі друк і мастацкую літаратуру. Усе гэтыя фактары ўплываюць на тое, што ўсходняя Беласточчына прадстаўляе сабою вялікую разнастайнасьць дыялектных сыстэм, што большасьць яе насельніцтва зьяўляецца білінгвальнай, гэта значыць, валодае і карыстаецца ў штодзённым жыцьці дзьвюма мовамі, выкарыстоўваючы адну зь іх у залежнасьці ад зьнешняй сытуацыі“[56],— так Эльжбета Смулкова ў 1970 годзе апісвала Беласточчыну як рэгіён сваіх навуковых зацікаўленьняў, пра якія яна ўжо напісала свае першыя навуковыя працы ў галіне лексыкалёгіі, фаналёгіі, марфалёгіі.

Палявыя дасьледаваньні на Беласточчыне давалі вялікі навуковы плён, спрыялі наладжваньню навуковых і сяброўскіх сувязяў.

„Гэта быў вельмі цікавы край і з прыроднага гледзішча, тут знаходзіцца Белавеская пушча. Тут дзейнічалі дзьве татарскія

[56] Э. Смулкова. *Навукова-дыдактычная дзейнасць…*

мячэці, да Другой усясьветнай вайны вялікая традыцыйная сынагога была ў Тыкоціне. Апрача польскіх навукоўцаў, Беласточчына прыцягвала ўвагу іншаземцаў. Прафэсар Кнут Уляф Фальк [1906—1990] са Швэцыі са сваімі вучнямі прыяжджаў на Беласточчыну вывучаць анамастыку, бо тут было шмат балцкіх назваў. Іхная місія называлася Швэдзкай яцьвяскай экспэдыцыяй, яны дасьледавалі тэрыторыю Сувальшчыны, раскопвалі курганы, запісвалі мясцовыя назвы, якія сьведчылі пра балцкую мінуўшчыну рэгіёну“,— згадвае пані Эльжбета, якую швэдзкія навукоўцы пазьней запрасілі чытаць лекцыі беларускай мовы ва ўнівэрсытэтах Люнду і Упсалы.

Пані Эльжбета згадвае, што ў часе сваіх першых дыялекталягічных выправаў у беластоцкія вёскі пазнаёмілася ў Крынках з будучым пісьменьнікам Сакратам Яновічам (1936—2013):

„Ягоная мама была вельмі славутай, яна была нашай інфарматаркай, яна нас прымала, размаўляла з намі. Пазьней мы зь ім сустракаліся, калі ён стаў вядомым, і шмат гадоў кантактавалі. Гэта быў вельмі цікавы чалавек, ягоная літаратура вартая, каб яе чытаць. Я перадусім люблю ягоныя мініятуры. Успрымаю яго як чалавека, які жыў беларускай ідэяй і тым, каб вучыць належна ўшаноўваць беларускую культуру“.



*Сакрат Яновіч.*

У 1962 годзе было заснаванае Беластоцкае навуковае таварыства (БНТ), у працы якога пані Эльжбета брала актыўны ўдзел. Тады на Беласточчыне яшчэ не было свайго ўнівэрсытэту, ня дзейнічала яшчэ і філія Варшаўскага ўнівэрсытэту ў Беластоку, але цікавасьць да вывучэньня Падляшша была вялікая. Этнографы, мовазнаўцы, археолягі, гісторыкі прыяжджалі на Беласточчыну, каб дасьледаваць гэты шматэтнічны рэгіён: тут здаўна разам жылі беларусы, палякі, украінцы, літоўцы, татары, расейскія стараверы і габрэі.

Заснавалі БНТ археолягі Ежы Антаневіч (1919—1970) і Ян Ясканіс (н. 1932). Мовазнаўчую камісію пры таварыстве стварыла і кіравала ёю прафэсар Антаніна Абрэмбска-Яблоньска.

Пані Эльжбета з 1969 году была сакратаром мовазнаўчай камісіі БНТ, з 1978 па 1991 год — кіраўніцай гэтае камісіі, у якую ўваходзілі каля 40 мовазнаўцаў зь Беластоку, Варшавы, Гданьску, Кракава, Познаня, Торуня, з Сэйнаў і Гайнаўкі… Два тэрміны пані Эльжбета была сябрам управы Беластоцкага навуковага таварыства.

БНТ правяло сотні паседжаньняў, навуковых канфэрэнцыяў, сымпозіюмаў, актыўна займалася выдавецкай працай. У міжнародных канфэрэнцыях, арганізаваных таварыствам, удзельнічалі і навукоўцы зь Беларусі.

У 1973 годзе мовазнаўчая і археалягічная камісіі БНТ правялі ў Белавежы вялікую міжнародную канфэрэнцыю, прысьвечаную балта-славянскай праблематыцы. Удзел у ёй узялі навукоўцы з Польшчы, Беларусі, Літвы, Шатляндыі, Швэцыі, Румыніі, тагачасных Югаславіі, ГДР. У канцы 70-х гадоў мовазнаўчая камісія пачала арганізацыю Другой міжнароднай канфэрэнцыі, прысьвечанай балта-славянскім этналінгвістычным сувязям, быў ужо наладжаны кантакт з зацікаўленымі інстытуцыямі ў СССР і ЗША, знойдзенае фінансаваньне, зроблена шмат іншых падрыхтоўчых захадаў, але праца была спыненая з увядзеньнем у 1981 годзе ў Польшчы ваеннага стану.

Пазьней было шмат іншых канфэрэнцыяў БНТ, прысьвечаных польска-беларуска-літоўскім моўным, гістарычным і культурным сувязям, дасьледаваньню гаворак Беласточчыны, выдадзена шмат вартай навуковай літаратуры.

„Беластоцкае навуковае таварыства… у 60-х і 70-х гадох XX стагодзьдзя ўяўляла сабою вельмі дынамічнае і творчае навуковае асяродзьдзе. Адзінае ў Польшчы таварыства такога высокага ўзроўню ў галіне рэгіянальных гуманістычных дасьледаваньняў. Арганізацыйна кіраванае археолягамі доктарам Ежы Антаневічам і доктарам Янам Ясканісам, тагачасным дырэктарам Акруговага музэю ў Беластоку, пазьней Археалягічнага музэю ў Варшаве,— яно лучыла ў сваіх шэрагах сур’ёзных вучоных з усяе Польшчы, якія разумелі патрэбу і вартасьць дасьледаваньняў гэтага шматэтнічнага рэгіёну і дасьледаваньні гэтыя ажыцьцяўлялі, часта зь вялікім размахам. Вынікі працы падводзіліся і абмяркоўваліся на штогадо-

вых зьездах сяброў і на шматлікіх тэматычных канфэрэнцыях. Сустракаліся на іх дасьледнікі розных спэцыяльнасьцяў (археолягі, гісторыкі, этнографы і моваведы, ...бывалі там таксама біёлягі, мэдыкі, мэтэаролягі ды іншыя) з розных навуковых асяродкаў. Іх яднала сапраўдная зацікаўленасьць рэгіёнам. Можна сабе ўявіць, якая гэта была дасканалая школа міждысцыплінарнасьці ў рэгіянальных дасьледаваньнях“,— такую выключную характарыстыку пані Эльжбета надала мінулым дасягненьням таварыства праз 40 гадоў ад яго заснаваньня, пры зусім ужо інакшым стане беластоцкага навуковага асяродзьдзя[57].

Беластоцкія гарадзкія ўлады ўганаравалі Эльжбету Смулкову разам зь іншымі кіраўнікамі БНТ срэбным і залатым знакамі „Заслужаны для Беласточчыны“.

Яе сувязь з рэгіёнам прадоўжылася пасьля вяртаньня пані Эльжбеты зь Менску, дзе яна выконвала функцыі першага амбасадара Польшчы ў Беларусі. Пазьней пані Эльжбета прызнавалася:

„Мая шматгадовая творчая сувязь з рэгіёнам паўночна-ўсходняй Польшчы і яе культурнай мазаікай відавочная… Я тут не чалавек звонку. Гэта несумненна паўплывала на рашэньне ўзяць на сябе ў 1997 годзе кіраўніцтва катэдраю беларускай культуры Ўнівэрсытэту ў Беластоку“[58].

Стварэньне гэтай катэдры было праектам вялікага польскага гуманіста, ураджэнца Менску Ежы Гедройця (1906—2000).

Паводле пані Эльжбеты, пачаткова ішла размова пра катэдру беларускай гісторыі і культуры.

„Але беластоцкія гісторыкі сталі мурам, каб не было гісторыі ў рамках гэтай катэдры. І была створаная толькі катэдра культуры, якая і цяпер існуе, хаця перажывае ня лепшыя часы, маючы толькі двух супрацоўнікаў — габілітаванага доктара Ірэну Матус [н. 1959] і доктара Гражыну Харытанюк-Міхей [н. 1971]“.

А быў гэта вельмі важны праект, кажа пані Эльжбета. Катэдра была створаная з нуля пры дапамозе гісторыкаў Алега Латышонка (н. 1957), Яўгена Мірановіча (н. 1955), Алены Глагоўскай

---

[57] *Pogranicza języków. Pogranicza kultur*, s. 12.

[58] Ibidem, s. 13.



*Супрацоўнікі катэдры беларускай культуры Ўнівэрсытэту ў Беластоку Катажына Далэнгоўска, Анна Энгелькінг, Ірэна Матус, Алег Латышонак, Эльжбета Смулкова, Яўген Міратовіч з гасьцямі катэдры, сярод якіх польскі дыплямат Мар'юш Машкевіч (у цэнтры). Каля 1999 г.*

(н. 1959), этнолягаў Анны Энгелькінг (н. 1959), Катажыны Далэнгоўскай (н. 1972), Юстыны Страчук (н. 1969).

У навукоўцаў было шмат энтузіязму, і студэнты розных кірункаў ахвотна ўдзельнічалі ў іхных адкрытых занятках.

Наагул катэдра беларускай культуры паўплывала на ажыўленьне навуковай і навукова-папулярнай дзейнасьці Ўнівэрсытэту ў Беластоку. Яна арганізавала, між іншага, тэматычныя міжнародныя канфэрэнцыі, вялікую Палескую фатаграфічную выставу у салёнах Гістарычнага музэю ў Беластоку, цягам некалькіх гадоў запрашала зацікаўленых на штомесячныя дыскусійныя спатканьні на тэму беларускай культуры, так званыя „Беларускія чацьвяргі“. Дзякуючы індывідуальным аўтарскім і калектыўным публікацыям актывізавалася выдавецкая дзейнасьць. Зборнік „Мова і самасьвядомасьць на памежжы культураў“[59] і кніга Ірэны Матус “Наднарвянскі люд“[60] запачаткавалі сэрыю „Працы катэдры беларускай культуры Ўнівэрсытэту ў Беластоку“.

„З катэдраю беларускай культуры ў Беластоку кантактавалі

[59] *Język a tożsamość na pograniczu kultur*, Prace Katedry Kultury Białoruskiej Uniwersytetu w Białymstoku, t. 1, red. Elżbieta Smułkowa, Anna Engelking, Białystok 2000, 258 s.
[60] Irena Matus, *Lud nadnarwiański*, Prace Katedry Kultury Białoruskiej Uniwersytetu w Białymstoku, t. 2, Białystok 2000, 191 s.

стыпэндыяты з Амэрыкі, Кітаю, Галяндыі і Англіі, лічачы нас надзейнымі экспэртамі ва ўсходнеславянскай праблематыцы, а асабліва — у праблемах Беларусі“,— зазначае пані Эльжбета.

Пяць гадоў Эльжбета Смулкова плённа кіравала катэдрай, была на чале каманды здольных людзей, сапраўды зацікаўленых тым, што робяць, пасьля чаго перадала кіраўніцтва катэдрай гісторыку прафэсару Яўгену Міратовічу, зь якім яшчэ год працавала, а потым вярнулася ў Варшаўскі ўнівэрсытэт.

У цяперашніх цяжкасьцяў катэдры беларускай культуры Ўнівэрсытэту ў Беластоку ёсьць суб'ектыўныя і аб'ектыўныя прычыны, ня ўсе можна зразумець, а тым больш пагадзіцца зь імі, мяркуе пані Эльжбета:

„На мой погляд, беластоцкія беларускія філёлягі робяць крыўду самі сабе, не разумеючы патрэбы адыходу ад чыста філялягічных дасьледаваньняў на карысьць шырокіх ведаў пра Беларусь і яе праблемы. Няма вялікага сэнсу філялягічна вывучаць у замежнай краіне беларускую мову, калі нават беларусы ў сваёй дзяржаве ад яе адыходзяць, калі вядома, што ў Беларусі трэба абавязкова ведаць расейскую, а толькі потым беларускую мову… Было б лепей, калі б яны больш увагі надавалі не вывучэньню тэорыі мовы й граматыкі, а больш вучылі пра Беларусь як краіну, пра яе гаспадарку і культуру, пра людзей, пра грамадзкія і культурныя, а таксама палітычныя праблемы, каб разумець, што там адбываецца, якія там дачыненьні ўлады і народу, якія дачыненьні паміж рознымі нацыянальнымі групамі. Трэба шырока займацца беларусістыкай як такой. Калі б супольна зрабілі ў Беластоку Інстытут беларусазнаўства, як канкрэтна прапанавала ў свой час катэдра беларускай культуры, то гэта напэўна сустрэлі б зацікаўлена студэнты і зь Беларусі, і з Польшчы, дый зь іншых краін прыяжджалі б вучыцца. Дзе-дзе, а на Беласточчыне павінен быць такі навуковы асяродак, які займаецца Беларусьсю ў цэлым“,— такую параду дае сваім былым калегам і вучням прафэсар Эльжбета Смулкова.

# Беларускае слова і беларускі націск

*Зьмястоўная разнастайнасьць і храналёгія стварэньня пададзеных публікацыяў дазваляюць заўважыць бесьперапыннасьць у дасьледаваньні жывой народнай гаворкі. Пашыраецца тэрытарыяльны абсяг дасьледаваньняў, мяняецца праблематыка і ў залежнасьці ад патрэбаў — мэтодыка дасьледаваньня, але ў цэнтры ўвагі застаецца чалавек на канкрэтным месцы і ягоная мова*[61].

Эльжбета Смулкова ўвесь час шырыла свой навуковы інтарэс, расшырала спэцыялізацыю. „Так цікавей“,— прызнаецца яна. Доктарскую дысэртацыю (адпаведнік кандыдацкай у Беларусі) пані Эльжбета абараніла аб аграрнай лексыцы, а габілітацыю (адпаведнік доктарскай у Беларусі) зрабіла на беларускай акцэнталёгіі, навуцы аб націску ў беларускай мове.




*Кніга Э. Смулковай пра аграрную лексыку.*

Амаль 10 гадоў пані Эльжбета вывучала земляробчую лексыку Беласточчыны на фоне польскай і ўсходнеславянскіх моваў і гаворак, асабіста зьбірала лексычныя зьвесткі па ўсёй Беласточчыне і ў шэрагу рэгіёнаў Беларусі. Беларуская земляробчая лексыка вельмі старажытная, яна ўтрымлівае ў сабе і групу агульнаславянскіх словаў, і словы, якімі карыстаецца частка славянскіх народаў.

А ёсьць архаізмы, якія засталіся толькі ў некаторых гаворках. Прафэсар Смулкова, напрыклад, зафіксавала на Палесьсі слова *вуе*, якое абазначае частку сахі (дышаль з

[61] Elżbieta Smułkowa, *Białoruś i pogranicza*, s. 11.

разьвілістымі ручкамі), гэтае слова яшчэ захавалася ў кашубскай мове. Дзякуючы распаўсюду пэўных аграрных тэрмінаў можна прасачыць шляхі міграцыі асобных славянскіх плямён у дагістарычныя часы.

Дасьледаваньні пані Эльжбеты таксама паказалі, наколькі важны для беларускай мовы балцкі элемэнт.

Такую моваснаўчую працу для тэрыторыі Ўсходняй Польшчы і Беларусі да Эльжбеты Смулковай яшчэ ніхто не рабіў, яна была першай. І зрабіла гэта своечасова, бо ўжо сышло пакаленьне, якое цалкам валодала старажытнай аграрнай лексыкай, і радыкальна памяняліся прылады працы на зямлі. Калі пані Эльжбета пачынала сваю працу, яшчэ амаль не было трактароў.

Фундамэнтальная праца пані Смулковай пра аграрную лексыку „Słownictwo z zakresu uprawy roli w gwarach wschodniej Białostocczyzny na tle wschodniosłowiańskim“ выйшла двума тамамі ў 1968 годзе ва Ўроцлаве.

Пані Эльжбета, відаць, лепей за іншых ведае, як ва ўсім усходнеславянскім моўным арэале называюць розныя сельскагаспадарчыя расьліны, прылады для іх апрацоўкі, зямельныя надзелы, пэрыяды высыпаваньня культураў і да т. п.

Вялікія артыкулы яна прысьвяціла пашырэньню розных назваў збожжавых культураў, назвам зжатага поля (*пожня, ржыска, сьцярня, жніўнік, іржэўнік, жытніска*), дасьледавала, дзе кажуць *разора*, а дзе *баразна*, чаму падвойны колас (*спарыш*) у беларусаў лічыцца прыкметай дабрабыту і ўдачы.

Асобныя артыкулы пані Эльжбеты прысьвечаныя літуанізмам у беларускай аграрнай лексыцы (*пуня, сьвіран, дзірван, бонда, кумпяк*).

На дзіва для беластоцкіх беларусаў, якія выпісваюць беларускамоўную газэту „Ніва“, само слова *ніва*, як выявіла Эльжбета Смулкова, мала ўжываюць у вёсках гэтага рэгіёну, а месцамі нават не разумеюць. Падчас дасьледаваньня, праведзенага пані Эльжбетай у 60-х гадох мінулага стагодзьдзя, добра ведалі гэтае слова хіба толькі ў ваколіцах Кузьніцы Беластоцкай і Саколкі. Пані Эльжбета робіць выснову, што слова *ніва* мае „літаратурны характар і ў жывой мове выкарыстоўваецца ў пераносным значэньні“[62].

Аграрная лексыка ўвогуле дае шмат цікавых сьведчаньняў узаемнага ўплыву дыялектаў на польска-літоўска-беларускім памежжы, што дакладна апісала прафэсар Смулкова.

---

[62] Elżbieta Smułkowa, *Białoruś i pogranicza*, s. 188.

> „Словы, якія яднаюць беларускую аграрную тэрміналёгію з польскаю, не канчаюцца на Смаленшчыне, а ідуць далей у кірунку Масквы. На паўдарозе паміж Вязьмаю і Масквою праходзіць некалькі лексычных межаў, напрыклад, далей ужо сеялі не *буракі*, а *свеклу*“,— распавядае прафэсар Смулкова.

Наш *бурак*, такім чынам, дайшоў да Вязьмы, пашырыўся на поўначы да Балтыкі і да Крыму на поўдні. Слова *бурак* фактычна яднае краіны былой Рэчы Паспалітай: Беларусь, Літву, Польшчу, Украіну, а таксама частку сучаснай Расеі.

Этымалёгія слова *бурак* даўняя. Слова паходзіць з лаціны (borago — агурочнік, агурковая трава). На тэрыторыю Рэчы Паспалітай бурак патрапіў у 1472 годзе, і назву яму далі іншай расьліны — агурковай травы, бо і тое, і другое тады выкарыстоўвалі ў якасьці салаты.

Але, як мяркуе пані Эльжбета, найперш аб'ядноўвае былыя землі Рэчы Паспалітай слова *жыта*. Яно, а таксама слова *араць* даходзяць да Смаленску.

З сотняў дасьледаваных прафэсарам Смулковай аграрных словаў не магу не зьвярнуць увагу на „бульбу“. Як піша пані Эльжбета ў працы „Прыклады міждыялектнай інтэрфэрэнцыі ў галіне слоўніцтва“ (1970), на Беласточчыне гэтую культуру называюць *картофля*, *картофлі*, *бульба*, *бульва* — прычым апошнія два варыянты фігуруюць у паўночна-ўсходняй частцы гэтай тэрыторыі, а першыя — на поўдні і захадзе.

Такі самы тып разьмежаваньня дзейнічае і на тэрыторыі Рэспублікі Беларусі: *картофля* — на паўднёвым захадзе, *бульба* — на поўнач і ўсход ад Менску, а таксама на поўначы Гарадзеншчыны.

> „На поўдзень ад Менску, больш-менш на ўзроўні Чэрвеня, натуральнай мяжой паміж словамі *бульба* і *картофля* выступае Бярэзіна, а далей Дняпро. Па абодва бакі гэтага падзелу спарадычна зьяўляюцца назвы супрацьлеглых тыпаў. Гэта датычыць асабліва назвы *бульба*, якая мае пэўную канцэнтрацыю ў ваколіцах Ганцавічаў, Лунінца і Століна. На захад ад Пружанаў — *бульва*“[63].

*Картофля* — выразнае запазычаньне зь нямецкай мовы, ад *kartoffel*. Беларускае *бульба* — мае верагодную сувязь з польскім

---

[63] Elżbieta Smułkowa, *Białoruś i pogranicza*, s. 268.

словам *bulwa*, як і літоўская *bùlbė*, *bùlvė*. Пры гэтым не да канца высьветленая этымалёгія слова ў польскай мове, лічыць прафэсар Смулкова.

Дзесяць гадоў вывучаючы земляробчую лексыку ў беластоцкіх і беларускіх вёсках, Эльжбета Смулкова заўважыла, што аднолькавыя словы ў розных рэгіёнах Беларусі маюць розныя націскі. Беларуская мова мае рухомы націск, адрозна ад польскай мовы, дзе ён фіксаваны —на перадапошнім складзе. Беларуская акцэнталёгія і стала новаю тэмаю працы прафэсара Смулковай.

> „Паколькі пытаньні націску не былі яшчэ для беларускай мовы, а асабліва для яе дыялектаў, дастаткова апрацаваныя, я вырашыла заняцца гэтымі праблемамі з сыстэмнага боку, а ня толькі зь лексычнага“[64].

Вывучэньне націску ў беларускай мове запатрабавала вельмі шмат тэарэтычнай працы, матэрыял выявіўся навукова складаным, зьвязаным з гісторыяй разьвіцьця розных моваў. Гэтае дасьледаваньне прафэсара Смулковай вылілася ў фундамэнтальную працу — „Studia nad akcentem języka białoruskiego. Rzeczownik“, апублікаваную ў 1978 годзе ў Варшаве.

> „Гэта была вельмі цікавая і вельмі складаная праца, мне тут вельмі дапамагла Зузанна Тапалiньска [н. 1931], польская мовазнаўца, якая жыве ў Македоніі і цяпер зьяўляецца акадэмікам Македонскай акадэміі навук, а таксама працы выбітнага тэарэтыка-лінгвіста Ежы Курыловіча [1895—1978]. Акцэнталёгія паказала вельмі характэрную розьніцу паміж паўночна-ўсходнім беларускім моўным абшарам і поўднем Беларусі“,— распавядае пані Эльжбета пра сваю працу.

Праца вельмі тэарэтычная, але прафэсар Смулкова пагадзілася выкласьці мне нейкі характэрны прыклад са сваіх акцэнталягічных дасьледаваньняў:

> „Ёсьць, напрыклад, слова *рукá*, націск падае на канчатак. Беларус скажа: *падай мне рукý*, а расеец — *подай рýку*. Чаму? Бо ў славянскіх мовах для словаў жаночага роду, якія канчаюцца на *-а*, былі некалі дзьве парадыгмы націску: адна захоўвала націск на корані, як, напрыклад, ва ўсіх формах слова *лíпа*.

---

[64] *Pogranicza języków. Pogranicza kultur*, s. 14.

Другая парадыгма прадугледжвала націск на канчатку, які мог пераходзіць на корань, так як у расейскай мове *руќа,* але *дай ру́ку*.

Адна з высноваў адсюль такая ж, як і ў лексыкалёгіі: калі ў беларускай мове мы бачым выроўніваньне націску ўнутры парадыгмы, часта гэта паказвае на балцкі ўплыў і сьведчыць, што гэтая беларуская гаворка маладая, што калісьці тут людзі гаварылі на балцкай мове“.

Такім чынам, дзякуючы навуцы аб націску прафэсар Смулкова дадаткова пацьвердзіла слушнасьць тэорыі балцкага субстрату ў фармаваньні беларускай народнасьці, зь якой у 60-х гадох мінулага стагодзьдзя выступіў вядомы расейскі гісторык і археоляг Валянцін Сядоў (1924—2004).

Дарэчы, Валянцін Сядоў меў магчымасьць у 1966 годзе прачытаць даклады аб балцкім субстраце ў этнагенэзе беларусаў у Варшаве і ў Беларускім навуковым таварыстве ў Беластоку[65].

Зь ягонымі працамі Эльжбета Смулкова добра знаёмая. Прафэсар Смулкова кажа, што тэорыя балцкага субстрату на моўным узроўні пацьвярджаецца ў розных аспэктах, ня толькі праз націск.

Вывучэньне адрозьненьняў націску ў гаворках розных рэгіёнаў, зробленае прафэсарам Смулковай, паказвае, кудой ішла дагістарычная міграцыя, чаму гэтулькі супольнага паміж поўднем Беларусі і Ўкраінай, бо некаторыя маўленчыя рысы, распаўсюджаныя ва Ўкраіне, ідуць даволі далёка ва ўсходнюю Беларусь, ажно да Магілёва. У заходнім жа кірунку параўнальная акцэнталёгія выявіла выразнае адрозьненьне Берасьцейшчыны ад астатняй тэрыторыі Беларусі.

[65] *Беларусы — славяна-балты?* З Валянцінам Сядовым гутарку вялі Алеся Сёмуха і Юры Васілеўскі // „Літаратура і мастацтва“. 1993, 30 красавіка.

# Мовазнаўства памежжа

*Знаходзячыся паміж Усходам і Захадам,*
*важна бачыць у гэтым сваю спэцыфіку, сваё*
*багацьце. Пазнаваць сваіх суседзяў і сувязі зь імі,*
*выпрацоўваць узаемапавагу*[66].

Дасьледзінамі аграрнай лексыкі і акцэнталёгіі прафэсар Эльжбета Смулкова завяршыла „чыста лінгвістычную“ навуковую працу, захапіўшыся міждысцыплінарнымі дасьледаваньнямі, узаемадапаўняльнай працай мовазнаўцаў, гісторыкаў, этнографаў, культуролягаў, сацыёлягаў, прадстаўнікоў іншых навук.

> „Далей я пачала цікавіцца моўнымі кантактамі, зноў жа натхніўшыся Беласточчынай, маёй навуковай крыніцай. Мяне цікавіў моўны кантакт як рэалізацыя людзкой камунікацыі, дзе людзі сутыкаюцца зь дзьвюхмоўем і шматмоўем. З гэтага зацікаўленьня моўнымі кантактамі, ужо даволі добра апрацаванымі тэарэтычна ва ўсясьветным і славянскім мовазнаўстве, узьніклі розныя навуковыя артыкулы на гэтую тэму, выйшлі спэцкурсы для студэнтаў Варшаўскага ўнівэрсытэту і арганізаваныя мною Міжнародныя школы памежжа, дый наагул распрацоўка праблемаў моўнага і этнічнага памежжа — чым яно фактычна ёсьць, як функцыянуе“,— гэтак каратка апісвае прафэсар Смулкова свай далейшы шлях у навуцы.

Эльжбета Смулкова шмат зрабіла для вывучэньня польска-беларуска-літоўскіх моўных кантактаў у гісторыі й сучаснасьці, са шматлікімі выездамі на месцы сама глыбока дасьледавала моўнае памежжа трох суседніх народаў, кіравала іншымі навукоўцамі і студэнтамі, распрацоўвала мэтодыку палявой працы, разьмяжоўвала паняцьці „пераходных“ і „мяшаных“ гаворак, дасьледавала фэномэны дзьвюхмоўя і шматмоўя, апісвала беларускія элемэнты ў творчасьці Адама Міцкевіча. Гэта вельмі кароткае апісаньне тэмаў і праблемаў, над якімі працавала і працуе далей Эльжбета Смулкова ў галіне мовазнаўства памежжа: дасьледуе сама, ладзіць экспэдыцыі, сэмінары, курсы, рыхтуе супольныя навуковыя публікацыі.

---

[66] З выступу Эльжбеты Смулковай на адкрыцьці Другога кангрэсу Міжнароднай асацыяцыі беларусістаў. Менск, 1997.

У працах, прысьвечаных гістарычным узаемным уплывам польскай і беларускай моваў, Эльжбета Смулкова робіць выснову, што самым істотным для паглыбленьня сувязяў беларускай мовы з польскаю быў пэрыяд, засьведчаны багатым і стылістычна разнародным старабеларускім пісьменствам:

„Пачатак гэтага пэрыяду сягае канца XIV стагодзьдзя (Крэўская унія 1385 году), а яго апагей прыпадае на другую палову XVI стагодзьдзя (Люблінская унія 1569 году). У дачыненьні да гэтага пэрыяду можна сьмела гаварыць пра пазытыўны ўплыў польскае мовы на разьвіцьцё беларускае. У беларускі слоўнікавы запас уваходзяць тыповыя пазычаньні назваў, прынесеных разам з новымі рэаліямі і паняцьцямі, што сьведчылі аб зьменах у гістарычнай сытуацыі“[67],— піша прафэсар Смулкова ў працы „Аб польска-беларускіх моўных сувязях у часавым і тэрытарыяльным аспэкце“ (1988).

Пасьля пэрыяду росквіту пачынаецца заняпад старабеларускае пісьмовае мовы пад ціскам палянізацыі, пра што аўтарка падрабязна піша далей:

„Моцныя дзяржаўныя, сыстэмныя і культурныя повязі Вялікага Княства Літоўскага з Каронаю прывялі да ўніфікацыі стылю жыцьця і звычаяў вышэйшых пластоў, а таму і асноўнага сродку камунікацыі паміж імі — мовы. Польская мова адыграла тут у дачыненьні да беларускага пісьменства цалкам дэструкцыйную функцыю. Было гэта, відаць, магчымым таму, што тагачасная беларуская канцылярская мова (нягледзячы на тое, што яна абыймала розныя стылі пісьменства) выступала хутчэй як міжнароднае «кайнэ» з пэўнаю функцыяй, чым агульнанацыянальная літаратурная мова“[68].

Займалася і займаецца Эльжбета Смулкова ня толькі гістарычнымі, але і сучаснымі польска-беларускімі сувязямі і ўзаемнымі ўплывамі на ўзроўні мовы, культуры, этнаграфіі — як аўтар і як арганізатар важных навуковых праектаў.

У 2001—2006 гадох у рамках навучальна-дасьледчай праграмы Міжнароднай гуманітарнай школы Цэнтру дасьледаваньняў антычнай традыцыі ў Польшчы і Цэнтральна-Ўсходняй Эўропе

[67] Elżbieta Smułkowa, *Białoruś i pogranicza*, s. 296.
[68] Ibidem, s. 300.

Варшаўскага ўнівэрсытэту пад кіраўніцтвам Эльжбеты Смулковай ладзіліся тэарэтычныя лекцыі і палявыя дасьледаваньні пад агульнай назвай „Памежжы Беларусі: гісторыя, культура, мова“, у якіх узялі ўдзел больш за сотню студэнтаў і навукоўцаў зь Беларусі, Літвы, Польшчы і Расеі. Вынікам гэтых дасьледаваньняў сталася калектыўная кніга „Памежжы Беларусі ў міждысцыплінарнай пэрспэктыве“, рэдагаваная супольна Эльжбетай Смулковай з Аннай Энгелькінг[69].

> „Асноўнай дасьледчай мэтай нашага калектыву было жаданьне пазнаёміцца і добра зразумець людзей памежжа. Мы хацелі зразумець, як фармуецца іх самасьвядомасьць і гістарычная памяць, як успрымаюць яны сваю культуру і як ставяцца да моваў, якімі карыстаюцца. Кіравала намі цікавасьць да таго, як людзі памежжа бачаць сьвет“,— гэтак ахарактарызавалі працу кіраўнікі курсаў Эльжбета Смулкова і Анна Энгелькінг у прадмове да выданьня.

У гэтай публікацыі прафэсар Смулкова таксама зьмясьціла свой артыкул „Вакол паняцьця памежжа. Усходняе і заходняе памежжы Беларусі ў параўнаўчым аспэкце“ (Wokół pojęcia pogranicza. Wschodnie i zachodnie pogranicze Białorusi w ujęciu porównawczym). Тут яна дапоўніла азначэньне памежжа, якім карыстаецца ў сваіх дасьледаваньнях, паказала істотныя тыпалягічныя ды генэтычныя адрозьненьні паміж заходнім і ўсходнім памежжамі Беларусі.

У 2009—2011 гг. пад рэдакцыяй Эльжбеты Смулковай у выдавецтве Варшаўскага ўнівэрсытэту двума тамамі выйшла іншая калектыўная праца „Браслаўшчына. Памяць і сучаснасьць“[70] — плён шматгадовых дасьледаваньняў гэтага рэгіёну, ажыцьцёўленых польскімі і беларускімі навукоўцамі.

Такое комплекснае мультыдысцыплінарнае вывучэньне асобнага рэгіёну Беларусі, шматэтнічнага і шматмоўнага, зроблена ўпершыню ў гісторыі. Матэрыялы зьбіраліся ў 112 паселішчах цягам 10 гадоў — з 1997 па 2007. Калектыўная праца выяўляе культурна-гістарычную характарыстыку рэгіёну, нацыянальны і канфэсійны склад, культурнае разьвіцьцё, паваенную міграцыю,

---

[69] *Pogranicza Białorusi w perspektywie interdyscyplinarnej*, red. Elżbieta Smułkowa, Anna Engelking, Warszawa, 2007.

[70] *Brasławszczyzna. Pamięć i współczesność:* Tom I: *Historia regionu. Charakterystyka socjolingwistyczna. Świadectwo mieszkańców*, Warszawa 2011; Tom II: *Słownictwo dwujęzycznych mieszkańców rejonu (Słownik brasławski)*, Warszawa 2009.

сучасныя сацыялінгвістычныя працэсы, рысы мясцовых беларускіх, польскіх, літоўскіх гаворак, сфэры выкарыстаньня расейскае мовы ды яе ўплыў на беларускія і польскія гаворкі, а таксама падае шматлікія вусныя сьведчаньні мясцовых жыхароў — народную гістарычную памяць краю.

Прафэсар Смулкова вельмі радая, што мэтадалёгію, выкарыстаную ў дасьледаваньні Браслаўшчыны і ўкладаньні выніковага двухтамовіка, беларускія навукоўцы ўжо скарыстоўваюць для вывучэньня іншых раёнаў сваёй краіны.

Пані Эльжбета напісала шмат грунтоўных працаў аб моўнай сытуацыі ў Беларусі, намагаючыся навукова ацаніць гісторыю і сучасны стан беларускага-расейскага дзьвюхмоўя.

У артыкуле „Дзьвюхмоўе па-беларуску: білінгвізм, дыглясія ці нешта іншае?“ (2000) прафэсар Смулкова прыходзіць да высновы, што моўную сытуацыю ў Беларусі варта акрэсьліць новым тэрмінам — „парадыглясія“.

Аўтарка піша, што рэфэрэндум 1995 году, калі паводле афіцыйных зьвестак 83,3 працэнта выбаршчыкаў прагаласавалі за дзяржаўнае дзьвюхмоўе, фактычна стаўся дазволам на расейскую аднамоўнасьць у дзяржаўным жыцьці Беларусі, таму пра білінгвізм тут можна казаць толькі з пэўным сарказмам[71].

У сваім дасьледаваньні моўнай сытуацыі прафэсар Смулкова абапіралася на тэорыю білінгвізму і дыглясіі выбітнага амэрыканскага сацыялінгвіста, спэцыяліста ў праблемах шматмоўя Джошуа Фішмана (1926—2015)[72].




*Двухтамовік аб Браслаўшчыне.*

Апошні назваў дыглясіяй сытуацыю, калі выкарыстаньне адной зь дзьвюх (а часам і больш) моваў у грамадзтве добра рэглямэнтаванае, і гэтыя правілы зьберагаюць як мінімум тры пакаленьні: адну мову выкарыстоўваюць, напрыклад, дома, другую — у грамадзкіх

[71] Elżbieta Smułkowa, *Białoruś i pogranicza*, s. 414.
[72] J. A. Fishman, *The Rise and Fall of the Ethnic Revival: Perspectives on Language and Ethnicity*. Berlin & New York, 1985. P. 39—56.

месцах. Білінгвізмам лічыцца сытуацыя, калі дзьве мовы выкарыстоўваюцца папераменна бяз выпрацаваных грамадзтвам асноваў разьмежаваньня іхных функцыяў.

Ацэньваючы на канкрэтных прыкладах і тэндэнцыях моўную сытуацыю ў Беларусі, уступаючы ў спрэчку зь іншымі тэарэтыкамі, прафэсар Смулкова прыходзіць да высновы, што беларускай рэчаіснасьці не пасуе ніводны тэрмін, распрацаваны славутым сацыялінгвістам: ані білінгвізм, ані дыглясія, ані білінгвізм у суправаджэньні дыглясіі, ані білігвізм без дыглясіі, ані дыглясія безь білінгвізму.

Дасьледніца бачыць „*камунікацыйную сытуацыю, у якой народная гаворка, добра захаваная ў хатніх і суседзкіх умовах, у вонкавых кантактах замяняецца «трасянкай» альбо значна насычаецца русізмамі. Гэтую сытуацыю, з прычыны такога самага, як пры білінгвізьме з дыглясіяй, мэханізму выкарыстаньня ў афіцыйных умовах мовы з вышэйшым прэстыжам, я разглядаю як пэўнага роду* ***парадыглясію***“[73].

І нават гэты стан ужо знаходзіцца пад пагрозай, піша аўтарка, бо ў цяперашняй палітычнай і эканамічнай сытуацыі захаваньне роднай мовы і культуры вымагае ад беларусаў вельмі сьвядомых рашэньняў, узгодненасьці ў словах і справах, на што ня ўсе здольныя:

> „Апісанае вышэй дзьвюхмоўе — і з уласна дыглясіяй, і парадыглясійнае, і ў якім дыглясіі ўгледзець няма як — стаіць перад сур’ёзнай пагрозай. Акрамя дзьвюхмоўя, як вядома, пашыраецца трэцяя якасьць — «трасянка»“[74].

„Трасянка“ ж, на думку прафэсара Смулковай, у цяперашніх умовах у Беларусі вядзе да расейскай аднамоўнасьці, таму паўнавартасны білінгвізм быў бы куды меншаю пагрозаю для беларускай нацыянальнай ідэнтычнасьці.

Нэгатыўна ставіцца Эльжбета Смулкова да спробаў нямецкіх лінгвістаў прызнаць беларуска-расейскую „трасянку“ асобнаю моваю, трэцяю ў Беларусі. Ідзецца пра так званы „Ольдэнбурскі праект“, якім кіруе вядомы нямецкі славіст Герд Гэнчэль (н. 1953), прафэсар Інстытуту славістыкі ўнівэрсытэту ў Ольдэнбургу. Праект мае назву „Трасянка ў Беларусі: «зьмешаны код» як прадукт беларуска-расейскага моўнага кантакту. Моўнае структураваньне, сацыялінгвістычныя мэханізмы ідэнтыфікацыі і сацыяэканоміка мовы“. Прафэсар Смулкова кажа:

[73] Elżbieta Smułkowa, *Białoruś i pogranicza*, s. 417.
[74] Ibidem, s. 423.

„Герд Гэнчэль стварыў калектыў дасьледнікаў, нямецкіх маладых навукоўцаў, у які запрасіў супрацоўнікаў зь Беларусі, і пачаў даказваць, што «трасянка» — гэта нібыта самастойная мова і што яна можа нават выцесьніць беларускую, бо на трасянцы людзі размаўляюць. Зразумела, што ўсё можна дасьледаваць, усё, што яны хочуць і як хочуць, але мне ў гэтым праекце перашкаджае тое, што яны быццам бы не разумеюць: «трасянка» — гэта індывідуальная рэч, заснаваная на розных беларускіх дыялектных падставах. Адна будзе «трасянка» ў палешука, іншая — на аснове магілёўскай гаворкі, яшчэ іншая — на базе горадзенскай і г.д. І ў кожнага чалавека можа быць розная «трасянка» ў залежнасьці ад многіх чыньнікаў, у тым ліку ад магчымасьці і здольнасьці авалодаць расейскаю літаратурнаю моваю. Яны гэтага зусім ня ўлічваюць, а запісаныя прыклады тэкстаў на трасянцы параўноўваюць зь беларускай літаратурнай мовай. Таму, што я тут кажу, не пярэчыць факт, што наагул няцяжка прадугледзець, якія пласты расейскай лексыкі трапляюць у «трасянку» незалежна ад розных беларускіх дыялектных асноваў. Свае заўвагі я грунтую перадусім на дакладах, пачутых на Міжнародным зьезьдзе славістаў у Менску ў 2013 годзе“.

І прычына ўзьнікненьня гэтай „трасянкі“, і наступствы яе далейшага распаўсюду ў Беларусі маюць адзіны пачатковы адрас і адзіны далейшы кірунак — русыфікацыю, выцясьненьне беларускае мовы расейскаю.

Пані Эльжбета была на стажы ў Менску ў студзені 1959 году, акурат калі савецкі кіраўнік Мікіта Хрушчоў (1894—1971) пасьля сьціплай спробы Кірылы Мазурава (1914—1989) на ўрачыстым сходзе да 40-годзьдзя БССР выступіць па-беларуску нічога не зразумеў зь ягонага дакладу і пазьней на прыступках БДУ заявіў: „Чем скорее все мы будем разговаривать по-русски, тем скорее построим коммунизм“. Пані Эльжбета тады хадзіла разам зь беларускімі калегамі-мовазнаўцамі з Акадэміі навук вітаць Хрушчова і ягоную сьвіту на Цэнтральнай (цяпер Кастрычніцкая) плошчы.

„Ён стаяў на трыбуне, а мы праходзілі міма. Успрымалася гэта як першамайская дэманстрацыя ў Польшчы, калі мы ішлі такім шэсьцем, але трымалі дулі ў кішэні“,— памятае пані Эльжбета.

Савецкія ўлады камунізму не пабудавалі, а беларускую мову паставілі пад пагрозу зьнікненьня. Русыфікацыя Беларусі 60—70-х гадоў дваццатага стагодзьдзя была працэсам, ініцыяваным зьверху, з Масквы, мяркуе пані Эльжбета. Цяпер жа сытуацыя памянялася:

„Цяпер ужо ідзе ўласная русыфікацыя беларусаў: людзі нагэтулькі прывыклі да панаваньня расейскай мовы, што ўспрымаюць гэтую сытуацыю як натуральную. Цяпер, як мне падаецца, няма ўжо гэтага савецкага ціску, бо няма СССР, але ў Беларусі далей пануе расейская мова. І тавары расейскія, і СМІ, і эстрада,— усё гэта ёсьць носьбітам расейскай мовы і культуры, заходняя масавая культура ў Беларусь трапляе таксама праз Расею, і людзі ўспрымаюць гэта як сваё“.

Прафэсар Смулкова прызнае, што яе вельмі хвалюе заняпад ужываньня беларускай мовы ў беларускай дзяржаве. Усё яе навуковае жыцьцё было зьвязанае зь беларускай мовай, і цяпер вельмі сумна назіраць, як беларуская мова стаіць на мяжы выжываньня, як ёй пагражае зьнікненьне:

„Мне гэта вельмі крыўдна, можа, таму я сьвядома ў Беларусі заўсёды размаўляю па-беларуску. Дзе б ні была. Мне вельмі шкада, бо маю поўнае разуменьне таго, што беларуская мова мае раўнапраўную магчымасьць існаваньня разам зь іншымі славянскімі мовамі. Лінгвісты дакладна разумеюць, што мова мае свае ўнутраныя правілы і падлягае розным вонкавым абмежаваньням. Прычына таго, што значэньне беларускай мовы невялікае і падае далей,— не ўнутрымоўная, яе абмяжоўваюць вонкавыя ўмовы.

Ніколі не пагаджуся з выказваньнямі, што гэта слабая мова, што на ёй нельга нічога выказаць. Пераклаў жа Браніслаў Тарашкевіч «Пана Тадэвуша»? Чытаецца добра? Так. А калі гэта было? І калі б усё нармальна разьвівалася, то беларуская мова была б адной з паўнавартасных славянскіх моваў.

Мы, славяне, ужо страцілі палабскую мову. Яшчэ ў 1960 годзе на Міжнародным кангрэсе славістаў у Баўгарыі я чула, як прафэсар Райнгольд Олеш [1910—1990] цэлую лекцыю прачытаў на палабскай мове. Цяпер жа ўжо няма палабскіх дыялектаў у Нямеччыне, пад пагрозай зьнікненьня і лужыцкая мова, якая пакуль што існуе як архаізм“.

На думку прафэсара Смулковай, беларускай мове ўжо рэальна пагражае падобны лёс:

„Калі нічога ня зьменіцца ў народзе, калі народ сам не захоча гаварыць, то будзе як з палабскай мовай, а можа, як з лацінай,— яна захаваецца ў тэкстах. Цікавых тэкстаў шмат, яны не загінуць. І мова можа захавацца ў форме нейкай запісанай каштоўнасьці“.

Нягледзячы на ўвесь драматызм сытуацыі зь беларускай мовай, прафэсар Смулкова ўсё ж мае надзею, што ейны лёс будзе лепшы, чым у палабскай мовы ці лаціны:

„Я разважаю тэарэтычна, але там, унутры сябе, я веру, што беларуская мова захаваецца. Я ўсё-такі веру. Калі па-беларуску будзеце гаварыць вы і вашыя дзеці, і калі яны яшчэ сваіх дзяцей навучаць, то мова зьберажэцца. Веру, што захаваецца, не магу дапусьціць, што не. Пакуль беларускія сяляне будуць карыстацца беларускімі гаворкамі, то і літаратурную мову можна будзе яшчэ адрадзіць, але калі вёска таксама моўна зрусыфікуецца, то ўжо ня будзе магчымасьці. Вёска — апошні бастыён мовы“.

Калі ў польскім друку выходзяць публікацыі пра хуткую сьмерць беларускай мовы, пра тое, што ўжо і беларускія сяляне не зацікаўленыя ў зьберажэньні сваёй мовы, прафэсар Смулкова ўступае ў палеміку, хоць прызнае некаторыя факты, якія падаюць тыя аўтары. Але пры гэтым пані прафэсар добра разумее:

„На мой погляд, беларуская мова як адна з усходнеславянскіх мае ў сваёй структуры ўсе магчымасьці самастойнага разьвіцьця. Уся праблема ў тым, што ня можа існаваць мова, на якой людзі не гавораць. Нейкай структурнай лінгвістычнай праблемы тут няма, праблема галоўным чынам сацыяльна-палітычная“.

І ўсё адно прафэсар Смулкова як сацыялінгвіст робіць важную аптымістычную заўвагу:

„Я была б далёкая ад катэгарычнага прагназаваньня заняпаду беларускае мовы. Нягледзячы на тое, што яе камунікацыйныя функцыі цягам стагодзьдзяў абмяжоўвалі, яна выяўляе трываласьць і жыцьцяздольнасьць, якія зьдзіўляюць лінгвістаў“[75].

---

[75] Elżbieta Smułkowa, *Białoruś i pogranicza*, s. 423, przypis 9.

# Частка пятая.
# Пані амбасадар



# Сьведка незалежнасьці

*Мне было дадзена працаваць у Беларусі ў пераломную эпоху, у 1991—1995 гадох. Гэта быў вельмі цікавы, творчы час інтэнсіўнай зьмены ладу ў Польшчы, распаду Савецкага саюзу і ўзьнікненьня новай беларускай дзяржаўнасьці. Час наладжваньня двухбаковых польска-беларускіх дыпляматычных дачыненьняў на новым, партнэрскім грунце.*

Эльжбета Смулкова[76]

Эльжбета Смулкова прыбыла на новую працу ў Менск праз тры тыдні пасьля абвяшчэньня Вярхоўным Саветам незалежнасьці Беларусі. Менавіта ёй давялося ўсталёўваць дыпляматычныя дачыненьні зь Беларусьсю, якая заўсёды была блізкаю да Польшчы, паглыбляць існыя і наладжваць новыя сувязі ў палітыцы, эканоміцы, культуры, навуцы, вырашаць сотні праблемаў,



*Амбасадар Польшчы Эльжбета Смулкова ўручае даверчыя лісты старшыню Вярхоўнага Савету Станіславу Шушкевічу.*

[76] *Pogranicza języków. Pogranicza kultur*, s. 15.

якія паўставалі на супольных межах, у дачыненьнях людзей і прадпрыемстваў, быць сьведкай тварэньня ў Беларусі новага дзяржаўнага ладу, дэмакратычных зьменаў, беларусізацыі пачатку 90-х, а пазьней першых выбараў прэзыдэнта ды іншых значных для Беларусі падзеяў. Яе погляд на тыя падзеі знутры і як бы крыху звонку несумненна цікавы для беларускай гісторыі.

Генэральным консулам Эльжбета Смулкова была прызначаная з 12 верасьня 1991 году, на гэтай пасадзе пабыла па 7 траўня 1992 году, потым выконвала функцыі chargé d'affaires — упаўнаважанай у справах Польшчы ў Беларусі, з 11 верасьня 1992 па 30 верасьня 1995 году была першым амбасадарам Рэспублікі Польшчы ў Рэспубліцы Беларусі.



*Супольны здымак пасьля цырымоніі ўручэньня амбасадарам Польшчы Эльжбетай Смулковай даверчых лістоў старшыню Вярхоўнага Савету Станіславу Шушкевічу. У першым шэрагу амбасадар Польшчы ў Рэспубліцы Беларусі Эльжбета Смулкова, старшыня Вярхоўнага Савету Рэспублікі Беларусі Станіслаў Шушкевіч, міністар замежных справаў Пятро Краўчанка. У другім шэрагу муж пані Эльжбеты Віктар Смулэк, далей супрацоўнік аддзелу дзяржаўнага пратаколу МЗС Беларусі Яўген Несьцярэнка, першы сакратар амбасады Польшчы Марэк Зюлкоўскі, супрацоўнік упраўленьня двухбаковага супрацоўніцтва МЗС Беларусі Міхаіл Бацян, польскі дыплямат Марэк Галкоўскі, начальнік упраўленьня двухбаковага супрацоўніцтва МЗС Беларусі Ўладзімер Шчасны.*

Прызначэньне Эльжбеты Смулковай на дыпляматычную службу сталася цалкам нечаканай, але знакавай падзеяй.

Пасьля прыходу ў 1989 годзе да ўлады ў Польшчы шырокага антыкамуністычнага руху „Салідарнасьць“ міністрам замежных справаў стаў Кшыштаф Скубішэўскі (1926—2010). Пры ім пачалася новая замежная палітыка, якая прадугледжвала выхад з Варшаўскага блёку і пазбаўленьне залежнасьці ад Масквы.

„Новы ўрад Польшчы вельмі сур’ёзна ставіўся да стасункаў з суседнімі краінамі, зь якімі меліся нейкія даваенныя непаразуменьні і было супольнае адчуваньне былой гегемоніі Савецкага саюзу над нашымі дзяржавамі. Новыя ўлады хацелі падабраць на пасольскія пасады ня проста дыпляматаў, а спэцыялістаў па гэтых краінах. І так сталася, што мяне ўзялі пад увагу як сур’ёзнага дасьледніка Беларусі“,— успамінае той момант пані Эльжбета.

Міністар замежных справаў Кшыштаф Скубішэўскі ня быў знаёмы з Эльжбетай Смулковай да яе прызначэньня. Прапанаваў яе на пасаду кіраўніка дыпляматычнай пляцоўкі ў Менску Цэнтар усходніх дасьледаваньняў (Ośrodek Studiów Wschodnich), дасьледніцкі асяродак заходняга тыпу think tank, створаны незадоўга да таго, у 1990 годзе, пры Міністэрстве замежнаэканамічнай супрацы спэцыяльна для вывучэньня краінаў на ўсход ад Польшчы.

Стваральнік і кіраўнік гэтага цэнтру, вядомы польскі гісторык і саветоляг Марэк Карп (1952—2004), які ведаў пані Эльжбету і яе навуковыя працы, у тым ліку бываў на яе лекцыях, фактычна і выступіў з ідэяй прызначыць беларусістку кіраўнічкай Генэральнага консуляту ў Менску.

Марэк Карп, род якога паходзіў зь земляў былога Вялікага Княства Літоўскага, шмат зрабіў для падтрымкі незалежніцкіх рухаў у Літве і Беларусі перад распадам СССР. Карп трагічна памёр у 2004 годзе пасьля дарожна-транспартнага здарэньня з удзелам грузавіка зь Беларусі.

Менавіта Марэк Карп у 1990 годзе намаўляў Эльжбету Смулкову пагадзіцца на дыпляматычную працу ў Беларусі.

„Я была намесьніцай дэкана па навуковай працы на факультэце польскай філялёгіі, калі ён прыйшоў да мяне разам са знаёмай журналісткай, якая пазьней таксама пайшла на дыпляматыч-

ную працу. Яны пачалі мяне пераконваць, каб я пагадзілася, калі атрымаю афіцыйную прапанову паехаць у Беларусь генэральным консулам, зазначалі, што патрэбны новы чалавек на гэтай пасадзе і што яны рэкамэндуюць маю кандыдатуру міністру Скубішэўскаму. Для мяне гэта было абсалютна непрымальна. Я была вельмі занятая навукай — і арганізацыйна, і канкрэтнымі калектыўнымі дасьледаваньнямі. Працавала ў той момант на катэдры агульнага мовазнаўства і балтыстыкі. Прайшло ўжо некалькі гадоў, як я была вымушана сысьці з катэдры беларускай філялёгіі Варшаўскага ўнівэрсытэту,— згадвае той нечаканы візыт пані Эльжбета.— На першай сустрэчы я адказала ім адмовай. Але яны надалей прыходзілі, «капалі па кроплі» і паступова пераканалі мяне, што час такі спэцыфічны, што так трэба, што мала хто гэтак ведае Беларусь, як я, і ўрэшце яны дасягнулі свайго“.

Пасьля паўгоду падрыхтоўкі да дыпляматычнай працы на штодзённых курсах у МЗС Польшчы Эльжбета Смулкова ў верасьні 1991 году паехала ў Беларусь генэральным консулам.

„У МЗС не маглі ня ведаць, што я зьвязаная з «Салідарнасьцю», але на гэтым зусім не канцэнтравалі ўвагу, толькі мая беларуская спэцыялізацыя — менавіта яна была найважнейшая падчас прызначэньня“,— кажа пані амбасадар.

З самім міністрам Скубішэўскім яна так і не сустрэлася перад ад’ездам, толькі пазьней бачылася зь ім падчас працоўных візытаў у МЗС Польшчы.

У Менску Генэральны кансулят Польшчы дзейнічаў яшчэ да вайны, з 1924 па 1939 год; на цяперашнім праспэкце Незалежнасьці нават захаваўся будынак, дзе працавалі польскія дыпляматы ў міжваенны час. Па вайне праца Генэральнага кансуляту ў Менску была адноўленая толькі ў 1972 годзе ў будынку на вуліцы Румянцава, 6.

Эльжбета Смулкова зьмяніла генэральнага консула РП Тадэвуша Мысьліка (1928—2011), які пабыў на гэтай пасадзе два гады, у 1990—1991 гадох.

„Генэральны консул — асноўны прадстаўнік Польскай дзяржавы ў Беларусі. Тады яшчэ не было самастойнай Беларусі, і справа палягала ў тым, каб весьці ўсе магчымыя кантакты

зь Беларусьсю — гаспадарчыя, культурныя, навуковыя, перaказваць інфармацыю пра Польшчу для беларускіх уладаў, наладжваць двухбаковыя дачыненьні. Генэральны консул у Беларусі быў зьвязаны з амбасадай Польшчы ў СССР, і я памятаю і добра ўспамінаю свой візыт на пачатку місіі ў амбасаду Польшчы ў Маскве, якою кіраваў Станіслаў Цёсэк“ [н. 1939].

Прыезд пані Смулковай у якасьці кіраўніка польскай дыпляматычнай місіі ў Менску шчыра віталі, у яе ахвотна бралі інтэрвію беларускія мас-мэдыя. Прафэсар Адам Мальдзіс (н. 1932) заявіў, што пані Эльжбета *„пачала новую эру ў дзейнасьці замежных дыпляматычных прадстаўніцтваў у Менску: першы генэральны консул — жанчына, першы генэральны консул, які свабодна, грацыёзна валодае беларускай мовай, першы генэральны консул — філёляг, беларусіст, які даўно і плённа дасьледуе польска-беларускае моўнае памежжа“*[77].

Гістарычныя падзеі разьвіваліся вельмі хутка. Пасьля правальнага путчу ў Маскве ў канцы жніўня 1991 году СССР пачаў распадацца, Вярхоўны Савет Беларусі абвясьціў незалежнасьць краіны. 25 жніўня парлямэнт Беларусі надаў Дэклярацыі аб сувэрэнітэце БССР статус канстытуцыйнага закону.

Незалежнасьць Беларусі першаю ў сьвеце вітала Польшча — гэта сталася 31 жніўня, калі Сэйм Польшчы ўхваліў спэцыяльную пастанову, у якой заявіў:

> „Прызнаючы права ўсіх народаў на самавызначэньне, Сэйм Польскай Рэспублікі з радасьцю вітае абвяшчэньне незалежнасьці Беларусі 25 жніўня 1991 году.
> Польшча, якая свабоду і незалежнасьць сваёй дзяржавы зрабіла найвышэйшаю каштоўнасьцю, цалкам разумее і цэніць значэньне гэтага гістарычнага рашэньня Беларускага Парлямэнту. Яно зьдзяйсьняе спадзевы беларускага народу, выяўляе права Беларусі вольна вызначаць уласную ўнутраную і вонкавую пазыцыю.
> Сэйм Польскай Рэспублікі выказвае перакананьне, што незалежная Беларусь будзе рухацца ўперад шляхам дэмакратычных пераменаў, якія ствараюць умовы для добрасуседзкай, усебаковай міждзяржаўнай супрацы паміж Польшчай і Беларусьсю“[78].

[77] *Каб не наракала гісторыя* // „Беларусь“, 1992, № 6.
[78] Uchwała Sejmu Rzeczypospolitej Polskiej z dnia 31 sierpnia 1991 r. w sprawie ogłoszenia niepodległości Białorusi.

**206**

**UCHWAŁA SEJMU RZECZYPOSPOLITEJ POLSKIEJ**

z dnia 31 sierpnia 1991 r.

**w sprawie ogłoszenia niepodległości Białorusi.**

Uznając prawo wszystkich narodów do samostanowienia, Sejm Rzeczypospolitej Polskiej z radością wita ogłoszenie niepodległości Białorusi w dniu 25 sierpnia 1991 r.

Polska, która wolność i niepodległość własnego państwa uczyniła nadrzędną wartością, w pełni rozumie i docenia znaczenie tej historycznej decyzji Parlamentu Białoruskiego.

Monitor Polski Nr 29 — 240 — Poz. 206

Jest ona spełnieniem aspiracji narodu białoruskiego, wyrazem prawa Białorusi do swobodnego określenia jej pozycji wewnętrznej i zewnętrznej.

Sejm Rzeczypospolitej Polskiej wyraża przekonanie, że niepodległa Białoruś postępować będzie drogą demokratycznych przemian, stwarzających warunki dla dobrosąsiedzkiej, wszechstronnej międzypaństwowej współpracy między Polską a Białorusią.

Marszałek Sejmu: *M. Kozakiewicz*

Папярэднік пані Смулковай, тагачасны генэральны консул Польшчы ў Беларусі Тадэвуш Мысьлік, у інтэрвію газэце „Свабода“ заявіў: *„Нарэшце будуць абрынутыя тыя перашкоды, якія цэнтар ствараў для паўнавартаснага гандлю й эканамічных дачыненьняў паміж Беларусьсю й Польшчай“.*

Гэтая дэклярацыя польскага парлямэнту была палітычным актам, фармальна ж Польшча прызнала незалежнасьць Беларусі ўрадавай пастановай ад 27 сьнежня 1991 году — ужо пасьля роспуску СССР.

Да таго, 10 кастрычніка 1991 году, прэм'ер-міністры абедзьвюх дзяржаваў Вячаслаў Кебіч (н. 1936) і Ян Кшыштаф Белецкі (н. 1951) падпісалі ў Варшаве дэклярацыю аб добрасуседзтве. Цырымонія завязаньня дыпляматычных дачыненьняў адбылася 2 сакавіка 1992 году падчас візыту ў Польшчу міністра замежных справаў Беларусі Пятра Краўчанкі (н. 1950), а Дамова аб добрасуседзтве і прыязным супрацоўніцтве заключаная 23 чэрвеня 1992 году ў Варшаве. Яе падпісалі прэзыдэнт Польшчы Лех Валэнса (н. 1943) і старшыня Вярхоўнага Савету Беларусі Станіслаў Шушкевіч (н. 1934).

> „Незалежнасьць Беларусі мы ўспрынялі як вялікую радасьць, як магчымасьць наладзіць зусім новыя партнэрскія дачыненьні, цешыліся, што будзе ў нас самастойны сусед, зь якім мы зацікаўленыя супрацоўнічаць. Я толькі з такой місіяй і ехала ў Менск. Доказам гэтаму і тое, што кіраўніком дыпляматычнага прадстаўніцтва ў Менск накіравалі чалавека, які добра ведаў Беларусь“,— зазначае Эльжбета Смулкова.

У сваіх інтэрвію беларускай прэсе пані амбасадар заклікала „*неадкладна пачаць будаваць новыя дачыненьні на новых асновах, забясьпечаных сучаснымі эўрапейскімі праўнымі дамоўленасьцямі. У польскім навуковым і палітычным асяродзьдзі ў мяне ёсьць шмат знаёмых, якія спрыяюць беларускаму адраджэньню і сёе-тое зрабілі для паляпшэньня кантактаў зь Беларусьсю*“[79].

Эльжбета Смулкова разам зь іншымі замежнымі дыпляматамі, якія ўжо былі ў Менску, уважліва сачыла за сустрэчай прэзыдэнтаў Расеі, Украіны і старшыні Вярхоўнага Савету Беларусі ў Віскулях 8 сьнежня 1991 году, дзе было абвешчана пра роспуск СССР: „Саюз ССР як суб'ект міжнароднага права і геапалітычная рэальнасьць спыняе сваё існаваньне“.

> „Мы гэта ўспрынялі ўсур'ёз, як гістарычную справядлівасьць, як важную падзею, перадвызначаную і непазьбежную пасьля ўсіх папярэдніх падзеяў. Памятаю атмасфэру радасьці ад таго, што адбывалася. Вядома, мы разумелі, што стварэньне СНД — гэта спроба захаваць дачыненьні паміж рэспублікамі.



*Падпісаньне пагадненьня аб роспуску СССР у рэзыдэнцыі „Віскулі“ ў Белавескай пушчы. 8 сьнежня 1991 году.*

[79] *Каб не наракала гісторыя* // „Беларусь“, 1992, № 6.



*Прэзыдэнт Украіны Леанід Краўчук, старшыня Вярхоўнага Савету Беларусі Станіслаў Шушкевіч, прэзыдэнт Расеі Барыс Ельцын, прэм’ер-міністар Беларусі Вячаслаў Кебіч пасьля падпісаньня пагадненьня аб роспуску СССР і стварэньні Садружнасьці незалежных дзяржаваў.*

Гэта быў зразумелы пэрыяд, бо калі распалася цэнтралізаваная структура, то ўзьнікалі шматлікія цяжкасьці пераходнага часу. І цяжкасьці аб’ектыўныя, арганізацыйнага характару, але адначасова і цяжкасьці, якія вынікалі з псыхалягічнай непадрыхтаванасьці многіх людзей, ня кажучы ўжо пра яўную варожасьць некаторых да пераменаў“,— зазначала пані Смулкова праз 23 гады пасьля той падзеі.

Фразу расейскага прэзыдэнта Ўладзіміра Пуціна (н. 1952) аб крушэньні Савецкага саюзу як „найбуйнейшай геапалітычнай катастрофе стагодзьдзя“, сказаную ім у 2005 годзе, пані Эльжбета ўспрымае з горкай усьмешкай:

„Тое, што тады адбылося, зусім не выглядала на найвялікшую катастрофу XX стагодзьдзя. Гэта была падзея вялікай вагі, падзея, якая вымагала ад улады і ад усіх сур’ёзнасьці й напружанай працы“.

Пры гэтым сьведкі распаду СССР і стварэньня новых незалежных дзяржаваў ня мелі страху, што падзеі ў рэгіёне могуць пайсьці паводле югаслаўскага сцэнара, праз разьдзел былой краіны ўзброенымі канфліктамі і войнамі. Сьведчыць пані Эльжбета:

„І ў мяне быў такі настрой, і ў Польшчы ў цэлым не было такога страху, можа таму, што нам пашанцавала без крыві ўсё гэта зрабіць, то мы верылі, што так будзе ўсюды, у нас пераважала гэтая атмасфэра спадзеву, і ўсе тыя пазьнейшыя тармазы мы ўспрымалі як цяжкасьці, якія трэба пераадолець. Ня як катастрофу, а як пераходны пэрыяд са сваімі цяжкасьцямі. І хутчэй думалі, які спосаб знайсьці, каб гэта не перамагло, каб гэты супраціў адраджэньню і рэформам, рэарганізацыі эканомікі не пераважыў. Я ня памятаю ані ценю страху, толькі разуменьне цяжкасьцяў, часта аб'ектыўных, а ня толькі з чыёйсьці злой волі“.

Праз 23 гады пасьля Віскулёў Уладзімір Пуцін пайшоў на крывавыя захады дзеля перапісваньня гісторыі, у тым ліку паводле „югаслаўскага сцэнара“. У прыватнасьці, Расея рашылася на вайсковыя апэрацыі ў Грузіі ў 2008 і ва Ўкраіне ў 2014—2016 гадох.

Пані Эльжбета мяркуе, што супраціў маскоўскага цэнтру фактычнай самастойнасьці былых рэспублік СССР добра ўсьведамлялі і ў пачатку 90-х:

„Не аддаюць уладу людзі, якія прывыклі да яе смаку, да яе каштоўнасьці для сябе. Пагатоў калі яны маюць пачуцьцё такой усясьветнай сілы, якую меў СССР. Але ўсьведамленьне перавагі дэмакратыі над аўтарытарызмам усё ж разьвіваецца ў людзей, якія пачалі больш езьдзіць, бачыць, як жывуць іншыя народы, як можна лепей арганізаваць сваё жыцьцё“.

Адрозна ад Расеі, якая фактычна ніколі з часоў распаду СССР далёка не адпускала Беларусь, не лічыла яе самастойнай, нават глядзела на краіну як на непаразуменьне, Польшча мела зусім іншы погляд на свайго ўсходняга суседа. Пра гэта ўспамінае амбасадар Смулкова:

„У пэрыяд маёй працы ў МЗС Польшчы вельмі сур'ёзна пераважаў погляд, што настаў час, калі мы можам на раўнапраўных асновах будаваць двухбаковыя кантакты зь Беларусьсю як самастойнай краінай, якой трэба вельмі шмат зрабіць усяля-

кага кшталту рэформаў, каб збудаваць фактычную самастойнасьць. Мы разумелі патрэбу партнэрскіх дачыненьняў. Я гэта падкрэсьліваю з поўным перакананьнем. З адначасовым прызнаньнем, што ня ўсе палякі гэта ўспрымалі так. У папулярным падыходзе часам пераважала даваеннае трактаваньне беларусаў больш як сацыяльнай групы, чым дзяржаўнай нацыі. Польскія навукоўцы, такія, напрыклад, як Рышард Радзік [н. 1951], спрыялі дзяржаўнасьці Беларусі, аднак папярэджвалі, што беларуская нацыя яшчэ не да канца сфармаваная і гэта можа тармазіць пабудову самастойнасьці. У больш сьвядомых палякаў разуменьне такой сытуацыі якраз стварала патрэбу садзейнічаць беларускаму адраджэньню, каб сытуацыю пераадолець. Да такіх людзей, у прыватнасьці, належаў Марэк Карп, які спрыяў маёй дыпляматычнай місіі ў Беларусі“.

Першы амбасадар Польшчы ў Беларусі Эльжбета Смулкова ў той час шчыра спадзявалася, што падзеі ў Беларусі імкліва пойдуць, падобна як у Польшчы, у бок нацыянальнага адраджэньня, дэмакратыі, рынкавай эканомікі:

„Я спадзявалася, што пойдуць працэсы нацыянальнага адраджэньня і набыцьця большай самастойнасьці Беларусі, так, як гэта адбывалася ў нас. А ў нас тады быў велізарны энтузіязм, гэта амаль што была агульнанацыянальная справа. Мы спадзяваліся, што, можа, не гэтаксама, але падзеі ў Беларусі будуць разьвівацца ў тым жа кірунку. І для гэтых спадзеваў былі пэўныя падставы, бо напачатку невялікая апазыцыйная група Народнага Фронту праводзіла ў парлямэнце новыя рэчы, дайшло да абвяшчэньня незалежнасьці, зьмены сьцягу і гербу. Станоўчыя падзеі адбываліся, але не было такой выразнай падтрымкі з боку народу, а адначасова быў супраціў з боку тых, хто меў уладу ў часы СССР, асабліва дырэктараў вялікіх дзяржаўных прадпрыемстваў“.

Але праз пэўны час Эльжбета Смулкова зразумела, што падзеі ў Беларусі ня пойдуць „за польскім узорам“:

„У маёй сьвядомасьці важнейшым здаецца гэты пэрыяд пасьля Віскулёў, бо я назірала страшэнную арганізацыйную немач, калі распадаліся ўсе галоўныя структуры, якія рэгулявалі эканоміку. Калі гаварыць пра эканоміку, я ўсьведамляла, што

Беларусь была такім «зборачным цэхам», дзе зьбіраліся машыны з дэталяў, якія дастаўлялі зь іншых месцаў. Выраблялі вельмі добрыя лядоўні, але не прыслалі нейкіх частак — і што рабіць? У той час я неяк ехала з двума інжынэрамі з заводу «Гарызонт». Мы былі ў адным купэ цягніка на Львоў. Яны везьлі з сабою вялізныя чамаданы. І я бачу, што чамаданы лёгкія, парожнія. Выявілася, што яны ехалі па нейкія шрубкі да тэлевізараў, па нейкія маленькія элемэнты, якіх не атрымалі па разнарадцы, і таму выправіліся да знаёмага дырэктара львоўскага тэлевізійнага заводу «Электрон» па гэтыя дэталі. Дамаўляліся пры мне з правадніцай, каб было месца для іхных чамаданаў на шляху назад. Гэта анэкдатычна гучыць, але ўсур'ёз трэба прызнаць, што распад цэнтральнага кіраваньня, не замененага своечасова самакіраваннем, стварыў на прадпрыемствах вялізныя цяжкасьці.
У Іслачы пад Менскам, дзе мы адпачывалі, памятаю такую вялікую горыч у простых людзей, калі распаўся СССР. Ня радасьць, што мы будзем мець самастойную дзяржаву, а толькі горыч, што мы страцім на гэтым, што мы ня зможам спакойна паехаць адпачываць у Крым, бо ўжо не даюць пуцёвак. Я ім кажу, то самі едзьце, арганізуйцеся. Але людзі не прывыклі дзейнічаць самастойна, яны прызвычаіліся да жыцьця, арганізаванага зьверху. У многіх людзей не было настрою на самастойнасьць, яны не разумелі, што могуць нешта самі арганізаваць, напрыклад, як група жыхароў дому сабрацца і нешта разам зрабіць для сябе,— наладзіць самакіраваньне, што ў нас у Польшчы адразу пачало арганізоўвацца зьнізу“.

Пра цяжкасьці ў будаўніцтве незалежнай Беларусі, пра тое, што яны не ўнікальныя, бо іх пераносілі ўсе новыя дзяржавы на постсавецкай прасторы, пані амбасадар Смулкова шчыра казала і падчас сваёй працы ў Менску, у 1992 годзе:

„Баюся, што ва ўсіх галінах дзейнасьці замала энэргічных, спраўных людзей, якія ўзялі б на сябе фактычную адказнасьць, ініцыятыву, змаглі стварыць вакол сябе асяродзьдзе, якое, незалежна ад уласных інтарэсаў, будзе дбаць найперш пра пераўтварэньне грамадзкага жыцьця. Каб дарога да сапраўднай дэмакратыі і незалежнасьці была менш балючаю і карацейшаю, трэба неадкладна заняцца пераарганізацыяй усяе гаспадаркі, зьмяніць падыход да справаў чалавека. Спраўныя людзі маюць

шмат сілы, але ім трэба выразна бачыць, куды яны ідуць, трэба мець упэўненасьць у заўтрашнім дні, у тым, што зробленае праз паўгоду або праз год ня будзе адабрана. Значыць, патрэбна разумнае стабільнае заканадаўства“[80],— такія або падобныя словы ў той пераходны пэрыяд гаварылі многія замежныя дыплёматы, бізнэсоўцы, якія разважалі пра інвэстыцыі ў Беларусь. І праз чвэрць стагодзьдзя беларускай незалежнасьці гэтыя словы застаюцца актуальнымі.

Каб ня склалася думка, што праца першага амбасадара Польшчы ў Беларусі ішла ідэальна, пані Эльжбета згадала, што беларускія спэцслужбы часам яўна праслухоўвалі яе:

„Праслухоўвалі, наіўна нават. Пад’яжджала машына пад амбасаду, у ёй была спэцыяльная тэхніка. Я адчувала ў кабінэце нейкія хвалі, нешта фізычнае. Але ставілася да гэтага спакойна, мяркую, што, відаць, у цяперашнім сьвеце гэта нармальна — праслухоўваць амбасадараў. Абсалютна. Нейкіх нязручнасьцяў не было. Я свабодна хадзіла па Менску, без аховы, прывыкла да гэтага і не хацела іначай. І ніколі нічога кепскага не было, апрача таго, што час ад часу мяне фатаграфавалі“.

Усё ж адно непрыемнае здарэньне адбылося. У Менску каля аднаго з палацаў культуры, дзе пані амбасадар была на афіцыйнай сустрэчы, нехта кінуў камень у пасольскую машыну са сьцяжком, разьбіў заднюю шыбку.

„Я напісала ліст у МЗС, але вінаватых не знайшлі і асобна не перапрасілі, толькі паведамілі, што не знайшлі адказных“.

Міністар замежных спраў Беларусі ў 1990—1994 гадох Пятро Краўчанка ў размове са мною вельмі высока ацаніў дзейнасьць амбасадара Эльжбеты Смулковай для разьвіцьця двухбаковых польска-беларускіх сувязяў:

„З усіх амбасадараў, акрэдытаваных у Менску, пані Эльжбета вылучалася сваёй шляхетнасьцю, інтэлігентнасьцю і стрыманасьцю. Я заўсёды яе бачыў з прыемнай ціхай усьмешкай. Яна вельмі абдумвала кожнае слова, гаварыла не сьпяшаючыся, дакладна і канкрэтна. Ніводнае слова не было лішнім. Тое, што

[80] *Каб не наракала гісторыя* // „Беларусь“, 1992, № 6.

яна не была кар'ерным дыпляматам, было ня хібай, ня мінусам, а наадварот, вельмі станоўчай зьявай. Таму што ў вырашэньне кожнага пытаньня яна ўносіла глыбіню, канкрэтыку, умела даводзіць справу да канца. Гэта бывае толькі з апантанымі людзьмі, якія ўгрызаюцца ў глыбіню новай для іх справы. У мяне былі зь ёю шчыльныя, асаблівыя дачыненьні — настолькі, што яна мела нумар майго асабістага тэлефону, на які магла без пратаколу, без дарадцаў патэлефанаваць і абмеркаваць любое пытаньне. Такой магчымасьці ня мелі іншыя амбасадары, у тым ліку ЗША, Расеі, Украіны".

Пятро Краўчанка згадвае, што неяк беларускі амбасадар у Польшчы паскардзіўся яму, што на прыёмы з нагоды нацыянальнага сьвята Рэспублікі Беларусі ў Варшаве прыходзіць мала прадстаўнікоў польскіх уладаў, у асноўным чыноўнікі невыскога ўзроўню:

"Тады мы прынялі рашэньне, што і на польскі прыём ня пойдзе, як звычайна, 30—40 беларускіх чыноўнікаў, а меншае прадстаўніцтва і ніжэйшае паводле рангу. Пані Эльжбета не пакрыўдзілася, усё зразумела і паўплывала на Варшаву з тым, каб тут быў парытэт".



*Былы будынак польскай амбасады ў Менску. 1994 год.*

Пані Эльжбета з мужам Віктарам у Менску жылі ў кватэры ў доме на вуліцы Пуліхава, непадалёк ад будынку амбасады.

Як і іншым замежным амбасадарам, беларускія ўлады далі ёй рэзыдэнцыю ў Драздах, сымпатычны драўляны дамок, але зімою там цяжка было б жыць, таму сям'я Смулэк выкарыстоўвала яго толькі як лецішча.

Ужо пасьля ад'езду пані Смулковай тыя Дразды апынуліся ў цэнтры дыпляматычнага скандалу — улада высяляла амбасадараў, каб не жылі побач з Аляксандрам Лукашэнкам.

„Я была настолькі зьдзіўленая, што можна такое нешта зрабіць,— кажа пані Эльжбета.— Цяжка было зразумець гэта, ёсьць рэчы, якія не магу трактаваць іначай як нейкую прымітыўнасьць дзеяньня“.



*Калектыў польскай дыпляматычнай місіі ў Менску на ганку будынку амбасады.*

Пазьней прыйшла чарга і на „высяленьне“ польскай амбасады з будынку на вуліцы Румянцава, дзе працавалі польскія дыпляматы з 1974 году. Раптам ён спатрэбіўся ўладам Беларусі, дамову на арэнду не падоўжылі, і ў сьнежні 2012 году амбасада пакінула яго. Але будынак пуставаў доўгі час, толькі ўвесну 2015 году ў ім пачалі рэканструкцыю.

> „Гэты будынак быў месцам даволі цесным для амбасады, але я яго любіла. Мы там афармілі офісы і залю для прыёмаў даволі зручна і прыгожа. Я думаю, што ўнесла ў гэты дом крыху свайго густу. У мой час гэта было месца добрых людзкіх кантактаў, шмат людзей да нас прыходзіла, у мяне быў добры штат, больш за 20 чалавек, я мела з кім працаваць. Марэк Галкоўскі [н. 1958] адказваў за культурныя сувязі і навуковыя кантакты, Марэк Зюлкоўскі [н. 1955] займаўся палітычнымі справамі, выконваў функцыю намесьніка, кантактаваў з прэсай, былі консулы па эканоміцы і праблеме польскай меншасьці. Побач з намі быў Дом літаратара. Забралі і яго… А цяпер нашую амбасаду выкінулі ў страшэннае месца, я жах адчула, наведаўшы іх, калі яны атрымалі новую пляцоўку“,— з прыкрасьцю кажа пані Эльжбета.

Але гэта ўсё здарылася праз шмат гадоў пасьля заканчэньня місіі Эльжбеты Смулковай у Менску, калі атмасфэра ў двухбаковых дачыненьнях Беларусі і Польшчы была зусім іншая.

# Рамантычны пэрыяд у дачыненьнях Менску і Варшавы

*Цяпер, з адлегласьці часу, бачу, як шчасьліва склалася, што першым амбасадарам РП ў Рэспубліцы Беларусі стала мовазнаўца і шматгадовая дасьледніца гэтай краіны. Жартам можна было б сказаць, што ў афіцыйных і неафіцыйных размовах, як у Польшчы, так і ў Беларусі, мне дадавала адвагі пачуцьцё, што „за мной стаіць народ“, гэта значыць Беларусь, пазнаная зьнізу, „ад каранёў“ — як вёска, так і горад, многія беларускія сем'і, якія я ведала асабіста. Падчас амбасадарскай працы я вучылася новаму абліччу Беларусі, таму, што над тым „народам“ як вялікая шапка: яна часам пасуе, часам цісьне, а часам зусім неадпаведная.*

Эльжбета Смулкова[81]

Час працы Эльжбеты Смулковай амбасадарам у Менску быў вельмі насычаны значнымі падзеямі ў двухбаковых дачыненьнях Беларусі і Польшчы, гэта быў пэрыяд інтэнсіўнага абмену візытамі на найвышэйшым узроўні, падпісаньня дамоваў і пагадненьняў, якія стваралі базу для двухбаковых дачыненьняў. *„Умовы маёй працы і працы цяперашняга амбасадара — гэта дзьве розныя гісторыі“*,— жартуе пані Эльжбета. І дадае бяз жарту:

„Я вельмі сур'ёзна ставілася да сваёй працы амбасадара ў Беларусі, што прынесла мне пэўнае задавальненьне“.

Толькі за 1992 год — першы год працы ў якасьці амбасадара ў Беларусі — пані Смулкова ўдзельнічала ў арганізацыі двух візытаў у Менск прэм'ер-міністраў Яна Кшыштафа Белецкага (н. 1951) і Ганны Сухоцкай (н. 1946), візытаў у Польшчу беларускага прэм'ера Вячаслава Кебіча і старшыні Вярхоўнага Савету Станіслава Шушкевіча, візытаў у Беларусь трох дэлегацыяў Сэйму Польшчы і дзьвюх — Сэнату, візытаў міністраў замежных справаў і кіраўнікоў іншых ведамстваў.

[81] *Pogranicza języków. Pogranicza kultur*, s. 16.

**527**

**TRAKTAT**

**między Rzecząpospolitą Polską a Republiką Białoruś o dobrym sąsiedztwie i przyjaznej współpracy,**

podpisany w Warszawie dnia 23 czerwca 1992 r.

W imieniu Rzeczypospolitej Polskiej

PREZYDENT RZECZYPOSPOLITEJ POLSKIEJ

podaje do powszechnej wiadomości:

W dniu 23 czerwca 1992 r. w Warszawie został podpisany między Rzecząpospolitą Polską a Republiką Białoruś Traktat o dobrym sąsiedztwie i przyjaznej współpracy w następującym brzmieniu:

**TRAKTAT**

**między Rzecząpospolitą Polską a Republiką Białoruś o dobrym sąsiedztwie i przyjaznej współpracy**

Rzeczpospolita Polska i Republika Białoruś, zwane dalej „Umawiającymi się Stronami",

kierując się celami i zasadami Karty Narodów Zjednoczonych, Aktu końcowego Konferencji Bezpieczeństwa i Współpracy w Europie, Paryskiej Karty dla Nowej Europy, jak również innych dokumentów współpracy europejskiej,

świadome swej odpowiedzialności za pokój i bezpieczeństwo w świecie,

pragnąc wnieść wkład w budowę sprawiedliwego i pokojowego ładu w Europie,

potwierdzając poszanowanie praw człowieka i podstawowych wolności oraz zasad demokracji, sprawiedliwości i tolerancji, stanowiących niezbywalny element dziedzictwa europejskiego,

doceniając znaczenie przyjaznych stosunków polsko-białoruskich dla umocnienia zaufania i współpracy na kontynencie europejskim, a w szczególności w Europie Środkowej i Wschodniej,

biorąc pod uwagę, że Polska i Białoruś mają w dużej mierze wspólną historię, której najlepszą tradycją jest współistnienie i wzajemne wzbogacanie kultur,

uwzględniając etniczną i kulturową bliskość narodów polskiego i białoruskiego,

uwzględniając fakt, że Polacy i Białorusini, mieszkający na terytoriach obydwu Umawiających się Stron, wnoszą istotny wkład w rozwój obu Państw i kultury obu narodów,

dążąc do umocnienia podstaw dobrosąsiedzkiej współpracy między Rzecząpospolitą Polską a Republiką Białoruś,

T R A K T A T

między Rzecząpospolitą Polską a Republiką Białoruś
o dobrym sąsiedztwie i przyjaznej współpracy

Rzeczpospolita Polska i Republika Białoruś, zwane dalej "Umawiającymi się Stronami",

kierując się celami i zasadami Karty Narodów Zjednoczonych, Aktu Końcowego Konferencji Bezpieczeństwa i Współpracy w Europie, Paryskiej Karty dla Nowej Europy, jak również innych dokumentów współpracy europejskiej,

świadome swej odpowiedzialności za pokój i bezpieczeństwo w świecie,

pragnąc wnieść wkład w budowę sprawiedliwego i pokojowego ładu w Europie,

Sporządzono w Warszawie... dnia 23 czerwca...1992 roku w dwóch egzemplarzach, każdy w językach polskim i białoruskim, przy czym obydwa teksty posiadają jednakową moc.

Za Rzeczpospolitą Polska — Za Republikę Białoruś

23 чэрвеня 1992 году ў Варшаве Станіслаў Шушкевіч і Лех Валэнса падпісалі двухбаковую Дамову аб добрасуседзтве і прыязным супрацоўніцтве (Traktat między Rzecząpospolitą Polską a Republiką Białoruś o dobrym sąsiedztwie i przyjaznej współpracy).

Дамова, дзейная дагэтуль, складаецца з 29 артыкулаў і прысьвечаная найважнейшым галінам двухбаковай супрацы.



*Ганна Сухоцка.*

Пані Эльжбета ўдзельнічала ў яе падрыхтоўцы як дыплямат і як лінгвіст. У прэамбуле Дамовы адзначалася этнічная і культурная блізкасьць беларускага і польскага народаў і супольная гісторыя, якую „ў вялікай ступені“ маюць Беларусь і Польшча.

Дамова абавязвае дзьве дзяржавы фармаваць дачыненьні на прынцыпах узаемнай павагі, добрасуседзтва і партнэрства, яна пацьвердзіла непарушнасьць межаў, зазначана, што бакі ня маюць і ня будуць мець тэрытарыяльных прэтэнзіяў адзін да аднаго. Беларусь і Польшча дамовіліся таксама пра неўмяшальніцтва ва ўнутраныя справы, пра павагу да правоў чалавека і асноўных свабодаў, пра выкананьне міжнародных прынцыпаў і стандартаў у пытаньні абароны правоў нацыянальных меншасьцяў.

Важнай падзеяй быў візыт у Беларусь кіраўніцы ўраду Польшчы Ганны Сухоцкай 18—19 лістапада 1992 году.

> „Яго мэтай было далейшае разьвіцьцё польска-беларускіх палітычных кантактаў і гандлёва-эканамічнага супрацоўніцтва, а таксама абмеркаваньне сытуацыі нацыянальных меншасьцяў у абедзьвюх дзяржавах. Былі падпісаныя Дамова аб адмове ад падвойнага падаткаабкладаньня, Дамова аб тэхнічным і тэхналягічным супрацоўніцтве і Дэклярацыя аб культурным і навуковым супрацоўніцтве“[82].

У часе візыту прэм’ер Ганна Сухоцка засьведчыла, што Польшча падтрымлівае сувэрэнную Беларусь. Некаторыя дэталі гэтых перамоваў выклікалі раздражненьне ў Маскве. Расейская газэта „Известия“ напісала, што Сухоцка нібыта выказала занепакоенасьць супрацаю паміж Беларусьсю і Расеяй.

[82] Баляслаў Хмяліньскі. *Польшча — Беларусь: 15 гадоў міждзяржаўных адносін* // „Журнал международного права и международных отношений“, 2007, № 1. Доступ: http://evolutio.info/content/view/1108/188/

Ужо вярнуўшыся ў Варшаву, прэм'ер Ганна Сухоцка заявіла пра зьмест перамоваў у Менску: *„...мы зацікаўленыя, каб Беларусь была цалкам сувэрэннай дзяржавай, і ...нам важна, каб Польшча была краінай, праз якую Беларусь ідзе ў Эўропу“*. У часе перамоваў спадарыня Сухоцка спытала беларускі бок, як у гэтым кантэксьце інтэрпрэтаваць падпісаньне каля дваццаці пагадненьняў паміж Беларусьсю і Расеяй. Беларускія кіраўнікі на гэта адказалі Г. Сухоцкай, што такія самыя дамовы будуць падпісаныя і з Польшчай[83].

Цягам працы Эльжбеты Смулковай на пасадзе амбасадара, да верасьня 1995 году, паміж Беларусьсю і Польшчай было падпісана 40 дамоваў, якія сталі грунтоўнай базай для супрацы Беларусі і Польшчы ва ўсіх галінах.

„Дзякуючы гэтым кантактам найвышэйшыя чыноўнікі абедзьвюх краін знаёміліся з праблематыкай, стваралася спрыяльная атмасфэра для далейшых кантактаў, рэалізацыі праўных палажэньняў, што былі падпісаныя. У той жа час былі канкрэтныя вынікі гэтых перамоваў, як адкрыцьцё польскіх клясаў у Горадні і Ваўкавыску або перадача варшаўскай Палітэхнікай пляну дому Тадэвуша Касьцюшкі [1746—1817] у Мерачоўшчыне для яго рэстаўрацыі. Былі асобныя абмены архіўнымі каштоўнасьцямі, важныя пагадненьні аб навуковай супрацы.
Праблема Чарнобылю моцна займала нашую ўвагу. І з навуковага боку — пагатоў што мой муж, Віктар Смулэк,— спэцыяліст у ядзернай хіміі. Зь ягонай ініцыятывы польскі Інстытут ядзернай энэргіі ў рамках супрацы зь Беларусьсю стварыў і перадаў у Пінск стацыянарную прыладу вымярэньня радыяцыйнага фону. І дзеля аздараўленьня дзяцей. У Польшчы былі аздароўленыя тысячы беларускіх дзяцей. Гэта было ня так проста, калі дзеткі былі зь дзіцячых дамоў. Яны гэтак прыжываліся да сем'яў, у якіх аздараўляліся, што польскія «бацькі» хацелі іх усынавіць, а беларускія ўлады не давалі згоды. Гэта было балючай праблемай. У некаторых выпадках удавалася вырашыць на карысьць дзяцей, а ў некаторых — не, і я сама бачыла трагедыю і гэтых людзей, і дзіцяці, якое забіраюць ад тых, хто яго любіць“,— згадвае пані Эльжбета тыя падзеі.

Яна сьведчыць, што, нягледзячы на цяжкасьці, гэта быў пазытыўны пэрыяд у дачыненьнях Варшавы і Менску, што

[83] Агенцтва PAP, 19 лістапада 1992 г.

імкліва пашыраліся кантакты Беларусі і Польшчы ў самых розных галінах.

У Беларусі ў той час пабывалі ўсе прэм'еры і міністры замежных справаў Польшчы, якія часта мяняліся, маршалкі Сэйму, многія галіновыя міністры, у тым ліку абароны, унутраных справаў, культуры, адукацыі. У якасьці кіраўніка Найвышэйшай кантрольнай палаты (Najwyższa Izba Kontroli) у Беларусь прыяжджаў будучы прэзыдэнт Польшчы Лех Качыньскі (1949—2010), які пазьней трагічна загінуў у авіякатастрофе ў Смаленску.

Ці не найбольш яскравым з усіх быў прыезд у Беларусь з афіцыйным візытам прэзыдэнта Польшчы Леха Валэнсы 28—29 чэрвеня 1993 году.

Прыезд прэзыдэнта сваёй краіны ў краіну прызначэньня — значная падзея для амбасадара, таксама як і візыт кіраўніка краіны прызначэньня ў сваю краіну. З польскіх амбасадараў у Беларусі праз гэта прайшла толькі Эльжбета Смулкова, іншыя такой аказіі ўжо ня мелі праз рэзкае пагаршэньне двухбаковых дачыненьняў. Эльжбета Смулкова суправаджала прэзыдэнта Леха Валэнсу падчас візыту ў Беларусь ў 1993 годзе, а таксама старшыню Вярхоўнага Савету Беларусі Станіслава Шушкевіча падчас ягонага візыту ў Польшчу ў 1992 годзе.



*Вячаслаў Кебіч, Станіслаў Шушкевіч, Лех Валэнса, Эльжбета Смулкова, Данута Валэнса на ўрачыстым прыёме з нагоды візыту польскага прэзыдэнта ў Менск.*



*Беларусы вітаюць польскага прэзыдэнта.*



*Лех Валэнса з жонкай Данутай і кардынал Казімер Сьвёнтэк.*

Прэзыдэнта Леха Валэнсу ў Беларусі ўспрымалі вельмі цёпла. Людзі выходзілі на менскія вуліцы з транспарантамі й польскімі сьцяжкамі. Польскі лідэр меў сустрэчы ў высокіх кабінэтах і на вуліцах, з герархамі каталіцкага касьцёлу і праваслаўнай царквы, з прадстаўнікамі польскай меншасьці, вясковыя жанчыны выносілі яму пірагі, а вернікі каля заслаўскага касьцёлу кідалі яму пад ногі кветкі.

Пані Эльжбета прыгадвае пазытыўную атмасфэру таго візыту:

„Леха Валэнсу ў часе яго візыту ўспрымалі ў Беларусі як блізкага чалавека, рабочага, і ён гэтаксама ставіўся да людзей. Падчас візыту ў Беларусі ён быў вельмі адэкватным, усе размовы, якія хацеў, правёў, многае зрабіў для польскай меншасьці, цікавіўся Беларусьсю, крыху сапраўды пазнаёміўся зь ёю і потым адпаведна гаварыў пра Беларусь у Польшчы. Прытым ён у такой натуральнай гутарцы, за чаркай, мог нашмат больш сказаць беларускім кіраўнікам. Сярод іншага я была вельмі радая, што ён па-мужчынску пагаварыў зь міністрам замежных справаў Беларусі Пятром Краўчанкам [н. 1950], зь якім мне бывала нялёгка“.

Графік візыту польскага прэзыдэнта ў Беларусь быў вельмі напружаны, працягвае пані амбасадар:

„У Валэнсы былі шырокія кантакты зь людзьмі ў Беларусі. З нагоды ягонага візыту мы зрабілі прыём у садзе амбасады, было шмат гасьцей, прэзыдэнт хадзіў, размаўляў зь імі. Атмасфэра была вельмі добрая, сяброўская. Пасьля гэтага візыту дачыненьні Беларусі і Польшчы істотна палепшыліся і далей пайшлі ў добрым кірунку“.

У праграме візыту Леха Валэнсы было наведваньне Курапатаў, дзе яго суправаджаў Зянон Пазьняк (н. 1944) як дасьледнік і аўтар публікацыяў пра Курапаты. Там Лех Валэнса з жонкай Данутай (н. 1949) паклалі вянкі да крыжа „Пакутнікам Беларусі“ і да крыжа польскім ахвярам.

Як згадвае пані Эльжбета, у размове з Пазьняком Валэнса казаў, што хоча дапамагчы ва ўсталяваньні помніка ў Курапатах на месцы каменю з мэмарыяльнай шыльдай, на якой пазначана, што тут згодна з пастановай ураду БССР ад 1989 году мае быць пастаўлены помнік ахвярам масавых рэпрэсіяў 1937—1941 гадоў.

„Валэнса гатовы быў дапамагчы матэрыяльна і спытаўся, як будзе выглядаць гэты помнік і колькі сродкаў трэба. Пазьней ён чакаў гэтую інфармацыю, праз амбасаду перапытвалі, але адказу не было,— згадвае пані Эльжбета.— Беларусь і Польшча маглі б зрабіць болей, калі б абодва бакі мелі больш даверу ў дачыненьнях паміж сабою і дзейнічалі больш актыўна, хаця і так шмат што пайшло наперад у двухбаковых дачыненьнях“.

Згадала пані амбасадар і сытуацыю падчас таго візыту, якая яе насьцярожыла і прымусіла дзейнічаць:

„Мне гэты візыт спадабаўся, з выняткам адной дробнай рэчы. Быў такі момант у Баранавічах, калі я пабаялася, што Валэнса захмялее, пагатоў па абедзе была прызначаная сустрэча зь мясцовай польскай суполкай. І я падышла да ягонай жонкі Дануты і папрасіла, каб яна пасачыла, каб села бліжэй. І тая ўзяла яго ў рукі“.

Такім чынам пані Эльжбета выканала яшчэ адзін свой абавязак амбасадара, сустрэча прэзыдэнта Польшчы з баранавіцкімі палякамі адбылася як належыць.

Пані Эльжбета была знаёмая з Валэнсам з часоў „Салідарнасьці“ і заўсёды мела пра яго добрую думку як пра чалавека, які разбурыў



*Прэзыдэнт Лех Валэнса сустракаецца зь беларускім праваслаўным мітрапалітам Філарэтам.*

камунізм, можа, часам не зусім добра падрыхтаванага да выкананьня прэзыдэнцкіх абавязкаў, але шчырага і з выдатнай інтуіцыяй.

Перакладнікам Леха Валэнсы ў той паездцы быў вядомы гісторык польскі беларус Алег Латышонак, таксама былы актывіст „Салідарнасьці".

Алег Латышонак у інтэрвію Радыё Свабода згадаў адзін момант сваёй перакладніцкай працы падчас выніковай прэсавай канфэрэнцыі Леха Валэнсы і Станіслава Шушкевіча:

> „Тады якраз амэрыканцы збамбардавалі Багдад. І журналісты пачалі пытаць як спадара Шушкевіча, так і прэзыдэнта Валэнсу, як яны ставяцца да гэтага факту. Спадар Шушкевіч адказаў, што ведае столькі, колькі перадае тэлебачаньне, дык нічога ня скажа. А прэзыдэнт Валэнса кажа: «A ja powiem…» (А я скажу). Пярэпалах у яго атачэньні — што ён скажа. Бо прэзыдэнт Валэнса быў вядомы тым, што можа нешта нечаканае сказаць, і да таго ж зьяўляўся пострахам усіх перакладнікаў, якія ніколі ня ведалі, што трэба будзе перакладаць.
>
> Прэзыдэнт Валэнса вельмі доўга гаварыў, і яго думка была такая, што павінны быць нейкія міжнародныя ўзброеныя сілы, якія б у выніку міжнародных пагадненьняў наводзілі б парадак. Але так гэтую думку шырока ілюстраваў рознымі



*Лех Валэнса, Эльжбета Смулкова і Зянон Пазьняк.*

прыкладамі, што нарэшце дайшоў да такога сказу, які я запомню на ўсё жыцьцё.
Ён сказаў: «Bo taki Indianin w rezerwacie zrzuci portki, skoczy przez płot, i jemu nic. A nas by komary zagryzły». Я думаю: «О Божа!». Перакладаць, не перакладаць? Але баяўся, бо калі раз скараціў яго выказваньне, прэзыдэнт сказаў: «O, słyszę, że mój tłumacz mnie skraca».
Гляджу — ніхто не дае мне ніякага знаку, дык пачынаю перакладаць, і замест таго каб «w rezerwacie» перакласьці «у рэзэрвацыі», то сказаў «у рэзэрвуары», і ўся заля сьмяецца. А я не разумею, чаму сьмяюцца. Беларускі перакладнік падказаў: «У рэзэрвацыі…» Толькі тады я зразумеў, што гавару.
А вынік усяго гэтага быў такі, што прэзыдэнт Валэнса на канец сказаў, што кепска было б, каб нехта адчуў сябе жандарам сьвету, і ўсе журналісты пабеглі падаваць вестку, што прэзыдэнт Валэнса скрытыкаваў амэрыканцаў. Я дачакаўся толькі, што ў прэсе напісалі: відаць, прэзыдэнт сказаў нешта, а пэўне ж, перакладнік меў кепскі дзень“[84].

Той візыт несумненна паўплываў на тое, што Валэнса надалей цікавіцца Беларусьсю, выступае з заявамі ў падтрымку беларускай незалежнасьці, дэмакратыі, правоў чалавека, а ў 2012 годзе ён перадаў жонцы зьняволенага беларускага праваабаронцы Алеся Бяляцкага Натальлі Пінчук прэмію свайго імя. Прэміяй Леха Валэнсы Алесь Бяляцкі быў узнагароджаны за „абарону правоў чалавека і дапамогу людзям, якіх перасьледуюць цяперашнія ўлады Беларусі“[85].

---

[84] Доступ: http://archive.svaboda.org/halasy/latysonak.html
[85] Радыё Свабода, 28 верасьня 2012 г. Доступ: http://www.svaboda.org/content/article/24722828.html

# Беларускія чыноўнікі і мова

*Пасьля абвяшчэньня Дэкларацыі аб сувэрэнітэце і прыняцьця Закону аб мовах пачаўся пэрыяд паступовага ўвядзеньня беларускай мовы ў палітычнае і афіцыйнае жыцьцё, а асабліва ў школьніцтва. Памятаю парлямэнцкія дэбаты і розныя дыпляматычныя сустрэчы, на якіх я прысутнічала з 1991 году і якія праводзіліся па-беларуску або адначасова па-расейску і па-беларуску. Пры гэтым ніхто ня скардзіўся, што гэтая дзьвюхмоўнасьць пагаршае перадачу зьместу камунікацыі. Тады былі прагнозы, што хопіць максымум 10 гадоў, каб у новапаўсталай беларускай дзяржаве адрадзіць зацікаўленасьць уласнай ідэнтычнасьцю і перайсьці на паўсюднае выкарыстаньне беларускай мовы ва ўсіх сфэрах жыцьця*[86].

Эльжбета Смулкова была першым амбасадарам замежнай дзяржавы ў Менску, які свабодна гаварыў на беларускай мове, частка яе супрацоўнікаў у амбасадзе таксама гаварыла па-беларуску, што выклікала прыязную рэакцыю беларусаў, расцэньвалася як знак салідарнасьці з маладой краінай і падтрымкі нацыянальнага адраджэньня. Пазьней з пані Эльжбеты ўзялі прыклад амбасадары ЗША Джордж Крол (н. 1956) і Швэцыі — Стэфан Эрыксан (н. 1962), якія таксама вывучылі беларускую мову і карысталіся ёю публічна.

Звычайна, калі амбасадар Эльжбета Смулкова сустракалася з прадстаўнікамі беларускіх уладаў, апазыцыі, грамадзкасьці або ехала зь візытамі ў рэгіёны, то імкнулася зьвяртацца да беларускіх суразмоўцаў менавіта па-беларуску.

> „Хоць гэта не заўсёды атрымлівалася, бо я не хацела гэтага рабіць дэманстратыўна. Але часта бывала, што суразмоўцы падтрымлівалі мяне, і калі нехта мне адказваў па-беларуску, то я ўжо спакойна ішла далей. Калі ж я пачынала некалькі разоў па-беларуску, але атрымлівала расейскамоўны адказ, то

[86] Elżbieta Smułkowa, *Wokół problemu poczucia tożsamości mieszkańców Białorusi*, „Przegląd Wschodni“, 1997, t. 4, z. 3, s. 597—609.

пераходзіла на расейскую, бо, відаць, суразмоўца не гаварыў па-беларуску. Чыноўнікі часам падхоплівалі беларускую мову. Станіслаў Шушкевіч заўсёды са мной размаўляў па-беларуску, а Вячаслаў Кебіч — не. І яшчэ была адна асоба, якая выключна па-расейску са мной размаўляла цягам некалькіх гадоў — рэктар ЭГУ Анатоль Міхайлаў, які тады быў памочнікам Станіслава Шушкевіча“,— дзеліцца пані Эльжбета сваім досьведам беларускамоўных кантактаў з прадстаўнікамі беларускіх уладаў на пачатку 90-х гадоў мінулага стагодзьдзя.

Са звычайнымі беларусамі было прасьцей, і тут у пані амбасадару прачыналася пані прафэсар:

„У Мазыры мяне неяк завялі на швейную фабрыку, і там я размаўляла з многімі швачкамі, рабочымі і спэцыялістамі. Размова тая была характэрная тым, што я слухала іх у тым ліку і як фанэтыст, настаўляла вуха, каб вылавіць усе нюансы іхнага маўленьня, і часам людзі зусім спантанна загаворвалі са мной па-беларуску“.

Эльжбета Смулкова добра ведала Беларусь са сваіх дыялекталягічных экспэдыцыяў, стажаў у Акадэміі навук і БДУ, сябравала з многімі калегамі-мовазнаўцамі, літаратарамі, творчымі людзьмі. Але ў якасьці амбасадара ёй давялося пазнаваць краіну зь іншага боку, прызнаецца яна:

„Тут прыйшоў досьвед і пазнаньне ўладных мэханізмаў, дзе і праблематыка цалкам іншая, і дачыненьні зь людзьмі зусім іншыя, і падыход да мяне як да прадстаўніка суседняй немалой дзяржавы. Гэта была даволі вялікая розьніца, але ўрэшце гэтыя розьніцы адыходзілі на другі плян, і з многіх людзей з гэтай вярхушкі, з гэтых чыноўнікаў, на паверхню выходзілі звычайныя людзі, такімі, якімі яны былі. Я мела нармальныя людзкія дачыненьні з некаторымі прадстаўнікамі беларускай улады, напрыклад, з прэм’ер-міністрам Міхаілам Чыгіром [н. 1948] і ягонай жонкай Юліяй. Я праводзіла зь ім важныя афіцыйныя размовы як з прэм’ер-міністрам, але яны мелі характар даволі даверлівых гутарак. У Чыгіра я ўбачыла фактычную заклапочанасьць праблемамі Беларусі і жаданьне іх вырашыць. Мы былі размаўлялі пра нейкую дамоўленасьць эканамічнага пляну, даволі сур’ёзную, да якой ён меў пэўныя засьцярогі. А потым ён так глянуў на мяне і кажа: «Ды вы не

зьдзіўляйцеся. Гэта ж зразумела, што калі я еду ў Маскву, то ведаю, з кім гавару і пра што, а з вамі, з Польшчай, усё-такі досьведу перамоваў у мяне няма, я ня ведаю». Гэтак з чыноўніка на паверхню «выйшаў» чалавек“.

Пані амбасадар прызнаецца, што ў яе быў добры кантакт і зь віцэ-прэм'ерам па гуманітарных пытаньнях ва ўрадзе Міхаіла Чыгіра Віктарам Ганчаром (1958—1999 (?)).

„Неяк віцэ-прэм'ер Віктар Ганчар атрымаў даволі цяжкае заданьне ў дачыненьні да польскага амбасадара. Ён запрасіў мяне такім дыпляматычным чынам, каб я зразумела, што мяне выклікалі «на дыванік», як кажуць палякі, што будуць прэтэнзіі, што нешта не падабаецца ўраду. Я ня надта здагадвалася, пра што будзе гутарка, але хутка выйшла шыла зь мяшку. Ганчар меў абавязак пакрытыкаваць польскую вайсковую дэлегацыю, якая прыехала ў паўночна-заходнюю Беларусь на месца расстрэлу салдатамі НКВД групы акаўцаў. Прадстаўнікі Польшчы афіцыйна прыехалі, каб ушанаваць адноўленыя там магілы, і адправілі імшу з вайсковым цырыманіялам, з шаблямі. Чамусьці гэта было ўспрынята ўрадам як дэманстрацыя сілы польскага войска ў Беларусі. Калі ён гэта мне расказаў, то я проста засьмяялася, бо не змагла стрымацца. Яму гэта тым больш не спадабалася. Я папрасіла прабачэньня і распавяла, што я ўжо раз перажыла такое, сама бачыла ў Наваградку, як гэта адбываецца, што ў нас такі цырыманіял, што гэта зусім нармальная рэч — прэзэнтацыя зброі перад найсьвяцейшым сакрамэнтам, што гэта ня мае нічога супольнага з дэманстрацыяй сілы, тым больш у нейкай вёсцы, дзе ніхто гэтай сілы ня бачыць, акрамя некалькіх бабуляў. Яму, як я бачыла, таксама гэта ўсё было даволі не да душы, але ён меў абавязак. Ганчар сказаў, што ня будзе пісаць ноту пратэсту ў МЗС Польшчы, але просіць, каб я зьвярнула ўвагу гэтых вайскоўцаў і каб гэта ніколі больш не паўтарылася. А я адказала, што магу абяцаць, што буду старацца, каб нічога такога не было, але такога цырыманіялу з шаблямі ня можа ня быць, калі зноў будзе нейкая афіцыйная вайсковая ўрачыстасьць, бо гэта частка нармальнай вайсковай практыкі. І калі беларускія ўлады запросяць польскіх вайскоўцаў у форме, то яны проста абавязаныя выканаць гэты цырыманіял у часе службы ў касьцёле“.

Віктар Ганчар пры гэтым гаварыў па-беларуску.

Пані Эльжбеце давялося бачыцца зь Віктарам Ганчаром некалькі разоў і да ягонага віцэ-прэм'ерства, калі ён быў дэпутатам Вярхоўнага Савету і намесьнікам мэра Маладэчна, якое яна наведвала.

„Ён разам з мэрам Генадзем Карпенкам [1949—1999] мяне прымаў, мы мелі афіцыйную сустрэчу, экскурсію па горадзе, яны абодва былі людзі на ўзроўні, Карпенка і Ганчар эканамічна ўзьнялі гэты горад. Яны паказалі мне новы ўнівэрмаг, спартовыя пляцоўкі, іншыя аб'екты. Гэта быў цікавы візыт, і ён падмацоўваў маё перакананьне, што Беларусь таксама з часам пойдзе шляхам рэформаў. Яны ўжо тады пачалі рэформы ў сваім горадзе. А потым іх абодвух ня стала. І я вельмі зьдзіўленая, што за столькі гадоў уладам не ўдалося высьветліць справу зьнікненьня Віктара Ганчара і Анатоля Красоўскага [1952—1999 (?)]. Ганчар відавочна быў пэрспэктыўнай асобай, Карпенка таксама, ды і Захаранка быў сур'ёзным супернікам“.

Зь Юр'ем Захаранкам (1952 — 1999 (?)) пані амбасадар сустракалася, калі ў Беларусь з візытам прыяжджаў міністар унутраных справаў Польшчы Анджэй Мільчаноўскі (н. 1939).

Сустракалася пані Эльжбета і з двума старшынямі КДБ Беларусі — з Уладзімерам Ягоравым (н. 1939) і Эдуардам Шыркоўскім (1932—2002).

Прыходзіла яна да іх абодвух у адной і той жа справе: каб адшукалі беларускі сьпіс ахвяраў Катыні, прозьвішчы расстраляных польскіх грамадзян у турмах БССР у 1940 годзе. Ягораў абяцаў і праз нейкі час прыслаў тры прозьвішчы, а Шыркоўскі нічога не зрабіў, канстатуе пані Эльжбета.

Ніхто з польскіх дасьледнікаў пакуль не атрымаў такіх матэрыялаў, хоць з Украіны і Расеі аналягічныя сьпісы былі перададзеныя Польшчы і апублікаваныя. Спэцыялісты лічаць, што ў беларускім сьпісе можа быць як мінімум 3870 прозьвішчаў. Тыя размовы былі безвыніковымі і застаюцца такімі да апошняга часу, да 2016 году, нягледзячы на абяцаньні на самым вышэйшым узроўні.

„Я вельмі старалася вырашыць гэтую праблему, былі сустрэчы польскіх урадоўцаў, пракурораў у КДБ Беларусі. Ёсьць усё ж зьвесткі, што гэты сьпіс існуе, што ёсьць магчымасьць атрымаць яго. Спадзяюся на гэта. Можа быць, у Маскве, можа,



*Эльжбета Смулкова і старшыня КДБ Уладзімер Ягораў. За ім – міністар унутраных справаў Польшчы Анджэй Мільчаноўскі. Першы зьлева – сябра польскай дэлегацыі генэрал Грамослаў Чэмпіньскі.*

у Менску знойдзецца. Але чаму аддалі ўкраінскі, а не аддаюць беларускі сьпіс, я не разумею",— кажа пані Эльжбета, якую Катынская трагедыя закранула асабіста[87].

[87] Гл. радзьдзел „Адзін з 3435".

# Разварот

*У Польшчы няма антыбеларускіх настрояў. Але ёсьць цалкам адэкватная рэакцыя на адпаведныя ўчынкі беларускіх уладаў, якія парушаюць і правы чалавека, і нормы міжнародных дачыненьняў.*

Эльжбета Смулкова[88]

Дачыненьні Польшчы і Беларусі пачалі замаруджвацца яшчэ да абраньня на пасаду прэзыдэнта Рэспублікі Беларусі Аляксандра Лукашэнкі (н. 1954), сьведчыць амбасадар Эльжбета Смулкова:

„Праз тры гады маёй працы ўжо здавалася, што вельмі добра ўсё наладзіцца — і памежныя пераходы, і эканамічная і гандлёвая супраца, і навуковая. Былі ўжо падпісаныя ўсе патрэбныя пагадненьні, каля сарака, гэта акрамя вялікай Дамовы аб дружбе і супрацоўніцтве. А ў 1993—1994 гадох як нажом адрэзала. Я адразу зразумела, што тут дасягнуты нейкі парог, які нельга пераступіць. Што надта добра ўсё пайшло і камусьці трэба спыніць гэта, прычым яшчэ да прэзыдэнцтва Аляксандра Лукашэнкі“.

Першыя сымптомы пахаладаньня дачыненьняў Беларусі з Польшчай пані Эльжбета заўважыла ў канцы 1993 і ў першай палове 1994 году, калі Вячаслаў Кебіч і ягоны ўрад фактычна зрабілі стаўку на Расею, на валютны саюз з Масквою ды рухаліся да прэзыдэнцкіх выбараў 1994 году з тымі ж лёзунгамі, што і Аляксандар Лукашэнка.

„З 1993 году мы вялі размову аб стварэньні супольнай эканамічнай зоны Берасьцейшчына—Падляшша, было шмат працоўных візытаў на мясцовым узроўні, здавалася, што ўжо ўсе праблемы вырашаныя, што трэба толькі сесьці падпісаць дакумэнт, і ён будзе дзейнічаць. Але не дайшло да гэтага подпісу. Раптам пачаліся нейкія цяжкасьці, якіх зусім не было ў ранейшых размовах. Беларусь ужо тады пачала адгароджвацца ад Польшчы і наагул ад Захаду“,— кажа пані амбасадар.

---

[88] *Нет, Беларусь у нас не забыта* // „Белорусская газета“, 07.12.1998.

Не дайшоў да выніку праект супольнага беларуска-польскага банку, які спрыяў бы ўзаемнаму гандлю, буксавалі праекты эўрарэгіёнаў „Белавеская пушча“, „Буг“, „Нёман“.

Пані Смулкова сьведчыць, што ў часе прэзыдэнцкіх выбараў 1994 году ніякіх спатканьняў польскіх дыпляматаў з кандыдатамі на пасаду прэзыдэнта не было, яны толькі сачылі за атмасфэрай кампаніі ды яе вынікамі па публікацыях у прэсе. Пагатоў не было ніякага ўмяшаньня ў выбарчую кампанію ў Беларусі з польскага боку.

> „Адчувалася, што была прапаганда супраць Зянона Пазьняка і Станіслава Шушкевіча, што яны нібыта прапольскія, што яны чужыя, каб выбаршчыкі ім не давяралі. Але Пазьняка прапольскім называць было абсалютна недарэчна. Хоць, можа, потым ён крыху зьмяніў сваё стаўленьне да Польшчы. Цяпер, відаць, ужо крыху іначай думае. Але тады Пазьняк зусім ня быў прыхільны да Польшчы, як і да Расеі“,— зазначае пані амбасадар.

Перамога на гэтых выбарах Аляксандра Лукашэнкі была ўспрынятая ў Польшчы як нечаканасьць, кажа пані Эльжбета:

> „Ён перамог у выбарах на сваіх папулісцкіх лёзунгах, бязь нейкай партыйнай падтрымкі. У Польшчы некаторыя думалі, што выгуляе Кебіч. Вячаслаў Кебіч, магчыма, пайшоў бы на большыя эканамічныя рэформы, памятаю, ён меў рэальныя думкі аб лібэралізацыі ды іншых эканамічных зьменах. Мне падаецца, што ён разумеў маразм савецкай эканомікі. Але па-за эканомікай ён сябе ніяк не праявіў. Мы разумелі, што Кебіч — прадстаўнік савецкай улады, старой намэнклятуры, а тут прыйшоў новы чалавек, з народу, ад якога можна было спадзявацца нечага новага. Найперш антыкарупцыйных крокаў, бо гэтая тэма тады шумела, гэта быў ягоны галоўны гучны лёзунг. Але вельмі хутка Лукашэнка паказаў, у які бок пойдзе — намэнклятурны, прасавецкі, антынацыянальны. Вельмі хутка ён згарнуў тое, чаго ўдалося дамагчыся пасьля распаду СССР“,— са шкадаваньнем адзначае Эльжбета Смулкова.

Яшчэ адной нагодай для шкадаваньня стаўся рэфэрэндум 1995 году аб зьмене дзяржаўнай сымболікі і наданьні дзяржаўнага статусу расейскай мове. Гэта была апошняя электаральная кампанія, за якою сачыла пані Смулкова ў якасьці амбасадара:

„Праблема рэфэрэндуму аб мове для мяне была вельмі балючай як для моваведа і як для асобы, якая працуе ў Беларусі, зь дзьвюх розных прычын. Па-першае, я бачыла, што пытаньні былі хітра сфармуляваныя, зь яўнай падказкай, самі пытаньні і перадвырашылі адказ. А па-другое, выявілася, што вельмі блізкія мне людзі былі радыя вынікам гэтага рэфэрэндуму, людзі, для якіх расейская мова была роднаю. Я гэта асабіста перажывала як крызыс сяброўства. Думала, як можа гэтая жанчына ня бачыць, наколькі гэта шкодна для народу, яна ж разумная, добрая, сумленная, а мову яна толькі расейскую хоча і ўсё… І гэта не было асобным фактам, я памятаю, як ва ўнівэрсытэце многія някепскія людзі былі незадаволеныя папярэдняй палітыкай беларусізацыі“.

З самым Аляксандрам Лукашэнкам першаму польскаму амбасадару ў Беларусі давялося сустрэцца, толькі калі ён ужо стаў прэзыдэнтам. Як з дэпутатам пані Эльжбета зь ім не сустракалася.

Першая, вельмі фармальная, сустрэча адбылася на дыпляматычным прыёме з нагоды абраньня прэзыдэнта. Потым пані Эльжбета яшчэ прысутнічала на некалькіх выступах і сустрэчах Лукашэнкі ў працоўных ці студэнцкіх калектывах, куды запрашалі і амбасадараў.

На інаўгурацыю Аляксандра Лукашэнкі прыбыў маршалак польскага Сэйму Юзэф Алексы (1946—2015), ён сядзеў разам з пані Эльжбетай у Авальнай залі Вярхоўнага Савету непадалёк ад трыбуны, на якой прысягаў першы прэзыдэнт Беларусі.

Алексы тады трымаўся пратаколу, павіншаваў, сказаў некалькі словаў у парлямэнце. Пасьля ўрачыстасьці ў Юзэфа Алексы была сустрэча з Аляксандрам Лукашэнкам у вузкім коле.

„Лукашэнка тады вельмі актыўна падтрымліваў эканамічную супрацу з Польшчай, аб палітыцы не казаў амаль нічога, толькі пра добрасуседзтва і разьвіцьцё супольных гаспадарчых праектаў“,— згадала пані амбасадар.

Амбасадар Смулкова зазначае, што Лукашэнка пазытыўна ўспрыняў прывезеныя маршалкам Сэйму Польшчы прапановы супрацы, у прыватнасьці, канцэпцыю польска-беларускай стратэгічнай эканамічнай зоны, зарыентаванай на транзыт „Усход—Захад“, з чым зьвязвалася будаўніцтва аўтастрадаў ды іхнай інфраструктуры, і ўдзел Беларусі ў эўрарэгіёне „Буг“.

Абмяркоўвалася таксама скліканьне польска-беларускага круглага стала, які б даваў шанцы рэгулярна сустракацца палітыкам, інтэлектуалам і бізнэсоўцам. Лукашэнка таксама падтрымаў магчымасьць стварэньня двухбаковых прэзыдэнцкіх групаў Польшчы і Беларусі, міжпарлямэнцкую працу, выкарыстаньне эканамічнага і фінансавага досьведу Польшчы на кансультацыйных сустрэчах…

Праз 20 гадоў пасьля тых перамоваў я спытаў у пані Смулковай:

„І што з гэтага было ажыцьцёўлена?“
„Prawie nic,— шчыра адказала пані амбасадар, што па-польску азначае ‘амаль нічога’.— Гэты пачатак не прадказваў ажно такога адступленьня ад супрацы, якое наступіла пазьней. Пасьля тае размовы можна было чакаць, што суседзкая супраца будзе зьдзяйсьняцца згодна з падпісанай вялікай двухбаковай дамовай. Аднак яна шмат у чым перарвалася“.

Яшчэ адна сытуацыя дапамагла пані Эльжбеце бліжэй зразумець новую ўладу Беларусі.

„Напачатку свайго прэзыдэнцтва Аляксандар Лукашэнка быў запрошаны ў Польшчу, на ўрачыстасьці з нагоды 50-годзь-



*Аляксандар Лукашэнка прымае дэлегацыю з Польшчы на чале зь міністрам замежных справаў Анджэем Алехоўскім (н. 1947), 1994 год.*

дзя вызваленьня нямецкага канцлягеру Аўшвіц (у ваколіцах г. Асьвенціма). Ёсьць такое дыпляматычнае правіла, што калі з тваёй краіны вяртаецца найвышэйшая службовая асоба дзяржавы, у якой служыш, то трэба яе прывітаць у аэрапорце і спытацца пра ўражаньні. З МЗС Беларусі ніякага запрашэньня на цырымонію вітаньня прэзыдэнта для мяне не было; я думаю: ну, МЗС маладыя, недасьведчаны, то паеду ў аэрапорт без запрашэньня. Я села ў машыну са сьцяжком Польшчы, трапіла сярод усіх высокіх чыноўнікаў, міністраў, якія віталі прэзыдэнта ў аэрапорце. Пад'ехаў самалёт, падставілі трап, усе падыходзяць, то і я падыходжу пад гэтую лесьвіцу, па якой ён выходзіць, вітаецца. І я чакаю, што ён зьверне на мяне ўвагу. Ніякай, абсалютна. Не дык не. Можа, не пазнаў, можа, не захацеў. Разьвітаўся з некалькімі асобамі, і прагучала каманда, што разьяжджаемся. Ну, калі не было кантакту, то я падумала — чаго мне чакаць, пакуль ён выедзе. І паехала. Аж бачу, гоніць нейкі перадавы „пілёт“ і выціскае нашую машыну на ўзбочыну, прымушае спыніцца. І ўвесь картэж Лукашэнкі і тыя, хто за ім, праехалі, перш чым мы змаглі рушыць зноў. Ну, думаю, вось так паставіліся да польскага амбасадара…“

Адзіная даўжэйшая размова амбасадара Польшчы Эльжбеты Смулковай з Аляксандрам Лукашэнкам адбылася падчас афіцыйнай сустрэчы з нагоды заканчэньня яе дыпляматычнай місіі ў 1995 годзе.

Гэтая сустрэча ў адміністрацыі прэзыдэнта пачалася са спазьненьнем больш чым на 15 хвілін, што было парушэньнем дыпляматычнага пратаколу, і пані амбасадар ужо хацела сысьці, але першы намесьнік міністра замежных справаў Беларусі Валеры Цапкала (н. 1965) угаварыў яе пачакаць яшчэ, не рабіць скандалу. Пані Эльжбета згадвае той момант:

„Магчыма, гэта было не спэцыяльна, можа, не пасьпелі яму прынесьці тыя кветкі, а ён хацеў зь вялікім букетам павітаць, як і было. Я дачакалася. Размова тая доўжылася з паўгадзіны, мы сядзелі, гутарылі аб розных рэчах. Ён пацікавіўся маімі ўражаньнямі ад Беларусі. Фактычна гутарка ішла ў межах пратаколу, ня думаю, што было выразнае жаданьне дамовіцца пра нешта канкрэтнае. Вядома, што гэты чалавек зьяжджае, і трэба ў канцы місіі прысьвяціць яму крыху ўвагі“.

Пані Эльжбета зьвярталася да Лукашэнкі па-беларуску, ён таксама стараўся адказваць на беларускай мове, але збольшага зь ягоных вуснаў гучала расейская.

У часе размовы пра ўнутраныя беларускія справы пані амбасадар сказала Лукашэнку:

> „Я веру, што вы хочаце дабра для народу, але мэтады, якімі вы рэалізуеце сваё жаданьне, часта непрымальныя“.

Пры гэтым пані Эльжбета заўважыла, як зьбялеў Цапкала, але Лукашэнка спакойна глянуў у адказ і сказаў: „Ну так, усе могуць памыляцца“.

> „Я ацаніла адказ як добры выхад з сытуацыі, які сьведчыць, што гэты чалавек — не такі ўжо просты калгасьнік, як гэта некаторым людзям тады падавалася“.

Спыненьне рэалізацыі двухбаковых міжурадавых дамоўленасьцяў у эканоміцы, адукацыі, іншых галінах пані Эльжбета абмяркоўвала у часе сваёй працы зь іншымі дзеячамі ў розных чыноўніцкіх кабінэтах.



*Разьвітальная сустрэча Эльжбеты Смулковай з Аляксандрам Лукашэнкам. 1995 год.*

„Размовы гэтыя былі выкліканыя найперш тым, што Польшча абмежавала кантакты з кіраўніцтвам Беларусі, і былі спробы арганізаваць візыты хаця б на ўзроўні намесьнікаў міністраў. І калі ў мяне пыталіся, чаму толькі такі ўрадовец прыяжджае, а не вышэйшы, то трэба было тлумачыць, што гэта залежыць ад падыходаў беларускай улады да правоў чалавека. Такія размовы адбываліся ў розных міністэрствах. Даволі хутка пасьля прыходу Лукашэнкі да ўлады адчулася істотнае пахаладаньне дачыненьняў паміж Беларусьсю і Польшчай“.

Нягледзячы на малы досьвед размоваў з Аляксандрам Лукашэнкам у Эльжбеты Смулковай, я ня мог не папрасіць яе ацаніць мову Лукашэнкі, скарыстаўшыся яе першай спэцыяльнасьцю. Як дыялектоляг і фанэтыст пані Эльжбета адказала:

„Мовазнаўчых досьледаў я на прэзыдэнце не рабіла, але ня раз чула яго прамовы, у тым ліку ягонае «Дарагія жэншчыны»... Як спэцыяліст магу сказаць, што гэта чалавек, які фактычна гаворыць на расейскай мове, але мае беларускую аснову (артыкуляцыйную базу), і гэтая ягоная расейская мова натуральным чынам насычаная беларускай фанэтыкай. Я не настолькі ўважліва яго слухала, каб ацаніць, які працэнт гэтай беларускай фанэтыкі, але што ў яго маўленьні беларуская аснова — гэта яўна. Магу сказаць таксама, што і лексычна ягоная расейская мова прыпраўленая беларускімі словамі“.

Зь цягам часу пані прафэсар Смулкова заўважыла прагрэс Аляксандра Лукашэнкі ў расейскай мове — у кірунку большай чысьціні, але цьвёрдасьць шыпячых у яго ўсё ж засталася.

# Польскасьць і беларускасьць

*Атрыбутамі польскасьці ў Беларусі агулам лічацца
тры чыньнікі: каталіцкае веравызнаньне,
польская мова і шляхоцкае паходжаньне*[89].

Эльжбета Смулкова як амбасадар мела абавязак сустракацца з прадстаўнікамі польскай меншасьці ў розных рэгіёнах Беларусі, наведвацца зь візытамі да мясцовай улады адпаведных гарадоў і раёнаў, але рабіла гэта ня толькі паводле службовай інструкцыі, але і таму, што лічыла гэта сваім маральным абавязкам. Пры тым яна заўсёды заходзіла ў касьцёлы ў беларускіх гарадах, калі быў час, то і брала ўдзел у імшы, наведвала польскія магілы, вяла шмат перамоваў аб іх рэстаўрацыі, аб захаваньні памяці пра польскую прысутнасьць у Беларусі.

Адным зь першых гарадоў, куды выехала Эльжбета Смулкова з мужам Віктарам пасьля прызначэньня амбасадарам у Беларусь, стаў Пінск. Паехала да ксяндза Казімера Сьвёнтэка (1914—2011), які незадоўга да таго, ў траўні 1991 году, стаў біскупам, мітрапалітам Менска-Магілёўскім, апостальскім адміністратарам Пінскай дыяцэзіі.



*Кардынал Казімер Сьвёнтэк у часе імшы.*

[89] Elżbieta Smułkowa, *Białoruś i pogranicza*, s. 574.

Ксёндз Казімер Сьвёнтэк быў несумненна легендарнай асобай. У 1941 годзе ён два месяцы адбыў у савецкай турме, у камэры сьмяротнікаў, чакаючы выкананьня сьмяротнага прысуду, быў вызвалены з прыходам немцаў, а па вайне 10 гадоў адбыў у сыбірскіх лягерах. Ён адстаяў сваё права быць сьвятаром у Пінску, зьбярог славуты Францішканскі касьцёл ад намераў савецкіх уладаў разбурыць яго і служыў там усё сваё жыцьцё.

Казімер Сьвёнтэк быў палякам, але служыў усім каталікам Беларусі, спрыяў адраджэньню ў краіне веры і нацыянальнай сьвядомасьці як палякаў, так і беларусаў, перакананая пані Эльжбета.

Эльжбета Смулкова мела зь ім шмат сустрэчаў, але найбольш запомнілася тая першая, у 1991 годзе:

„Гэта быў разумны аб'ектыўны чалавек, несумненна, польскі патрыёт, але чалавек, які разумеў жыцьцё і правы іншых людзей. Я зь вялікай павагай да яго стаўлюся. Мы сустракаліся шмат разоў, ён бываў і ў нас дома ў гасьцях, і афіцыйна ў амбасадзе. Пры першым спатканьні ў Пінску ён быў больш афіцыйны, але шчыры і прыязны ў дачыненьнях да нас зь Віктарам. Паказаў нам катэдральную сьвятыню, падарыў абразок, расказаў пра сябе, пра разбурэньне езуіцкага касьцёлу Сьвятога Стэфана ў Пінску, які зьнішчылі ўжо пасьля



*Казімер Сьвёнтэк з Эльжбетай Смулковай.*

вайны. Сьвёнтэк як вучыў, так і жыў у сваёй сьціплай хатцы ў Пінску. Любіў хатніх жывёл, асабліва сабак, здымаў вельмі прафэсійныя дакумэнтальныя фільмы, пераважна аб прыродзе, выступаў супраць асушэньня балотаў“.

Моўную палітыку шматгадовага кіраўніка беларускага касьцёлу кардынала Казімера Сьвёнтэка пані Эльжбета апісала наступным чынам:

„Я разумею, што кардынал Сьвёнтэк імкнуўся, каб там, дзе ёсьць польскія суполкі, была магчымасьць адправіць імшу па-польску, каб у старых людзей, нават калі яны ня польскай нацыянальнасьці, але прывыклі да каталіцтва на польскай мове, гэтага права не забіраць. Але ён цалкам усьведамляў, што трэба даць магчымасьць каталікам-беларусам мець службу па-беларуску. І сам гэтага трымаўся. Калі ён выступаў афіцыйна, то гаварыў па-беларуску. Незалежна ад польскага патрыятызму, ён быў першагерархам Беларусі й стараўся адпавядаць гэтай пасадзе. Гэта дакладна так. Ня ўсе ксяндзы былі такія, ня ўсе гэта разумелі“.

Неспрыяльная беларушчыне пазыцыя некаторых ксяндзоў, якія прыбылі ў Беларусь з Польшчы, сталася прычынай звароту Эльжбеты Смулковай да Папы Яна Паўла II (1920—2005) у 1990 годзе. Распавядае пані Эльжбета:

„Гэта была просьба, каб ён зьвярнуў большую ўвагу на тое, каго з ксяндзоў польскія герархі пасылаюць у Беларусь. Гэты зварот да Папы я выкарыстала, папрасіўшы, каб пасылалі ксяндзоў, якія ведаюць, куды едуць, і каб не трактавалі каталіцызм як польскую веру, каб бралі пад увагу, што ёсьць каталікі-беларусы, якія чакаюць малітвы і службы Божай на беларускай мове. Мне ішлося пра тое, каб можна было катэгарычна адкінуць думку, зь якой я сустракаюся ў Беларусі, што каталіцызм палянізуе беларусаў. Папа гэта вельмі добра зразумеў, ён гэта выслухаў, і я бачыла, што ён згодны са мною“.

Размова з Папам адбылася ў часе Рымскай канфэрэнцыі, прысьвечанай узаемаразуменьню ў Цэнтральнай Эўропе, якая прайшла пад патранатам Яна Паўла II ў 1990 годзе.

Гэта была першая сустрэча дасьледнікаў краін былога Вялікага Княства Літоўскага і Рэчы Паспалітай з СССР і Польшчы з заходнімі экспэртамі, пераважна эмігрантамі. Былі дэлегацыі зь Беларусі, Літвы, Польшчы, Украіны і з-за мяжы. Усяго сустракалася каля 50 экспэртаў. Беларусь прадстаўлялі Валер Чэкман (1937—2004), Анатоль Грыцкевіч (1929—2015), Адам Мальдзіс (н. 1932), зь беларускіх эмігрантаў Зора (1927—2003) і Вітаўт (н. 1927) Кіпелі, Ян Запруднік (н. 1926). Ад беларускай дэлегацыі Яну Паўлу II тады падарылі энцыкляпэдычны даведнік „Францыск Скарына“.

> „Ініцыятыва канфэрэнцыі зыходзіла ад Папы Яна Паўла II, мэтай было спатканьне дасьледнікаў двух розных сьветаў, каб яны прыйшлі да паразуменьня, кансэнсусу ў дасьледаваньні гісторыі вышэйназваных земляў.
> Адчувалася пэўнае жаданьне аднавіць сувязі Беларусі, Літвы, Украіны і Польшчы як дзяржаваў, якія належаць да заходняга сьвету, усьведаміць супольнасьць у культуры. Пра гэта афіцыйна не гаварылася, але для мяне было даволі ясна, што гэта спроба прыцягнуць увагу, што мы калісьці разьвіваліся падобна, мелі супольную дзяржаву“,— згадвае пані Эльжбета.



*Папа Ян Павал II і Эльжбета Смулкова, Рым, 1990.*

Пасьля той знакавай канфэрэнцыі ў Рыме ў 1991—1995 гадох адбыліся яшчэ чатыры канфэрэнцыі ў Польшчы (Люблін), Украіне (Камянец-Падольскі), Беларусі (Горадня) і Літве (Трокі), якія называліся адпаведна Рым-II, Рым-III, Рым-IV і Рым-V. Пані Эльжбета кажа, што брала ўдзел у трох з наступных пасьля Рыму канфэрэнцыях зь цікавасьцю:

„Гэтыя канфэрэнцыі былі вельмі пазытыўнымі, была адкрытасьць у спрэчках, відаць было, што ў нас розныя падыходы, а нават мэтадалягічныя разыходжаньні, але пра гэта гаварылася сьмела, адкрыта і спакойна“.

У пачатку 90-х гадоў, калі ў Беларусі актыўна ішло і рэлігійнае, і нацыянальнае адраджэньне, вярталіся вернікам, адбудоўваліся касьцёлы і цэрквы, некаторых беларускіх дзеячоў непакоіў імклівы рост як каталіцкіх грамадаў, так і суполак Зьвязу палякаў, яны баяліся, што гэта магло пагражаць беларускаму адраджэньню. Пані Эльжбета лічыць гэтую праблему надуманай:

„Я сустрэлася зь несправядлівай крытыкай касьцёлу за паланізацыю беларусаў у касьцёлах, ня раз чула і чытала ў Мен-




*Каталіцкія вернікі ў Менску дамагаюцца вяртаньня катэдры, у якой савецкая ўлада разьмясьціла „Дом фізкультуры“.*

ску, што там нібыта вывешвалі польскія сьцягі і партрэты прэзыдэнта Валэнсы. Пэрсанальна на гэтую тэму „грымеў“ Мікола Статкевіч [н. 1956], я гэта на ўласныя вушы чула, так што я неяк даволі востра яму сказала, каб думаў, што гаворыць, што нельга так, што нават прапаганда мае свае межы. Польскіх сьцягоў я нідзе ў беларускіх касьцёлах ня бачыла. Бачыла толькі раз польскія сьцяжкі ў руках людзей падчас пілігрымкі ў Будслаў, гэта было на дарозе, а ў касьцёле яны ўжо іх схавалі. Я сама дзе толькі была ў Беларусі, заходзіла ў касьцёл, а калі была нядзеля, то брала ўдзел у службе Божай, гэта было для мяне натуральна. І я нідзе ніколі ня бачыла ані сьцяга, ані партрэту Валэнсы. Гэта была несправядлівая прапаганда“.

Як паказаў час, каталіцкі касьцёл у Беларусі знайшоў моўны балянс, ад якога не пакутуе ані польская, ані беларуская мова. І гэта натуральна, мяркуе пані Эльжбета:

„Думаю, што касьцёл, незалежна ад крытычных позіркаў і цяжкасьцяў, можа ў Беларусі разьвівацца, бо ёсьць каталікі, у меншасьці, але ёсьць, ёсьць акрэсьленая група людзей. Мае быць згода паміж людзьмі, каб не перасольваць у адзін бок. Там, дзе трэба людзям, няхай будзе па-польску, чым гэта Беларусі перашкаджае? Але агульная сытуацыя такая, што моладзь гэтай пальшчызны ня ведае, і ёй трэба даць службу па-беларуску. Ня будзе ж касьцёл русыфікаваць беларусаў? Ня дай Божа! Я думаю, што гэта і ня робіцца“.

Пані Эльжбета згадвае, што падчас працы ў Менску ў яе былі добрыя дачыненьні з праваслаўным мітрапалітам, патрыяршым экзархам  Філарэтам (н. 1935).

„Аднаго разу я спрабавала зьвярнуць ягоную ўвагу на часопіс, які выдаваўся Менскай праваслаўнай эпархіяй, і публікацыю пра Берасьцейскую Унію. Падыход праваслаўя да Уніі, вядома, вельмі крытычны, але калі ён грунтуецца на фактах, то гэта іхнае права. Аднак той артыкул быў яўнай прапагандай, і я з павагі да Філарэта падумала, што варта зьвярнуць яго ўвагу, каб у часопісе «Минские епархиальные ведомости», афіцыйным друкаваным органе Беларускай праваслаўнай царквы, такой выразнай няпраўды не дапускалі. Ён не ўступіў са мной у спрэчку, адказаў дыпляматычна і спакойна, што гэта справа аўтара і што ён не займаецца цэнзурай“.



*Амбасадар Э. Смулкова і мітрапаліт Філарэт. 1994 год.*

Пані Эльжбета ведала ўніяцкага сьвятара айца Яна Матусевіча (1948—1998), першага дэкана Беларускай грэка-каталіцкай царквы:

„Я бачыла, што ён меў у сваім асяродзьдзі павагу, размаўляла таксама з маладымі сьвятарамі й мела ўражаньне, што можа акурат у Беларусі гэта будзе разьвівацца, бо канфлікт каталіцызму з праваслаўем, які часам выяўляўся, справакуе, што маладыя пойдуць у гэтую трэцюю царкву, каб не прымаць удзелу ў тых спрэчках“.

Эльжбета Смулкова кажа, што роля амбасады Польшчы ў апецы польскай меншасьці ў Беларусі была важнай і складанай задачай.

„Перш за ўсё жыхарам Беларусі польскага паходжаньня было цяжка зразумець, што мы — прадстаўніцтва Польшчы ў іншай краіне і што мы створаныя перадусім для вырашэньня міжнародных праблемаў. Да польскай меншасьці мы прыхільна ставімся, але гэта ня нашае галоўнае заданьне. А былі дзеячы польскай грамады, са Зьвязу палякаў Беларусі, якім здавалася, што мы перадусім павінны ім служыць. Польшча ж нямала ім дапамагла, фінансавала стварэньне Дамоў

польскіх, польскіх школаў, гэта было складана зрабіць, але ўдалося. Дамы польскія пабудаваныя ў Магілёве, Берасьці, Івянцы, Шчучыне, Горадні, сярэднія агульнаадукацыйныя польскія школы дзейнічаюць у Горадні і Ваўкавыску, грамадзкая польская школа — у Баранавічах“.

У цэлым пані Эльжбета перакананая, што Зьвяз палякаў Беларусі спрыяў і беларускаму адраджэньню, прыхільна да яго ставіўся, ягоныя актывісты былі патрыётамі Беларусі.

„Трохі спрэчак, супярэчлівых поглядаў, вядома, было. Крыху цяжкасьцяў яны мне прынесьлі, не магу сказаць, што зусім не. Перадусім у праблеме школьніцтва. Яны працавалі на тое, каб ствараць выключна польскія школы. Але ж ня можа быць так, каб грамадзянін Беларусі, паляк, вучыўся выключна паводле польскіх праграмаў і на польскай мове. Ён жа будзе жыць у гэтай краіне, ён павінен быць падрыхтаваны і ў польскай, і ў беларускай праблематыцы, культуры, гісторыі, і мову гэтай краіны таксама ён мае вывучыць.
У нас узьнікла нават нейкая форма канфлікту: яны як быццам не разумелі, што ў старэйшых клясах трэба ўводзіць дадатковыя беларускія заняткі.
Яшчэ адна праблема зь лідэрамі Зьвязу палякаў Беларусі была ў тым, што яны не жадалі ўжываць тэрмін «нацыянальная меншасьць» для беларускіх палякаў, а хацелі быць «нацыянальнай групай ці грамадой», бо яны тут аўтахтоны, жывуць спакон вякоў. Пераканаць іх, што ў юрыдычным сэнсе тэрмін «меншасьць» надае ім больш правоў, чым «нацыянальная група», было цяжка. А пераконваць даводзілася мне. Гэта быў той пэрыяд, калі правы нацыянальных меншасьцяў вырашаліся ў Беларусі ў глябальным праўным сэнсе згодна з агульнай Хартыяй правоў чалавека. У ёй былі разьмежаваныя правы нацыянальнай меншасьці і нацыянальнай групы. Але ўрэшце ўдалося іх пераканаць“.

Закон „Аб нацыянальных меншасьцях у Рэспубліцы Беларусь“ быў ухвалены з улікам меркаваньняў лідэраў нацыянальных грамадаў 11 лістапада 1992 году.

Яшчэ адна важная задача ў працы польскай амбасады — захаваць месцы памяці, месцы пахаваньняў палякаў на тэрыторыі Беларусі, кажа пані Смулкова:

„І тут з боку ўладаў, нават раённых, былі перашкоды, але зь цягам часу ў многіх месцах мы змаглі адбудаваць гэтыя помнікі, перадусім сканцэнтравалі увагу на месцах пахаваньня. Стаўленьне да памятных мясьцінаў, да магілаў шмат у чым сьведчыць аб культуры народу. Думаю, вельмі важна, каб можна было захаваць гэтую гістарычную польскую памяць на тэрыторыі Літвы, Беларусі, Украіны. Былі праблемы з паразуменьнем наконт ушанаваньня магілаў жаўнераў Арміі Краёвай у Беларусі. Але ўрэшце шмат дзе ўдалося паставіць помнікі і аднавіць магілы. Былі адноўленыя магіла Тамаша Ваўжэцкага [1753—1816] у Відзах, польскія могілкі ў Берасьці“.

Дарэчы, у Берасьці поруч з польскімі жаўнерамі пахаваныя і беларускія ваяры войска Булак-Балаховіча.

У архіве пані Эльжбеты захаваўся ліст з падзякай ад баранавіцкіх палякаў на адрас амбасадара Польшчы за ўдзел ва ўшанаваньні ахвяраў канцлягеру ў Калдычэве Баранавіцкага раёна 26 чэрвеня 1994 году. Падаю ў беларускім перакладзе:




*Ушанаваньне жаўнераў Арміі Краёвай, палеглых у баі пад вёскай Стрыеўкай Горадзенскага раёну.*

„Мы ўдзячныя, пані амбасадар, за тое, што першы раз за 50 гадоў высокі прадстаўнік Польшчы ўшанаваў памяць нашых родных і блізкіх, якія загінулі ад рук фашыстоўскіх злачынцаў у пекле Калдычэўскага канцлягеру. Мы ўдзячныя Польшчы за дапамогу ва ўпарадкаваньні братняй магілы палякаў у лясным урочышчы Пагарэлец. Спадзяемся на вашую дапамогу хаця б у аднаўленьні агароджы гістарычных каталіцкіх могілак у маёнтку Гарадзішча, дзе знаходзяцца магілы нашых продкаў, палякаў, удзельнікаў Паўстаньня 1863 году супраць царызму, а таксама магілы значнай колькасьці палякаў, якія загінулі ў Калдычэўскім лягеры ў 1944 годзе“.

Гісторыя і спадчына Арміі Краёвай у Беларусі ў 1990-я гады былі праблемай, якая выклікала вострую дыскусію ў беларускім грамадзтве, не заўсёды аб'ектыўную, перакананая пані Эльжбета:

„Да гэтай спадчыны заўсёды было дваістае стаўленьне: на гэты конт у прэсе была моцная прапаганда, я б так сказала, бо часта пісалі неаб'ектыўна і бяздоказна, што там ці там АК зрабіла крыўду Беларусі ці беларусу. Але адначасова былі людзі, якія займаліся гэтай гістарычнай праблематыкай прафэсійна. Успамінаю гісторыка прафэсара Аляксандра Хацкевіча [1923—1995], які шмат пісаў пра АК і даводзіў, што супрацьстаяньне і нэгатыўны погляд на АК у Беларусі вынікаў з канфлікту паміж савецкай партызанкай і Арміяй Краёвай. Ён пісаў, што былі канфлікты інтарэсаў, у якіх маглі пацярпець мясцовыя жыхары, але што ў АК не было мэты зьнішчаць беларусаў, было толькі супрацьстаяньне паміж канкрэтнымі вайсковымі аддзеламі — партызанкі, якая не заўсёды была нацыянальнай, а была савецкай і мела свае грахі на сумленьні, і Арміі Краёвай“.

У звароце да старшыні Вярхоўнага Савету Беларусі Станіслава Шушкевіча доктар гістарычных навук Аляксандар Хацкевіч, які сам быў вэтэранам вайны і сьведкам баёў АК з гітлераўцамі ў Налібоцкай пушчы, сьцьвярджаў, што ў атрадах Арміі Краёвай у Беларусі супраць нацыстаў змагаліся палякі, беларусы, габрэі. Ён заклікаў беларускія ўлады прызнаць іх вэтэранамі вайны, удзельнікамі вайсковых фармаваньняў сілаў антыгітлераўскай кааліцыі.

„Яшчэ адна важная рэч наконт Арміі Краёвай: па вайне, калі яе афіцыйна распусьцілі, дзейнічалі яшчэ розныя групы ўзброеных людзей, банды, але ў народзе іх называлі акаўцамі, і стаўленьне да Арміі Краёвай пасьля вайны цяжка пацярпела ад таго, што рабілі іншыя групы, якія фармальна з АК ня мелі нічога супольнага“,— заўважае пані Смулкова.

„Я старалася палагодзіць зь беларускімі ўладамі гэтую праблему, адсылала да меркаваньняў гісторыкаў, зьвяртала ўвагу, што нават цяжкія рэчы, якія адбываліся ў той час, былі характэрныя для вайны і што, на шчасьце, гэтая вайна ўжо далёка, гэта мінуўшчына, і трэба канцэнтравацца на тым, каб зрабіць нешта карыснае для сёньняшняга дня і будучыні, а не разьдзіраць увесь час старыя раны“.

Палітычны кантэкст у гэтай дыскусіі вакол Арміі Краёвай у Беларусі, несумненна, быў, але калі б дасюль у нас на гэтую тэму працягваўся нармальны грамадзкі дыялёг, пачаты ў часы амбасадарства Эльжбеты Смулковай, то бакі напэўна знайшлі б кансэнсус.

Спакойнага вырашэньня гэтай праблемы ў Беларусі дасюль няма, пра што сьведчыць спроба мясцовых уладаў у 2013 годзе зьнесьці крыж у вёсцы Рачкаўшчыне Шчучынскага раёну на месцы, дзе загінуў палявы камандзер Арміі Краёвай Анатоль Радзівонік (1916—1949). Балючую рэакцыю выклікаюць і спрэчкі ў прэсе пра злачынствы супраць беларускага насельніцтва Беласточчыны былых байцоў АК пад кіраўніцтвам Рамуальда Райса (псэўданім „Буры“, 1913—1950).

Байцоў АК у Беларусі так і не прызналі вэтэранамі вайны, удзельнікамі вайсковых фармаваньняў сілаў антыгітлераўскай кааліцыі, як раіў прафэсар Хацкевіч.

Грамадзяне Беларусі, якія былі вэтэранамі Войска Польскага, у 1993 годзе дачакаліся прызнаньня і дапамогі ад польскага ўраду. Польскія ўлады вырашылі плаціць штомесячныя пэнсіі былым жаўнерам. Пані Смулкова арганізоўвала прыёмы такіх людзей у амбасадзе і старалася іх ушанаваць.

> „Езьдзіла я і ў іншыя гарады і там ім уручала пасьведчаньні, а часам і ордэны за канкрэтныя вайсковыя заслугі. І гэта для тых людзей мела істотнае значэньне. Ім было вельмі прыемна, што пра іх узгадалі. Памятаю іхныя прамовы і словы ўдзячнасьці, на старасьці яны пачуваліся патрэбнымі, былі радыя, што іх нехта ўспомніў. Гэта былі сапраўды кранальныя перажываньні“.

Сустрэчы пані амбасадара з вэтэранамі Войска Польскага прайшлі ў Берасьці, Пінску, Менску і Горадні.

Вось як апісала такую сустрэчу ў Пінску мясцовая аўтарка Ніна Лушчык-Ільянкова (1929—2004):

> „Зайшла ў залю немаладая пані ў цёмна-зялёным жакеце, сыбірацкі крыж на грудзёх, твар заклапочаны, хоць яе віны няма, што ваякі больш за паўстагодзьдзя чакалі хвіліны, калі Польшча пра іх згадае. Шмат, ах, шмат так і не дачакаліся. Сумна. Сумныя вочы ў пані амбасадара. Уручае адзнакі, вэтэранскія

пасьведчаньні, чырвоныя півоні. Хвіліна маўчаньня па тых, якія ад куляў, ад ранаў, у лягерах за дротам ад хваробаў і голаду гэтай хвіліны не дачакаліся… Чырвоная ад кветак заля і белая хустка ля вачэй старога салдата“[90].

У часе выкананьня місіі амбасадара Польшчы ў Беларусі Эльжбета Смулкова сустракалася з прадстаўнікамі магнацкіх родаў, якія паходзілі зь Беларусі і мелі да гэтай зямлі сантымэнт. У прыватнасьці, з апошнім ардынатам роду Радзівілаў Антоніем (1935—1999) і ягонай жонкай падчас іхнага першага прыезду ў радзіннае гняздо — Нясьвіж. Зь ягоных рук яна атрымала знак „Камандорыя з зоркай“ рыцарскага ордэну Сьвятога Юр'я Пакутніка, які прапанаваў для яе доктар Анджэй Цеханавецкі (1924—2015), сябра галоўнай рады гэтага ордэну, таксама зьвязаны паходжаньнем свайго роду з сучаснай Беларусьсю.

Антоні Радзівіл пасьля Другой усясьветнай вайны жыў у Вялікабрытаніі. Скончыў Лёнданскі ўнівэрсытэт, працаваў у кампаніі „Shell“. Пахаваны ў крыпце Нясьвіскага касьцёлу Божага Цела, сярод саркафагаў 78 ягоных продкаў.

Пані Эльжбета згадвае пра ўражаньні Антонія Радзівіла ад Нясьвіжа:

„Рэагаваў ён на ўбачанае як арыстакрат, успрымаў рэчаіснасьць такой, якая ёсьць, цаніў Нясьвіж як месца паходжаньня ягонага роду, вельмі ўважліва і эмацыйна ўспрымаў гэтыя пахаваньні ў крыпце нясьвіскага касьцёлу, але сам ужо меў зусім іншае жыцьцё. Тым ня меней пакінуў запавет пахаваць сябе там, у фамільным склепе ў Нясьвіжы.

Калі Антоні быў першы раз, то з захапленьнем глядзеў на гэты палац, бо ён сапраўды быў магутны, з добрым густам пабудаваны і ў някепскім стане захаваны. І добра, што там не зрабілі дом для прыёмаў для прэзыдэнта Лукашэнкі, бо такія размовы хадзілі. Музэй зрабілі, і добра. Многае зроблена ў гэтым палацы даволі добра, цікава, прыгожа, спэцыялісты крыху крытыкуюць, але гэта зразумела“.

Дзякуючы фундацыі, кіраванай графам Тышкевічам, пані Эльжбета змагла праводзіць супольныя зь беларускімі моваведамі дасьледаваньні Браслаўшчыны і надрукаваць у Варшаве двухтомнік „Brasławszczyzna. Pamięć i współczesność“.

---

[90] *Pogranicza języków. Pogranicza kultur*, s. 390.



*Пані Эльжбета ў Нясьвіжы, 2013 год.*

Па-сяброўску супрацоўнічала пані Эльжбета з гісторыкам мастацтваў і мэцэнатам Анджэем Цеханавецкім, нашчадкам князёў Мсьціслаўскіх і Заслаўскіх. Доктар Анджэй Цеханавецкі быў ганаровым старшынём Беларуска-польскай урадавай камісіі супольнай культурнай спадчыны, віцэ-прэзыдэнтам Ангельска-беларускага таварыства ў Лёндане, ён падараваў Беларусі слуцкі пояс, рэдкія кнігі і рарытэты з радзівілаўскай калекцыі, а таксама рупіўся пра палац у Бачэйкаве Бешанкавіцкага раёну на Віцебшчыне, дзе некалькі стагодзьдзяў жыў ягоны род.

Гэтыя людзі, нашчадкі славутых родаў, раскіданыя па ўсім сьвеце, памятаюць пра свае разбураныя радзінныя гнёзды ў Беларусі, і яны маглі б стаць мостам для міжнароднага сяброўства — пры лепшых умовах, думае пані Эльжбета:

> „Нейкі сантымэнт да радзімы продкаў яны маюць, вядома. Хаця трэба разумець, што тыя людзі, якія жывуць недзе далёка ў сьвеце, а некаторыя зь іх нават моваў славянскіх ужо ня ведаюць, ня будуць гэтым адмыслова цікавіцца, іхная моладзь мае інакшыя прыярытэты, чым вяртаньне да далёкай мінуўшчыны“.

# Беларускія сябры і прыяцелі пані Эльжбеты

*Цяжка сабе ўявіць больш мірную і добразычлівую дзейнасьць для беларуска-польскіх дачыненьняў за тое, чым я займалася ў Менску.*

Эльжбета Смулкова[91]

За амаль 60 гадоў дасьледаваньня Беларусі, яе мовы і культуры, за чатыры гады працы амбасадарам Польшчы ў Менску Эльжбета Смулкова знайшла сабе ў Беларусі дзясяткі, калі ня сотні, сяброў, прыяцеляў, добразычліўцаў. Яе дружалюбны, уважлівы і спагадлівы да іншых характар несумненна спрыяў таму, што многія знаёмствы яе перарасталі ў сапраўднае шчырае сяброўства цягам дзясяткаў гадоў, у напоўненыя эмоцыямі прыязныя дачыненьні, у тым ліку паміж сем'ямі, з шматгадовым ліставаньнем і ўзаемнымі наведваньнямі. Лёс пані Смулковай выдатна дэманструе, што сяброўства — важная каштоўнасьць і вялікая складовая частка жыцьця чалавека, ягоных посьпехаў і радасьцяў.

Перадусім жа пані Эльжбеце хацелася назваць сваіх сяброў з ужо былога Інстытуту мовазнаўства Акадэміі навук Беларусі, зь якімі пазнаёмілася падчас навуковых стажаў у Менску ў 1960-я гады і зь якімі мела прыязныя сувязі ўсё далейшае жыцьцё:

„Я ў іх найбольш працавала, хаця фармальна была прымацаваная да БДУ. Але паколькі мне былі патрэбныя дыялекталягічныя матэрыялы, то сэктар дыялекталёгіі Інстытуту мовазнаўства быў тым месцам, дзе я магла гэтымі матэрыяламі карыстацца. Мае найдаўжэйшыя стажы былі там у час напісаньня доктарскай працы па земляробчай лексыцы. Я ўжо гаварыла пра кіраўніцу гэтага сэктару Юзэфу Мацкевіч, але ў той пэрыяд я да яе ставілася як да кіраўніка, зь вялікай пашанай. Мы фактычна пасябравалі ўжо ў часе маёй працы ў амбасадзе Польшчы ў Менску. Тады і я ўжо была больш сталай, і яна ўжо не працавала на кіроўнай пасадзе. Я наведвала Юзэфу Фляр'янаўну ў яе кватэры, бо яна страціла зрок і не магла да мяне прыйсьці. Я некалькі

---

[91] *Чувствуйте себя дома* // „Имя“, 27.09.1995.

разоў у яе была дома, спачатку са сваёй ініцыятывы, а потым пачалі запрашаць. Гэта было нешта такое, як сяброўства ў спадчыну, калі можна так сказаць. Думаю, што яна бачыла ўва мне ня толькі мяне, але і прафэсара Антаніну Абрэмбскую-Яблоньскую, маю настаўніцу. А яны былі вельмі блізкія паміж сабою, сябравалі, ліставаліся, пісалі супольныя артыкулы. Прафэсар Яблоньска друкавала яе працы, найперш пра ўплыў літоўскай мовы на беларускія гаворкі. Таму Юзэфа Фляр'янаўна і да мяне вельмі цёпла ставілася“.

Ёсьць у пані Эльжбеты яшчэ адзін прыклад „сяброўства ў спадчыну“ — з супрацоўніцай Юзэфы Мацкевіч, але крыху ў іншай форме:

„Маё сяброўства з Аленай Чабярук [1925—2007], Лёляй, як мы яе называлі, перайшло на яе дачку і ўнукаў. І цяпер, калі прыяжджаю ў Менск, я не магу не пабываць у іх у кватэры. Гэта першы дом, які я наведваю. Я да іх іду як дадому, хаця яна ўжо памерла, засталіся яе муж, дачка зь дзьвюма ўнучкамі, яны з радасьцю мяне прымаюць. Некалькі гадоў таму я запрасіла на лета ў наш дом у Варшаву ўнучку Алены з двума дзецьмі. Было вельмі прыемна, і па сёньня мы згадваем гэты прыезд, а дзеці дасюль памятаюць сабаку — нашу Азу, якая ім вельмі спадабалася. Гэтак нашае сяброўства зь сям'ёй Лёлі Чабярук трывае больш за 40 гадоў“.

Добрым словам пані Эльжбета ўзгадвае іншага беларускага філёляга Ганну Арашонкаву (1928—2008), яна дагэтуль удзячная за абеды, на якія Ганна Уладзімераўна запрашала яе да сябе дадому ў часе стажаў у Менску. Ганна Арашонкава жыла блізка ад Інстытуту мовазнаўства і хадзіла абедаць не ў сталоўку, а дамоў, пры гэтым нязьменна запрашала і каляжанку з Польшчы.

„Калі зь некім сябруеш, то бярэш пэўны ўдзел у жыцьці гэтых людзей, іх дзяцей, што падрастаюць і потым сталеюць. Мы шмат гадоў ліставаліся з Аняй, можа, найбольш. Для мяне было надта прыкра, што я не даведалася пра яе сьмерць. Калі на Кангрэсе славістаў 2013 году ў Менску, седзячы ў прэзыдыюме, бо мой даклад быў першым, я глядзела ў залю і ўбачыла падобную на Ганну Уладзімераўну жанчыну, падумала, што гэта яна. Потым я пабегла за ёй, але выявілася, што гэта быў нехта іншы“.

З доктарам філялягічных навук Ліліяй Выгоннай (1942—2001) пані Эльжбета нават працавала разам на Палесьсі. Лілія Ціханаўна таксама займалася земляробчай лексыкай[92].

„Нас гэтая земляробчая лексыка зьяднала. Між іншага, яна напісала вельмі добрую рэцэнзію на маю працу і запрасіла працягваць супрацу. І мы разам езьдзілі ў экспэдыцыі і напісалі некалькі артыкулаў",— згадвае пані Эльжбета сваю каляжанку зь Менску.

Лілія Выгонная незадоўга да сваёй сьмерці напісала пра Эльжбету Смулкову:

„Шчодрасьць, адказнасьць і руплівасьць — рысы, якія характарызуюць дыялектоляга, вучонага, чалавека — Э. Смулкову. Беларускія дыялектолягі на свае вочы бачылі Яе самаадданую працу ў палявых умовах. Зь Ёй было добра вандраваць, запісваць і абмяркоўваць пачутае, весьці гутаркі на навуковыя тэмы. Зацікаўленасьць, уважлівае стаўленьне да зьяў беларускай мовы і культуры — арганічная якасьць усіх публікацый праф. Э. Смулковай"[93].

Пані Эльжбета блізка сябравала з Валянцінай Куляшовай (н. 1936), дачкой Аркадзя Куляшова (1914—1978), вядомай літаратуразнаўцай, перакладніцай з баўгарскай і польскай моваў.

„Яна вельмі таленавітая. Закончыла славістыку ў МДУ, там пазнаёмілася з баўгарскім паэтам Хрыстам Берберавым [1935—1967], выйшла за яго замуж, жыла ў Баўгарыі, мела дачку і сына — знакамітага музыку Ўладзімера Берберава [н. 1957]. Яе муж рана памёр, і яна вярнулася ў Менск. Мы фактычна пасябравалі, зацікаўленыя падобнымі праблемамі, літаратурнымі і культурнымі ўпадабаньнямі. Яна мяне вадзіла па розных тэатрах. Я знаёмілася з гуманітарнай Беларусьсю ў вялікай ступені дзякуючы Валі. Яе кампанія стала тады маёй. Памятаю, аднойчы мы сустракалі разам Новы год. Разам з намі ў кампаніі былі Навум Кісьлік [1925—1998], Алесь Адамовіч [1927—1994] з жонкаю ды іншыя. Дзякуючы Валянціне Куляшовай я зь імі пазнаёмілася",— згадвае пані Эльжбета сваю сяброўку.

---

[92] Л.Ц. Выгонная. *Палеская земляробчая лексіка (тыпалагічная і арэальная дыферэнцыяцыя)*: дыс. канд. філал. навук. Мінск, 1967.
[93] *Pogranicza języków. Pogranicza kultur*, s. 383.



*Валянціна Куляшова, Уладзімер Берберaў, Эльжбета Смулкова. 1993 год.*

Польскі беларусіст Эльжбета Смулкова сябравала зь беларускім палянiстам Вячаславам Вярэнічам (1924—1999), да якога ў Польшчы была і застаецца вялікая павага за ягоную цікавасьць да польскай мовы, да гаворак палякаў, якія жывуць у Беларусі ды іншых краінах былога СССР.

Пані Эльжбета зь цеплынёй згадвае Вячаслава Вярэніча:

„У Вярэнічу для мяне было каштоўным ягонае добрае стаўленьне да людзей, ён зусім натуральна дапамагаў усім, каму была трэба падтрымка. Слава, як мы яго называлі, быў для нас прыкладам грамадзяніна Вялікага Княства Літоўскага. Патрыёт Беларусі, паляшук, які падкрэсьліваў сваю сувязь з малой радзімай — Палесьсем, і адначасова чалавек, выхаваны ў польскай культуры. І гэта яму не перашкаджала быць беларусам. Гэта якраз усё элемэнты ВКЛ. Ён аб'ектыўна ставіўся да гэтай трохнароднасьці, вельмі прыгожа пра гэта гаварыў, нават афіцыйна. Вярэніч да вайны закончыў польскую гімназію, ён меў вельмі слаўную маму, зь якою я пазнаёмілася. Ён ініцыяваў у Савецкім саюзе, у Акадэміі навук, групу маскоўскіх і беларускіх дасьледнікаў для вывучэньня польскіх гаворак усяго СССР, а ня

толькі Беларусі. І яны выдалі двухтамовік «Польские говоры в СССР». За гэта Вячаслаў меў нямала непрыемнасьцяў ад уладаў, але ён усё пераадолеў, абараніў кандыдацкую і ў Польшчы разам з прафэсарам Янушам Рыгерам [н. 1934]. выдаваў часопіс аб польскіх гаворках «Studia nad polszczyzną kresową»“.

Вялікае ліставаньне пані Эльжбета вяла зь іншай вядомай беларускай паляністкай Кірай Гюлумянц (1925—1999), якая заснавала беларускі часопіс „Паланістыка — Полонистика — Polonistyka“, была ўкладальніцай папулярнага польска-расейскага фразэалягічнага слоўніка. Яна працавала ў БДУ, дзе навучыла польскай мове многіх беларускіх славістаў, уганараваная знакам „Заслужаны для польскай культуры“. А Кірына кватэра на вуліцы Казінца ў Менску была месцам, куды пані Эльжбета магла прыехаць у любы час.

Сяброўскія дачыненьні зьвязваюць Эльжбету Смулкову са слынным літаратуразнаўцам прафэсарам Адамам Мальдзісам.

„Як толькі я прыехала ў Менск працаваць амбасадарам, зразумела ягоную ролю і ягонае значэньне для Беларусі, пабачыла ягоную ахвярнасьць. Ён вельмі шмат рабіў для беларускай культуры, ведаючы, што гэта не падабаецца ўладам. Але меў



*Эльжбета Смулкова і Вячаслаў Вярэніч. 1996 год.*

патрэбу ў гэтым, разумеў важнасьць гэтага і не баяўся. Адам Восіпавіч шмат зрабіў дзеля захаваньня нацыянальнай памяці беларусаў. Апрача таго, ён заснаваў Міжнародную асацыяцыю беларусістаў, умела кіраваў ёю, арганізоўваў зьезды, нягледзячы на невялікую прыхільнасьць уладаў. Тое, што закрылі ягоны Скарынаўскі цэнтар,— вялікая страта для беларускай культуры, гэта мае і яшчэ будзе мець нэгатыўныя наступствы“,— кажа Эльжбета Смулкова пра Адама Мальдзіса.

Пані Эльжбета — адна з самых актыўных удзельніц Міжнароднай асацыяцыі беларусістаў, заснаванай Адамам Мальдзісам. Яна шчыра шкадуе, што цяпер ня бачыць у Беларусі іншай фігуры такога ж маштабу, як Адам Восіпавіч, аўтара і арганізатара праектаў у навуцы і культуры.

У прыязных дачыненьнях пані Эльжбета была зь вядомымі беларускімі філёлягамі Нінай Вайтовіч (1913—1976), Адамам Супруном (1928—1999), Валерам Чэкманам (1937—2004), Львом Шакуном (1926—1996), Аляксандрам Крывіцкім (н. 1927), Нінай Мячкоўскай (н. 1946), Генадзем Цыхуном (н. 1936) і з многімі іншымі.

Падчас працы амбасадарам Польшчы пані Эльжбета падтрымлівала ранейшыя сяброўствы і знаходзіла новых сяброў у Беларусі.



*Эльжбета Смулкова і Кіра Гюлумянц. 1996 год.*

Добрыя прыязныя дачыненьні зьвязалі яе з паэтам Генадзем Бураўкіным (1936—2014), пра якога пані Эльжбета згадвае добрым словам:

„У Бураўкіну я бачыла беларускага патрыёта сярод менскага начальства, ён кіраваў Беларускім тэлебачаньнем. У пазьнейшыя гады сярод беларускіх уладаў цяжка было б сустрэць такога. Генадзь Бураўкін быў адным з тых беларусаў, якія афіцыйна выказвалі свае погляды. І ён часам вельмі вострыя рэчы гаварыў у публічных месцах, адзін зь нямногіх, хто ня толькі тэт-а-тэт выказваўся, але і на публіцы. Гучна казаў, не хаваючыся“.

З прадстаўнікоў уладаў у пані Смулковай былі добрыя кантакты са старшынём Вярхоўнага Савету Станіславам Шушкевічам, якому яна ўручала даверчы ліст як амбасадар, зь ягоным наступнікам на пасадзе старшыні Вярхоўнага Савету Мечыславам Грыбам (н. 1938), зь міністрам культуры Анатолем Бутэвічам (н. 1948), а таксама зь міністрам замежных справаў Уладзімерам Сяньком (н. 1946), з кіраўніком аддзелу двухбаковых сувязяў Міністэрства замежных справаў Уладзімерам Шчасным (н. 1948). З апошнім былі афіцыйныя размовы і прыязныя дачыненьні. Пані Эльжбета высока цэніць яго як дыплямата:

„Ён заўсёды быў на высокім узроўні. Неяк ён мне сказаў, што калі б ня моўны рэфэрэндум 1995 году, то за 10 гадоў беларусы перайшлі б на родную мову. Міністар Сянько таксама быў чалавекам на ўзроўні, падрыхтаваным і цьвёрдым у сваёй пазыцыі, зь ім ня так лёгка можна было размаўляць“.

Неяк падчас візыту Станіслава Шушкевіча ў Польшчу, калі пані Смулкова як амбасадар брала ўдзел ува ўсіх урадавых і парлямэнцкіх перамовах, яна езьдзіла на адной машыне з Васілём Быкавым (1924—2003), які быў у складзе афіцыйнай беларускай дэлегацыі. Пані Эльжбета згадвае тую паездку:

„Памятаю, як паступова Быкаў мякчэў. Ён спачатку быў вельмі суровы, амаль што са мною не размаўляў. А ў канцы мы разьвіталіся прыяцелямі. Гэта была мая першая сустрэча з Быкавым. Тады мы разам ехалі па Беласточчыне, ён перадусім цікавіўся нацыянальнымі праблемамі польскіх



*Кіраўнікі МЗС Польшчы і Беларусі Анджэй Алехоўскі і Ўладзімер Сянько ў таварыстве амбасадара Смулковай, супрацоўнікаў МЗС Беларусі і польскай амбасады.*

беларусаў. Пазьней, на Кангрэсе беларусістаў у Менску, я ўжо па-сяброўску зь ім размаўляла. Я Быкава вельмі паважаю і знаходжуся пад уплывам ягонай літаратуры, лічу яго вельмі сур'ёзным пісьменьнікам. За жыцьця ён быў мала вядомы ў Польшчы. Можа, гэта зьвязана з тым, што ў часы СССР у Польшчы не ўспрымалі беларускую літаратуру як асобную, вызначалі як савецкую, бо яна даходзіла да нас галоўным чынам у расейскіх перакладах. Першы раз я чытала «Альпійскую баляду» Быкава па-расейску, але калі прачытала па-беларуску, то адчула, што гэта нашмат лепш".

Пані Эльжбета мела кантакты з апазыцыяй БНФ у Вярхоўным Савеце і зь яе лідэрам Зянонам Пазьняком.

„Памятаю свой першы прыход у фракцыю БНФ. З аднаго боку за сталом сядзіць такі шэраг мужчын, а я адна — насупраць. І яны ўсе так строга на мяне глядзяць. Пачаткова БНФ успрыняў мяне зь недаверам. Мне падалося нават, што падчас той першай сустрэчы Зянон Пазьняк да мяне паставіўся як да дзяўчынкі, якая павінна ціха сядзець. Зьвяртаўся вельмі

афіцыйна і строга, даваў зразумець, што, маўляў, Беласточчына павінна быць у Беларусі... Пасьля тае сустрэчы ў мяне засталося ўражаньне, што мне нібыта хацелі сказаць: ведай сваё месца, польскі амбасадар. Я ж успрыняла гэта як доказ маладосьці БНФ. Але гэта хутка прайшло, потым мы мелі вельмі добры кантакт. Я сустракалася з Валянцінай Трыгубовіч [н. 1947], Валянцінам Голубевым [н. 1955]. Мела спатканьні і размовы зь іншымі апазыцыянэрамі — лідэрам Аб'яднанай дэмакратычнай партыі Беларусі Аляксандрам Дабравольскім [н. 1958], ведала пазьнейшыя постаці беларускай апазыцыі — паэта Уладзімера Някляева [н. 1946], дыплямата Андрэя Саньнікава [н. 1954]. Саньнікаў сур'ёзны быў дыплямат“.

Як амбасадар Польшчы пані Эльжбета часта бывала ў Вярхоўным Савеце. Да прэзыдэнцтва Лукашэнкі яе часта запрашалі на паседжаньні парлямэнту.

„Добра памятаю той пэрыяд, калі БНФ меў сваіх прадстаўнікоў у парлямэнце, памятаю нейкія іх выступы, агульную атмасфэру, калі дэпутаты пачалі пераходзіць на беларускую мову, гэта было выразна. Я ўспрымала Вярхоўны Савет вельмі сур'ёзна, як сапраўдны парлямэнт з рэальнымі паўнамоцтвамі. Але адначасова былі такія рашэньні, якія выклікалі расчараваньне. Да прыкладу, праблема новых выбараў Вярхоўнага Савету. БНФ сабраў патрэбную колькасьць подпісаў, каб правесьці рэфэрэндум наконт абвяшчэньня новых выбараў. Але, незалежна ад сабраных подпісаў, тая ініцыятыва не прайшла. Магчыма, гэта быў вузлавы момант у гісторыі Беларусі, гэта быў першы знак, што лёгка ўсё ня пойдзе“.

Пра Станіслава Шушкевіча пані Эльжбета захавала добрую думку, хоць разумела, што яму было складана ў часы кіраўніцтва Вярхоўным Саветам:

„Была праблема самога Шушкевіча, якога я паважаю: ён меў шмат добрай волі і даволі цяжкую сытуацыю. Але думаю, што над ім цяжэла прафэсарства. Ён як прафэсар, як чалавек думкі, разумеў розныя аспэкты справаў, розныя магчымасьці, вагаўся. Цяжка яму было дзейнічаць так, як палітыку кшталту Лукашэнкі, што як конь з шорамі — ідзе наўпрост, мае мэту,

іншыя аргумэнты яго не цікавяць. А прафэсар так ня можа. Я гэта добра разумею, бо таксама разглядаю розныя магчымасьці. Разумею, што аргумэнты супрацьлеглага боку на Шушкевіча дзейнічалі, ён ня меў такой наўпроставай моцнай магчымасьці дзеяньня“.

Пані Эльжбета згадвае, што ўсе дзеяньні новых уладаў маладой краіны ў кірунку разьвіцьця беларускай мовы і школьніцтва былі для яе як амбасадара Польшчы і беларусіста нечым цалкам натуральным:

„Я гэта ўспрымала як наступства дзяржаўнай самастойнасьці, меркавала, што ня можа быць іначай, што гэта натуральны кірунак. І хутчэй зьдзіўлялася, што ў прэсе шмат пісалі супраць гэтага, што людзі скардзіліся, маўляў, ня хочуць гэтага беларускамоўнага школьніцтва. Я разумела, што тут выяўляўся комплекс непаўнавартасьці, пераважала прывычная думка, што беларуская мова — вясковая.
Адно з наймацнейшых перажываньняў на тэму мовы было, калі нейкі дзядзька сварыўся пры мне на Зянона Пазьняка. Гэта было на мітынгу ля помніка Багдановічу ў Менску. Я стаяла даволі далёка ад Пазьняка і ўбачыла, як да яго падбег нейкі чалавек гадоў за 50 і зьвярнуўся да яго на «ты»: «Слухай, ці ты ведаеш, што ты робіш, ведаеш, колькі я высілкаў уклаў, каб вывучыць расейскую мову, калі прыехаў у Менск зь вёскі, як зь мяне сьмяяліся, што я гаварыць ня ўмею… А ты цяпер хочаш, каб мае дзеці і ўнукі зноў уваходзілі ў гэтую дзеравеншчыну і зноў вучыліся па-беларуску! Ня будзе гэтага!» Гэта была цэлая тырада. Для мяне як для мовазнаўцы гэта было вельмі важна чуць, разумець прычыны супраціву народу перад беларушчынай. Думаю, можа лепей было б, каб больш спакойна ўводзілі беларускую мову і рабілі гэта людзі добра падрыхтаваныя. Але калі б не было развароту моўнай палітыкі ў школьніцтве ўжо пры Лукашэнку, то, думаю, зробленае раней зь цягам часу пачало б дзейнічаць, нават з памылкамі, якія былі ў БНФ. А пасьля таго, што ёсьць цяпер, пры наступных спробах беларусізацыі будзе, несумненна, цяжэй“.

Але на пачатку 90-х як амбасадар Польшчы пані Эльжбета не насьмельвалася даваць беларускім палітыкам нейкіх сваіх парадаў.

Пазьней, у вымушанай эміграцыі, Зянон Пазьняк некалькі разоў сустракаўся з пані Эльжбетай ў Варшаве. Былі цікавыя размовы:

„Я бачу ў ім даволі далёкасяжную эвалюцыю. Думаю, што ён многае зразумеў, і калі б вярнуўся ў Беларусь і стаў нейкім кіраўніком, то іначай бы сябе павёў. Ён меў шмат ідэяў, але, на маю думку, ён перарос народ, а людзі такіх ня любяць. Ён больш мастак, паэт, фатограф, чым правадыр народу, і ў гэтым яго датклівасьць. Надта расколаты чалавек. Мастак, якога да палітыкі цягне і ён нешта добрае хоча зрабіць для народу. Бо што ён хацеў дабра, у гэтым я абсалютна ўпэўненая“.

Але ў цэлым атмасфэра ў Беларусі ў пачатку 1990-х была прыязная, разьняволеная, дэмакратычная і патрыятычная, згадвае першы амбасадар Польшчы ў Менску. Пані Эльжбеце добра запомнілася адно са сьвяткаваньняў Дня Незалежнасьці ў пачатку 1990-х:

„На сьвята 25 Сакавіка Зянон Пазьняк і Станіслаў Шушкевіч былі сярод многіх людзей у прэзыдыюме ўрачыстага сходу ў менскай філярмоніі. Гэта была вялікая ўрачыстасьць, гучала добрая музыка, заля была перапоўненая, нават не было дзе стаць. Апрача цывільных, было шмат вайскоўцаў, людзей у сутанах, сьвятароў, манашак… Былі прамовы, сьпевы, дэклямаваньне. Усё ў такім вельмі патрыятычным духу. Пазьней я больш нічога такога ня бачыла, як у гэты вечар. Адчуваўся сапраўдны энтузіязм, і пасьля кожнага выступу на цэлую залю грымела «Жыве Беларусь!»“

# Беларусь — Польшча: сёньня і заўтра

*Białoruś, Białoruś. Dlaczego nazywasz się Białoruś, jeśli nie masz w sobie bieli, jeśli bielą twoją są rude rżyska jesienne, jeśli bielą twoją są postawy szarego płótna wyłożone na słońcu, jeśli bielą twoją jest gorący pot umęczonych ludzi. Powinnaś się nazywać Dobroruś, powinnaś się nazywać Dobrą Ziemią Dobrych Ludzi…*
*Nie wryłaś się w ludzką pamięć, Białorusi. Nie odbierałaś innym wolności, nie rabowałaś cudzej ziemi, nie mordowałaś ludzi zza sąsiedzkiej miedzy. Miałaś dla obcych szacunek i gościnny kołacz, miałaś dla rabusiów ostatnią krowę i ostatnią kromkę żytniego chleba ze znakiem krzyża, miałaś dla nieszczęśliwych krwawiące serce i biedne niepieszczone życie do oddania. Dlatego mało kto Ciebie pamięta.*

Tadeusz Konwicki

*Беларусь, Беларусь. Чаму называесься Беларусяй, калі ня маеш у сабе белі, калі бельлю тваёй ёсьць рыжыя асеньнія іржышчы, калі бельлю тваёй ёсьць сувоі шэрага палатна, распасьцертыя на сонцы, калі бельлю тваёй ёсьць гарачы пот стомленых людзей. Ты павінна называцца Дабрарусь, ты павінна б была называцца Добрай Зямлёй Добрых Людзей…*
*Ты ня ўрэзалася ў людзкую памяць, Беларусь. Ты не адбірала ад іншых свабоду, не рабавала чужой зямлі, не забівала людзей з-за суседзкай мяжы. Ты мела павагу да чужых і гасьцінны калач, мела для рабаўнікоў апошнюю карову і апошнюю скарынку жытняга хлеба са знакам крыжа, мела для няшчасных балеснае сэрца і беднае нясьпешчанае жыцьцё для ахвяры. Таму мала хто Цябе памятае.*

Тадэвуш Канвіцкі (1926—2015)[94]

Ад заканчэньня дыпляматычнай місіі Эльжбеты Смулковай у Менску прайшло больш за 20 гадоў, і ўвесь гэты час яна займалася і надалей займаецца беларускай тэматыкай на навуковым узроўні, выкладае, арганізоўвае дасьледніцкія праекты, піша артыкулы і кнігі, удзельнічае ў зьездах беларусістаў.

[94] Tadeusz Konwicki, *Kalendarz i Klepsydra*, Warszawa, 1989, s. 20—21. Пераклад з польскай: Зянон і Галіна Пазьняк.

Да апошняга часу яна была таксама кансультантам польскіх грамадзкіх арганізацыяў у беларускіх пытаньнях.

Пані Эльжбета ня можа выказваць нейкіх афіцыйных пазыцыяў ад імя Польшчы, але мае сваё меркаваньне як экспэрт і заслужаны для беларушчыны чалавек. Таму я задаў ёй некалькі пытаньняў пра сёньняшні стан і будучыню беларуска-польскіх дачыненьняў.

**— Пэрыяд, калі вы былі амбасадарам у Менску, быў найлепшым у дачыненьнях Беларусі і Польшчы, далей было толькі горш. У 1996 годзе, пасьля разгону Вярхоўнага Савету, Польшча ўвяла стасоўна Беларусі палітыку „крытычнага дыялёгу“, абмежаваўшы сустрэчы на вышэйшым узроўні, Польшча далучылася да ўсіх эўрапейскіх санкцыяў супраць Аляксандра Лукашэнкі і кіраўніцтва Беларусі ў цэлым. Востры канфлікт быў вакол непрызнаньня ўладамі Беларусі кіраўніцтва Зьвязу палякаў, абранага ў 2005 годзе, некалькі разоў зь Менску адклікалі ці высылалі польскіх амбасадараў. Чаму так кепска пайшлі справы пасьля вашага ад’езду?**

— Галоўную прычыну можна бачыць у штораз больш аўтарытарным рэжыме Аляксандра Лукашэнкі. Гэты рэжым прывёў да палітычнай ізаляцыі Беларусі Захадам і Польшчай разам зь ім. У канцы 90-х гадоў Польшча ўжо рыхтавалася ўступаць у Эўразьвяз, праводзіла вельмі нялёгкія рэформы. Апрача таго, Лукашэнка сам сьвядома згортваў дачыненьні з Захадам і нарошчваў сувязі з Расеяй, падпісваў дамовы аб стварэньні з Расеяй фактычна супольнай дзяржавы. Самастойнасьць Беларусі фармальна захоўвалася, але ўсім было зразумела, якое можа быць раўнапраўе „слана і мышкі“ ў гэтым саюзе Беларусі з Расеяй. Гэта ўспрымалася як падпарадкаваньне Беларусі Маскве і страта спадзеву на тое, што Беларусь пойдзе ў кірунку супрацы з Эўразьвязам і зь цягам часу далучыцца да яго. Польскія ўрады, якія зьмяняліся ў той час, разумелі гэта, але кантакты стараліся захоўваць. Розныя інстытуцыі надалей супрацоўнічалі зь беларускай грамадзянскай супольнасьцю і апазыцыяй, дапамагалі ім. Пасьля далучэньня да Эўразьвязу Польшча дзейнічае згодна зь яго агульнымі правіламі і ня можа пагадзіцца на абмежаваньні правоў чалавека ў Беларусі. Былі розныя намаганьні з нашага боку, каб гэтыя дачыненьні надалей не спыніліся, не пагоршалі —

перадусім у гаспадарцы, культуры, навуцы — але ўжо на ніжэйшым узроўні.

Палітыка Польшчы ішла ў кірунку добрых дачыненьняў і дэмакратызацыі Украіны і Беларусі, з тым, што на Украіну зьвярталі больш увагі як на большую дзяржаву і як на краіну, зь якой у нас цяжэйшая гістарычная мінуўшчына... А Беларусь успрымалі як менш канфліктную. А з другога боку, можна падазраваць, што польскія палітыкі недаацэньвалі Беларусь як дзяржаву, падобна як і заходнія.

Гісторыя беларуска-польскіх дачыненьняў ніколі не была нагэтулькі кепскай, таму на Беларусь глядзелі як на спакойнага суседа, зь якім не было трагедыяў, а значыць, і цяпер ня будзе. Спадзяваліся, што ўсё неяк зь цягам часу наладзіцца само. А потым у Беларусі дайшло да аўтарытарнай улады, абмежаваньня дэмакратыі, і таму цяпер, калі пра Беларусь гавораць у польскіх мас-мэдыя, то часта як пра нешта самае нядобрае. Мне балюча слухаць, калі часам унутраныя дрэнныя польскія падзеі параўноўваюць з парадкамі ў Беларусі. Беларусь стала нібы пудзілам, якое атаясамліваецца ў Польшчы з аўтарытарнай уладай. Думаю, што ў польскіх інтэлектуальных і грамадзкіх асяродках добра разумеюць значэньне Беларусі для нас і вартасьць таго новага, што там пакрысе нарастае. Я назіраю ў беларускім грамадзтве выразны рост пачуцьця патрэбы беларускай самастойнасьці, вартасьці існаваньня дзяржаўнасьці. Праблемы „тутэйшых“ хіба ўжо няма, гэта стала гісторыяй, людзі атаясамліваюць сябе зь Беларусьсю. Думаю, што незалежна ад усіх умоваў працэс пэўнай нацыянальнай кансалідацыі і дэмакратызацыі няўхільны, яго не спыніць.

**— Беларусь і Польшча гістарычна і культурна вельмі блізкія, не ваявалі ніколі між сабою, толькі дамаўляліся, уніі падпісвалі. Цяпер жа мы разьдзяліліся цывілізацыйна, мэнтальна, і гэта выглядае ненатуральным. У чым глыбінныя прычыны гэтага падзелу?**

— У многім гэта залежыць ад глыбіні рэштак савецкасьці, на якую Польшча паддалася не нагэтулькі, як Беларусь. Мы былі таксама пад даволі сур'ёзным яе ўплывам у часы СССР, і думаю, што наступствы гэтага яшчэ ня сышлі дарэшты. „Homo sovieticus“ у нас усё ж такі адышоў, але і нашаму грамадзтву пачаткова было ня гэтак лёгка мяняцца, хоць і не настолькі цяжка, як у Беларусі.

У Беларусі надалей адбываецца цывілізацыйнае падпарадкаваньне Расеі — культурнае і моўнае, а дадаткова гэтаму спрыяе неаўтакефальнае праваслаўе. І таму беларусам цяжэй, але гэта не безнадзейна. Зусім не. У нас на Беласточчыне ёсьць праваслаўныя вернікі, якія інтэграваліся ў грамадзтва заходняга тыпу. Думаю, што і Беларусь можа гэта зрабіць, калі грамадзяне фактычна захочуць, але трэба на гэта папрацаваць.

**— Улады Беларусі хочуць, каб была эканамічная супраца з Польшчай, але каб пры гэтым тая не зважала на правы чалавека, на палітычную сытуацыю, на сумленнасьць выбараў. Ці магчыма, каб Польшча рабіла зь Беларусьсю бізнэс і не зьвяртала ўвагі на іншае?**

— З нашага боку таксама ёсьць зацікаўленьне гандлем, эканамічны кантакт сапраўды можа адбывацца незалежна ад ідэалёгіі, але яго стрымлівае адсутнасьць спрыяльнага клімату і поўных гарантыяў выкананьня законаў. Часта можна сустрэць у СМІ думку, што незалежна ад падыходаў у палітыцы трэба старацца, каб былі добрыя дачыненьні паміж людзьмі, што ў нейкай ступені магчыма. Гэта падкрэсьліваюць абодва бакі. Але каб былі сапраўды добрыя дачыненьні, то, на маю думку, яны павінны быць станоўчымі ў цэлым.

**— А ці могуць замяніць дзяржаўныя сувязі паміж уладамі Польшчы і Беларусі кантакты на ўзроўні грамадзкіх структураў, асобных актыўных людзей?**

— Сувязі ў навуцы, культуры і літаратуры і цяпер адбываюцца. Там, дзе людзі гэтага хочуць, ніякая дзяржава не перашкодзіць. Калі ўлады ўзаемна спрыяюць, то, вядома, лягчэй. Да прыкладу, калі мы рыхтавалі навуковы праект па Браслаўшчыне, то нашыя беларускія супрацоўніцы змаглі браць у ім удзел толькі коштам свайго адпачынку, афіцыйнай згоды на дасьледчыя экспэдыцыі ў працоўны час ад сваіх акадэмічных уладаў яны не атрымалі. Потым, калі праца была апублікаваная, то для прэзэнтацыі нам далі залю ў Беларускім дзяржаўным унівэрсытэце, але фінансаваў сустрэчу Польскі інстытут. І я мела прыехаць на гэтую прэзэнтацыю ў 2012 годзе, але акурат тады ўлады Беларусі выслалі зь Менску Лешэка Шэрэпку, польскага амбасадара. То як я, былы амбасадар, паеду ў Менск, калі дзейны польскі амбасадар — persona

non grata ў Беларусі? Я не паехала на знак пратэсту, напісала, што не магу прысутнічаць на прэзентацыі ў такіх умовах. Але ўсё прайшло добра, вельмі шмат людзей адрэагавала пазытыўна і цёпла, з разуменьнем праблемы.

Культурны, навуковы абмен можа замяніць міждзяржаўныя дачыненьні, і Польшча гэтаму спрыяе, бо гэтым трэба займацца, каб не парваліся людзкія стасункі. У гэты абмен ангажавалася і польская дзяржава. Тэлеканал „Белсат“, стыпэндыі для студэнтаў, прытулак для былых беларускіх палітвязьняў — найлепшы доказ таму, што польская дзяржава зацікаўленая ў дэмакратызацыі і незалежнасьці Беларусі.

**— Выкажыце, калі ласка, сваё бачаньне: як вы ўяўляеце адбудову польска-беларускіх дачыненьняў, як яны могуць выглядаць у найлепшым стане?**

— Коратка кажучы, каб дачыненьні былі як з суседзкай сяброўскай краінай, у якой жывуць таксама нашыя суродзічы, людзі, што прызнаюцца ў прыналежнасьці да польскай нацыі, з краінай, у якой ёсьць нашыя пахаваньні, зь якой мы мелі супольную гісторыю, у якой не заціраецца тое, што было, і не ствараецца нейкі фальшывы вобраз Польшчы. З краінай, у якой будуецца канкрэтная ўласная культура і дзяржаўнасьць і зь якой мы знаходзім паразуменьне і супольныя эканамічныя інтарэсы. Гэта ўсё абумоўлена больш агульнай атмасфэрай. Трэба мець на ўвазе, што дачыненьні паміж Польшчай і Беларусьсю залежаць ня толькі ад нашых дзяржаваў, ня толькі ад людзей добрай волі, а ад шырэйшых, ня толькі рэгіянальных, палітычных і эканамічных умоваў, і трэба старацца наколькі мага карысна для абодвух бакоў знаходзіць сваё месца ў глябальнай палітыцы.

**— Як вы думаеце, калі ўдасца адхіліць ад улады Аляксандра Лукашэнку, ці змогуць беларусы спадзявацца на польскае плячо падтрымкі, ці хутка ўдасца аднавіць нам нармальныя дачыненьні?**

— Усё залежыць ад таго, як беларусы будуць арганізоўвацца, наколькі зьмены грамадзкага, палітычнага і эканамічнага жыцьця пойдуць у кірунку рэформаў, праведзеных на Захадзе і ў нас. Наколькі новая ўлада пойдзе гэтым шляхам. Я лічу, што Польшча зацікаўленая ў тым, каб яе суседзі, як Літва, якая ўжо

сябра Эўразьвязу, а таксама Беларусь і Ўкраіна, прэтэндавалі на далучэньне да эўрапейскай супольнасьці. Беларусь жа цяпер разглядаюць на Захадзе як нейкую філію Расеі, якая сама дэкляруе, што хоча жыць у супольнасьці з тым усходнім абшарам, а не з заходнім. Так што ад самой краіны, ад самой дзяржавы Беларусі перадусім залежыць, якую яна для сябе абярэ дарогу — эўрапейскую ці эўраазіяцкую.

# Пасол беларушчыны ў Польшчы

*Перастаўшы быць паслом Польшчы ў Беларусі,*
*я буду паслом беларускай праблематыкі ў Польшчы*[95].

Гэтыя словы пані Эльжбеты, сказаныя ў інтэрвію „Народнай газеце“ пра вынікі дыпляматычнай місіі ў Менску, прагучалі і ў яе разьвітальным тосьце на прыёме 19 верасьня 1995 году з нагоды заканчэньня працы амбасадарам Польшчы ў Беларусі:

„Хацела б падкрэсьліць, што сярод дыпляматаў я займаю асаблівае становішча — калі перастану быць амбасадарам РП ў Беларусі, буду амбасадарам беларускай праблематыкі ў Польшчы, паколькі вярнуся да сваёй навуковай спэцыялізацыі беларусіста, прафэсара Варшаўскага ўнівэрсытэту“.

Праз 20 гадоў я задаў пані амбасадару кароткае пытаньне з гэтай нагоды: „Ці ўдалося? Ці ўдалося вам стаць «паслом беларускай праблематыкі ў Польшчы»?“

„Удалося,— упэўнена адказала пані Эльжбета.— Так, я ж вярнулася ў Варшаўскі ўнівэрсытэт, дзе адразу стварыла курс інфармацыі пра сучасную Беларусь. І на гэтыя лекцыі прыходзіла поўная вялікая заля людзей, розныя людзі, ня толькі студэнты. Потым арганізавала сэмінар з сацыялінгвістычнай праблематыкі, на які прыходзілі ня толькі польскія студэнты, але і стыпэндыяты зь Беларусі, быў таксама адзін студэнт з ЗША, кітаец і японец прыходзілі. Гэты японец увогуле хадзіў 5 гадоў на ўсе мае сэмінары.
Потым мяне паклікалі стаць сябрам навуковай рады Фундацыі дапамогі палякам на Ўсходзе, я там была экспэртам у беларускай праблематыцы. Для дапамогі палякам за мяжой трэба ведаць, у якіх умовах яны там жывуць, і я была ў гэтай радзе шмат гадоў — ад прыезду зь Менску ў 1995-м і зь невялікім перапынкам да 2014 году. Час ад часу мяне запрашалі таксама і ў МЗС Польшчы як экспэрта ў беларускай праблематыцы, таксама да самых апошніх гадоў, яшчэ летась я там была, ад-

[95] *„Ганаруся, што дапамагала збліжэнню польскага і беларускага народаў“*: Інтэрвію амбасадара Эльжбеты Смулковай // „Народная газета“, 25 кастрычніка 1995 г.

казвала на розныя пытаньні, выказвала свае погляды. А яшчэ былі публікацыі і супраца па тэматыцы памежжа з маладымі беларускімі навукоўцамі, сумесныя навуковыя экспэдыцыі і публікацыі — гэта ўсё датычыць Беларусі. Мяркую, маю права сказаць, што выканала абяцаньне.
Апрача таго, я сябра журы прэміі імя Льва Сапегі, створанай і прафінансаванай пяцьцю ўнівэрсытэтамі Польшчы (Беласток, Варшава, Кракаў, Познань, Уроцлаў). На год мы запрашаем чалавека, які зьвязаны з навукай альбо бібліятэчна-музэйнай справай і займаецца адначасова пэўнай дзейнасьцю на карысьць нацыянальнага адраджэньня Беларусі. Было ўжо дзесяць такіх гадавых стыпэндыяў, цяпер чакаем новых кандыдатураў. Стыпэндыі дазваляюць навукоўцам па два месяцы займацца ў кожным з названых польскіх унівэрсытэтаў і прачытаць некалькі лекцыяў пра Беларусь. Такім чынам гэтая ўзнагарода спрыяе таксама пашырэньню ў Польшчы ведаў пра Беларусь“.

Разнастайная дзейнасьць пані Эльжбеты для навукі і міжнароднага супрацоўніцтва была адзначаная польскаю дзяржаваю.



*Аляксандар Квасьнеўскі ўручае ордэн Эльжбеце Смулковай. 2005 год.*

Прэзыдэнт Аляксандар Квасьнеўскі (н. 1954) у 2005 годзе ўручыў ёй Кавалерскі крыж ордэну Адраджэньня Польшчы, яе сыбірскі пэрыяд жыцьця і наладжваньне стасункаў з польскай дыяспарай у Сыбіру былі адзначаныя крыжам „Ссыльным Сыбіру“ (2009), пасьведчаньне да якога падпісаў прэзыдэнт Лех Качыньскі. Акрамя таго, беластоцкія гарадзкія ўлады ўганаравалі яе срэбнай і залатой адзнакамі „Заслужаны для Беласточчыны“. У 1994 годзе ў Нясьвіжы пані Эльжбета была ўшанаваная знакам „Камандорыя з зоркай“ рыцарскага ордэну Сьвятога Юр'я Пакутніка.

Беларусь жа пакуль ніяк афіцыйна не адзначыла плённую дзейнасьць прафэсара Эльжбеты Смулковай на ніве беларусістыкі і наладжваньня двухбаковых сувязяў. Але пані Смулкова на гэты конт ня мае прэтэнзіяў:

> „У Беларусі мяне адзначылі добрым словам. А гэта вельмі важна. Праўда, неяк годзе ў 1997-м была мне прапанова стаць замежным сябрам Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі. Мяне гэта ўзрадавала, не магу сказаць, што не. І думаю, што аб'ектыўна гэта ў нейкай ступені было належным і заслужа-




*Ордэн Адраджэньня Польшчы.*

ным. І рэч ня толькі ў стосе беларусазнаўчых кніжак, але і ў дзейнасьці, кантактах, арганізацыйнай і дыдактычнай працы. Я падрыхтавала і паслала патрэбныя дакумэнты — і на гэтым усё скончылася. Потым неафіцыйна атрымала толькі вусную інфармацыю, што «не прайшло» на найвышэйшым узроўні“.

Гэта вельмі кантрастуе са стаўленьнем польскай дзяржавы да беларускага навукоўца, сябра Эльжбеты Смулковай, Вячаслава Вярэніча, які дасьледаваў польскія гаворкі ў Беларусі ды іншых краінах былога СССР. Стасоўна польскасьці ў Беларусі ён займаўся тым самым, над чым пані Эльжбета працавала на ніве беларушчыны ў Польшчы. Вячаслава Вярэніча запрасілі ў сябры Польскага мовазнаўчага таварыства, у 1992 годзе яго абралі замежным сябрам Польскай акадэміі навук у Кракаве (Polska Akademia Umiejętności). Таксама ён атрымаў залатую адзнаку Заслужанага для польскай культуры.

У 1993 годзе амбасадар Польшчы ў Менску Эльжбета Смулкова асабіста ўручыла беларускаму мовазнаўцу Вячаславу Вярэнічу Кавалерскі крыж ордэну Адраджэньня Польшчы[96].

Пасьля раптоўнай сьмерці беларускага дасьледніка ў Польшчы дапамаглі падрыхтаваць і выдаць вялікі і надзвычай каштоўны збор матэрыялаў, сабраных ім на сваёй радзіме — „Палескі архіў“, і Эльжбета Смулкова была адным з рэдактараў гэтага ўнікальнага выданьня[97].

У канцы майго вялікага інтэрвію з Эльжбетай Смулковай, якое доўжылася 8 дзён, з 14 па 21 сьнежня 2014 году, і якое пакладзена ў аснову гэтай кнігі, я папрасіў яе падвесьці найважнейшыя вынікі са свайго надзвычай актыўнага і насычанага жыцьця, сказаць, што самае галоўнае яна пазнала.

Пані Эльжбета адказала:

— Я пазнала смак навуковай і арганізацыйнай дзейнасьці. Я іначай ужо ня ўмею жыць. Гэта вельмі цікава, гэта захапляе, уцягвае. Дойдзеш да нейкай ступені ведаў і пачынаеш „рыць“ глыбей. І, відаць, не даходзіш да нейкага дна. Ніколі. Заўсёды

[96] Эльжбета Смулкова. *Успамін пра добрага, мудрага чалавека* [В. Вярэніча] // Загароддзе-2: Матэрыялы навук.-краязнаўч. канф. „Палессе — скрыжаванне культур і часу“, 25—27 верасня 1999 г., Пінск / Уклад. і агул. рэд. Ф.Д. Клімчука, В.А. Лабачэўскай.— Мн., 2000. С. 191—193.

[97] В.Л. Вярэніч. *Палескі архіў. Лінгвістычныя, этнаграфічныя і гістарычныя матэрыялы* / Пад навуковай рэдакцыяй Фёдара Клімчука, Эльжбеты Смулковай і Анны Энгелькінг. Мінск, 2009.— 692 с.



*Эльжбета Смулкова ўручае польскія ордэны Вячаславу Вярэнічу і Адаму Мальдзісу. Справа дарадца амбасады Польшчы ў Менску Марэк Зюлкоўскі. 1993 год.*

застаецца нешта, што можна яшчэ зрабіць, калі б хапіла часу. Я цаню ў сабе, што я не пайшла такім шляхам, якім многія навукоўцы ідуць: выбралі адну дысцыпліну і далей заглыбляюцца ў яе, ня бачачы таго, што побач. Для мяне любая праблематыка, зьвязаная з мовай, зьвязаная найперш з чалавекам, мяне гэты чалавек цікавіць, розныя бакі і праблемы ягонага жыцьця, ягонае асяродзьдзе, самасьвядомасьць. Думаю, тое, што я адышла ад чыста лінгвістычных праблемаў да праблематыкі памежжа,— гэта найлепшы доказ таму, што кажу.

Моўная праблематыка памежжа зьвязаная зь іншымі дысцыплінамі: з гісторыяй, палітыкай, эканомікай, з сацыяльна-псыхалягічнай праблематыкай, у тым ліку з праблемамі самаідэнтыфікацыі. Гэтая інтэрдысцыплінарнасць узбагачае лінгвістычныя дасьледаваньні. Гэта вялікае багацьце, яно вынікае з таго, што побач жывуць людзі, якія выйшлі з розных каранёў, і што яны ў рэшце рэшт бачаць: незалежна ад іх адрозьненьняў ці то ў веры, ці то ў штодзённай культуры сутнасьць іхнага жыцьця будзе адзіная — агульначалавечая. І таму ўва мне аўтэнтычна сядзіць супрацьстаяньне ўсялякім падзелам, магчыма, не ўсялякім, але,

несумненна, многім, разьдзіраньню на кавалкі аднае коўдры. І магчыма, што гэта дапамагае ў разуменьні іншых народаў.

Чаго мне шкада? Шкада, што гісторыя мала чаму вучыць людзей, што гэтулькі глупстваў, памылак, злачынстваў паўтараецца ў той ці іншай частцы сьвету незалежна ад нашага досьведу. Жыцьцё маіх бацькоў, маё жыцьцё прынесла такі досьвед, што ўжо нашая моладзь, здавалася б, павінна быць дасьведчанай таксама. А яны мала пытаюць, іх гэта ня надта цікавіць. Яны будуць рабіць свае памылкі, іншыя — дай Божа, каб ня тыя самыя. Ва ўсясьветным палітычным маштабе можна было б розных рэчаў пазьбегнуць, калі б было менш злосьці, менш заўзятасьці, больш адкрытасьці, больш жаданьня зразумець іншага. Думаю, што самому хрысьціянству трэба трошкі ўзяцца ў рукі і зрэфармаваць многае ў кірунку большай духоўнасьці, а меншага цырыманіялу.

Вялікая адказнасьць у нашым сьвеце ляжыць на інтэлектуалах. На жаль, не заўсёды этычны ўзровень грамадзтва расьце з памнажэньнем ведаў. Але калі ўжо знойдуцца асобы, заглыбленыя ў праблематыку філязофіі ды здольныя пісаць і зацікавіць іншых, то яны могуць пашыраць ідэі, што спрыяюць разьвіцьцю маральнага ўзроўню людзей. Гэта можна паказаць на прыкладзе найвыдатнейшых людзей — такіх, як Ян Павал ІІ ці польскія філёзафы Стэфан Сьвежаўскі [1907—2004] і Лешэк Калакоўскі [1927—2009], якія ангажаваліся таксама ў дзяржаўную праблематыку. Падчас нашых ідэалягічных пераваротаў, у часы Салідарнасьці, каля Леха Валэнсы былі разумныя людзі. Яго падтрымліваў цэлы штаб розумаў.

Думаю, што бяда нашых сучасных дзяржаўных і навуковых установаў у тым, што апошнімі гадамі стала бракаваць аўтарытэтных інтэлектуалаў, якім можна паверыць, бо маюць сьветлую думку, умеюць прадугледзець і заплянаваць. Хаця б праблема выбараў. Ідзеш на выбары і ня надта ведаеш, за каго галасаваць. Такія выбары становяцца выбарам меншага зла, а не чагосьці найлепшага. Гэта нейкі агульны крызыс, ён датычыць ня толькі нашых краінаў, гэта ўсясьветны працэс. Ідзе зьніжэньне этасу, не здурненьне, розуму яшчэ не адняло, але агульны ўзровень людзей неяк занепадае, асабліва тых, хто наверсе, хто прымае рашэньні, я кажу менавіта пра эліты.

Я ж заўсёды ў жыцьці старалася ставіць націск на вартасьці незалежнасьці — ня толькі дзяржаўнай, але і інтэлектуальнай.

**— А ці адчулі вы смак Беларусі?**

— Вядома. Навошта б я ёю столькі займалася, калі б была толькі горыч. Ясна, што так. Вельмі многае залежыць ад акалічнасьцяў, у якіх чалавек пазнае новае. Мы ўспаміналі прафэсара Галіну Турскую, гаварылі пра яе вялікія якасьці, вартасьць яе лекцыяў. Факт, што яна мяне накіравала ў гэты бок, несумненна, меў значэньне, бо я мела вялікую павагу да гэтай жанчыны, да яе лёсу. Гэта быў адзін з найцікавейшых людзей, якіх я сустрэла як студэнтка. Гэты чалавек траціць пасаду, яго выжываюць з унівэрсытэту, а мы пры кожным яе інфаркце ўжо баяліся, што яна нас пакідае. Яна перажыла пры нас некалькі гэтых інфарктаў. І менавіта яна скіроўвае мяне на Беласточчыну, і я еду з перакананьнем, што павінна там нешта цікавае знайсьці, вартаснае, бо іначай яна мяне туды не пасылала б.

Для мяне ўсё там, на Беласточчыне, было новае: і лад жыцьця людзей, і тое, што там з аднымі людзьмі я магу гаварыць па-польску, а іншыя ня надта мяне разумеюць. Важна тое, што мне было цікава пазнаваць гэтых людзей. Яны з уласнай ініцыятывы многае пра сябе расказвалі, і я знаёмілася праз іх зь беларушчынай.

Я ня толькі магнітафон насіла з сабою, а і цэлую аптэчку. Колькі я там ног абмыла і перавязала! Многія вясковыя жанчыны тады мелі нейкую экзэму на нагах. Я пабачыла, што гэтыя людзі аўтэнтычна добрыя. Калі нават мяне спаткала не адна прыкрасьць з боку беларусаў, то ад беларусаў больш высокага ўзроўню; ад простага чалавека ніколі нічога кепскага я ня мела ані ў Беларусі, ані на Беласточчыне. Для мяне надзвычай актуальны лёзунг „Беларусь—Дабрарусь“ польскага пісьменьніка Тадэвуша Канвіцкага [1926—2015][98]. Добрым словам я згадваю і кантакты з Інстытутам мовазнаўства Акадэміі навук Беларусі, які быў вельмі карысны для мяне, і там мяне прынялі зь сяброўскім зацікаўленьнем і натуральнай чалавечай падтрымкай.

Я для сябе выразна разьмежавала так званую афіцыйную Беларусь ад Беларусі аўтэнтычнай, чалавечай. Афіцыйная „ўніформа“ краіны для мяне ад пачатку была ня вельмі важная. А істотным было тое, што людзі робяць цікавую карысную працу, захоўваюць помнікі, дасьледуюць тэмы, якія іх цікавяць, хочуць рабіць гэта ўсур'ёз і ў іх гэта атрымліваецца. Наагул тое, што я пазнавала Беларусь спачатку як дыялектоляг і перадусім мела знаёмствы з людзьмі, зьвязанымі з навукай, напэўна, дапамагло мне пазьней у афіцыйных кантактах.

Хачу таксама сказаць, што нашыя паводзіны залежаць ад розных дадатковых чыньнікаў, яны абумоўленыя сытуацыяй,

[98] Гл. эпіграф да разьдзелу „Беларусь — Польшча: сёньня і заўтра“.



*Валер Каліноўскі, Эльжбета Смулкова, Віктар Смулэк. Сьнежань 2014 году. Здымак зроблены пасьля інтэрвію ў доме Смулэкаў у Варшаве.*

сямейнай у тым ліку. Калі б мой муж Віктар Смулэк быў іншы, я б гэтага ўсяго не зрабіла. Колькі ён мне дапамог! Нашая сувязь абапіралася на глыбокім даверы і ўзаемнай дапамозе. Трэба падкрэсьліць значэньне сямейнага спакою і цеплыні, якія я мела заўсёды. Мала хто вытрымаў бы такую жонку, занятую іншымі справамі.

Муж пані Эльжбеты Віктар Смулэк, спэцыяліст у ядзернай хіміі, які з 1952 году ўносіў у яе жыцьцё дабрыню і спакой, памёр 13 красавіка 2015 году пасьля цяжкай хваробы. Пахаваны на Бруднаўскіх могілках Варшавы, там жа, дзе пахаваная і маці пані Эльжбеты Яніна Баранова.

…У доме пані Эльжбеты сабраны вялікі кнігазбор па беларусістыцы, мовазнаўстве, гісторыі, этнаграфіі, культуры, у ім можна знайсьці надзвычай рэдкія навуковыя выданьні, слоўнікі, аўтарскія манаграфіі, даведкавую літаратуру, часопісы, энцыкляпэдыі, мастацкія творы, кнігі пра Беларусь, якія выдаваліся ў Польшчы, Францыі, іншых краінах. Пані прафэсар зьбіраецца перадаць гэтую ўнікальную бібліятэку ў Інстытут славяназнаўства Польскай акадэміі навук, каб служыла новым дасьледнікам Беларусі, у тым ліку яе вучням.

# На польска-беларускай дарозе

## Пасьляслоўе

Чаму чалавек выбірае той ці іншы шлях жыцьця і працы? Як на гэты выбар уплывае асабістая біяграфія, а як — гісторыя, якую перараказвае сямейная памяць і супольная памяць грамады? Якую ролю пры жыцьцёвым выбары маюць уласныя каштоўнасьці, перажываныя эмоцыі, выпадковыя (як здаецца) спатканьні ды сьвядома прызнаныя аўтарытэты? Наколькі і якім чынам наша прафэсійная і грамадзкая актыўнасьць чэрпае з асабістага, індывідуальнага досьведу? Як да навуковых дасягненьняў спрычыняецца сяброўства? У якой ступені індывідуальная і калектыўная ідэнтычнасьць чалавека, якая безупынна перафармоўваецца пад уплывам кантакту з навакольным сьветам, пакідае на гэтым сьвеце свае сьляды?



*Анна Энгелькінг.*

Кніга Валера Каліноўскага, апошнія старонкі якой акурат перагортвае Чытач, дае свае адказы на гэтыя і падобныя пытаньні ды падказвае Чытачу шлях да ўласных адказаў на іх. Стаўшы сьведкамі гісторыі жыцьця Эльжбеты Смулковай, жыцьця вучонага, палітыка, але перадусім жыцьця чалавека, мы таксама задаем сабе пытаньні пра нашыя ўласныя дарогі ды ідэнтычнасьць. Як таксама і пра польска-беларускія і беларуска-польскія дарогі, пра сустрэтых на іх людзей, пра перакрыжаваньні й зьбегі іхных шляхоў.

Сымбалічным пачаткам сьцежкі, якою супольна ідуць навука й сяброўства і безь якой самасьвядомасьць тых, хто выбраў такую сьцежку, была б іншая, бачыцца мне ўспамін пра падзею ў польскай амбасадзе ўвесну 1994 году. Пані Прафэсар — тады Пані Амбасадар — Эльжбета Смулкова ладзіла сэмінар. Яна запрасіла беларускіх вучоных, якім група маіх студэнтаў прадставіла вынікі этнаграфічных дасьледаваньняў, што мы праводзілі ў Лідзкім раёне. Пасьля двухтыднёвай экспэдыцыі ў далёкія вёскі проста

з аўтобусу мы трапілі ў іншы космас. У зьмястоўнай дыскусіі аб'ектывізаваліся нашыя па-маладому эмацыйныя канцэпцыі на тэму культурнай рэчаіснасьці, якую мы тады пачыналі дасьледаваць і якою захапіліся. У групе той моладзі, апрача мяне, былі яшчэ тры сяброўкі, якія пазьней маглі лічыць сябе вучаніцамі Пані Прафэсара. А слухачы потым сталі нашымі беларускімі калегамі й сябрамі.

Прафэсар Смулкова мае вялікі талент — ці дар — прыцягваць да сябе людзей, якія ставяць навуковыя пытаньні, і падтрымліваць іх: як вельмі фармальным, акадэмічным чынам, так і нефармальна, асабіста, у свабодным пошуку адказаў. Адказаў самастойных, нестандартных, якія могуць быць дыскусійнымі зь Яе ўласнага гледзішча. У гэтым безупынным навуковым абмене думкамі з вучнямі, калегамі й сябрамі Пані Прафэсар сама нястомна вучыцца ды фармулюе новыя — і наватарскія — дасьледчыя гіпотэзы, пра што найлепш сьведчыць Яе нядаўняя праца — двухтамовая „*Brasławszczyzna*“, напісаная ў супрацы з калектывам беларускіх вучаніц і калегаў розных навуковых спэцыяльнасьцяў. Дзякуючы творчым дасьледніцкім намаганьням Эльжбеты Смулковай сучасная беларусістыка стала полем, на якім нараджаюцца і праходзяць навуковую вэрыфікацыю канцэпцыі, істотныя ня толькі для эмпірычных дасьледзінаў Беларусі, але і для агульнамовазнаўчай тэорыі і мэтодыкі. А таксама для навуковай рэфлексіі над памежжамі: моўнымі, культурнымі, этнагеаграфічнымі, палітычнымі. Асабовымі і калектыўнымі. Эльжбета Смулкова разумее памежжы ня толькі таму, што на адным зь іх вырасла, але і таму, што іх дасьледаваньню прысьвяціла сваё навуковае жыцьцё.

Польскія і беларускія вучні Прафэсара Смулковай, якіх яна прыцягвае да сябе натхняльнай жывасьцю думкі і асабовасьцю, ствараюць сёньня супольнасьць некалькіх пакаленьняў, у якой прадстаўленыя розныя дысцыпліны і навуковыя асяродкі. Усіх — і мовазнаўцаў, і этнолягаў, і культуразнаўцаў, і гісторыкаў — яднае разуменьне фэномэну памежжа як інтэлектуальнага і грамадзкага выкліку. І як каштоўнасьці, як нашае супольнае спадчыны, якая павінна не дзяліць, але навучаць, як можна разумна і з узаемнай павагай адрозьнівацца, пры гэтым усьведамляючы супольнасьць.

Эльжбета Смулкова вучыць ня толькі заўважаць, дасьледаваць і тлумачыць мэханізмы, якія фармуюць спэцыфіку памежжаў, але пры гэтым пераходзіць з эмпірычнага на тэарэтычны ровень і назад. Вучыць таксама — а можа перадусім? — што, абяртаючыся ў рэчаіснасьці, створанай навуковымі ўяўленьнямі

ды канцэпцыямі, нельга выпускаць з вачэй чалавека. Канкрэтнага чалавека: простага суразмоўцу ў беластоцкай ці палескай вёсцы; студэнта, які робіць памылкі ў сваіх навуковых практыкаваньнях; калегі-дасьледніка, зь якім мы разумеем адзін аднаго ці не пагаджаемся; урэшце, палітыка, які не абавязаны, але можа і таму павінен дбаць пра дабро нашых супольнасьцяў. Бо: „побач жывуць людзі, якія выйшлі з розных каранёў, і яны ў рэшце рэшт бачаць, што незалежна ад іх адрозьненьняў [...] сутнасьць іхнага жыцьця будзе адзіная — агульначалавечая“.

З траўматычных, узрушальных, павучальных здарэньняў і перажываньняў, якія складаюць гісторыю нялёгкага і захаплявальнага жыцьця Суразмоўцы ўкладальніка кнігі, я выбіраю адно, здавалася б, нязначнае, і хачу зьвярнуць на яго ўвагу Чытача. Вось студэнтка Эля Смулкова атрымлівае ад сваёй настаўніцы, Прафэсара Галіны Турскай, расейска-беларускі слоўнік з прысьвячэньнем „на новую, «беларускую» дарогу жыцьця“. Выбар гэтай дарогі ня быў вынікам ранейшага грунтоўнага зацікаўленьня беларушчынай. Гэта хутчэй сума зьбегу акалічнасьцяў і сілы аўтарытэту настаўніцы. Пасьвячоная ў беларусістыку маладая дасьледніца, відавочна, не здае сабе справы, што гэты рытуальны жэст Прафэсара Турскай ня толькі сьведчыць пра яе добразычлівасьць, але мае маштаб сымбалічнай ініцыяцыі, прычым у падвойным сэнсе. Па-першае, на асабістым роўні гэты знак дае структуру і сілу таму, што раней было недаакрэсьленае, выконвае функцыю дарожнага паказальніка і адначасова дабраславеньня на дарогу. Па-другое, на грамадзкім роўні ўводзіць вучоную-пачаткоўца наўпрост у эліту польскіх дасьледнікаў польска-беларускіх памежжаў. Гэтую эліту для Яе ўвасабляюць Майстрыні Галіна Турска і Антаніна Абрэмбска-Яблоньска — прадаўжальніцы шляху, які ў папярэдніх пакаленьнях вызначылі Міхал Фэдэроўскі і Браніслаў Тарашкевіч, а да іх Ян Карловіч. Дык можа гэтая дарога сама Яе сабе выбрала?

Прафэсар Смулкова крочыць цяпер польска-беларускаю дарогаю разам са сваімі вучнямі й пасьлядоўнікамі — навуковымі дзецьмі і ўнукамі. Дакладна ведаю: сьляды, што пакінула яна на гэтай дарозе, немагчыма абмінуць і не заўважыць. Больш за тое: шмат дзе на гэтай дарозе зьявіліся вызначальныя вехі менавіта дзякуючы ёй.

Анна Энгелькінг,
габілітаваны доктар этналёгіі,
былая дырэктарка Інстытуту славістыкі
Польскай акадэміі навук

# Біяграфія Эльжбеты Смулковай

Яніна Эльжбета Смулэк (Смулкова) нарадзілася 24 чэрвеня 1931 году ў Львове.

У 1940 годзе супрацоўнікі НКВД арыштавалі яе бацьку Казімежа Барана, які працаваў намесьнікам кіраўніка Дырэкцыі дзяржаўных лясоў у Львове. З таго часу да 1995 году сям'я ня ведала пра ягоны лёс. У 1995 годзе ягонае імя знайшлося ва „Ўкраінскім сьпісе“ ахвяраў Катыні. Месца пахаваньня бацькі невядомае. Сымбалічным месцам пахаваньня ахвяраў, названых ва „Ўкраінскім сьпісе“, сталі вайсковыя польскія могілкі ў Быкаўні пад Кіевам.

У 1941 годзе Эльжбета разам з маці Янінай Барановай і малодшай сястрой Мар'яй была вывезеная ў Сыбір, у Нарымскі край. Паводле рашэньня савецкіх уладаў сям'я мела там адбыць 20 гадоў. Пасьля аднаўленьня дыпляматычных дачыненьняў Польшчы і СССР гэтае рашэньне было скасаванае, але сям'я заставалася ў Сыбіру да канца вайны.

Пасьля рэпатрыяцыі ў Польшчу ў 1946 годзе сям'я знайшла новы прытулак у Торуні, дзе пані Эльжбета ў 1957 годзе закончыла навучаньне на паляністыцы ва Ўнівэрсытэце імя Мікалая Капэрніка.

У 1952 годзе выйшла замуж за Віктара Смулэка (1926—2015), зь якім выгадавала дачку Анну, якая нарадзілася ў 1965 годзе.

У гэтым жа 1965 годзе атрымала ступень доктара на падставе працы „Słownictwo z zakresu uprawy roli w gwarach wschodniej Białostocczyzny na tle wschodniosłowiańskim“.

У 1978 годзе атрымала ступень габілітаванага доктара на падставе працы „Studia nad akcentem języka białoruskiego. Rzeczownik“.

Навуковы тытул надзвычайнага прафэсара („бэльвэдэрскі“ паводле прынятай у Польшчы градацыі) атрымала 15 верасьня 1988 году, тытул звычайнага прафэсара — 1 сьнежня 1996 году.

Навуковую кар'еру зрабіла на катэдры беларускай філялёгіі Варшаўскага ўнівэрсытэту, у 1971—1975 гадох кіравала гэтай катэдрай, працавала таксама ў галіне паляністыкі, балтыстыкі, славістыкі і агульнага мовазнаўства.

У 1991 годзе была прызначаная генэральным консулам Рэспублікі Польшчы ў Рэспубліцы Беларусі, з 1992 па 1995 гады

была першым амбасадарам Польшчы ў Беларусі, удзельнічала ў падрыхтоўцы асноўных міждзяржаўных дамоваў і арганізацыі візытаў найвышэйшага ўзроўню.

Па заканчэньні місіі амбасадара вярнулася ў Варшаўскі ўнівэрсытэт.

У 1997—2002 гадох кіравала катэдрай беларускай культуры Ўнівэрсытэту ў Беластоку.

Пазьней працавала ў Цэнтры дасьледаваньняў антычнай традыцыі ў Польшчы і Цэнтральна-Ўсходняй Эўропе і ў Інстытуце міждысцыплінарных дасьледаваньняў „Artes Liberales“ Варшаўскага ўнівэрсытэту.

Эльжбета Смулкова — сябра Міжнароднай асацыяцыі беларусістаў, Варшаўскага навуковага таварыства, Польскага мовазнаўчага таварыства і Беластоцкага навуковага таварыства.

Галоўныя навуковыя зацікаўленьні: польская, беларуская і ўсходнеславянская дыялекталёгія, фанэтыка, фаналёгія, акцэнталёгія, сацыялінгвістыка, польска-беларуска-літоўскае моўнае і культурнае памежжа.

Кавалер Крыжа ордэну Адраджэньня Польшчы (2005).

# Бібліяграфія кніг Эльжбеты Смулковай

*Słownictwo z zakresu uprawy roli w gwarach wschodniej Białostocczyzny na tle wschodniosłowiańskim*, Komitet słowianoznawstwa Polskiej Akademii nauk, Monografie slawistyczne 14, Wrocław 1968.

*Studia nad akcentem języka białoruskiego. Rzeczownik*, Warszawa 1978.

*Studia nad gwarami Białostocczyzny. Morfologia i słownictwo*, Warszawa 1984 (pod red. E. Smułkowej i I. Maryniakowej).

*Studia językowe z Białostocczyzny. Onomastyka i historia języka*, Warszawa 1989 (współautorstwo i redakcja z I. Maryniakową).

*Słownik nazw terenowych północno-wschodniej Polski*, t. I—III, Warszawa 1992—1995 (współautorstwo z N. Barszczewską, J. Głuszkowską, T. Jasińską-Sochą).

*Fonetyka i fonologia języka białoruskiego z elementami fonetyki i fonologii ogólnej*, Warszawa 1998 (współautorstwo z W. Czekmanem).

*Język a tożsamość na pograniczu kultur*, Białystok 2000 (współautorstwo i redakcja z A. Engelking).



*Język i kultura białoruska w kontakcie z sąsiadami*, Warszawa 2001.

*Białoruś i pogranicza. Studia o języku i społeczeństwie*, Warszawa 2002.

*Pogranicza Białorusi w perspektywie interdyscyplinarnej*. DiG, Ośrodek Badań nad Tradycją Antyczną w Polsce i w Europie Środkowo-Wschodniej UW, Warszawa 2007 (Praca zbiorowa pod red. Elżbiety Smułkowej i Anny Engelking).

*Brasławszczyzna. Pamięć i współczesność*. Redaktor naukowy Elżbieta Smułkowa:

Tom I: *Historia regionu. Charakterystyka socjolingwistyczna. Świadectwo mieszkańców,* Warszawa 2011.

Tom II: *Słownictwo dwujęzycznych mieszkańców rejonu (Słownik brasławski),* Warszawa 2009.

# Пра аўтара



Валер Каліноўскі нарадзіўся ў 1967 годзе ва Ўкраіне ў раённым цэнтры Казанка Мікалаеўскай вобласьці ў сям'і ўкраінкі і беларуса. Вырас на бацькавай радзіме ў вёсцы Моладава Іванаўскага раёну Берасьцейскай вобласьці. У прафэсійнай журналістыцы з 1987 году. Працаваў у іванаўскай раённай газэце „Чырвоная звязда“, абласной „Мінскай праўдзе“, моладзевай „Чырвонай змене“, у „Звяздзе“ першых гадоў незалежнасьці Беларусі. Быў уласным карэспандэнтам па Беларусі газэты „Киевские ведомости“, агенцтва France Presse, супрацоўнічаў з украінскімі службамі Радыё Свабода і Бі-Бі-Сі, з 2000 году працуе карэспандэнтам беларускай службы Радыё Свабода. Сябра Беларускай асацыяцыі журналістаў і Саюзу беларускіх пісьменьнікаў. Аўтар кнігі „Справа Бяляцкага“, Радыё Свабодная Эўропа / Радыё Свабода, 2012.

Скончыў факультэт журналістыкі БДУ і асьпірантуру Інстытуту мастацтвазнаўства, этнаграфіі й фальклёру НАН Беларусі. Аўтар публікацыяў на тэмы этнаграфіі і рэлігіязнаўства ў беларускіх і замежных навуковых часопісах і зборніках матэрыялаў навукова-практычных канфэрэнцыяў. Жыве ў Менску.

У кнізе выкарыстаныя фатаздымкі з архіваў Эльжбеты Смулковай, аўтара, Галіны Маскалёвай, Андрэя Фаміна, зь Вікіпэдыі.

# Streszczenie. Pani Elżbieta — historia jednej przyjaźni

Bohaterka tej książki Profesor Elżbieta Smułkowa jest wybitną polską slawistką i białorutenistką. Kierowała Katedrą Filologii Białoruskiej Uniwersytetu Warszawskiego i Katedrą Kultury Białoruskiej Uniwersytetu w Białymstoku, była pierwszym ambasadorem Rzeczypospolitej Polskiej w Republice Białoruś.

Zainteresowała się białoruskim językiem i kulturą pod koniec lat 50.; od tego czasu prowadziła badania dialektologiczne w województwie białostockim, gdzie zamieszkuje białoruska mniejszość narodowa, oraz w różnych regionach Republiki Białoruś. Jest autorką unikalnych prac z zakresu leksyki rolniczej oraz akcentologii języka białoruskiego, a także specyfiki białorusko-polsko-litewskiego pogranicza językowego i kulturowego. Profesor Smułkowa jest również wybitną organizatorką badań i życia naukowego oraz nauczycielem akademickim, członkinią Towarzystwa Naukowego Warszawskiego, Polskiego Towarzystwa Językoznawczego i Białostockiego Towarzystwa Naukowego.

Ta książka opowiada również o wkładzie ambasador Smułkowej w budowę dwustronnych białorusko-polskich stosunków międzypaństwowych w latach 1991—1995, które przeżywały w tym czasie okres swego rozkwitu.

Książka porusza też temat osobistych losów uczonego i dyplomaty Elżbiety Smułkowej, która urodziła się w 1931 r. we Lwowie, w r. 1940 straciła ojca, zamordowanego przez władze sowieckie w ramach zbrodni katyńskiej, a także wraz z matką i siostrą przeżyła 5-letnie zesłanie na Syberię.

Autorem książki jest białoruski dziennikarz Valer Kalinoŭski, korespondent Radia Wolna Europa — Radia Svaboda.

# Summary. Pani Elżbieta: A Particular Friendship

A renowned expert on all things Polish and Belarusian, Elżbieta Smułkowa has had a long and complicated relationship with Belarus, the country that lies on the eastern flank of her native Poland.

Once Poland's first ambassador to the newly independent neighboring republic, for a long time prior to that Professor Smułkowa was the head of the Belarusian language and cultural studies departments at the universities of Warsaw and Białystok.

Smułkowa first became interested in Belarusian in the late 1950's, delving deeply into the language idiosyncrasies of the Belarusian minority in Poland's Białystok region, and other regions of Belarus itself. Those studies resulted in trenchant analyses of agricultural lexicons and accents unique to the Belarusian language, as well as of the linguistic particularities along the Belarusian-Polish border.

Professor Smułkowa's credentials as a scholar and researcher in this field of linguistics are formidable. She has a PhD and habilitation from Warsaw University, and is an esteemed member of numerous scientific societies devoted to the Belarusian and Polish languages.

Ambassador Smułkowa also played a key role in the establishment of diplomatic relations between Poland and Belarus in the early nineties, a period during which those relations were at their height.

But it is this amazing educator and diplomat's personal history which is perhaps most compelling. Smułkowa was born in Lviv in 1931; her father was one of the Soviet regime's Katyn victims, while she herself, her mother and her sister endured five years of Siberian exile.

Belarusian journalist and RFE/RL correspondent Valer Kalinoŭski is the author of this biography.

# Рэзюмэ. Пані Эльжбета. Гісторыя адной прыязьні

Герой гэтай кнігі Эльжбета Смулкова — выбітная польская славістка і беларусазнаўца, якая кіравала катэдрай беларускай філялёгіі Варшаўскага ўнівэрсытэту і катэдрай беларускай культуры Ўнівэрсытэту ў Беластоку, была першым амбасадарам Рэспублікі Польшчы ў Рэспубліцы Беларусі.

Беларускай мовай і культурай яна зацікавілася ў канцы 1950-х гадоў, удзельнічала ў дыялекталягічных дасьледаваньнях у Беластоцкім ваяводзтве Рэспублікі Польшчы, дзе жыве беларуская нацыянальная меншасьць, а таксама ў розных рэгіёнах Беларусі. Прафэсар Смулкова напісала ўнікальныя працы пра земляробчую лексыку і акцэнталёгію беларускай мовы, пра асаблівасьці беларуска-польскага моўнага і культурнага памежжа. Пані Смулкова — выбітны арганізатар навучальнага працэсу і навуковых дасьледаваньняў, дыдактык, габілітаваны прафэсар Варшаўскага ўнівэрсытэту, сябра Варшаўскага навуковага таварыства, Польскага мовазнаўчага таварыства і Беластоцкага навуковага таварыства.

Гэтая кніга распавядае таксама пра ўклад амбасадара Эльжбеты Смулковай у станаўленьне ў 1991—1995 гадох двухбаковых беларуска-польскіх міждзяржаўных сувязяў, якія перажывалі ў той час пэрыяд свайго росквіту.

Закранае кніга і асабісты лёс знанай мовазнаўцы і дыплямата Эльжбеты Смулковай, якая нарадзілася ў Львове ў 1931 годзе, у 1940-м страціла бацьку, якога савецкая ўлада забіла як адну з ахвяраў „Украінскага Катынскага сьпісу“, разам з маці і сястрой адбыла пяцігадовую ссылку ў Сыбір.

# Паказьнік імёнаў

А
Абрэмбска-Яблоньска, Антаніна (Antonina Obrębska-Jabłońska) 8, 74—83, 90, 94, 163, 189
Абрэмбскі, Антоні (Antoni Obrębski) 74
Абрэмбскі, Юзэф (Józef Obrębski) 74, 82
Адамовіч, Алесь 164
Александровіч, Станіслаў (Stanisław Alexandrowicz) 85
Алексы, Юзэф (Józef Oleksy) 144
Алехоўскі, Анджэй (Andrzej Olechowski) 145, 169
Андэрс, Уладыслаў (Władysław Anders) 24, 54
Антаневіч, Ежы (Jerzy Antoniewicz) 94
Арашонкава, Ганна 163

Б
Бабкін, Іван (Иван Бабкин) 49, 50
Багдановіч, Максім 171
Баґроўска, Анна (Anna Bagrowska) 80
Базылюк, Лідзія (Lidia Bazyluk) 77
Баран, Гэлена (Helena Baran) 20, 37
Баран, Казік гл. Баран, Казімеж Леан
Баран, Казімеж Леан (Казік; Kazimierz Leon Baran) 19—25, 55, 190
Баран (Baran), сям’я 19
Баранова, Ніна гл. Баранова, Яніна
Баранова, Яніна (Janina Baranowa) 19, 20, 23—32, 38, 45—47, 49, 50, 53, 55, 56, 58, 59, 61, 62, 67, 186, 190
Баранmicrоўна, Марылюся (Марыля) гл. Баранmicrоўна (Тарасюк), Мар’я
Барануўна (Тарасюк), Мар’я (Maria Baranówna (Tarasiuk)) 20, 22, 23, 25, 28, 32, 37, 38, 45, 51, 56, 57, 59, 61, 62, 67, 190
Баршчэўская, Ніна (Nina Barszczewska) 75
Баторы, Стэфан (Сьцяпан Батура, Stefan Batory) 69—71
Бацян, Міхаіл 113
Белецкі, Ян Кшыштаф (Jan Krzysztof Bielecki) 117, 127
Бембель, Алег (Зьніч) 7, 17
Бербераў, Уладзімер 164, 165
Бербераў, Хрыста (Христо Берберов) 164
Бірыла, Мікалай 77, 79, 86, 91
Брыль, Уладзімер 21
Брыль, Янка 21
Булак-Балаховіч, Станіслаў 157
Бураўкін, Генадзь 168
Бутэвіч, Анатоль 168
Быкаў, Васіль 168, 169
Бэрыя, Лаўрэнці (Лаврентий Берия, ლავრენტი ბერია) 21
Бяляцкі, Алесь 136, 194

В
Вайтовіч, Ніна 167
Вайтыла, Караль гл. Ян Павал II
Валэнса, Данута (Danuta Wałęsa) 131—133
Валэнса, Лех (Lech Wałęsa) 117, 128, 131—136, 154, 184
Ваўжэцкі, Тамаш (Tomasz Wawrzecki) 157
Выгонная, Лілія 86, 164
Вярэніч, Вячаслаў 12, 86, 165, 166, 182, 183

Г, Ґ
Ґалкоўскі, Марэк (Marek Gołkowski) 113, 126
Ганчар, Віктар 139, 140
Ґедройць, Ежы (Jerzy Giedroyc) 95
Ґерэк, Эдвард (Edward Gierek) 87
Гітлер, Адальф (Adolf Hitler) 55
Глагоўская, Алена (Helena Głogowska) 95
Глебка, Пятро 70
Ґлушкоўска (Ґлушкоўска-Бабіцка) Ядвіга (Jadwiga Głuszkowska-Babicka) 75
Голубеў, Валянцін 170

Грыб, Мечыслаў 168
Грыцкевіч, Анатоль 152
Гэнчэль, Ґерд (Gerd Hentschel) 107, 108
Гюлумянц, Кіра 86, 166, 167

Д
Дабравольскі, Аляксандар 170
Далэнґоўска, (Далэнґоўска-Урліх) Катажына (Katarzyna Dołęgowska-Urlich) 96
Джугашвілі, Ёсіф гл. Сталін, Ёсіф
Драгаманаў, Міхайла (Драгоманов, Михайло) 37, 39
Драздоўскі, Мар'ян 36

Е
Ельцын, Барыс (Борис Ельцин) 119

Ж
Жураўскі, Аркадзь 91

З
Запруднік, Ян 152
Заслаўскія, князі 12, 161
Захаранка, Юры 140
Зелянеўскі, Казімеж (Kazimierz Zieleniewski) 65
Зьніч гл. Бембель, Алег
Зюлкоўскі, Марэк (Marek Ziółkowski) 8, 9, 113, 126, 183

К
Кабылянская, Вольга (Ольга Кобилянська) 37
Кавалёвы (Ковалёвы), сям'я 50, 55, 61
Кавалёў (Ковалёв) 49, 51
Казінец, Ісай 166
Калакоўскі, Лешэк (Leszek Kołakowski) 184
Каламайска, Гэлена (Еля) (Helena Kałamajska) 32, 67, 68
Каліноўскі, Валер 186, 187
Каліноўскі, Кастусь 16
Камароўскі, Браніслаў (Bronisław Komorowski) 22
Канвіцкі, Тадэвуш (Tadeusz Konwicki) 173, 185
Капэрнік, Мікалай (Mikołaj Kopernik) 68, 70, 73, 190
Карловіч, Ян (Jan Karłowicz) 189
Карп, Марэк (Marek Karp) 114, 121
Карпенка, Генадзь 140
Касьцюшка, Тадэвуш (Tadeusz Kościuszko) 130
Качыньскі, Лех (Lech Kaczyński) 131, 181
Квасьнеўскі, Аляксандар (Aleksander Kwaśniewski) 180, 181
Кебіч, Вячаслаў 117, 119, 127, 131, 138, 142, 143
Кіпель, Вітаўт 152
Кіпель, Зора 152
Кісьлік, Навум 164
Клачоўскі, Ежы (Jerzy Kłoczowski) 11
Колас, Якуб (Канстанцін Міцкевіч) 70, 84
Колбіна, Каця (Катя Колбина) 61
Конанава, Нюра (Нюра Кононова) 61
Крапіва (Атраховіч), Кандрат 70
Красоўскі, Анатоль 140
Краўчанка, Пятро 113, 117, 123, 124, 133
Краўчук, Леанід (Леонід Кравчук) 119
Крол, Джордж (George Krol) 137
Крывіцкі, Аляксандар 167
Куляшова, Валянціна 164, 165
Куляшоў, Аркадзь 164
Купала, Янка 85
Курашкевіч, Уладыслаў (Władysław Kuraszkiewicz) 76
Курыловіч, Ежы (Jerzy Kuryłowicz) 101

Л
Лазарук, Міхась 91
Латышонак, Алег (Oleg Łatyszonek) 95, 96, 135
Левэк, Ванда (Wanda Lewek) 27
Лёля, 25
Ленін (Ульянаў), Уладзімір (Владимир Ленин (Ульянов)) 37
Лойка, Алег 12
Лукашанец, Аляксандар 84

Лукашэнка, Аляксандар 15, 16, 125, 142—148, 160, 170, 171, 174, 177
Лушчык-Ільянкова, Ніна 159
Ляхавецкі, Ян гл. Майскі, Іван

М
Мазураў, Кірыла 108
Маісеенка, Ніна 60, 65
Майскі, Іван (Ян Ляхавецкі) (Иван Майский (Ян Ляховецкий)) 54
Маліняк, Юльян (Julian Maliniak) 55
Мальдзіс, Адам 10—13, 116, 152, 166, 167, 183
Мартынаў, Віктар 88
Марыя Сямёнаўна, настаўніца 61
Матус, Ірэна (Irena Matus) 95, 96
Матусевіч, Ян 155
Махнацкі, Маўрыцы (Maurycy Mochnacki) 37
Мацкевіч, Юзэфа 87, 162, 163
Машкевіч, Мар’юш (Mariusz Maszkiewicz) 96
Мікалайчык, Станіслаў (Stanisław Mikołajczyk) 67
Мільчаноўскі, Анджэй (Andrzej Milczanowski) 140, 141
Мірановіч, Яўген (Eugeniusz Mironowicz) 95—97
Міхайлаў, Анатоль 138
Міцкевіч, Адам (Adam Mickiewicz) 71, 79, 80, 103
Молатаў, Вячаслаў (Вячеслав Молотов) 54
Мсьціслаўскія, князі 12, 161
Мысьлік, Тадэвуш (Tadeusz Myślik) 115, 117
Мячкоўская, Ніна 167

Н
Надсан, Аляксандар 11, 12
Несьцярэнка, Яўген 113
Неўская, Лідзія (Лидия Невская) 64
Нядужая, Стэфка (Стэфанія) (Стефанія Недужа) 33, 35
Нядужы, Васіль (Василь Недужий) 33
Някляеў, Уладзімер 170

О
Олеш, Райнгольд (Reinhold Olesch) 109

П
Пазьняк, Зянон 133, 135, 143, 169, 171—173
Панятоўскі, Станіслаў (Stanisław Poniatowski) 78
Парашэнка, Пятро (Петро Порошенко) 22
Петуховы, сям’я 57, 61
Пінчук, Натальля 136
Пуліхаў, Іван, 125
Пуцін, Уладзімір (Владимир Путин) 43, 67, 119, 120
Пэльчарска, Ірэна (Irena Pelczarska) 40
Пяткевіч, Чэслаў (Czesław Pietkiewicz) 78

Р
Радзівіл, Антоні (Antoni Radziwiłł) 160
Радзівілы 160
Радзівонік, Анатоль 159
Радзік, Рышард (Ryszard Radzik) 121
Райс, Рамуальд („Буры“) (Romuald Rajs („Bury“)) 159
Румянцаў, Пётр 15, 115, 126
Рыбэнтроп, Ёахім фон (Joachim von Ribbentrop) 54
Рыґер, Януш (Janusz Andrzej Rieger) 166

С
Сагановіч, Генадзь 13
Саньнікаў, Андрэй 170
Сапега, Леў 180
Сасабоўска, Яніна (Janina Sosabowska) 40
Сікорскі, Уладыслаў (Władysław Sikorski) 54
Сілуянаў, Георгій (Георгий Силуянов) 64
Скарына, Францішак 11, 12, 152
Скерска, Мар’я (Maria Skierska) 40
Скібіньска-Харыла, Зоф’я (Zofia Skibińska-Charyło) 80
Скірмунты, 33

Скубішэўскі, Кшыштаф (Krzysztof Skubiszewski) 114, 115
Смулэк, Віктар (Wiktor Smułek) 24, 30, 60, 67, 68, 113, 125, 130, 149, 150, 186, 190
Смулэк (Smułek), сям'я 125
Смулэк-Журоўска, Анна (Anna Smułek-Żurowska) 190
Сталін, Ёсіф (Иосиф Сталин (Джугашвили), იოსებ სტალინი (ჯუღაშვილი)) 15, 37, 42, 46
Статкевіч, Мікола 154
Страчук, Юстына (Justyna Straczuk) 96
Суднік, Міхаіл 84, 85
Суліма, Рох (Roch Sulima) 36
Супрун, Адам 86, 87, 167
Сухоцка, Ганна (Hanna Suchocka) 127, 129, 130
сьв. Вольга 37
сьв. Джавані 11
сьв. Елізавета 37
сьв. Марк 37
сьв. Стэфан 150
сьв. Эльжбета 37, 38
сьв. Юры Пакутнік 160, 181
Сьвежаўскі, Стэфан (Stefan Swieżawski) 184
Сьвёнтэк, Казімер (Kazimierz Świątek) 132, 149—151
Сьнежка, Стэфан (Stefan Śnieżko) 20
Сьнітка-Ніжанкоўская, Вера 80, 81
Сядоў, Валянцін (Валентин Седов) 102
Сянько, Уладзімер 168, 169

Т
Талстая, Сьвятлана (Светлана Толстая) 64
Талстой, Мікіта (Никита Толстой) 64
Тапаліньска, Зузанна (Zuzanna Topolińska) 101
Тарасаў, Васіль 91
Тарасюк, Мар'я гл. Баранаўна (Тарасюк), Мар'я
Тарашкевіч, Браніслаў 79—81, 109, 189
Тарашкевіч (Палянская), Ніна Аляксандраўна 80
Трыгубовіч, Валянціна 170
Туркова, Дар'я (Дарья Туркова) 49
Туронак, Юры (Jerzy Turonek) 12
Турска, Галіна (Halina Turska) 8, 70—73, 75, 185, 189
Турскі, Станіслаў (Stanisław Turski) 71
Тышкевіч, граф 160
Тэрлецкі, Адам (Adam Terlecki), бацька Казімежа Барана 20
Тэрлецкі, Тыман (Tymon Terlecki) 24, 50, 53, 56, 61, 76

Ф
Фальк, Кнут Уляф (Knut Olof Falk) 93
Фідроўская, Ганна 70
Філарэт, мітрапаліт (Кірыл Вахрамееў) 133, 134, 154, 155
Фішман, Джошуа (Joshua Fishman) 106
Франко, Іван 37
Фрыдэль, Тэрэса (Teresa Friedel) 71
Фэдэроўскі, Міхал (Michał Federowski) 77, 78, 79, 83, 189

Х
Харытанюк-Міхей, Ґражына (Grażyna Charytoniuk-Michiej) 95
Хацкевіч, Аляксандар 158, 159
Хомыч, Андрэй (Андрій Хомич) 20
Хрушчоў, Мікіта (Никита Хрущёв) 108

Ц
Цапкала, Валеры 146, 147
Цеханавецкі, Анджэй (Andrzej Ciechanowiecki) 12, 13, 160, 161
Цёсэк, Станіслаў (Stanisław Ciosek) 116
Цыхун, Генадзь 167
Цьвятухін, Фёдар (Фёдор Цветухин) 20, 21

Ч
Чабярук, Алена 163
Чурак, Мар'я (Maria Czurak) 78
Чыгір, Міхаіл 138, 139
Чыгір, Юлія 138
Чэкман, Валер 86, 152, 167

Чэмпіньскі, Ґрамаслаў (Gromosław Czempiński) 141
Чэрчыль, Ўінстан (Winston Churchill) 54

Ш

Шакун, Леў 87, 167
Шафэрова, Мар'я (Maria Schoferowa) 32, 34—36, 38, 67
Швэц, Тадэвуш (Tadeusz Schwetz) 24
Шофэр, Францішак (Franciszek Schofer) 37
Шофэр, Ян (Jan Schofer) 32—34
Шофэры (Schoferowie), сям'я 27, 33
Шушкевіч, Станіслаў 112, 113, 117, 119, 127, 128, 131, 135, 138, 143, 158, 168, 170—172
Шчасны, Уладзімер 113, 168
Шыркоўскі, Эдуард 140
Шэлег, Вольга 86
Шэрэпка, Лешэк (Leszek Szerepka) 15, 176

Э

Энґелькінґ, Анна (Anna Engelking) 96, 105, 187, 189
Эрыксан, Стэфан (Stefan Eriksson) 137
Эўця, кухарка 23

Я

Ягораў, Уладзімер 140, 141
Ян Павал II, Папа (Караль Вайтыла, Karol Józef Wojtyła) 12, 43, 151, 152, 184
Яновіч, Сакрат (Sokrat Janowicz) 93
Ясіньска (Ясіньска-Соха) Тэрэса (Teresa Jasińska-Socha) 75, 80
Ясканіс, Ян (Jan Jaskanis) 94

# Новыя кнігі выдавецтва «Інбелкульт»




**Брест. Лето 1941 г. Документы. Материалы. Фотографии / Авт-сост. К. Ганцер (рук. группы) [и др.]. — Смоленск: Инбелкульт, 2016. — 723 с.**

ISBN 978-5-00076-030-7

Дадзены зборнік прысвечаны падзеям, якія адбываліся ў Брэсце і Брэсцкай крэпасці ў чэрвені—ліпені 1941 г. Ён ўпершыню ўводзіць у навуковы ўжытак шырокі спектр крыніц, робіць даступнымі дакументы і матэрыялы, найбольш важныя для разумення падзей пачатковага перыяду вайны. Выданне арыентавана на гісторыкаў, краязнаўцаў, студэнтаў, а таксама ўсіх, хто цікавіцца гісторыяй горада Брэста і Брэсцкай крэпасці. Усе тэкставыя крыніцы прыводзяцца на мове арыгінала і ў перакладзе на рускую мову.




**Рэйн, Леанід. Каралі і пешкі: калабарацыя ў Беларусі ў час Другой сусветнай вайны / пераклад з англійскай мовы Вольфа Рубінчыка. — Смаленск: Інбелкульт, 2015. — 443 с.**

ISBN 978-5-00076-029-1

У гэтай кнізе разглядаецца адносна мала даследаваная з’ява перыяду Другой сусветнай вайны — калабарацыя мясцовага насельніцтва Беларусі з нямецкімі акупацыйнымі ўладамі. Зроблена спроба прааналізаваць калабарацыю як з’яву. Аналіз калабарацыі выяўляе таксама матывы паводзінаў людзей і рэакцыю грамадства, якое апынулася ў экстрэмальным, ненармальным становішчы.




**Ціла, Антанас. Скарб Вялікага Княства Літоўскага падчас Дваццацігадовай вайны (1648—1667 гг.) / пераклад з літоўскай мовы Алеся Мікуса. — Смаленск: Інбелкульт, 2015. — 384 с.**

ISBN 978-5-00076-025-3

У гэтай працы аўтар імкнецца паказаць рэальнае функцыянаванне скарбу Вялікага Княства Літоўскага падчас вядзення гэтай дзяржавай ваенных дзеянняў у 1648—1667 гг.: фармаванне бюджэту, яго асаблівасці, тыпы падаткаў, паступленні сродкаў, іх штогадовую дынаміку і суадносіны з сапраўднымі патрэбамі, удзел палітычнага грамадства і ўсіх жыхароў краіны ў вырашэнні задач па ахове і абароне дзяржавы, а асабліва па вызваленні краіны ад непрыяцеля. Шмат увагі прысвячаецца рашэнням павятовых соймікаў ВКЛ па падатках, добраахвотнай падтрымцы скарбу з боку паветаў, а таксама пастановам Гарадзенскай канвакацыі, дзейнасці прадстаўнікоў ВКЛ на соймах пры падрыхтоўцы канстытуцый ВКЛ, асабліва на сесіях, якія адбываліся ў Літве, іх сувязі са зборам сродкаў у скарб і фармаваннем дзяржаўнага бюджэту. Робіцца спроба раскрыць асабістыя намаганні ўраднікаў ВКЛ і іншых грамадзян па абароне і вызваленні дзяржавы ад акупантаў.




**Насевіч, Вячаслаў. Беларусы: станаўленне этнасу і нацыянальная ідэя. — Смаленск: Інбелкульт, 2015. — 526 с.**

ISBN 978-5-00076-028-4

У гэтай кнізе пад адной вокладкай сабраныя асноўныя працы вядомага беларускага навукоўца, прысвечаныя разнастайным кірункам ягоных навуковых зацікаўленняў: праблема ўтварэння і тэрытарыяльнага фармавання Вялікага Княства Літоўскага, гістарычная геаграфія і картаграфія, генеалогія, гістарычная дэмаграфія і інш.




**Дубоніс, Артурас. Лейці вялікага князя літоўскага: з гісторыі ранніх дзяржаўных структур літоўскага грамадства / пераклад з літоўскай мовы Рамана Урбановіча. — Смаленск: Інбелкульт, 2015. — 146 с.**

ISBN 978-5-00076-027-7

Гэтая кніга — даследаванне нараджэння, развіцця і заняпаду ў Вялікім Княстве Літоўскім служылага саслоўя лейцяў. Лейці служылі ў якасці памежнай варты, абаранялі замкі, прадстаўлялі велікакняскую ўладу на ўскраінах і ўтаймоўвалі незадаволеных ёй; пазней яны даглядалі коней гаспадара і суправаджалі яго ў падарожжах. Праз звыклую сучаснаму чытачу структуру палітычных і эканамічных адносін, на якіх грунтавалася Вялікае Княства Літоўскае, у кнізе праступае структура асабістых сувязяў паміж яго людзьмі, ад гаспадара да служылага лейця.




**Апазіцыя Беларускага Народнага Фронту ў Вярхоўным Савеце Беларусі XII склікання: дакументы, факты, каментарыі / укладанне А. В. Кур'яновіча. — Смаленск: Інбелкульт, 2015. — 800 с.**

ISBN 978-5-00076-026-0

У складзе зборніка друкуюцца шматлікія дакументы і матэрыялы, датычныя дзейнасці парламенцкай апазіцыі Беларускага Народнага Фронту ў Вярхоўным Савеце Беларусі XII склікання (1990—1995 гг.). Многія з іх публікуюцца ўпершыню, на аснове архіўных арыгіналаў. Тэксты дакументаў суправаджаюцца грунтоўнымі каментарамі ўкладальніка, а таксама багатым ілюстратыўным матэрыялам.




**Роўэл, Стэфан Крыстафер. Уздым Літвы: паганская імперыя ў Цэнтральнай і Усходняй Еўропе, 1295—1345 / пераклад з англійскай мовы Алеся Мікуса. — Мінск: Медысонт, 2015. — 423 с.**

ISBN 978-985-7085-89-7

У даследаванні паказваецца, як Вялікае Княства Літоўскае ўпершыню набыло вагу на міжнароднай арэне. Разглядаецца шлях Літвы да велічы пад уладай Гедыміна, а таксама закранаюцца дасягненні яго папярэдніка і брата Віценя (1295—1315) і яго выбранага наступніка Яўнута (1342—1345). Найбольшая ўвага надаецца таму, як Вялікае Княства выкарыстоўвала вайсковыя і палітычныя слабасці суседзяў, маніпулявала канфесійнымі межамі каталіцтва ў Прыбалтыцы і праваслаўя на Русі, а таксама яго дыпламатыя ў адносінах з замежнымі ўладарамі, якія былі гатовыя як выступіць разам з паганамі-літоўцамі (і жаніцца з паганскімі князёўнамі), так і падтрымліваць крыжовыя паходы супраць іх.




**Бярнацкі, Вітальд. Паўстаньне Хмяльніцкага: Ваенныя дзеяньні ў Літве ў 1648—1649 г. / пераклад з польскай мовы Антона Кузьміча. — 2-е выд. — Смаленск: Інбелкульт, 2015. — 183 с.**

ISBN 978-5-00076-009-3

Кніга прысвечаная падзеям на літоўскім тэатры ваенных дзеянняў напрыканцы лета і ўвосень 1648 г. і ўзімку 1649 г., а таксама летняй кампаніі князя Януша Радзівіла, што скончылася ягонай бліскучай перамогай над коннай казацкай арміяй пад Лоевам 30 ліпеня 1649 г.




**Касажэцкі, Кшыштаф. Кампанія 1660 году ў Літве / пераклад з польскай мовы Антона Кузьміча. — 2-е выд. — Смаленск: Інбелкульт, 2015. — 330 с.**

ISBN 978-5-00076-008-6

У кнізе апісваюцца ваенныя дзеянні паміж Рэччу Паспалітай і Расіяй у 1658—1660 гадах. Яна ахоплівае наезд князя Івана Хаванскага, яго дзеянні на Наваградчыне, а потым наступ літоўскіх і польскіх войскаў, які дазволіў прагнаць маскоўскія войскі за Дзвіну і Дняпро. У яго рамках знаходзяцца апісанні бітваў пад Палонкай, на Басі, пад Талачыном і Друцкам.




**Луцкевіч, Антон. Да гісторыі беларускага руху / укладаньне, прадмова, камэнтар, анатаваны індэкс імёнаў Анатоля Сідарэвіча. — Выд. 3-е. — Смаленск: Інбелкульт, 2015. — 346 с.**

ISBN 978-5-00076-023-9

У зборнік аднаго з заснавальнікаў Беларускай Сацыялістычнае Грамады і беларускай дзяржаўнасці Антона Луцкевіча (1884—1942) уключаныя яго найбольш вядомыя творы, прысвечаныя гісторыі беларускага руху.

**Больш падрабязную інфармацыю пра гэтыя і іншыя выданні можна даведацца на сайце arche.by. Любое з іх можна замовіць у рэдакцыі, даслаўшы электронны ліст на адрас dastauka@arche.by, патэлефанаваўшы на тэлефон (29) 5507969 або скарыстаўшыся з адпаведнага сэрвісу на сайце arche.by. Прапанова дзейнічае толькі на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь. Спосабы дастаўкі замовы — кур’ерская дастаўка (толькі Мінск і ваколіцы), паштовая перасылка або самавываз (з раёна станцыі метро «Каменная Горка»).**

Навукова-папулярнае выданьне

**Валер Каліноўскі**

# ПАНІ ЭЛЬЖБЕТА.
# ГІСТОРЫЯ АДНОЙ ПРЫЯЗЬНІ

Літаратурны рэдактар: Ян Максімюк
Навуковы і стыль-рэдактар: Вінцук Вячорка
Вёрстка і дызайн вокладкі: Павал Матусевіч
Адказны за выпуск: Аляксандар Пашкевіч

Падпісана ў друк: 20.05.2016. Фармат 60x90 1/16
Друк лічбавы. Гарнітура Школьная. Умоўн.-друк. арк. 16,77
Наклад 400 асобнікаў. Замова 2857

Выдавец:
Таварыства з абмежаванай адказнасьцю «Інбелкульт»
АДРН 1136733002120
пас. Малкамбіната, д. 21, 216790
г. Рудня Смаленскай вобласьці, Расейская Фэдэрацыя

Надрукавана ў:
Адкрытае акцыянэрнае таварыства
«Мажайскі паліграфічны камбінат»
вул. Міру, д. 93, 143200
г. Мажайск Маскоўскай вобласьці,
Расейская Фэдэрацыя
www.oaompk.ru, www.оаомпк.рф
тэл. +7-495-745-84-28, +7-49638-20-685